ЗМЕСТ







Князі Алелькавічы належаць да тых гістарычных асоб, чые імёны сталі своеасаблівымі сімваламі нацыянальнай гісторыі, больш таго, гісторыі ўсіх зямель, якія ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Прыклад слуцкіх князёў тым больш паказальны, паколькі князі Алелькавічы трывалы час знаходзіліся ў эпіцэнтры знакавых падзей, што адлюстроўвае іх ролю ў акцыях дзяржаўнага, мясцовага і прыватнага ўзроўняў. Але ўжо іх блізкія нашчадкі не мелі адэкватных партрэтаў сваіх продкаў, забываліся пра падзеі і даты з іх жыцця, блыталі імёны князёў.

Адзін з самых славутых родаў у гісторыі Беларусі XIV—XVI стст., князі крыві, уладальнікі велізарных зямельных абшараў, пакінуў пра сябе не так і шмат помнікаў. Але і большасць з іх, звязаная з імёнамі прадстаўнікоў розных пакаленняў князёў Алелькавічаў-Слуцкіх, аказалася загубленай з-за людской нядбайнасці. Былі страчаны нават пахаванні князёў (як надмагіллі, так і самі рэшткі). Родавая пахавальня ў Кіева-Пячэрскай лаўры была разбурана падчас Другой сусветнай вайны разам з велічным Успенскім саборам, у крыптах якога яна знаходзілася. Пахаванне Юрыя III згінула разам з замкавым саборам у Слуцку. Крыпта, дзе знаходзілася цела Яна Сімяона, была перабудавана, а труна апошняй прадстаўніцы роду пераносілася з месца на месца на працягу амаль 400 гадоў, якія прайшлі пасля яе смерці. З шматлікіх слуцкіх цэркваў, касцёла і манастыроў да нас не дайшла ні адна. Лёс партрэтаў, вядомых нам па фотаздымках пачатку XX ст., дагэтуль да канца не высветлены. Тым каштоўней здаюцца дакументальныя крыніцы, што захаваліся, яны дазваляюць нам прасачыць жыццё і дзейнасць князёў Алелькавічаў.

У пошуках вобразу князёў Алелькавічаў быў пройдзены доўгі шлях некалькімі пакаленнямі гісторыкаў. Ён паказвае, як уяўленне пра іх мянялася пад пяром розных аўтараў. Цікавасць да князёў Слуцкіх на працягу даволі доўгага часу сведчыць пра патрэбу ў стварэнні пэўнага вобразу, якая дыктавалася ўладай, царквой, грамадствам і асабістай зацікаўленасцю прадстаўнікоў розных канфесій да некаторых асоб славутага роду. Гэта адзін з найяскравейшых прыкладаў відавочнай барацьбы розных пакаленняў гісторыкаў з гістарычнымі міфамі.

Спачатку цікавасць да дабрачыннай і рэлігійнай дзейнасці князёў Слуцкіх праявілі расійскія гісторыкі царквы, яны абгрунтавалі першынства праваслаўнага веравызнання на тэрыторыі ВКЛ і падабралі дакументы, якія даказвалі вернасць праваслаўю ўсіх прадстаўнікоў гэтага роду[1].

Першыя прадстаўнікі роду дачакаліся хаця не навуковых манаграфій, то асобных артыкулаў у біяграфічных слоўніках[2] ці зборных працах па генеалогіі княжацкіх і шляхецкіх родаў (Ё. Вольф[3], А. Банецкі[4], Б. Папроцкі[5]). Некаторым палітычным і ваенным падзеям, у якіх князі Алелькавічы прымалі актыўны ўдзел, прысвечаны асобныя артыкулы[6]. Абставіны страты спадчыннага месца ў вышэйшым прадстаўнічым органе ўлады і барацьба вакол яго вяртання не маглі застацца без увагі даследчыкаў палітычнай гісторыі ВКЛ. Вельмі падрабязна перыпетыі гэтага змагання пададзены ў працах Х. Люлевіча і Т. Кемпы[7].

Пра князёў Слуцкіх, што жылі ў другой палове XVI — пачатку XVII ст., узгадак і звестак было значна менш. Доўгі час пра іх саміх і іх акружэнне было вядома літаральна некалькі радкоў у артыкулах, прысвечаных іх продкам. Пэўныя ўзгад-





кі былі раскіданыя па розных навуковых творах. У першую чаргу гэта былі працы, звязаныя з адукацыйнымі падарожжамі шляхецкай моладзі з зямель Рэчы Паспалітай[8]. Канешне, браты Юрый, Ян Сімяон і Аляксандр Юр'евічы Алелькавічы не адыгрывалі той палітычнай, ваеннай і рэлігійнай ролі ў грамадстве, як іх продкі. Аднак час іх жыцця і лёс апошніх князёў Слуцкіх быў вельмі багатым на падзеі. Нездарма менавіта апошнія з Алелькавічаў прыцягнулі ўвагу пісьменнікаў і паэтаў эпохі рамантызму.

У найноўшай гісторыі манаграфіі, прысвечаныя арыстакратычным родам ці іх асобным прадстаўнікам, займаюць ганаровае месца ў гістарыяграфіі Германіі, Польшчы, Украіны і Расіі. Сярод іх ёсць шэраг прысвечаных асобам, напрамую звязаным з нашымі героямі. Мы можам прыгадаць толькі некаторыя з іх. Гэта даследаванні Т. Кемпы[9], Р. Рагаўскенэ[10], М. Ферэнца[11], А. Чволека[12], В. Ульяноўскага[13]. У той жа час у айчыннай гістарыяграфіі няма ні адной навуковай працы, прысвечанай князям Слуцкім. Пэўныя звесткі пра ўладальнікаў Слуцка прыводзіў у сваіх працах пра гісторыю гэтага горада А. П. Грыцкевіч[14]. Некаторую ўвагу ім надавалі даследчыкі творчасці М. Стрыйкоўскага, вучоныя, якія займаліся гісторыяй развіцця кірылічнага кнігадрукавання і літаратуры[15].

400-годдзе з моманту смерці апошняй прадстаўніцы гэтага роду Соф'і Юр'еўны Алелькавіч у 2012 г. суправаджалася святкаваннямі з боку праваслаўнай царквы і выклікала хвалю публікацый. Яе біяграфія без належнага навуковага вывучэння стала тэмай для напісання твораў папулярнаагіяграфічнага[16] і мастацкага характару[17]. Першыя, нягледзячы на наяўнасць крыніц, створаны з адзінай мэтай — праслаўленне Соф'і Слуцкай як праваслаўнай святой. Гэта абумоўлівае і спосаб падачы матэрыялу, і падыходы да аналізу крыніц, і высновы. Аўтары дапускаюць шмат факталагічных памылак, асабліва ў тых частках, якія звязаны з іншымі прадстаўнікамі гэтага роду. Нягледзячы на такі інтарэс да князёў Слуцкіх з боку праваслаўнай царквы, дагэтуль няма спецыяльнага манаграфічнага даследавання, прысвечанага прадстаўнікам гэтага роду.

Для разумення месца і ролі князёў Алелькавічаў у айчыннай гісторыі варта пазнаёміцца з усімі прадстаўнікамі гэтага роду, паколькі для княжацкага роду традыцыя і роднасць з правячымі дынастыямі з'яўляліся асновай яго светаўспрымання.

У нашу задачу ўваходзіла выявіць тыя штампы, якія цесна ўпляліся не толькі ў гістарычную, але і навуковую свядомасць, і знайсці ісціну. Для таго каб не толькі выявіць, але і прааналізаваць крыніцы асноўных міфаў пра князёў Слуцкіх, нам былі неабходны не толькі новыя крыніцы. Існавала патрэба перагледзіць усе вядомыя дагэтуль дакументы і матэрыялы, якія раней прыцягвалі мала ўвагі гісторыкаў. Царкоўныя гісторыкі часта не ставілі сваёй задачай выяўленне дакладнасці крыніц, цытуя іх без спасылак і аналізу. Трэба ўсё ж адзначыць, што імі былі сабраны і апублікаваны амаль усе вядомыя на сёння фундушы князёў Алелькавічаў на карысць розных праваслаўных манастыроў і цэркваў. З іх адразу можна выявіць некалькі тэндэнцый. Пажалаванні рабіліся на карысць Кіева-Пячэрскага манастыра ці рэлігійных устаноў у сваіх уладаннях. Як гэта ні дзіўна, мы не ведаем ні аднаго запісу на карысць праваслаўных храмаў у Вільні, Полацку, Віцебску ці іншых буйных гарадах ВКЛ. Фактычна пра праваслаўную царкву, у адрозненне ад князёў Астрожскіх, князі Алелька-

вічы клапаціліся толькі ў сваіх уладаннях. Такі ж падыход адрозніваў іх і ў іншых сферах жыцця. На першым месцы былі інтарэсы сям'і і толькі потым дзяржавы.

Пры вывучэнні гісторыі роду мы сутыкнуліся з некаторым дысбалансам крыніц. Колькасць крыніц для розных гістарычных перыядаў непараўнальна розная. Для атрымання звестак па гісторыі роду ў XV ст. мы пераважна мусілі абапірацца на розныя спісы агульнарускіх летапісаў, беларуска-літоўскіх хронік і вельмі невялікую групу дакументаў маёмаснага характару.

Сярод летапісаў можна вылучыць Увараўскі, ці Слуцкі, спіс, які пераважна ўтрымлівае звесткі па гісторыі ВКЛ. У дадатак у ім было зроблена некалькі запісаў прыватнага характару пра хрышчэнне і смерць некаторых прадстаўнікоў роду князёў Алелькавічаў[18]. Несумненную цікавасць уяўляюць першыя працы па гісторыі Польшчы і ВКЛ, створаныя ў XVI ст., у першую чаргу Марціна і Іаахіма Бельскіх[19], А. Гваньіні, М. Стрыйкоўскага[20], які карыстаўся архівамі арыстакратычных родаў Рэчы Паспалітай, у тым ліку і Алелькавічаў. У іх распараджэнні была пэўная група гістарычных матэрыялаў, якая не дайшла да нашых дзён, што дазваляе пашырыць кола крыніц, вядомых сёння.

Галоўнай крыніцай для вывучэння ўдзелу князёў Алелькавічаў у грамадскапалітычным жыцці з'яўляюцца акты Літоўскай метрыкі. У іх ліку ёсць пастановы і рашэнні соймаў, лісты на скліканне войска і рэестры рассылкі гаспадарскіх лістоў, судовыя рашэнні, пры прыняцці якіх прысутнічалі ці самі князі Слуцкія, ці іх прадстаўнікі. Большасць дакументаў, якія захоўваюцца ў кнігах Літоўскай метрыкі, носяць прыватна-прававы характар, што дазваляе нам даведацца пра маёмасныя набыткі князёў Алелькавічаў, межы іх уладанняў і асоб, што кіравалі асобнымі маёнткамі. Соймавыя пастановы і каралеўскія лісты, апублікаваныя ў «Актах Таміцыяна» і «Актах з'ездаў стану», «Актах уніі Польшчы і Літвою», дазваляюць зразумець, наколькі актыўным быў удзел князёў Алелькавічаў у публічным жыцці дзяржавы.

Наступную групу крыніц складаюць прыватныя паперы з родавых архіваў. Каштоўны архіў Хадкевічаў, які знаходзіўся ў адной з польскіх рэзідэнцый гэтага славутага роду ў Млынаве, змяшчае і дакументы князёў Слуцкіх, а таксама асоб, звязаных з імі роднаснымі ці прыяцельскімі сувязямі. Аднак у параўнанні з радзівілаўскім архівам, дзе знаходзіцца большасць вядомых на сёння лістоў князёў Слуцкіх, тут пераважаюць маёмасныя паперы. Найбольш старажытныя звязаны са шлюбам Гелены Радзівіл з князем Юрыем Сямёнавічам[21]. Асноўны блок дакументаў датычыцца спраў апекі Гераніма і Юрыя Хадкевічаў над апошняй прадстаўніцай гэтага роду князёўнай Соф'яй Юр'еўнай Алелькавіч-Слуцкай[22]. Там утрымліваюцца копіі кантрактаў на шлюб паміж Соф'яй Слуцкай і Янушам Радзівілам за 1595—1600 гг., лісты, якія рэгулявалі спрэчныя пытанні кіравання маёмасцю князёў Слуцкіх Хадкевічамі, дакументы князёў Слуцкіх, якія датычыліся маёнткаў, што перайшлі ва ўласнасць Хадкевічаў: Петрыкова і Колна[23]. Частка дакументаў, асабліва звязаных з дамоўленасцямі пра шлюб з Радзівіламі, перадачай маёнткаў Хадкевічам, з'яўляецца другім экземплярам ад тых, што меліся ў архіве біржайскай галіны роду Радзівілаў, а зараз захоўваюцца ў Варшаве[24]. Там жа знаходзяцца паперы Кацярыны з Тэнчынскіх, якая другім шлюбам была за Крыштафам Радзівілам, і дакументы зямельных надан-








няў слугам князёў Алелькавічаў у Слуцкім і Капыльскім княствах.

Рэлігійная дзейнасць князёў Алелькавічаў знайшла сваё адлюстраванне ў публікацыі іх лістоў на наданне маёмасці, прызначэнне святароў у розныя цэрквы Слуцкага княства ў актавых матэрыялах, выдадзеных у XIX ст. Можна меркаваць, што, паколькі дагэтуль не знойдзены архіў архімандрытаў Трайчанскага манастыра, нас чакае яшчэ нямала дакументаў, якія ўзбагацяць нашы веды пра гэты бок дзейнасці князёў Слуцкіх.

Нечакана шмат інфармацыі ўтрымліваецца ў прыватных лістах розных асоб. Перапіска Алелькавічаў з прускімі герцагамі даволі багата прадстаўлена ў берлінскіх зборах, куды яна трапіла ў складзе знакамітага «Таемнага архіва прускай спадчыны»[25]. Збор лістоў прадстаўнікоў апошняга пакалення князёў Алелькавічаў з Радзівіламі захоўваецца ў Варшаве ў Бібліятэцы Нарадовай[26] і АГАД[27], Бібліятэцы Чартарыйскіх (Кракаў)[28]. Там жа знаходзяцца лісты слуг і карэспандэнтаў са знатных польскіх і літоўскіх родаў да Кацярыны з Тэнчынскіх, дзе падрабязна расказваецца пра публічнае і прыватнае жыццё яе сыноў. Некаторая колькасць папер Алелькавічаў знаходзіцца ў зборах розных магнацкіх родаў у архівах Любліна, Вільнюса, Мінска, Кіева, Львова, Пецярбурга і Масквы. Частка з іх раней была апублікавана ў такіх зборніках, як «Архіў дому Радзівілаў», «Архіў дому Сапегаў»[29].

Немалаважнымі з'яўляюцца і сведчанні сучаснікаў князёў Слуцкіх пра эпоху, падзеі, у якіх яны прымалі ўдзел, іх саміх. Цікавую групу крыніц ствараюць друкі, прысвечаныя князям Слуцкім. На жаль, акрамя перапіскі магнатаў захавалася не вельмі шмат іншых сведчанняў. Сярод найбольш цікавых мы можам назваць успаміны Крыштафа Зяновіча, які быў сведкам канфлікту паміж Радзівіламі і Хадкевічамі, і ананімную хроніку кракаўскага мешчаніна, а таксама гістарычныя творы Л. Гуркі, М. Стрыйкоўскага, А. Гваньіні. Неабходна таксама ўспомніць панегірыкі, прысвечаныя Кацярыне з Тэнчынскіх і яе сыну Яну Сімяону Алелькавічу. Публікацыі, створаныя ў XVI ст., заставаліся на стагоддзі, тады як рукапісныя акты асядалі ў павятовых і родавых архівах і мала каго цікавілі. Прываблівасць старадрукаў і зараз застаецца для нас вельмі высокай, бо сама прысутнасць у іх князёў стварала вобраз, які прыдворныя інтэлектуалы навязвалі не толькі сваім сучаснікам, але і наступным пакаленням.

А куды ж падзеўся ўласны родавы архіў князёў Алелькавічаў? Ён павінен быць не меншым, чым аналагічныя архівы іншых родаў. Аналіз дакументаў паказвае, што цалкам, як сабранне дакументаў усіх пакаленняў роду, ён ніколі не існаваў. Паперы князёў Слуцкіх сталі разыходзіцца па розных месцах яшчэ з сярэдзіны XVI ст. У архіве князёў Астрожскіх захоўваліся дакументы князя Сямёна Міхайлавіча, запіс вена яго жонкі (у рэестры яна названа чамусьці Наталляй, хіба гэта памылка пазнейшага перапісчыка), куды яны маглі патрапіць дзякуючы шлюбу княгіні Аляксандры Сямёнаўны з Канстанцінам Астрожскім[30]. Спісы дакументаў князёў Слуцкіх, якія былі складзены ў канцы XVI ст., сведчаць, што ў Слуцку знаходзіліся толькі паперы з сярэдзіны XVI ст., а больш раннія адсутнічалі. Тыя, што перайшлі ў рукі Хадкевічаў, захаваліся амаль цалкам у зборы з Млынава, тады як біржайскі архіў Радзівілаў, зыходзячы з інвентароў канца XVII ст., быў больш багаты.

Усе пісьмовыя крыніцы, выяўленыя рознымі даследчыкамі і намі, ствараюць дастаткова вялікі пласт. Гэта дае нам маг-

чымасць з пэўнай доляй верагоднасці аднавіць асабістыя партрэты апошніх прадстаўнікоў гэтай славутай дынастыі. У той жа час малая колькасць прыватнай інфармацыі пра першых князёў з гэтага роду пакідае вельмі шырокае поле дзейнасці ў накірунку вывучэння як асобных арыстакратычных родаў ВКЛ, так і кожнай канкрэтнай асобы з княжацкага роду князёў Слуцкіх.

Ідэя напісаць кнігу пра князёў Алелькавічаў-Слуцкіх у аўтара існавала даўно. Для таго каб уявіць сабе карціну жыцця некалькіх пакаленняў князёў Алелькавічаў, нам спатрэбілася больш дзесяці гадоў.

Новыя архіўныя і малавядомыя звесткі дазволілі перагледзіць традыцыйныя погляды на ролю, якую адыгрывалі князі Слуцкія ў грамадстве XV—XVI стст.

Гістарычныя асобы не павінны ператварацца ў нейкі недатыкальны вобраз, помнік у нашай свядомасці. Іх варта «пабачыць» ва ўсіх жыццёвых праявах — грамадскім, палітычным, рэлігійным, сямейным жыцці. Большасць прадстаўнікоў гэтага роду былі асобамі неардынарнымі, таленавітымі военачальнікамі, але не вельмі ўдалымі палітыкамі. Як мы ўжо казалі, удзел у грамадска-палітычным жыцці ВКЛ першых прадстаўнікоў роду разглядаўся ў розных працах, тады як асабістае жыццё заставалася па-за сферай інтарэсаў даследчыкаў. Не было дакладна вядома, як доўга яны жылі, што было прычынай іх ранніх смярцей, колькі дзяцей не дажыло да паўналецця і што стала прычынай страты не толькі палітычнага ўплыву, але і згасання самога роду. Таму нам было асабліва цікава даведацца пра рысы характару і ўчынкі, якія былі ўласцівы толькі канкрэтным князям Слуцкім, пра тое, што адрознівала іх ад іншых прадстаўнікоў арыстакратычных родаў ВКЛ.

Інфармацыі пра прыватнае жыццё любога прадстаўніка арыстакратычнага роду ў публічных крыніцах не знойдзеш. Яе можна атрымаць толькі з прыватнай перапіскі і згадак сучаснікаў. Тым цікавей на падставе дакументальных крыніц апісаць шлях жыцця прадстаўнікоў двух апошніх пакаленняў князёў Слуцкіх — братоў Юрыя, Яна Сімяона, Аляксандра Юр'евіча і іх адзінай спадчынніцы Соф'і Юр'еўны. Таму асноўная ўвага ў нашай кнізе будзе сканцэнтравана на гэтых асобах. Мы паспрабавалі максімальна (зыходзячы з вядомых нам на сёння крыніц) аднавіць іх жыццё, позіркі і дзейнасць.

Іх нядоўгі час жыцця не быў чымсьці незвычайным у тыя часы. Сярэдняя працягласць жыцця арыстакратаў еўрапейскіх краін складала 45—47 гадоў. Сярод прадстаўнікоў знатных сямей ВКЛ мы таксама не знойдзем шмат доўгажыхароў. Фактычна па пальцах можна пералічыць асоб, якія дасягнулі 70-гадовага ўзросту. І яшчэ радзей бывала, каб муж з жонкай, якія ўступілі ў першы шлюб, разам дачакаліся старасці[31]. Жыццё мужчын скарачалі ўдзел у ваенных дзеяннях і ўмовы жыцця іх часу. Воіну была не да твару раскоша. Таму спалі хоць і ў шатрах, але на зямлі (калі-некалі пасцяліўшы каберцы), падклаўшы пад галаву сядло. Доўгія пераезды, адсутнасць цёплай ежы, сама структура харчавання і інфекцыйныя захворванні хутка падрывалі здароўе самых магутных асоб. Жанчыны цярпелі ад частых цяжарнасцей і нізкай культуры дапамогі пры нараджэнні дзіцяці. Князі Слуцкія ўкладваліся ў гэтую статыстыку, жывучы каля 50—55 гадоў. Аднак толькі да канца XVI ст. апошнія Алелькавічы памёрлі ва ўзросце 26—32 гадоў. Аднымі з прычын згасання роду сталі адносна позні, у параўнанні з прадстаўнікамі іншых арыстакратычных родаў, час уступлення ў






шлюб і малая колькасць выжыўшых дзяцей. У адрозненне ад іншых сямей князі Слуцкія былі жанаты толькі адзін раз. Усе шлюбы Алелькавічаў былі заключаны пасля 25 гадоў, і ў кожным пакаленні мы бачым не больш за трох нашчадкаў. Канешне, гэта без уліку тых малых дзяцей, якія не дажылі да паўналецця.

Нягледзячы на лёс гісторыі, які не быў вельмі спрыяльным, мы ведаем усіх жанчын Слуцкіх. У той час жанчыны паміралі маладымі, не дасягнуўшы і 30-годдзя, але княгіні Слуцкія ўсе перажылі сваіх мужоў і здолелі выхаваць дзяцей. Хаця ні адна з іх таксама не памерла ў глыбокай старасці. Даўжэй за ўсіх, не менш за 60—65 гадоў, пражылі жонка Алелькі Анастасія Васільеўна і дачка Сямёна Слуцкага Аляксандра. Астатнія на момант смерці мелі 40—50 гадоў. Дочкі, сёстры, жонкі і маці Алелькавічаў пакінулі значны след у гісторыі свайго роду. Яны не проста ўмацоўвалі роднасныя і палітычныя сувязі амбіцыйных князёў Алелькавічаў у XV — першай палове XVI ст. Маёмасны дабрабыт — той падмурак, на якім стаялі князі Слуцкія, захоўвалі і памнажалі жанчыны.

Першая глава працы з'яўляецца фактычна ўступнай часткай, якая паказвае пачаткі роду і час, калі была закладзена магутнасць роду. Аднак падзеі XV ст. дастаткова шырока асвятляліся ў працах, прысвечаных панаванню Казіміра Ягелончыка і яго сыноў, і таму мы падаем толькі асноўную інфармацыю, якая дапаможа разабрацца ў роднасных сувязях, крыніцах уплыву і прычынах існавання пэўных традыцый, звязаных з князямі Слуцкімі.

Другая глава прысвечана пакаленню князёў Слуцкіх, што жылі ў 30—70-я гг. XVI ст. Іх асобы цікавы тым, што пры наяўнасці эканамічнай і палітычнай магутнасці князі Слуцкія былі выключаны з палітычнага жыцця краіны. У выніку, нягледзячы на наяўнасць інтэлектуалаў (пісьменнікаў, багасловаў, гістарыёграфаў) у атачэнні Юрыя II, якая, уласна кажучы, і забяспечвае змест гістарычнай памяці пра мецэната, гісторыя Алелькавічаў даволі хутка забылася.

У трэцяй главе гаворка пойдзе пра трох братоў Алелькавічаў Юрыя, Яна Сімяона і Аляксандра. Да гэтага ніхто не спрабаваў рэканструяваць іх гаспадарчую, палітычную і рэлігійную дзейнасць. Мы спадзяёмся, што ўдакладненыя біяграфічныя звесткі і абставіны кароткага жыцця князёў Слуцкіх дазволяць папоўніць нашы веды пра іх.

У чацвёртай главе мы паспрабавалі, не развязваючы дыскусіі пра наяўнасць падстаў для кананізацыі княгіні Соф'і Алелькавіч і падзеі, звязаныя з гэтым, разгледзіць яе жыццёвы шлях ад нараджэння да смерці і нават перыпетыі яе пахавання. Дзякуючы вялікай колькасці судовых крыніц, нам удалося аднавіць некаторыя этапы яе жыцця літаральна па днях. Мы спадзяёмся, што звесткі, прыведзеныя ў тэксце, дазволяць зняць большасць дыскусійных пытанняў, звязаных з яе асобай. Для гэтага ў дадатку мы прывялі шэраг дакументаў, якія ўтрымліваюць інфармацыю пра абставіны яе шлюбу.

Канешне, нам не ўдалося цалкам асвяціць усе бакі дзейнасці князёў Алелькавічаў. Штосьці засталося па-за ўвагай з-за фармату самой працы, штосьці — з-за недаказанасці некаторых меркаванняў.

Асобныя палажэнні працы былі апрабаваны падчас дыскусій і выступленняў на канферэнцыях. Сабраныя разам вынікі шматгадовых пошукаў і сталі асновай прадстаўленай кнігі. Даследчыцкая праца па тэме ў замежных архівах і бібліятэках была б немагчыма без фінансавай падтрымкі наступных навуковых фондаў:

Каса падтрымкі навукі імя Ю. Мяноўскага, фундацыя каралевы Ядвігі (Кракаўскі ўніверсітэт), стыпендыя польскага камітэта ЮНЕСКА.

Кніга з'явілася на свет дзякуючы падтрымцы многіх асоб, і ў першую чаргу сям'і аўтара, якая давала магчымасць праводзіць даследаванні ў замежных архівах і была першым чытачом рукапісу і крытыкам незразумелых для шырокага чытача момантаў.

Аўтар сардэчна дзякуе за дапамогу ў працы ўсім супрацоўнікам аддзела гісторыі Беларусі сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Многія дакументы былі знойдзены намі дзякуючы зычлівасці і дапамозе розных асоб, якія далі шмат каштоўных парад як пры пошуку дакументаў, што датычыліся гісторыі роду князёў Слуцкіх, так і пры напісанні тэксту. Асабліва хацелася б падзякаваць усім калегам, якія дзяліліся сваімі напрацоўкамі па гісторыі ВКЛ: М. Яніцкага, А. Радамана, Д. Шульца, М. Волкава, А. Шаланду.

Асобная падзяка супрацоўнікам Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, якія аказалі дапамогу ў зборы ілюстрацыйнага матэрыялу да гэтай кнігі.





Родапачынальнікам князёў Слуцкіх быў князь Аляксандр Уладзіміравіч, сын Уладзіміра Альгердавіча, кіеўскага князя. Менавіта ад скарочанага варыянта імя Аляксандр — Оля, Алелька — і сталі называць яго нашчадкаў. Яго бацька Уладзімір Альгердавіч займаў кіеўскі сталец у 1362—1394 гг. Амбіцыйны князь цесна супрацоўнічаў з кіеўскім мітрапалітам Кіпрыянам, фактычна праводзіў самастойную палітыку і вырабляў уласную манету.

Незалежная пазіцыя Уладзіміра і стала прычынай страты ім Кіеўскага княства. У 1395 г. Уладзімір Альгердавіч быў пазбаўлены Вітаўтам кіеўскага стальца[32]. Аднак вялікі князь літоўскі ўзамен даў яму Капыль з навакольнымі землямі, у тым ліку і Слуцк[33].

Пра сам горад нам дакладна нічога не вядома. Цэнтральнай княжацкай рэзідэнцыяй быў Капыль. Ёсць толькі звесткі, што ў 1392 г. там ужо была царква Святога Міхаіла[34]. З гэтага моманту і з'явіліся Слуцкае і Капыльскае княствы як спадчынныя ўладанні нашчадкаў князя Уладзіміра Альгердавіча. У канцы XV ст. да ўладанняў Алелькавічаў дадалося яшчэ Пінскае княства. Яно было нададзена вялікім князем Казімірам Ягелончыкам удаве апошняга кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча і яго дзецям[35]. У іх уладанні княства заставалася да 1518 г., калі пасля бяздзетнай смерці апошняй прадстаўніцы гэтай галіны княгіні Алены (Аляксандры) Сямёнаўны Алелькавіч[36], а потым і яе мужа князя Фёдара Іванавіча Яраслававіча Пінск перайшоў ва ўласнасць польскай каралевы і вялікай княгіні літоўскай Боны Сфорцы.

Першы дакладны ўспамін пра князя Аляксандра Уладзіміравіча ў гістарычных крыніцах датуецца 1417 г. Звязана гэта было з яго вянчаннем з вялікай князёўнай маскоўскай Анастасіяй Васільеўнай, дачкой Васіля І Цёмнага і Соф'і Вітаўтаўны. Рапарты крыжакоў апісвалі, што вяселле, якое выправіў сваёй унучцы вялікі князь літоўскі Вітаўт, пачалося 22 верасня 1417 г. і цягнулася цэлы тыдзень[37]. Фактычна гэта азначала чарговае замацаванне палітычных адносін паміж Гедымінавічамі і вялікімі князямі маскоўскімі і падкрэслівала высокі палітычны статус князя Аляксандра.

У 1420 г. яго першынца князя Сямёна хрысціў сам мітрапаліт Фоцій, які знаходзіўся ў Слуцку па дарозе з Наваградка да Кіева: «В лето 6928 приехал митрополит Фотий в Литву <…>. Тогож лета поиди митрополит Киеву и у Слуцку крестил кнзя Семена Александровича и у Мозыри вернул митрополита кнзь великии»[38].

Аляксандр (Алелька) разам з іншымі князямі ўваходзіў у велікакняжацкую раду



**Уладзімір Альгердавіч.**
**Гравюра з твора Б. Папроцкага «Гняздо цноты». 1579 г.**









**Срэбраны дырхем са знакам Уладзіміра Альгердавіча.**
**Канец XIV ст.**



**Срэбраны дынарый з надчаканкай.**
**1480-я гг.**

і прысутнічаў пры прыняцці большасці найважнейшых для дзяржавы актаў. Так, ён быў адным з рускіх і літоўскіх князёў, якія падпісалі Мелніцкі мірны трактат 1422 г. з Лівонскім ордэнам крыжакоў[39]. Высокі грамадскі статус кожны прадстаўнік роду Алелькавічаў атрымліваў аўтаматычна пры нараджэнні. У ВКЛ князем можна было толькі нарадзіцца. Прыналежнасць да галоўнага для XV — сярэдзіны XVI ст. органа кіравання дзяржавай (паны-рада) давала магчымасць князям Алелькавічам кантраляваць усе сферы жыцця вялікага рэгіёна. Яшчэ адным важным прывілеем «галоўных» князёў было права фарміраваць узброены атрад (почт) пад уласнымі родавымі гербамі, а не ў складзе агульнага павятовага апалчэння пад сцягам зямель[40]. Да ганаровых прывілеяў адносіліся і абавязковыя асабістыя паведамленні лістамі ад вялікага князя літоўскага пра пачатак ваенных дзеянняў, скліканне сойма і г. д. Парадак адпраўлення лістоў князям сведчыў пра іерархію іх радавітасці і знатнасці.

Толькі князі мелі права ставіць пячаткі на чырвоным воску. На працягу ўсёй гісторыі свайго роду Алелькавічы карысталіся нязменным гербам «Пагоня» ў яго класічным варыянце — вершнік у рыштунку з узнесеным над галавой мячом у правай руцэ і тарчай у левай руцэ, нягледзячы на тое, што і Уладзімір Альгердавіч і яго ўнукі, у прыватнасці Міхаіл, карысталіся выявай перакрэсленай стралы з паўмесяцам у нагах[41]. Такі родавы знак сустракаецца як на пячатках, так і на надчаканеных манетах Алелькавічаў. Аднак прыналежнасць да Гедымінавічаў, высокае становішча і роднасць з некалькімі правячымі родамі не давалі бяспекі ў XV ст., а хутчэй былі падставай для падазрэнняў з боку правячых манархаў.

Пасля смерці Вітаўта ў 1430 г. і барацьбы, якая разгарнулася за велікакняжацкі трон, князь Алелька ўвесь час мяняў свае сімпатыі. Спачатку, у 1431 г., ён падтры-



**Герб «Пагоня»**

маў князя Свідрыгайлу, прызначанага намеснікам у ВКЛ Ягайлам. Потым ён перайшоў на бок Жыгімонта Кейстутавіча і нават дапамагаў яму ў нападзе на Свідрыгайлу пад Ашмянамі. Алелька быў прыхільнікам уніі з Польшчай і падтрымаў на той момант легітымнага князя, які прызнаваў гэтую унію і вяршынства Ягайлы. Праз год ён зноў ужо быў пры Свідрыгайле ў Кіеве. Зразумела, што такія паводзіны не маглі выклікаць даверу з боку прэтэндэнтаў на велікакняжацкі трон. Яшчэ адной з прычын падазронасці да Алелькі магло быць і тое, што яго асоба таксама называлася сярод кандыдатаў на велікакняжацкі трон.

У наступны раз, калі ён аказаўся ў стане Жыгімонта Кейстутавіча, то быў зняволены. Аўтар летапісу Быхаўца абвінавацію самога вялікага князя Жыгімонта ў крывадушнасці і жаданні забіць сваіх блізкіх родзічаў Юрыя Лінгвенавіча і Алельку Уладзіміравіча. Для гэтага ён пасадзіў пад варту князя Юрыя Лінгвенавіча ў меншым замку троцкім, князя Алельку — у Кернаве, а княгіню яго з двума сынамі Сямёнам і Міхаілам — ва Уцяне[42]. Магчыма, землі Алелькі Жыгімонт Кейстутавіч перадаў свайму сыну Міхаілу, які даў фундуш у Слуцку 24 кастрычніка 1439 г. на царкву Іаана Хрысціцеля і царкву Святога Міхаіла[43]. Праз некалькі дзён, 28 кастрычніка, ім жа быў фундаваны каталіцкі касцёл, адзіны на вялізным абшары. Фундуш надаваў на карысць касцёла шэсць чыншавых чалавек, дзесяціну з Івання, Пагоста, Вострава, Мілкавіч, права на вольныя корчмы і млын у Слуцку[44]. Аднак падобна, што сам касцёл тады пабудаваны так і не быў.

У зняволенні князі капыльскі і мсціслаўскі знаходзіліся да смерці Жыгімонта Кейстутавіча ад рук змоўшчыкаў у 1440 г. Зняволеных выпусцілі, і князь Лінгвенавіч выехаў да Мсціслаўля, а князь Алелька з сям'ёй — да Капыля. Пасля смерці Жыгімонта Кейстутавіча выбранне сына Ягайлы Казіміра вялікім князем літоўскім было зусім не аўтаматычным. Былі высунуты таксама кандыдатуры сына забітага Жыгімонта Міхаіла і Алелькі, князя капыльскага. Калі ж Казімір Ягелончык быў выбраны вялікім князем літоўскім, у 1442 г. Алелька з сынамі з Капыля накіраваўся да Вільні, каб прынесці прысягу на вернасць маладому вялікаму князю літоўскаму: «...і білі яны чалом праз усіх паноў рад аб атчызне сваёй аб Кіеве»[45].

Фактычна Алелька скарыстаўся сітуацыяй, калі становішча Казіміра было яшчэ няпэўным. Міхаіл Жыгімонтавіч пры падтрымцы маскоўскіх войскаў захапіў Кіеў і аспрэчваў законнасць улады сына Ягайлы. Калі Ян Гаштольд вярнуў Кіеў, малады вялікі князь, якому была неабходна падтрымка сваёй палітыкі, быў вымушаны надаць







**Казімір Ягелончык.**

**Гравюра з твора Б. Папроцкага «Гняздо цноты». 1579 г.**





князю Аляксандру ў 1443 г. Кіеўскае княства і прыцягнуць кіеўскага князя да прыняцця палітычных рашэнняў[46]. Алелька ў дакументах выступае сярод асоб, якія пацвярджалі наданні вялікага князя[47]. Аднак з пункту гледжання Казіміра гэта было ўжо не спадчыннае ўладанне, а намесніцтва, якое ён мог адабраць у любы момант. У той жа час Алелька спрабаваў праводзіць самастойную палітыку, асабліва ва ўсходнім накірунку. Фактычна так рабіла большасць «рускіх» князёў, якія адчаіліся дачакацца канкрэтных крокаў ад Казіміра Ягелончыка па ўрэгуляванні памежных праблем. У 1446—1447 гг. Аляксандр Уладзіміравіч з войскам быў накіраваны на дапамогу Васілю II супраць Дзмітрыя Шамякі, калі той захапіў маскоўскага князя ў палон, асляпіў яго, а Соф'ю Вітаўтаўну саслаў у Чухламу. У 1451 г. да Соф'і Вітаўтаўны паехаў Сямён Алелькавіч, які праводзіў там перамовы па змове супраць Казіміра[48].

Не забываўся Алелька і пра Слуцк. У 1452 г. ён нанава фундуе драўляны касцёл у Слуцку[49]. У 1446 г. запісаў дзесяціну ад вёскі Старчыц і вёску Асавец на царкву Святога Міхаіла[50].

Там ён княжыў да сваёй смерці ў 1454 г. (хаця М. Стрыйкоўскі ўказвае датай яго смерці 1455 г.)[51]. Пахаваны князь Алелька быў ва Успенскім саборы Кіева-Пячэрскай лаўры, паклаўшы такім чынам пачатак радавой усыпальніцы князёў Алелькавічаў.

Яго ўладанні былі падзелены паміж двума сынамі. Кіеўскае княства Казімір Ягелончык дзяліць забараніў, бо «дзед іх князь Уладзімір бегаў на Маскву і тым прабегаў айчызну сваю Кіеў»[52]. Яго ад Казіміра Ягелончыка атрымаў старэйшы сын Сямён, жанаты з дачкою выхаваўцеля караля Яна Гаштольда Марыяй. Доўгі час Сямён жыў пры двары бабкі ў Маскве і вярнуўся да каранацыі Казіміра Ягелончыка ў 1447 г., якога палякі выбралі каралём у 1445 г. для аднаўлення персанальнай уніі паміж дзяржавамі. Час яго княжання стаў новым росквітам Кіеўскага княства.

Казімір Ягелончык, выбраны польскім каралём, фактычна перастаў прыязджаць у ВКЛ і не звяртаў увагі на праблемы спрэчных зямель на ўсходзе. Там, пад націскам Маскоўскай дзяржавы, усё больш памежных князёў Гедымінавічаў прымалі маскоўскае падданства, бо не атрымлівалі дапамогі ў абароне сваіх зямель ад цэнтральнай улады[53]. Да гэтага дадавалася нявырашаная з Польшчай праблема дзяржаўнай прыналежнасці Валыні і заходняга Падолля. Калі Польшча аказалася ўцягнута ў 13-гадовую вайну (1454—1467) з крыжакамі, літоўскія паны на чале з Янам Гаштольдам пачалі патрабаваць замацавання гэтых зямель за ВКЛ. Партыя супраціўнікаў Казіміра, якую ўзначалілі віленскі ваявода Ян Гаштольд, князь Юрый Гальшанскі, Алехна Судзімонтавіч, вырашыла разарваць персанальную унію з Польшчай. У 1456 г. было прапанавана выбраць вялікім князем літоўскім зяця Гаштольда кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча[54]. Супраць іх выступіў ваявода троцкі Манівід, які са сваімі прыхільнікамі абараніў пазіцыі Казіміра. Прыезд Казіміра Ягелончыка ў ВКЛ сарваў гэтую спробу. Сямён Аляксандравіч пачаў шукаць саюзнікаў у Маскоўскай дзяржаве[55]. Вынікам дзейнасці гэтай палітычнай партыі стала патрабаванне да Казіміра на Віленскім сойме 1461 г., каб ён ці стала жыў у ВКЛ, ці аддаў вялікае княжанне Сямёну Алелькавічу[56], які б займаўся выключна справамі ВКЛ. Вялікі князь літоўскі змог адстаяць сваю ўладу, аднак у далейшым зрабіў усё магчымае, каб падавіць сепаратысцкія настроі ў дзяржаве.

На той момант князі Алелькавічы былі звязаны дынастычнымі шлюбамі з найбольш уплывовымі дамамі Еўропы. Адна з сясцёр кіеўскага князя, Феадосія, была вы-





**Князі Алелькавічы Аляксандр, Сямён, Міхаіл, князёўны пінскія Аляксандра (Олена), Соф'я.**

**Гравюра з твора Б. Папроцкага «Гняздо цноты». 1579 г.**

дадзена замуж за Сямёна Юр'евіча Патрыкеева, брат якога Іван быў маскоўскім намеснікам і кіраўніком знешняй палітыкі Масквы. Важнай палітычнай падзеяй стаў у 1463 г. шлюб яшчэ адной сястры, Еўдакіі, з праваслаўным малдаўскім валадаром Стэфанам Вялікім. Дачка Стэфана Малдаўскага ад першага шлюбу Ганна стала жонкай малодшага брата Сямёна Міхаіла князя капыльскага і слуцкага. Яшчэ адна Алелькаўна вышла замуж за князя Юрыя Фёдаравіча Пронскага. Дачка самога князя Сямёна Соф'я стала вялікай княгіняй цвярской[57].

Падчас свайго княжання ў Кіеве ён адзначыўся як актыўны апякун праваслаўнай царквы і Кіева-Пячэрскай лаўры ў прыватнасці. Яго імя неаднойчы ўпаміналася ў пасланнях кіеўскіх мітрапалітаў, у тым ліку 1460 г., якія прызнавалі вялікага князя маскоўскага апекуном усіх праваслаўных ВКЛ. Папулярнасці Сямёна Алелькавіча ў Кіеве спрыяла і яго фундатарская дзейнасць. У 1470 г. на яго сродкі было скончана аднаўленне Успенскага сабора, разбуранага яшчэ ў пачатку XV ст., нягледзячы на забарону вялікага князя літоўскага на будаўніцтва і рамонт праваслаўных цэркваў. У Густынскім летапісе занатавана, што ён «через долгое время украси иконыи писанием и обогати златом-серебром, и сосуды церковными»[58]. З




**Успенскі сабор Кіева-Пячэрскай лаўры.**

**Гравюра. Т. Пятровіч. 1623 г.**




гэтай нагоды каля партала храма быў размешчаны барэльеф з выявай Багародзіцы і апісаннем дабрачынных учынкаў Сямёна Алелькавіча[59].

Малодшы сын Алелькі Міхаіл пасля смерці бацькі, згодна з падзелам са сваім старэйшым братам Сямёнам, атрымаў у 1454 г. Капыль і Слуцк. Слуцкае і Капыльскае княствы займалі тэрыторыю ад р. Можа і Мароча, землі ў басейне р. Арэса (суч. Бабруйскі раён), частку Чэрвеньскага раёна па р. Пціч і Свіслач (маёнтак Турэц на р. Свіслач), землі ўздоўж Прыпяці (фальварак Скеп'ева, м. Петрыковічы), якія межавалі з уладаннямі вялікага князя літоўскага і князёў Астрожскіх[60]. Асноўнай рэзідэнцыяй на той час заставаўся Капыль, дзе і размяшчаўся двор князя. Вельмі багатымі на падзеі сталі для Алелькавічаў 1470—1471 гг. Спачатку памерла ўдава князя Аляксандра (Алелькі) Анастасія Маскоўская, якую сыны пахавалі ва Успенскім саборы Кіева-Пячэрскай лаўры[61]. Летам 1470 г. князь Міхаіл Алелькавіч быў пасланы Казімірам Ягелончыкам намеснікам да Вялікага Ноўгарада, дзе на той момант вырашалася пытанне, пад уплыў каго з суседзяў ВКЛ ці Маскоўскага княства патрапіць гэты значны палітычны і гандлёвы цэнтр. Кандыдатура князя Алелькавіча, які адначасова быў прадстаўніком кіруючых дынастый абедзвюх дзяржаў, была найлепшай. Акрамя таго, з ВКЛ звычайна туды пасылалі тых князёў, ад якіх хацелі б пазбавіцца. Наўгародскае веча таксама пагадзілася з такім выбарам. Князь Міхаіл прыехаў у Ноўгарад 15 лістапада 1470 г. Менш чым праз месяц, 3 (4) снежня 1470 г., памёр яго старэйшы брат кіеўскі князь Сямён Аляксандравіч. Атрымаўшы такую навіну, як пісалі летапісы, у сакавіку 1471 г. князь Міхаіл, «апусціўшы» Ноўгарад без узгаднення з Казімірам Ягелончыкам, вяртаецца ў Вялікае Княства Літоўскае з надзеяй атрымаць для сябе Кіеўскае княства[62]. Для самога сябе князь Міхаіл разглядаў намесніцтва ў Ноўгарадзе як паніжэнне свайго грамадскага статусу і жадаў вярнуцца на кіеўскае княжанне, адсунуўшы сына Сямёна Васіля. Яго намаганні былі падтрыманы і самімі кіяўлянамі, якія жадалі мець на кіеўскім стальцы дарослага мужчыну, здольнага абараніць іх землі ад нападаў татараў.

Вялікі князь Казімір не толькі не аддаў яму Кіеў, але і пазбавіў кіеўскага стальца дзяцей Сямёна Аляксандравіча, перадаўшы ім Пінск. Фактычна Кіеўскае княства як спадчыннае ўладанне было ліквідавана і пераўтворана ў ваяводства. З гэтага моманту кіеўскай зямлёй сталі кіраваць вялікакняжацкія намеснікі — ваяводы. Першым з іх быў дзевер Сямёна Алелькавіча Марцін Гаштольд.

У адказ князь Слуцкі перайшоў у апазіцыю да вялікага князя і далучыўся да незадаволеных яго ўнутранай і знешняй палітыкай. Гэта не перашкаджала князю Слуцкаму прымаць актыўны ўдзел у палітычным жыцці. У 1476 г. ён разам з яшчэ двума ўладыкамі князем Фёдарам Бельскім у ліку чатырнаццаці асоб падпісаў ліст літоўскага мітрапаліта Міхаэла да рымскага папы Сікста IV з прапановай царкоўнай уніі[63].

Князь Слуцкі працягвае апякаць слуцкія цэрквы і манастыры. Жаночы манастыр Святога Іллі ўпершыню сустракаецца ў лісце княгіні Аляксандравай Анастасіі свайму намесніку князю Петку і іншым намеснікам, што пасля яго ў Слуцку будуць. Яна паведамляла, што дала на манастыр Святога Іллі чалавека, які жыве ў Пагосце[64]. У ліпені 1474 г., будучы ў Кіеве, Міхаіл Алелькавіч надаў манастыру Святога Іллі па дзве бочкі жыта з розных маёнткаў[65]. У прывілеі Аляксандра Ягелончыка

ад 1494 г. упаміналася, што Міхаіл Алелькавіч фундаваў і царкву Святога Мікалая[66].

У 1479 г., падчас чарговага абвастрэння адносін ВКЛ з Маскоўскім княствам з-за Ноўгарада Вялікага, разам з групай незадаволеных князёў ён уступіў у перамовы з вялікім князем маскоўскім Іванам III. Першапачаткова яны планавалі авалодаць Кіевам і разам з усімі сваімі ўладаннямі перайсці пад уладу Вялікага Княства Маскоўскага. Стасункі з Масквой сталі яшчэ цяснейшымі, калі Міхаіл Алелькавіч выступіў у 1480 г., як старэйшы ў родзе, пасрэднікам у наладжванні сувязяў паміж Іванам III і сваім шваграм Стэфанам, гаспадаром малдаўскім. У выніку перамоў саюз паміж Малдавіяй і Масквой быў замацаваны шлюбам пляменніцы князёў Алелькавічаў Алены са старэйшым сынам Івана III Іванам.

Рашучыя дзеянні супраць польскага караля і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка выклікала чарговая крыўда з боку караля. Пасля пераходу Марціна Гаштольда на ўрад троцкага ваяводы кіеўскае намесніцтва летам 1480 г. было перададзена не Алелькавічам, а Івану Хадкевічу[67]. Крыўда была тым большая, што Алелькавіч лічыў яго сваім падданым, баярынам кіеўскім, які толькі па волі караля заняў яго спадчыннае месца. У 1480 г. супраць Казіміра склалася змова. Было вырашана забіць караля і яго сыноў падчас яго чарговага прыезду ў ВКЛ. Усе крыніцы называюць толькі трох удзельнікаў. На чале змовы стаялі слуцкі князь Міхаіл Алелькавіч, яго стрыечны брат князь Фёдар Іванавіч Бельскі і князь Іван Юр'евіч Гальшанскі. За змоўшчыкамі не было ніякіх палітычных сіл ці партый, аднак яны, несумненна, мелі прыхільнікаў, якія афіцыйна не былі пакараны. Але яны змаглі сарваць выступленне літоўскага войска супраць Масквы ў 1480 г.[68]. Хелмскі ваявода адразу пасля падзеі 20 мая 1481 г. пісаў у Гданьск, што літоўскія князі задумалі забіць караля і яго сыноў падчас палявання, а каралеву ўзяць пад варту[69]. Калі б ім гэтага не ўдалося, яны жадалі «отсесть» ад Вялікага Княства Літоўскага з усімі ўсходнімі землямі да р. Беразіна да Вялікага Княства Маскоўскага. Альбрэхт Гаштольд у сваім лісце да каралевы Боны Сфорцы ў 1525 г. так апісваў намеры змоўшчыкаў са слоў свайго бацькі (Марцін Гаштольд як ваявода троцкі быў адным з суддзяў): «русские князья... покойным королем Казимиром... были по суду обезглавлены, ибо они составили заговор с целью убийства короля и великого князя, вышеназванного государя Казимира, желая, чтобы по уговору только один занял Великое княжество»[70]. Самае цікавае, што сярод змоўшчыкаў годным велікакняжацкага тытула лічылі князя Міхаіла Алелькавіча[71].







Ажыццявіць забойства было вырашана на вяселлі князя Фёдара Іванавіча Бельскага з князёўнай Ганнай Кобрынскай, якое адбылося ў красавіку 1581 г. Кароль прыехаў на вяселле свайго стрыечнага брата (іх маці былі роднымі сёстрамі) папярэджаным пра змову кіеўскім ваяводам Іванам Хадкевічам, які быў жанаты з роднай сястрой Фёдара Бельскага Агнешкай. Адразу пасля вянчання змоўшчыкі былі схоплены. Фёдар Бельскі змог збегчы ў Маскву. Міхаіла Алелькавіча і Івана Гальшанскага змясцілі пад варту, дзе яны чакалі прысуду[72]. Зняволеныя князі былі перададзены на суд вышэйшыхураднікаў — віленскага ваяводы і канцлера Алехны Судзімонтавіча і троцкага ваяводы і маршалка Марціна Гаштольда. Яны абодва прыходзіліся змоўшчыкам блізкімі родзічамі: Марцін Гаштольд быў жанаты з роднай сястрой князя Івана Гальшанскага, а дачка Алехны Судзімонтавіча была замужам за братам князя Гальшанскага. За спробу замаху на караля змоўшчыкі былі



**Сямён Міхайлавіч Слуцкі.**
**Гравюра з твора Б. Папроцкага «Гняздо цноты». 1579 г.**

асуджаны на смерць. 30 ліпеня 1481 г. Міхаіл Алелькавіч разам з Іванам Гальшанскім былі чвартаваны ў Вільні[73].

Нягледзячы на выкрыццё змовы, Казімір Ягелончык праявіў некаторую літасць да змоўшчыкаў. Іх было дазволена пахаваць у царкве, а маёмасць была не толькі не канфіскавана, але пакінута дзецям. Пацвярджэнне гэтага было нечакана знойдзена ўкраінскімі археолагамі пры вывучэнні разбуранага ў 1941 г. Успенскага сабора ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Пры вывучэнні рэштkaў пахаванняў адной з крыпт, якая была ідэнтыфікавана як родавая ўсыпальня князёў Алелькавічаў, быў знойдзены касцяк мужчыны 40—50 гадоў. Ён быў пахаваны, як і ўсе, у труне, але яго галава, ногі і рукі былі адсечаны. Гэта цалкам супадае з магчымымі слядамі пакарання на смерць — чвартаваннем, на якое караліся за дзяржаўную здраду. Можна са значнай доляй упэўненасці казаць, што на сённяшні момант дакладна вядома пахаванне толькі гэтага прадстаўніка роду князёў Алелькавічаў[74].

Казімір не мог быць міласэрным да змоўшчыкаў, бо гэта было б праявай яго слабасці. Аднак іх сыны захавалі бацькоўскую маёмасць. Слуцкае і Капыльскае княствы былі пацверджаны ўдаве Міхаіла Алелькавіча Ганне і яе адзінаму сыну Сямёну ў 1482 г.[75]. Тым не менш гэтыя падзеі выклікалі хвалянні сярод падданых у Слуцку. Шляхта і баяры адмовіліся падпарадкоўвацца ўдаве і яе малому сыну. Спатрэбілася ўмяшальніцтва вялікага князя, які загадаў князям і баярам служыць са сваіх маёнткаў княгіні Ганне, як да гэтага служылі яе мужу[76]. Менавіта ў гэты час, з пачатку 90-х гг. XVI ст., цэнтрам уладанняў Алелькавічаў становіцца Слуцк, куды яны канчаткова пераязджаюць з Капыля.

Тады ж, у 1494 г., быў складзены інвентар Трайчанскага манастыра, які характарызаваў яго як значны культурны цэнтр з уласнай бібліятэкай[77]. Княгіня Ганна пераважна ўсю сваю энергію аддавала дабрачынным справам. Яна шмат зрабіла для слуцкіх цэркваў, Трайчанскага манастыра і Кіева-Пячэрскай лаўры. У верасні 1488 г. разам з сынам яна падпісала ліст, па якім Трайчанскаму манастыру навечна надаваўся стаў на р. Локня[78].

Адным з першых яе крокаў як удовай княгіні Слуцкай было наданне ў 1482 г. фундуша царкве Святой Варвары — двух вёдраў мёду і дзесяці грошаў штогод[79]. У 1489—1492 гг. манастыры адорваліся ёю новымі землямі, людзьмі[80].

Нягледзячы на няўдалае сканчэнне жыццёвага шляху князя Міхаіла Слуцкага, яго сын карыстаўся значнай падтрымкай сярод князёў і баяр, якія жадалі б бачыць на велікакняжацкім стальцы ме-

навіта князя Сямёна Слуцкага. Сын і ўнук пакаранага на смерць Міхаіла Алелькавіча не выказвалі шырока сваіх уладных амбіцый, а сталі аднымі з найбольш заслужаных асоб ВКЛ, абараняючы сваю зямлю ад татарскіх нападаў і маскоўскіх войскаў.

Складаныя ўнутрыпалітычныя абставіны пасля смерці Казіміра Ягелончыка ў 1492 г. маглі паспрыяць яшчэ большаму ўзвышэнню князёў Алелькавічаў. З Гродна былі разасланы лісты па ўсіх землях з паведамленнем пра смерць Казіміра і запрашэннем з'явіцца ўсім «старшым» ад кожнай зямлі да 20 ліпеня 1492 г. на вальны сойм для выбрання новага гаспадара. Спачатку прыхільнікі князя Сямёна выставілі яго кандыдатуру[81]. Сам князь прыехаў з атрадам у 500 чалавек. Ваенная пагроза з боку Маскоўскай дзяржавы рабіла кандыдатуру блізкага да маскоўскага двара князя Сямёна Міхайлавіча Алелькавіча вельмі прывабнай. Да таго ж прыкладна ў гэты час ён ажаніўся з Анастасіяй, дачкой мсціслаўскага князя Івана Юр'евіча Лінгвенавіча, прадстаўніка яшчэ адной галіны Гедымінавічаў (хоць Ё. Вольф лічыў, што шлюб адбыўся не раней 1496 г.[82]). У якасці пасагу княжна мсціслаўская прынесла 2 тысячы коп літоўскіх грошаў і правы на Мсціслаўскае княства[83]. Магчымасць страты велікакняжацкага стальца для сына Казіміра Ягелончыка і разрыву персанальнай уніі з Польшчай вымусілі Аляксандра Ягелончыкаісці на значныя саступкі панам-радзе[84]. Аднак паны-рада абвясціла сойму, што перадсмяротным пажаданнем Казіміра было, каб польскім каралём стаў Ян Ольбрахт, а вялікім князем літоўскім —









**Трайчанскі манастыр.**

**Н. Орда. 1864—1876 гг.**







**Аляксандр Ягелончык.**
**Гравюра. XVI ст.**

Аляксандр. Гэтага было дастаткова, каб шанцаў на выбранне ў князя Слуцкага не засталося. Паны-рада рашылася на выбранне Аляксандра на вальным сойме ўсіх зямель ВКЛ[85].

Гэтым палітычная актыўнасць князя Сямёна абмяжоўвалася. У дакументах мы фактычна не знаходзім слядоў яго актыўнага ўдзелу ў палітычных падзеях канца XV — пачатку XVI ст. У 1496 г. князь Слуцкі нават не прыехаў на сойм[86]. Гэта магло быць звязана з некалькімі фактарамі. Першым з іх стала магчымасць страты сваіх уладанняў у выпадку канфлікту з вялікім князем літоўскім. Другім — узброеныя канфлікты з Маскоўскай дзяржавай і з'явіўшаяся татарская пагроза, якая адцягвала ўвагу князя Сямёна Міхайлавіча на неабходнасць абароны сваіх зямель.

У Літоўскай метрыцы за час жыцця князя Сямёна Слуцкага засталося вельмі мала дакументаў. У асноўным яны датычыліся спрэчак з-за маёнткаў, калісьці адабраных бацькам князя Міхаілам[87].

У 1498 г. удава кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча Марыя Гаштольд звярнулася да Аляксандра Ягелончыка са скаргай, што князь Слуцкі не дапускае яе дачку Аляксандру да падзелу Слуцкага і Капыльскага княстваў. Яна прасіла зацвердзіць за яе дачкой Аляксандрай (Аленай) княгіняй пінскай Слуцк і Капыль[88]. Асноўным аргументам было, што яны належаць да старэйшай лініі князёў Алелькавічаў, таму менавіта ім, нашчадкам кіеўскага князя, былі павінны перайсці Слуцкае і Капыльскае княствы, а не сыну здрадніка Міхаіла. Князь Сямён Слуцкі казаў, што князі Сямён і Міхаіл Аляксандравічы самі падзялілі так бацькоўскую спадчыну. Вялікі князь літоўскі пагадзіўся, што падзел княстваў быў ажыццёўлены яшчэ пры жыцці князёў Сямёна і Міхаіла, а нашчадкі Сямёна атрымалі ў якасці кампенсацыі за страту Кіеўскага княства Пінск. Уладанні навечна замацоўваюцца за прадстаўнікамі гэтых галін, і правоў на Слуцк і Капыль пінскія князі не маюць і наадварот. 16 студзеня 1499 г. вялікі князь Аляксандр зацвердзіў бацькоўскія ўладанні Слуцк і Капыль за князем Сямё-



**Пячатка княгіні Аляксандры (Олены) Сямёнаўны Алелькавіч пінскай.**
**1516 г.**





**Слуцкае княства.**

**Фрагмент карты «Вялікае Княства Літоўскае». Т. Макоўскі. Амстэрдам. 1613 г.**

нам Міхайлавічам, прытым у прывілеі быў запісаны і абавязак слуцкага князя «службу земскую <...> заступовати по давному». Да ўласнасці навечна князя Сямёна і яго нашчадкаў былі прыпісаны горад Слуцк з усімі дварамі, якія да Слуцка «прислухают», Івань,





Пагост, Олгавічы, з усімі валасцямі Слуцкага павета, баярамі і князямі, і Капыль з дварамі Байлаўцы, Сыраватчычы, Старыцы, Шымкавічы, Скеп'ева, Калок, Старое Сяло, з усімі капыльскімі валасцямі, князямі і баярамі[89].

Пытанне з правамі на Пінскае княства слуцкай галіны роду і наадварот уздымалася да сярэдзіны 30-х гг. XVI ст. У 1524 г. сыну Сямёна Юрыю Слуцкаму было адмоўлена ў атрыманні Пінскага княства пасля смерці князя Фёдара Яраславіча, мужа княгіні Аляксандры[90]. Гэтыя землі па кадуку адышлі да караля Жыгімонта І.

Багатыя Слуцкае і Капыльскае княствы (землі якога знаходзіліся ў вярхоўях Арэсы і Случы і дасягалі Прыпяці) мелі добрыя сувязі з Клецкам, Нясвіжам, Менскам, Бабруйскам[91]. Па сушы на поўдзень горад быў звязаны з Петрыковічамі, Мазыром і далей Кіевам. У самім горадзе было з дзясятак цэркваў і каталіцкі касцёл. Толькі на слуцкім замку князямі Алелькавічамі былі фундаваны дзве царквы — Святой Варвары і Успення Багародзіцы. За княжацкую апеку і наданні святары былі павінны чытаць акафіст за здароўе князёў кожную нядзелю ці падчас службы кожным святаром. Для гэтага ім у 1501 г. Сямёнам Міхайлавічам Слуцкім з жонкай Анастасіяй на царкву Успення Багародзіцы давалася 10 бочак жыта з Капыля[92].

Густанаселеныя землі былі вельмі прывабныя для татарскіх нападаў. Штуршком да іх хвалі стала заключэнне саюза паміж Іванам III і крымскім ханам Менглі-Гірэем. Напады татараў звычайна прыпадалі на канец лета — пачатак восені. На Случчыну яны ішлі некалькімі ўстойлівымі маршрутамі: з Перакопа, поплавамі Дняпра і Буга да Лоевай гары, дзе яны пераходзілі Днепр бродам. Адтуль іх шлях ляжаў праз Мазыр, Петрыковічы, дзе таксама была пераправа праз Прыпяць далей на Слуцк[93]. Першы напад адбыўся ўвосень 1502 г. Князь Сямён Міхайлавіч па загаду Аляксандра Ягелончыка разам з падольскім ваяводам Янам Бучацкім перахапілі крымчакоў, якія ўцякалі (150 чалавек, хаця «Хроніка Літоўская і Жамойцкая» дае 1500), разбілі іх на р. Уша, у шасці мілях за Бабруйскам, і адабралі ўвесь палон[94].

У канцы (30) жніўня 1503 г. татары напалі неспадзявана, так, што князь слуцкі не паспеў да гэтага падрыхтавацца. «Хроніка Быхаўца» кажа, што пра напад ворагаў князь даведаўся, пабачыўшы іх са званіцы царквы Святога Юрыя: «Князь жа Сямён Міхайлавіч у той час быў у Слуцку і не ведаючы ні аб чым, толькі пагледзячы з горада на места за рэку Случ з царквы святога Юрыя, і пабачылі татар, скачучых на конях, і мужоў і жонак хапаючых і забіваючых»[95]. За адзін дзень 6 тысяч татарскага войска Мендыс-Гірэя, сына крымскага хана, прайшлі шлях у 25 міль ад пераправы праз Прыпяць і сталі ўвечары таго ж дня кашом на полі за Умаллю. Адтуль загоны пайшлі ў бок Капыля, Нясвіжа, Клецка. Ратнікі слуцкага князя былі размешчаны па навакольных сёлах і адрэзаны ад замка. Акрамя таго, усе коні таксама былі забраны татарамі. Такім чынам, слуцкі князь нічым не мог дапамагчы сваім падданым. Сямён Міхайлавіч разам з дружынай замкнуліся ў замку, паслаўшы за дапамогай у Вільню. Адзін з царэвічаў застаўся пад Слуцкам. Татарскія загоны спустошылі тэрыторыю ад Слуцка да Ішкалдзі і, не сустрэўшы супраціўлення, з палонам пакінулі краіну. Дапамога, пасланая вялікім князем літоўскім Аляксандрам, прыйшла ўжо пасля іх адыходу і не стала даганяць татараў, абцяжараных палонам[96].

Другі напад у канцы гэтага ж года быў адбіты князем Сямёнам Алелькавічам, Альбрэхтам Гаштольдам і Юрыем Няміравічам. Трохтысячны татарскі загон, які прыйшоў пад Слуцк і Наваградак, вяртаўся па іншаму шляху, праз Грычынскае балота.




**Бойка з татарамі.**
**М. Віжбента. 1570-я гг.**

За Прыпяццю, каля Давыд-Гарадка, татараў з палонам перахапілі, разбілі, а людзей вызвалілі[97].

Вялізныя людскія страты, якія панесла ўсё княства, вымусілі князя Сямёна даць Слуцку гарадскія правы і самакіраванне ў 1503 г. Гэта было павінна забяспечыць перасяленне новых жыхароў у горад. Мяшчане ў Слуцк перасяляліся з Кіева, Жытоміра, Мінска і іншых месцаў, як сведчылі пазнейшыя судовыя справы, калі ўласнікі горада хацелі прызнаць іх сваімі отчычамі[98]. Аднак гэта не магло карэнным чынам паўплываць на аднаўленне гарадской гаспадаркі, пакуль не была ліквідавана татарская пагроза.

Новы напад татараў прынёс не меншыя спусташэнні. Самая працяглая за ўсе напады татараў аблога горада і яго штурм адбыліся ў 1505 г. Тры сыны крымскага хана, перайшоўшы Днепр каля Лоевай гары з 20-тысячным войскам, рушылі ў бок Менска і Слуцка. У дзень Унебаўзяцця Багародзіцы, у пятніцу, яны падышлі да Слуцка, ведаючы пра адсутнасць князя Сямёна. Два царэвічы, Біці-Гірэй і Бурнаш, разрабаваўшы ваколіцы горада, паспрабавалі ўзяць Слуцк штурмам. Яны закідалі горад агнём і зрабілі падкопы пад сцены. Горад быў спалены. Нягледзячы на добрыя ўмацаванні і нават наяўнасць гармат, з якіх адбівалі напад, княгіня Слуцкая не змагла самастойна адбіць напады крымчакоў. Тым не менш мужная абарона случан і князёў, што былі на службе ў князёў Слуцкіх, дазволіла адстаяць замкі, і праз некаторы час татары адышлі да Наваградка, дзе ў той час засядала паны-рада. Татары, вяртаючыся з-пад Клецка і Наваградка, зноў пачалі рабаваць Случчыну і Наваградчыну, а адтуль павярнулі на Крым[99]. Па падліках польскіх гісторыкаў пачатку XVI ст., татары ў гэтым паходзе захапілі палон у 100 тысяч чалавек на землях Беларусі і Украіны[100].

14 лістапада 1505 г. яшчэ даволі малады князь памёр, пакінуўшы жонку і адзінага сына Юрыя, які яшчэ не дасягнуў паўналецця, і быў пахаваны ва Успенскім саборы Кіева-Пячэрскай лаўры.

## НА ВЯРШЫНІ МАГУТНАСЦІ

Пасля смерці князя Сямёна Міхайлавіча абавязкі па абароне вялізных уладанняў князёў Слуцкіх перайшлі да яго жонкі і сына. Амаль два дзесяцігоддзі маці і сын выступаюць разам ва ўсіх пачынаннях. Разам яны фігуруюць і ў дакументах.

Першым выпрабаваннем для іх стаў новы паход татараў у снежні 1505 г., які зноў прынёс вялікія страты. Новы напад 1506 г. быў паспяхова адбіты, хаця першапачаткова татарам удалося дайсці да Наваградка і разрабаваць Палессе і Случчыну. Вялікі князь літоўскі Аляксандр, які быў ужо цяжка хворы, перадаў паўнамоцтвы па абароне панам радным. Вялікі гетман літоўскі Станіслаў Кішка і маршалак Міхал Глінскі сабралі 10-тысячнае войска і рушылі з-пад Ліды. Асноўныя сілы татараў






**Клецкая бітва.**
**Гравюра з «Хронікі» М. Бельскага. 1597 г.**

былі разбіты пад Клецкам. Слуцкія ратнікі на чале з Юрыем Сямёнавічам Слуцкім перахапілі частку адступаючых з-пад Клецка крымчакоў каля Капыля і пры пераправе ў раёне Петрыковіч, а астатніх праследавалі да Оўруча і Жытоміра[101]. У падзяку за да-

памогу ў барацьбе з татарамі княгіня Анастасія з сынам узвяла каменны сабор[102].

Княгіня актыўна ўзялася за аднаўленне гаспадаркі, у чым ёй дапамагаў слуцкі намеснік Звер Валчковіч[103]. Яе спробы ўмацаваць эканамічнае становішча Слуцка, затрымаўшы ў ім житомірскіх купцоў, абвясціўшых іх отчычамі, поспеху не мелі. Гэтыя людзі перасяліліся ў Слуцк пасля чарговага разрабавання горада і мелі пры сабе лісты, якія даказвалі, што яны былі вольнымі і не з'яўляліся людзьмі непахожымі[104]. У выніку па загаду караля спецыяльныя камісары перапісалі ў Слуцку ўсіх людзей, што перасяліліся туды з дазволу каралевы з Кіева, Мінска і Житоміра, і загадалі ім на працягу аднаго года пакінуць Слуцк. Спрабавала яна дабіцца, каб на яе падданых не ўскладалі дадатковых павіннасцей (напрыклад, падводную) і ў час замянялі яе людзей пры выкананні павіннасцей. Аднак суседзі, пані Ядвіга Літаворавая Храбтовіч і князь Фёдар Яраслававіч Пінскі, скарысталіся тым, што Літавор знаходзіўся ў палоне ў Маскве, і дабіліся адкладання справы да часу яго вяртання[105].

Унутрыпалітычны канфлікт, які пачаўся ў гаспадарскай радзе ў 1505 г., прывёў да фарміравання дзвюх партый, якія адрозніваліся сваімі пазіцыямі па рэлігійным пытанні, стаўленнем да дынастычных інтарэсаў Ягелонаў, спраў уніі з Польшчай, знешняй палітыкі. Адну з іх узначаліў дворны маршалак, фаварыт Аляксандра Ягелончыка, князь Міхал Глінскі. На бок князя Міхала Глінскага перайшлі ўсе незадаволеныя палітыкай вялікага маршалка Яна Забярэзінскага, пачатак уплыву якога прыпадае на канец панавання Казіміра. Пасля смерці Аляксандра Ягелончыка яго фаварыт ужо не мог прэтэндаваць на выключнае становішча пры двары новага манарха Жыгімонта I Старога (1506—1548). Пасля смерці Аляксандра Ягелончыка прыхільнікі Забярэзінскага пачалі абвінавачваць Глінскага ў спробе захопу дзяржаўнай улады і дзяржаўнай здрадзе. Пасля ад'езду Жыгімонта I у студзені 1506 г. да Кракава і роспуску войска пасля летняй кампаніі 1507 г. Глінскі скарыстаўся чарговым падыходам маскоўскіх войск да Смаленска і ўзняў мяцеж. Сабраўшы войска, у лістападзе 1507 г. Міхал Глінскі рушыў з Турава спачатку на Гродна, каб схапіць Яна Забярэзінскага, потым на Коўна. Сваёй мэтай Глінскі абвясціў абарону інтарэсаў праваслаўных, разлічваючы на падтрымку старых княжацкіх і баярскіх родаў. Родзіч Міхала Глінскага Андрэй Дрожджа накіраваўся да Слуцка, паспрабаваўшы захапіць яго знянацку ці дабіцца пераходу княгіні Слуцкай на іх бок. Аднак Анастасія Слуц-



**Юрый Сямёнавіч Слуцкі.**

**Гравюра з твора Б. Папроцкага «Гняздо цноты». 1579 г.**








**Выява Слуцка.**

**Фрагмент карты «Вялікае Княства Літоўскае». Т. Макоўскі. Амстэрдам. 1613 г.**

кая змагла арганізаваць абарону і адбіць яго напад.

Адступіўшы ад няўзятых Слуцка і Капыля, Глінскі накіраваўся на Тураў, а адтуль на Мазыр. Абвясціўшы сябе абаронцам праваслаўных, Глінскі быў вымушаны пайсці на саюз з Масквой. Васіль III скарыстаўся яго выступленнем для далейшага аслаблення ВКЛ. У 1508 г. Глінскі вярнуўся на Палессе і накіраваў свае атрады ўздоўж Прыпяці на Мазыр, руйнуючы ўсё на сваім шляху. Галоўная сядзіба мяцежнікаў была перанесена ў Мазыр, адкуль і ажыццяўлялася кіраўніцтва атрадамі, расасланымі на Капыль, Слуцк, Крычаў, Гомель, Оршу, Друцк і Мсціслаў. Сам ён другі раз падступіў да Слуцка з патрабаваннем, каб князіня Слуцкая аддала яму Слуцк і Капыль. «Как же и тыми разы зъ многими силами московъского приходил замковъ наших Меньска а Слуцка добывати и, з ласки милого Бога, тот здрадца, послышавшы люди нашы, з велико. Шкодою втекъ, и зъ москвичи», — пісаў Жыгімонт Аўгуст у лісце да крымскага хана[106].

На думку храністаў, пры спробе захопу Слуцка князь Глінскі праследаваў некалькі мэт. Ён спадзяваўся, узяўшы шлюб са ўдовай князіняй, атрымаць доступ да скарбаў князёў Слуцкіх. Будучы айчымам маладога Юрыя Сямёнавіча, ён мог ад яго імя прэтэндаваць на Кіеў як вотчыну князёў Алелькавічаў і зрабіць яго сімвалам, вакол якога аб'ядналіся б праваслаўныя паны і баяры[107].

Тым часам замак, які абараняўся не толькі са сцен, але і з дапамогай вылазак, яму ўзяць не ўдалося. Тады Глінскі распусціў свае атрады рабаваць вёскі і сёлы Слуцкага княства, цалкам спусташаючы іх. Аднак і другая спроба скончылася няўдачай.

Татарскі загон хацеў пранікнуць з Валыні і Падолля пад Слуцк. Але пад Слуцкам іх перахапіў Канстанцін Іванавіч Астрожскі з 8 тысячамі вершнікаў. Дзякуючы атраду ротмістра Лукаша Мараўскага, які разбіў іх з пешым войскам (230 пешых і 6 вершнікаў), і імклівай вылазцы маладога князя Слуцкага, крымчакі, ахопленыя панікай, кінулі палон і былі разбіты канчаткова[108].

Пасля некалькіх аблог атрадамі Глінскага і татараў у 1509 г. князіня Анастасія



**План слуцкіх замкаў.**

**Сярэдзіна XVII ст. НГАБ. Ф. 694. Воп. 1. Спр. 287**

заклала ніжні замак і нанава ўмацавала верхні[109]. Вядома імя майстра, які кіраваў перабудовай і ўмацаваннем слуцкага замка, — Мураш[110]. Капец (дзе знаходзіўся дзядзінец) быў насыпаны і абнесены сцяной. Уваход у яго праходзіў праз шматпавярховую браму з мастом. Замак быў акружаны землянымі валамі з вежамі на поўначы. Пра такія элементы абароны ёсць успаміны ў перапісцы слуцкіх намеснікаў з князямі. Да таго ж няма сведчанняў перабудовы замка да канца XVI ст., і таму выяву Слуцка на знакамітай карце Т. Макоўскага можна разглядаць як крыніцу, якая дае ўяўленне пра архітэктуру слуцкіх замкаў XVI ст. На фоне пасада можна пабачыць вежы з тыповымі гатычнымі «спічастымі» дахамі. Сцены (праслы) уяўляюць сабой частакол. Палац князёў быў драўляны, на высокім каменным падмурку. Непасрэдна да яго прымыкаў будынак скарбца[111].

Фактычна Слуцкам да сваёй смерці (пасля 1524 г.) кіравала маці Юрыя, бо амаль усё жыццё князя прайшло ў ваенных паходах. Разам з князем Астрожскім і ўкраіннымі старастамі ён быў пастаўлены на ахове паўднёвых і ўсходніх меж дзяржавы. Яго паспяховыя дзеянні падчас мецяжу Глінскага не засталіся без увагі караля. Княгіня Слуцкая ў якасці ўзнагароды атрымала шэраг маёнткаў. У лютым 1509 г. Жыгімонт I даў княгіне Слуцкай у пажыццёвае ўтрыманне маёнтак Какорычы і палац Вераб'евічы каля Капыля, забраныя ў здрадніка Якуба Івашэнцавіча[112], двор Лішкаў з фальваркамі, сёламі і баярамі, якім раней валодаў Міхал Глінскі[113]. У 1515 г. лішкаўскія падданыя, якія служылі ў тым маёнтку путную службу і «хадзілі на вайну», паспрабавалі адмовіцца выконваць свае павіннасці на карысць княгіні Слуцкай. Спатрэбілася судовае рашэнне, каб прывесці іх да паслухмянасці[114].

Другое дзесяцігоддзе XVI ст. прайшло для князёў Слуцкіх пад знакам бясконцых судовых разбораў з-за спадчыны князёў Мсціслаўскіх і ўдзелу Юрыя ў ваенных паходах. Пасля смерці князя Івана Юр'евіча Мсціслаўскага ў 1486 г. яго дзве дачкі засталіся пад апекай вялікага князя, які дазволіў ім жыць у Мсціслаўлі да выхаду замуж. Першай была выдадзена старэйшая сястра Ульяна за князя Міхаіла Жаслаўскага. Ім Мсціслаўль і быў перададзены. Аднак сястра Анастасіі памерла бяздзетнай, і княгіня Слуцкая ўжо ў 1509 г. выступіла з просьбай перадаць Мсціслаўль ёй як адзінай спадчынніцы. Кароль адзначаў, што князь Міхаіл Жаслаўскі трымаў Мсціслаўль не па дзедзічнаму праву сваёй жонкі, а як атрыманае для сябе асабіста ад гаспадара пажалаванне[115].

Без удзелу ў ваенных дзеяннях прайшоў 1510 г. А ўжо ў наступным, 1511 г., князь Юрый Алелькавіч Слуцкі разам з Юрыем Радзівілам Пераможцам і чаркаскім намеснікам Андрэем Няміровічам удзельнічаў у адбіцці татарскага нападу і разбіў ардынцаў ва ўрочышчы Рутка, у 20 мілях ад Кіева[116]. М. Стрыйкоўскі прыпісвае маладому Алелькавічу правадырства ў гэтай бітве, дзе, па яго падліках, было забіта восем тысяч татараў[117].

З вясны 1512 г. польскія войскі зноў удзельнічалі ў адбіцці татарскіх нападаў, а літоўскія выступілі на чарговую вайну з Маскоўскай дзяржавай. У маі 1514 г. Жыгімонт з панамі раднымі пастанавіў сцягваць дадатковыя сілы на вайну з Маскоўскай дзяржавай, паколькі яе войскі ў чарговы раз узялі ў аблогу Смаленск. Сярод іншых падданых ліст быў пасланы і да княгіні Слуцкай, каб яна выставіла сваіх людзей[118]. У 1514 г. князь Слуцкі быў павінен выставіць палову свайго почта, 250 вершнікаў, і гэта без уліку ўладанняў, якія адышлі да маці. Гэта сведчыць пра тое,






**Бітва пад Оршай.**
**Гравюра з «Хронікі» М. Бельскага. 1597 г.**

што, хаця сын з маці часта выступалі разам у юрыдычных дакументах, пасля дасягнення Юрыем паўналецця маёнткі былі падзелены і княгіні выдзелена яе ўдовіна частка. Ад Смаленска маскоўскае войска рушыла ў напрамку Оршы і Друцка, ад-





**Бітва пад Оршай.**

**Невядомы мастак. I палова XVI ст.**

куль адкрываўся шлях праз цэнтральную Беларусь на Вільню. У бітве пад Оршай, якая адбылася 8 верасня 1514 г., князь Юрый Сямёнавіч Слуцкі разам са сваім почтам знаходзіўся на правым флангу літоўскага войска, які ўзначальваў Юрый Радзівіл[119].

Перамога ў бітве пад Крапіўнай, хаця і не пераламала ход вайны, прынесла ВКЛ значныя палітычныя дывідэнды. У першую чаргу яна спыніла стварэнне антыягелонаўскай кааліцыі, над якой працавала маскоўская дыпламатыя. У далейшых ваенных дзеяннях маскоўскія войскі маглі разлічваць толькі на падтрымку Крымскага ханства.

Апошні набег татараў на ўладанні князёў Слуцкіх у ВКЛ адбыўся ў 1521 г., калі пяцітысячнае войска, што пераправілася ў раёне Лоевай гары, спаліла Мазыр і рушыла ўздоўж Прыпяці. Былі разрабаваны землі паміж Слуцкам і Пінскам[120].

Палітычныя рэформы, якія праводзіў Жыгімонт I, дазволілі прыцягнуць да ўдзелу ў палітычным жыцці краіны больш шырокія колы арыстакратыі. Акрамя ўраднікаў, што займалі вышэйшыя пасады, да прыняцця рашэнняў сталі прыцягвацца па асабістых лістах караля князі Юрый Слуцкі і Сямён Дубровіцкі, усе князі Друцкія, Лукомскія, Свірскія, Карэцкія, Гедройцы, Сангушкі, Збаражскія, Заслаўскія, Карэцкія, паны Храбтовічы, Давойны, Салагубавічы і інш. Усе яны прызнаваліся станамі да «сойму належачымі». У гэтыя гады склад сойма сфарміраваўся канчаткова[121].

Князь Слуцкі канчаткова замацаваў за сабой месца па правай руцэ вялікага князя літоўскага пасля біскупа віленскага, абыходзячы не толькі свецкіх ураднікаў, але і астатніх каталіцкіх біскупаў. На гэты час Алелькавічам было дастаткова быць ад-





**Радамскі сойм 1505 г.**

**Гравюра са «Статута Ласкага». 1506 г.**

нымі з буйнейшых землеўласнікаў. Згодна з попісам войска ВКЛ 1528 г., Юрый Сямёнавіч Слуцкі выстаўляў са сваіх добр 433 кані[122]. У 1534—1536 гг. (калі змянілася колькасць дымоў, з якіх выстаўляліся вершнікі) у яго земскую павіннасць па абароне дзяржавы зноў уваходзіла выстаўленне ўжо 500 вершнікаў. Менавіта столькі ён выставіў падчас чарговай вайны з Масквой ў 1534—1535 гг. Гэта значыць, што агульная колькасць падданых князя Слуцкага была не менш як 40 тысяч чалавек.

Як член паноў радных, князь Юрый Слуцкі не аднойчы выступаў суддзёй і пасрэднікам ва ўрэгуляванні канфліктаў. Пераважна гэта былі справы, звязаныя з прадстаўнікамі розных княжацкіх родаў ці сямей вышэйшых урааднікаў. Гэта значыць тых асоб, якіх мусілі судзіць калі не вышэйшых за іх па рангу, то хаця б роўных ім асоб. Так, у справе княгіні Марыі Дубровенскай з пасынкамі кароль пасля разгляду сутнасці справы загадаў князям Дубровенскім з'явіцца перад князем Юрыем Сямёнавічам, Багданам Сапегам і яшчэ дзвюма асобамі, каб яны вынеслі свой прысуд[123].

Высокае становішча і аўтарытэт князя выклікалі зайздрасць з боку яго палітыч-

ных сапернікаў. Асабліва складанымі былі адносіны з Альбрэхтам Гаштольдам. Амбіцыйны палітык, які імкнуўся да вяршынь улады, неаднаразова канфліктаваў з князем Слуцкім. Справа дайшла да таго, што кароль быў вымушаны асабіста ўмяшацца ў іх спрэчкі. Жыгімонт I патрабаваў іх асабістай прысутнасці на генеральным сойме ў Вільні, дзе ён збіраўся рассудзіць ворагаў[124]. Іх адносіны яскрава ілюструе той факт, што Юрый Слуцкі прасіў Жыгімонта I не прызначаць Альбрэхта Гаштольда камісарам для разбору яго судовых спраў з-за дрэнных адносін з віленскім ваяводам і яго прадузятага стаўлення, аднак кароль адмовіўся, спасылаючыся на тое, што канцлер з'яўляецца найвышэйшай радай і можа судзіць па закону[125].

У 1522 г. змяніўся расклад унутрыпалітычных сіл у дзяржаве, што было выклікана шэрагам смярцей сярод паноў радных. Зышлі ваявода віленскі і канцлер ВКЛ Мікалай Мікалаевіч Радзівіл, маршалак гаспадарскі і пан віленскі Ян Радзівіл. Новым віленскім ваяводам і канцлерам стаў Гаштольд, які паспрабаваў праводзіць самастойную палітыку, накіраваную на адасабленне ВКЛ ад Польшчы. На пасаду найвышэйшага гетмана быў прызначаны праваслаўны князь Астрожскі. Гэта выклікала да жыцця новыя палітычныя кааліцыі. Ваеннае супрацоўніцтва князя Алелькавіча з Канстанцінам Іванавічам Астрожскім перайшло ў палітычную сферу. Князі Слуцкі і Астрожскі выступалі разам нават у сваіх просьбах пра наданне зямель сваім баярам Грыцку Тавулевічу і Івашку Нямірычу[126]. Да таго ж абодвух князёў, акрамя супрацьстаяння Гаштольду, аб'ядноўвала імкненне абараніць правы праваслаўнай царквы і яе вернікаў.

У 1522 г. Юрый Сямёнавіч разам з князем Канстанцінам Іванавічам Астрожскім выступілі супраць каранацыі трохгадо-



**Альбрэхт Гаштольд.**

**Мініяцюра. С. Самастшэльчык. 1528 г.**

вага Жыгімонта Аўгуста вялікім князем літоўскім, бо бачылі ў гэтым парушэнне уніі з Польшчай і лічылі асобную элекцыю каралевіча толькі нагодай, каб пасеяць варожасць паміж дзвюма краінамі.

У той жа час кароль Жыгімонт Стары і Бона Сфорца імкнуліся забяспечыць трон ВКЛ за сынам не столькі праз выбары, колькі па спадчыне. Да таго ж гэта фактычна гарантавала выбар Жыгімонта Аўгуста на польскі прастол пасля смерці бацькі. Канцлер ВКЛ Альбрэхт Гаштольд, які на той момант знаходзіўся ў вельмі напружаных адносінах з князямі Астрожскім і Слуцкім, у лісце да Боны бяздоказна абвінаваціў іх у жаданні заняць месца Міхала Глінскага, якое той меў пры Аляксандру Ягелончыку[127]. Амбіцый стаць усёмагут-







**Жыгімонт I Стары.**
**Л. Кранах мал. 1550-я гг.**

нымі фаварытамі, можа, у іх і хапала, аднак у гэтай сітуацыі Альбрэхт Гаштольд проста спрабаваў устраніць са свайго шляху ўплывовых сапернікаў[128].

Палітычнае супрацоўніцтва двух знакамітых ваенных кіраўнікоў хутка перайшло ў роднасны саюз. 26 ліпеня 1522 г. у Вільні была складзена ўмова пра шлюб Астрожскага з Аляксандрай (часам сустракаецца імя Олена, Гелена) Сямёнаўнай князёўнай Алелькавіч Слуцкай[129]. Бок нявесты прадстаўлялі маці Анастасія (па сведчанні М. Стрыйкоўскага, у 1508 г. Астрожскі вызваліў яе з татарскай няволі[130]) і брат Юрый Сямёнавіч Слуцкі, з якімі гетман «у вечистую приязнь и кровное ся звязанье зошол»[131]. Вельмі цікавым для разумення, як у вачах падданых мусілі паводзіць сябе князі, становіцца паданне пра княжну Аляксандру Слуцкую і яе знаёмства з будучым мужам. Падзеі адбываюцца ў 1522 г., калі татары ў чарговы раз асадзілі Слуцк. У адсутнасці князя Слуцкага яго старэйшая дачка (тут памылка, хіба сястра, бо яе бацька князь Сямён памёр у 1505 г.) Аляксандра арганізавала абарону і паслала да князя Астрожскага ганца за дапамогай і просьбай прывезці славуты абраз князёў Астрожскіх (магчыма, цудатворны абраз Межырыцкай Багародзіцы[132]), які неаднойчы ратавала ад ворагаў. Сілы нябесныя і Багародзіца дапамаглі князёўне: абраз сам перанёсся да Слуцка, і дзяўчына перамагла татараў[133]. Калі на месца з войскам прыбыў гетман, ён быў так уражаны смелай дзяўчынай, што прапанаваў ёй ажаніцца. Магчыма, тут ідзе зліццё яе асобы з асобай маці княгіні Анастасіі з князёў мсціслаўскіх Слуцкай, а магчыма, народная пагалоска лічыла дачку дастойнай прадстаўніцай роду. Так, легенда пацвярджае, што князёўна Слуцкая цалкам адпавядала вялікаму гетману і насіла годнасць гетманавай не толькі на словах[134].

Сведкамі шлюбнага ўкладу і прыяцелямі, з рады якіх і быў узяты гэты шлюб, былі мітрапаліт Іосіф, Богуш Багавіцінавіч (муж пляменніцы К. І. Астрожскага Фядоры Андрэеўны Сангушкі), князі Дубровенскі (муж сястры Астрожскага), Заслаўскі, Вішнявецкі і гаспадарскі пісар Іван Міхайлавіч. Пасаг князёўны Слуцкай складаўся з 1000 угорскіх злотых і каштоўнасцей яшчэ на 3000 коп грошаў літоўскіх. Менавіта такі памер выправы — не менш як 3000 коп грошаў — запатрабаваў гетман як адпавядаючы княжацкаму статусу яго будучай жонкі. У адказ згодна з традыцыяй вялікі гетман К. І. Астрожскі быў павінен запісаць Аляксандры вена (забеспячэнне падвоенай сумы пасагу,



**Канстанцін Іванавіч Астрожскі.**
**Невядомы мастак. Копія. XVIII ст.**

якая з'яўлялася ўласнасцю жанчыны да яе смерці ці паўторнага выхаду замуж) на 1/3 сваіх маёнткаў, як гэта было з першай жонкай[135]. Дата шлюбу дакладна не вызначалася да вяртання Астрожскага з паходу і выканання ім гаспадарскай службы ў Мінску.

Вянчанне адбылося ў 1523 г., пасля вяртання гетмана з чарговага паходу на татараў. П. Шумоўскі сцвярджае, што захавалася грамата кобрынскага архімандрыта Іосіфа ад 08.09.1526 з пацвярджэннем законнасці шлюбу, узятага царкоўна[136]. Паколькі татарская пагроза нікуды не падзелася, а дакументы нічога не кажуць пра вялікае і пышнае вяселле, падобна на тое, што пара проста абвянчалася ў прысутнасці невялікай колькасці сведак. Вена маладой жонцы князь запісаў толькі праз пяць гадоў, у 1527 г.[137], на Тураве і Сатыеве на 6 тысяч коп грошаў.

В. Ульяноўскі ў сваёй працы ўдакладніў звесткі пра жыццё ўдавы Астрожскага Аляксандры з князёў Слуцкіх. Абвяргаючы версіі яе ранняй смерці ў 1531 ці 1556 г., ён паказаў, што тая яшчэ ў лютым—чэрвені 1562 г. удзельнічала ў судовым працэсе з-за сваёй маёмасці[138]. 30 жніўня 1563 г. герцаг Альбрэхт Гогенцолерн накіраваў да яе ліст, але ўжо 3 чэрвеня 1564 г. у каралеўскім лісце яна ўзгадваецца як нябожчыца[139].

Восень 1524 г. князь Слуцкі прабыў у Кракаве пры каралеўскім двары, дзе прысутнічаў як пан радны пры шэрагу наданняў зямель каралём Юрыю Іллінічу і разбіраў розныя судовыя справы[140]. Там канчаткова было вырашана пытанне са спрэчнымі землямі князёў мсціслаўскіх. У 1518 г. княгіня Слуцкая зноў выступіла з позвай пра незаконнае затрыманне Мсціслаўля з воласцю князем Міхаілам Жаслаўскім і прасіла іх для сябе і сына. Жыгімонт I адклаў разгляд гэтай справы на больш позні тэрмін, а пазней зноў адмовіў княгіні Слуцкай у правах на Мсціслаўль[141]. На гэтым клопаты княгіні не скончыліся. На працягу некалькіх гадоў яна судзілася з суседзямі: з Храптовічам з-за меж пушчаў





Свержаньскай і Турэцкай, з Глябовічамі з-за розных крыўдаў.

Сын прадоўжыў судовыя справы, пачатыя маці, і выступіў з прэтэнзіямі на мацярызныя землі — Мсціслаўль і іншыя маёнткі[142]. Юрый працягваў не толькі абараняць, але і павялічваць свае ўладанні. Ён не пакідаў без увагі магчымасць набыцця ці вяртання самых малых кавалкаў зямлі, напрыклад пяці пустак[143]. Разам з Астрожскім, Хадкевічам і Касцевічам ён выступіў з прэтэнзіямі на атрыманне спадчыны Соф'і Радзівіл. Тая была ўнучкай князя Андрэя Уладзіміравіча, роднага брата Алелькі. Перажыўшы трох мужоў, бяздзетная ўдава запісала ўсю сваю маёмасць пасынку Юрыю Пацу і сваім пляменніцам. Тым не менш астатнія родзічы патрабавалі сваю долю ў землях, якія перайшлі ёй ад бацькоў. Князі Слуцкія прэтэндавалі на выплату пазык, якія брала ў Анастасіі Слуцкай пані ваяводзіна віленская[144], і маёнтак Магільна. Справа з Пацамі з-за Магільна зацягнулася больш чым на 20 гадоў[145]. У дадатак да тых уладанняў, што ўжо былі ў князёў Слуцкіх, ён набывае яшчэ некалькі, імкнучыся «акругліць» свае ўладанні. У Троцкім павеце было набыта пяць азёр. Пад Капылём быў выкуплены двор Капыль Кандратовіцкі ў Юрыя Міхайлавіча Кандратовіча[146]. У лютым 1525 г. князь Юрый атрымаў ад караля прывілей на правядзенне таргоў у маёнтку Вяйсее па чацвяргах навечна з дазволам трымаць там корчмы[147]. Менавіта для гэтага маёнтка ў верасні 1526 г. князь Слуцкі фундуе каталіцкі касцёл і надае на яго тры фальваркі і людзей. Свой учынак ён тлумачыў клопатамі пра падданых, якія былі вымушаны хадзіць маліцца за некалькі вёрст[148]. У 1540 г. кароль пацвердзіў набыццё князем Слуцкім маёнтка Вака недалёка ад Вільні[149].



**Юрый Радзівіл Геркулес.**
**Невядомы мастак. Пачатак XVII ст.**

Узімку 1527 г., калі татары зноў рабавалі паўднёвыя землі ВКЛ і Польшчы, літоўскія паны сабралі войска, якое накіравалася пад Кіеў і ўвайшло непасрэдна на тэрыторыю. Акрамя князёў і паноў, што мелі свае ўладанні пераважна на Украіне — Астрожскага, Сангушкі, братоў Вішнявецкіх, Чартарыйскага і іншых, — удзел у паходзе прынялі і князь Слуцкі з троцкім ваяводам Юрыем Мікалаевічам Радзівілам[150]. Татарскае 34-тысячнае войска было дагнана ў 40 мілях ад Кіева на Гальшаніцы. Там татары былі разбіты і вызвалена 18 тысяч захопленых у палон хрысціян. Сам князь Слуцкі разам з Дашкевічам праследаваў другі татарскі загон, які разбіў каля Канёва і Чаркас[151].






**Альбрэхт Гогенцолерн, герцаг прускі.**

**Л. Кранах. 1533 г.**

Жыгімонт Стары 28 красавіка 1527 г. напісаў з Кракава ліст да Юрыя Радзівіла, кашталяна троцкага, што даведаўся пра перамогу пад Кіевам войска пад кіраўніцтвам Юрыя Радзівіла, Канстанціна Іванавіча Астрожскага і Юрыя Слуцкага над татарамі. Манарх шчыра дзякаваў усім праваўдырам і абяцаў ніколі не забываць гэтай паслугі, пашыраючы ласку караля не толькі на іх саміх, але і на іх дзяцей[152]. Віншаванні з нагоды перамогі выказвалі не толькі суайчыннікі. 7 красавіка віншавальны ліст да князя Слуцкага даслаў прускі герцаг Альбрэхт[153].

З апошнім князя Слуцкага звязвалі дастаткова цесныя сувязі, не проста палітычныя, а нават прыяцельскія. У снежні 1529 г. ён быў запрошаны на хрышчэнне нованароджанага сына герцага Альбрэхта разам з сям'ёй кароннага канцлера Шыдлавецкага, княгіняй мазавецкай Ганнай і Нібшыцам (герцагскім агентам у Вільні)[154]. Падарожжа ў Крулявец не адбылося толькі з-за слабасці дзіцяці, якога ахрысцілі раней вызначанага тэрміну, бо баяліся, што яно хутка памрэ[155]. Юрый Сямёнавіч выступаў гандлёвым пасрэднікам герцага, звычайна пры пастаўках добрых коней турэцкай, фрызскай парод[156] ці экзатычных жывёл (хутчэй за ўсё размова ішла пра драпежных кошак — тыграў, ільвоў, леапардаў для герцагскага звярынца[157]), як гэта было ў 1533 г. Львоў князь Слуцкі падараваў і каралю. Для іх на Вавелі былі спецыяльна збудаваны клеткі.





У якасці адказных паслуг герцаг прускі пагадзіўся прыняць да свайго двара сына даўняга прыяцеля і кліента князя Юрыя Сямёнавіча князя Яна Палубінскага Міхаіла[158].

Апазіцыйна настроены да палітыкі Ягелонаў з аднаго боку, з другога князь Слуцкі выступаў прыхільнікам уніі з Польшчай. Пры разборы спрэчных спраў паміж літоўскімі і польскімі панамі яго нярэдка выбіралі камісарам з польскага боку. Так, напрыклад, пры разглядзе справы Станіслава Тэнчынскага з княгіняй Федкай Багушоўнай ён быў прадстаўніком графа Тэнчынскага[159].

Пасля смерці ў 1530 г. гетмана Астрожскага Юрый Слуцкі разам з земскім маршалкам Іванам Гарнастаем, брэсцкім старастам Аляксандрам Хадкевічам стаовіцца на чале апекуноў праваслаўнай царквы[160]. Яго дзейнасць нельга параўноўваць па маштабах з дабрачыннасцю вялікага гетмана. Пераважна сваю ўвагу князь Слуцкі засяродзіў на сваіх уладаннях, апякаючы слуцкія цэрквы і манастыры. Яшчэ ў 1516 г. княгіня Анастасія Слуцкая ад свайго імя і імя сына надала папу Уваскрэсенскай царквы Івану пусташы Меляшковічы і два агароды ў месце



**Ліст Жыгімонта І Юрыю Слуцкаму з дазволам хрысціць усіх дзяцей у праваслаўе.**
**1532 г. АРКr. AMCh 1030. S. 13**

слуцкім, адзін недалёка ад царквы Святога Юрыя[161]. У сакавіку 1535 г. Юрый Сямёнавіч Слуцкі пацвердзіў папу Уваскрэсенскай царквы Івану наданні сваіх продкаў у сяле Пасеца[162]. У 1540 г. (па іншых звестках, 1546 г.) ён разам з жонкай надаў фундуш на адну валоку зямлі і дым[163] Уваскрэсенскай царкве[164]. З Карпавіцкага маёнтка на карысць рынкавай царквы Святога Мікалая былі дадзены 4 вядры мёду слуцкай меры, 12 грошаў і зерне[165].

Працягвалася пры Юрыю Сямёнавічу і дзейнасць скрыпторыяў на тэрыторыі княства. Да нас дайшло Евангелле, напісанае па загаду князя ў 1539 г. у Слуцкім замку манахам Морачскага манастыра Васілём[166].

У 1529 г. Юрый Сямёнавіч замацоўвае свае палітычныя пазіцыі дамоўленасцю пра шлюб з дачкой былога канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Геленай (Аленай). Паколькі нарачоная была каталічкай, князь Слуцкі дасылае ў Рым ліст з просьбай да Папы Рымскага дазволіць шлюб паміж каталічкай і праваслаўным. Звычайна апостальскі прастол патрабаваў, каб дзеці ад такіх шлюбаў выхоўваліся ў каталіцтве. У выпадку з князем Слуцкім як выключэнне было дазволена: «зыходзячы з важнага публічнага інтарэсу, некаторых з таго саюзу паходзячых дзяцей ва ўсходнім вызнанні выхаваць дазваляем»[167]. Адказ на ліст да Папы Рымскага быў атрыманы ўжо пасля нараджэння старэйшага сына ў студзені 1532 г. праз магільскага абата Эразама Цёлка[168].

Шлюбны кантракт, падпісаны маці нявесты і князем Слуцкім у Мядзелі 6 лютага 1530 г., рэгуляваў акрамя маёмасных пытанняў, звязаных са шлюбам, праблему рознасці веравызнанняў жаніха і ня-

весты[169]. У лісце Альжбеты Мікалаевай Радзівіл было адзначана, што з дазволу Рымскага Папы і вялікага князя літоўскага і па згодзе з братамі нявесты «за слушну и вечысту приязнь и в кревность звензане з князем Юрыем его Милостию Семёновичем Слуцким дочку нашу панну Галену з божей помоци изволили есми Их Милости за малжонку дати и с тых часов даемы и гак ест дохование положили»[170]. Паколькі князь быў праваслаўнага веравызнання, усіх сыноў дазвалялася яму хрысціць у сваю веру і ў ёй выхоўваць. Першая дачка таксама магла быць праваслаўнай, тады як другая абавязкова, нягледзячы на тое, ці застанецца яе старэйшая сястра жывая на момант яе нараджэння, мусіла быць ахрышчана каталічкай. Калі б дачок было больш, то веравызнанне іх мянялася б па чарзе — спачатку праваслаўная, потым каталічка. Маці таксама мела права захоўваць сваю веру, і муж не быў павінен прымушаць яе да змены канфесіі. У той жа час аналагічныя абавязацельствы накладаліся і на Гелену. Яна не мела права прымушаць сваіх праваслаўных дзяцей стаць каталікамі[171].

У выпадку ранняй смерці князя Слуцкага ўсе яго дзеці, ахрышчаныя ў праваслаўе, перадаваліся разам са сваімі маёнткамі пад апеку Аляксандры Сямёнаўны з князёў Слуцкіх Астрожскай і яе прыяцеляў. Дачкі-каталічкі маглі застацца з маці, калі б яны не пайшлі другі раз замуж. У адваротным выпадку яны таксама перадаваліся пад апеку сваёй цёткі, калі б князь Слуцкі не пакінуў тэстамент і не выказаў іншых пажаданняў наконт апекуноў дзяцей. Выкананне ўмоў кантракта забяспечвалася высокай зарукай. Калі б яго ўмовы былі парушаны (у пытаннях, звязаных з веравызнаннем), то Радзівілы былі павінны заплаціць заруку ў 10 тысяч каралю і 10 тысяч самому князю Слуцкаму[172]. Сведкамі выступілі віленскі біскуп Ян з князёў літоўскіх, віленскі кашталян Юрый Мікалаевіч Радзівіл і кракаўскі і віленскі канонік Станіслаў Турло.

Ужо пасля вянчання Альжбета Радзівіл падаравала сваёй дачцэ і яе будучым нашчадкам палову азёр Сейна, Белае і Чорнае з усімі прылеглымі сенажацямі і часткай упадаючых у іх рэк[173].

Аднак амаль адразу пасля заключэння шлюбу Юрый Сямёнавіч пачаў спрабаваць дабіцца, каб усе дзеці былі ахрышчаны ў праваслаўе. Адпаведны ліст з просьбай ахрысціць другую дачку не ў каталіцтва, а ў праваслаўе быў складзены перад каралём, паколькі адказу з Рыма на просьбу пра дазвол шлюбу паміж праваслаўным і каталічкай яшчэ не было атрымана[174].

Спакойнаму сямейнаму жыццю зноў перашкодзіла вайна. На працягу 1532—1533 гг. вялікі князь маскоўскі праводзіў актыўную падрыхтоўку да ваенных дзеянняў. На просьбы літоўскага боку прадоўжыць перамір'е паміж дзяржавамі ці падпісаць вечны мір ён адказваў адмовай, падпісваючы дакумент на адзін год. У 1532 г. да Чарнігава сталі сцягвацца маскоўскія войскі, завозіцца матэрыялы для будаўніцтва ўмацаванняў, што стварала рэальную пагрозу для Кіева. Жыгімонт I распарадзіўся адправіць паслоў да татараў.

Занепакоеныя ў вышэйшай ступені паны радныя прасілі ў караля аддаць загад князям Іллі Астрожскаму і Юрыю Слуцкаму, луцкаму і ўладзімірскаму старастам на чале войск высунуцца пад Кіеў і там заставацца да іншага загаду[175]. Кароль палічыў неабходным, каб яны не толькі сабраліся ў Кіеве, але і сталі каля Мазыра і Оўруча[176]. У канцы восені прыйшоў ліст, па якім кароль загадаў паслаць да Кіева дадатковае войска. Князю Слуцкаму было прадпісана выставіць 40 коней, княгіні Астрожскай з Турава — 20, з Пінска — 40[177].




**Старадубская вайна.**
**Гравюра з «Хронікі» М. Бельскага. 1597 г.**

Пасля смерці Васіля III улады ВКЛ вырашылі скарыстаць сітуацыю, каб вярнуць захопленыя раней Маскоўскай дзяржавай землі. Ваенныя дзеянні на мяжы з Масквой са жніўня 1534 г. спачатку развіваліся паспяхова, аднак ужо праз некалькі месяцаў (у кастрычніку) літоўскае войска і наёмнікі былі распушчаны да наступнай летняй кампаніі.

Маскоўскія войскі пачалі наступаць ад Смаленска да Оршы, змаглі прасунуцца ў глыб тэрыторыі на 300 міль, а некаторыя атрады нават дайшлі да прадмесцяў Вільні. Адначасова пачалося наступленне і на паўднёвым накірунку ад Старадуба. Падчас зімовай кампаніі 1534—1535 гг., у лютым 1535 г., не сустрэўшы ніякага адпору, паўднёвая армія маскоўскіх войск на чале з князем Фёдарам Аўчынай Целяпнёвым Абаленскім і Іванам Трасценскім ад Старадуба рушыла ў глыб краіны. Яны прайшлі праз Рэчыцу, Рагачоў, Бабруйск, Слуцк, дайшлі да Наваградка, а вяртаючыся, спалілі і разрабавалі замкі і мястэчкі па Прыпяці: Тураў, Петрыкоў, Мазыр, Брагін[178]. Ні ўлады ВКЛ, ні самі ўласнікі нічога

не здолелі ім супрацьпаставіць, бо войскі былі распушчаны па дамах да летняй кампаніі і зімовага нападу ніхто не чакаў. Ні аднаго з вялікіх гарадоў маскоўскія войскі не ўзялі. Аднак гэта не было іх мэтай. У задачы экспедыцыі ўваходзіла знішчыць як мага больш людзей і прыпасаў і аслабіць ВКЛ. Гэта мэта была дасягнута выдат-

**Асада Старадуба ў 1535 г.**

**Гравюра з «Хронікі» М. Бельскага. 1597 г.**

на. Найбольш пацярпеў ад гэтага паходу князь Слуцкі, які быў вымушаны аднаўляць амаль усе свае ўладанні.

Саслабелае ВКЛ змагло дачакацца ваеннай дапамогі ад Польшчы, якую ўзначалілі каронны гетман Ян Тарноўскі і Андрэй Гурка. У дадатак былі наняты і наёмныя войскі. Войскі злучыліся ў маі 1535 г. недалёка ад Крычава. У ліпені асноўныя сілы рушылі ў Северскую зямлю, дзе 16 ліпеня занялі Гомель, пазней — Почап і Радагошч. Частка сіл ВКЛ пад кіраўніцтвам жмудскага старасты Яна Радзівіла, полацкага ваяводы Яна Глябовіча і слуцкага князя была накіравана пад Полацк для абароны паўднёва-ўсходняй мяжы ад магчымай атакі з боку маскоўскіх войскаў[179]. Яна заставалася там на працягу некалькіх месяцаў згодна з распараджэннямі вялікага князя. Князю Слуцкаму было загадана стаяць пад Апочкам і нікуды не рушыць[180], бо ўжо ў чэрвені маскоўскія войскі паспрабавалі захапіць Мсціслаўль, спалілі Крычаў, Дуброўну, Оршу і ваенныя дзеянні ішлі ўжо на Полаччыне. 29 жніўня пасля месячнай аблогі быў узяты адзін з галоўных гарадоў Северскай зямлі — Старадуб. Пры яго ўзяцці загінула каля 13 тысяч чалавек з маскоўскага боку, а кіраўнік гарнізона Фёдар Аўчына быў захоплены ў палон. Неўзабаве войска ВКЛ пакінула тэрыторыю Северскай зямлі і вярнулася ў свае межы, захаваўшы за сабой толькі Гомель. Так безвынікова скончыўся чарговы год вайны. На Полацкай зямлі маскоўскія ваяводы збудавалі новыя замкі — Завалач і Себеж, на сваёй — Веліж. У канцы зімы 1536 г. невялікія сілы ВКЛ няўдала спрабавалі захапіць Себеж. У маі 1536 г. быў выдадзены загад пра збіранне чарговага войска «пра еханне на вайну супраць Масквы»[181]. Ваенныя дзеянні разгарнуліся ў Падняпроўі, дзе разбілі маскоўскія войскі пад Крычавам. На гэтым ваенныя дзеянні спыніліся.

Удзел у ваенных дзеяннях не проста надоўга адрываў князя ад роднага дому. Хапала яму клопатаў з падданымі, якія неслі па загаду гаспадара земскую службу. Так, у ліпені 1540 г. князь быў пазваны на суд жмудскім старастам і сваім шурынам Янам Мікалаевічам Радзівілам за шкоды, нанесеныя яго нежыцкаму маёнтку людзьмі-латыгольцамі, якія былі разам з князем на Друцкіх палях. Падданыя гэтыя былі ў закладзе ў князя Слуцкага і хіба таму не асабліва прыслухоўваліся да яго загадаў, а князь не жадаў на працягу чатырох гадоў выплочваць паўтары капы грошаў шкоды, якую яны нарабілі ў маёнтках Радзівіла[182].

У другі раз намеснік петрыкоўскі Юрый Вярбіцкі не проста перахапіў купцоў па дарозе з кірмашу, але, адабраўшы падаткі, якія яны везлі з бабруйскіх і магілёўскіх корчмаў, пасадзіў іх у замкавую турму ў Петрыкове. Паколькі гэтыя купцы-яўрэі былі падданымі каралевы Боны і адабраны былі грошы з дзяржаўнага скарбу, справа аказалася на разглядзе каралеўскага суда, бо Бона нікому не дазваляла крыўдзіць сваіх падданых[183].

Сам князь не мог прысутнічаць на розных судовых працэсах, у якіх разглядалі справы парушэння меж маёнткаў, гвалтаў і канфліктаў паміж падданымі, таму перад панамі раднымі ад яго імя звычайна выступалі давераныя слугі — Керда[184], Марцін Валадковіч[185], слуцкі намеснік князь Ждан Аляксандравіч Свірскі, капыльскі намеснік Ян Андрэевіч Грабінскі[186]. Апошні, наогул, зрабіў нядрэнную кар’еру пры двары князя. Ажаніўшыся з Анастасіяй Дабрагостаўнай, адзінай дачкой старога слугі яго бацькоў Дабрагоста Станіслававіча, ён узяў за ёй маёнтак Брынёва з дварамі Белічы, службамі ў Лістападавічах, сяло Голічы і чатыры чалавекі ў Лескавічах[187].

Князь Юрый меў вялікі двор з дастаткова складанай структурай. Большасць да-

вераных, пра якіх ужо ішла размова, звычайна выконвала і функцыі рэчнікаў (тых, хто кажа ад імя гаспадара), і пракуратараў (адвакатаў). У 1540 г. інтарэсы князя ў судзе прадстаўлялі яго служэбнікі Андрэй, наместнік старасельскі[188], Іван, наместнік капыльскі[189], Мікалай Кграбя (Грабінскі)[190]. Як пракуратары выступалі Юрый Вярбіцкі, наместнік слуцкі (раней петрыкаўскі[191]), княжацкі канюшы Сямён Орда[192], пісар Марцін Валадковіч[193]. Іх імёны сталі масава сустракацца на старонках дакументаў за 1540—1541 гг., што сведчыць пра не вельмі добры стан здароўя іх гаспадара.

Існавала пры двары князя і асобная канцылярыя. Пісары, якія служылі там, пісалі не толькі кірыліцай ці па-польску, але і на латыні, пра што сведчыць актыўная перапіска з прускім герцагам Альбрэхтам, якая захоўваецца зараз у Берліне[194]. Аналіз почыркаў паказвае, што такіх пісараў было не менш як 2—3 асобы.

Блізкім да інтэлектуальнай часткі двара князёў Слуцкіх з канца XV ст. становіцца Трайчанскі манастыр. Звязана гэта было з тым, што ён фактычна з'яўляўся адным з цэнтраў мясцовага летапісання і меў багатую бібліятэку. Ужо ў 1494 г. у манастырскай бібліятэцы налічвалася 45 кніг[195]. Відавочна, што большасць рукапісаў з'яўлялася ўкладамі першых Алелькавічаў, што пацвярджаецца шэрагам уладальніцкіх запісаў. Большую частку рукапісаў, створаных па заказах князёў Слуцкіх, складалі царкоўна-рэлігійныя творы. Для іх перапіскі і аздаблення запрашаліся майстры з розных месцаў. Так, у канцы XV ст. у майстэрні Трайчанскага манастыра працаваў смалянін Антон Сямёнаў, сын Чалюскіна, які аформіў кнігу «Фёдар Студзіт». Пры двары князя Юрыя Сямёнавіча працаваў дзяк Усцін Яцкавіч Чачэранін, упрыгожваючы «Вучыцельнае Евангелле» і «Выбраныя павучанні» [196].

З канца 1541 г. князь пачаў хварэць. Пра гэта сведчыць судовая справа, на разгляд якой ён паслаў Марціна Валадковіча, бо сам ужо не ўставаў. Летапісец у Супрасльскім спісе адзначыў: «В лето 7050 месяца апреля 15 на день пр. отца Симеона, иже в Персиде, в неделю, вдарило в 2 године в ноч, преставися князь Юрьи Слуцкии; была голова на промысле»[197]. Пахавалі яго побач з бацькам у Кіеве.





Старэйшы сын князя Юрыя Сямёнавіча і Гелены (Алены) Мікалаеўны Радзівіл нарадзіўся каля 1530 г. Яго сястра Соф'я, відаць, была маладзейшая за брата прыкладна на год. У 1532 г., напярэдадні свята Нараджэння Багародзіцы (8 верасня), князь Юрый Сямёнавіч звярнуўся да Папы Рымскага з просьбай дазволіць ахрысціць другую дачку (калі тая нарадзіцца) у праваслаўную, а не каталіцкую веру, як гэта было прадугледжана шлюбным кантрактам[198]. Такі ліст мог сведчыць, што адна дачка ўжо нарадзілася. Сямён быў малодшым сынам, які нарадзіўся не раней як у 1534 г., паколькі яшчэ ў 1552 г. ён знаходзіўся пад апекай старэйшага брата як непаўналетні[199].

Пасля смерці бацькі ў 1542 г. згодна са шлюбным кантрактам бацькоў Юрый разам са сваім малодшым братам Сямёнам, сястрой Соф'яй і землямі перадаваўся ў апеку «прыяцелям», прызначаным тэстаментам бацькі: старасце ўладзімірскаму князю Фёдару Андрэевічу Сангушку, земскаму падскарбію Івану Гарнастаю і князю Вішнявецкаму (Фёдару ці Аляксандру). Сам арыгінальны тэкст тэстамента не быў пакладзены ў кнігі «Літоўскай метрыкі», хаця ўзгадка пра яго зацвярджэнне панамі раднымі прысутнічае там. Гелена з Радзівілаў прасіла прызначыць час, калі яна павінна прадставіць тэстамент мужа, і сведчыла пра пахаванне яго цела. Гелена таксама прасіла зацвердзіць сваё пражыванне на ўсіх маёнтках мужа згодна з артыкуламі Статута, якія датычыліся забеспячэння пані і ўдоў. Апекуном жонкі князь Юрый пакінуў земскага падскарбія Івана Гарнастая[200]. У яго задачы ўваходзіла прадстаўляць і абараняць інтарэсы княгіні Слуцкай і быць ёй дарадцам у складаных справах. Яшчэ адной праблемай, якая была агучана перад велікакняжацкім судом, была страта значнай сумы грошаў са скарбу князя Слуцкага. Падскарбій памерлага князя Ян Лаванецкі, паляк па паходжанні,






**Юрый і Сямён Слуцкія.**
**Гравюра з твора Б. Папроцкага «Гняздо цноты». 1579 г.**





з'ехаў ад свайго гаспадара з вялікай сумай, і княгіня прасіла, каб ён быў адшуканы, пастаўлены перад вачыма паноў радных і вярнуў ёй грошы, пра якія казалася ў тэстаменце князя Юрыя Сямёнавіча.

З кроўных родных па бацькоўскай лініі сапраўдным апекуном князёў Слуцкіх станавіўся князь Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч Астрожскі (1526—1608). Яго маці Аляксандра Сямёнаўна княгіня Астрожская была іх роднай цёткай. Пасля смерці брата яна забрала сабе прывілеі, лісты цвёрдасці на маёнткі, прычым дакументы знаходзіліся ў яе на працягу некалькіх гадоў[201]. Гэта сведчыць, што першапачаткова князі Астрожскія збіраліся ўзяць у свае рукі кіраванне маёмасцю малых родзічаў. Аднак Канстанцін (Васіль) Астрожскі, як і апекуны, прызначаныя па тэстаменту князя Юрыя Сямёнавіча, ад апекі над князямі Слуцкімі адмовіўся. Князь Астрожскі ў гэты час быў уцягнуты ва ўпартае супрацьстаянне з удавой свайго старэйшага брата Іллі Канстанцінавіча за кантроль над родавымі землямі князёў Астрожскіх. Бясконцыя судовыя спрэчкі і звароты да караля забіралі вялізныя сродкі і час маладога князя Астрожскага, і ён быў бы не ў стане выконваць свае абавязкі апекуна і абаронцы зямель і правоў князёў Слуцкіх. У выніку па рашэнню караля Жыгімонта І Старога ўсе дзеці былі перададзены пад апеку маці.

Пакуль дзеці падрасталі, маці разгарнула актыўную дзейнасць. Для навучання замежным і класічным мовам у Слуцк быў запрошаны гувернёрам для маладых князёў лютэранскі прапаведнік і педагог Эразм Глічнер. Верагодна, яго прыезд стаў магчымым дзякуючы цесным сувязям князя Юрыя Сямёнавіча Слуцкага з прускім герцагам Альбрэхтам Гогенцолернам.

Княгіня Слуцкая дабілася выдзялення ёй часткі бацькоўскай спадчыны. У 1544 г., пасля смерці Альжбеты Мікалаеўны Радзівіл, яе дзеці падзялілі мацярынскія ўладанні. На карысць Гелены княгіні Слуцкай[202] адышлі маёнткі і двары ў Ашмянскім і Мінскім паветах: Старое Сяло, Селішча, Найлава з пушчай Чорная Верацея[203], возера Нарач[204] і мядзельскія добры.

У канцы красавіка 1546 г. яна ў чарговы раз паспрабавала атрымаць частку свайго пасагу — тысячу злотых, запісанага ёй па тэстаменту бацькі, так і не аддадзенага ёй братамі Янам, старастам жмудскім, і Мікалаем[205]. Трэба заўважыць, што прадстаўнікі роду Радзівілаў наогул неахвотна развітваліся з грашыма. Нявесты з роду Радзівілаў, хаця і атрымлівалі вялікія пасагі, часта былі вымушаны чакаць іх выплаты па некалькі дзесяцігоддзяў[206]. Таму Гелена Слуцкая звярнулася да караля з просьбай выключыць гэтую суму з апекуноў маёмасці нябожчыка брата Яна Мікалаевіча Радзівіла[207].

Княгіня шмат займалася і дабрачыннай дзейнасцю, надаючы фундушы на карысць слуцкіх цэркваў і касцёла. У 1545 г., скарыстаўшы сваё становішча як апякункі, яна выдае ліст, па якім карчма і яткі (мясныя крамы) у Слуцку і ўсе прыбыткі ад іх перадаваліся каталіцкаму касцёлу. Пазней, у лютым 1570 г., Юрый пацвердзіць гэта наданне маці, каб забяспечыць фінансава адну з нешматлікіх каталіцкіх парафій у сваіх уладаннях[208].

Паступова да кіравання маёмасцю княгіня Слуцкая стала прыцягваць старэйшага сына. У судовых спрэчках пра парушэнні меж маёнткаў, напады на падданых ці канфлікты са святарамі з пачатку 1546 г. маці выступала ўжо разам з Юрыем, які паступова пачаў пераймаць вопыт гаспадарання і кіравання маёмасцю ад старых давераных слуг[209]. Як і раней, пры жыцці Юрыя Сямёнавіча, інтарэсы князёў

Слуцкіх у судах прадстаўлялі Марцін Валадковіч, Аўгусцін Тракініцкі, Ян Грабінскі.

У маі 1546 г. памірае Гелена з Радзівілаў[210]. Пасля смерці маці Юрый разам з малодшымі, братам Сямёнам і сястрой Соф'яй, патрапіў пад апеку караля[211]. Праз некалькі тыдняў пасля смерці маці праз паноў радных князь Юрый звяртаецца да караля з просьбай прызнаць яго паўналетнім, хаця па Статуту ён гэтага ўзросту яшчэ не дасягнуў. Паводле артыкулаў Статута ВКЛ 1529 г. хлопцы станавіліся паўналетнімі ў васямнаццацігадовым узросце[212]. Згодна з традыцыямі праваслаўных паўналецце ў хлопцаў наступала ў пятнаццацігадовым узросце. Менавіта на гэты факт спасылалася ў свой час Аляксандра Сямёнаўна княгіня астрожская ў справе прызнання яе сына паўналетнім і вываду яго зямель з-пад апекі[213]. Юрый прасіў караля перадаць яму ўсю бацькоўскую і матчыну маёмасць, замкі, двары і зямян, а таксама малодшых брата і сястру да дасягнення імі «лет зупольных», гэта значыць, калі брату споўніцца 18 гадоў, а сястры — 15[214]. У сваю чаргу малады князь Слуцкі абяцаў брата і сястру не крыўдзіць і даглядаць іх згодна з іх княжацкім статусам (выдзяляць прыстойнае ўтрыманне) да іх паўналецця. Кіраваць іх сумеснай маёмасцю Юрый быў павінен з дапамогай і радай слуцкіх баяр[215].

Уступіўшы ў свае спадчынныя правы, князь Юрый адразу паказаў сябе як упэўнены ў сваіх сілах і ўплыве гаспадар. Ён адразу пачаў выконваць земскую службу, паколькі ваенная пагроза на ўсходніх межах вымушала ВКЛ увесь час пільна сачыць за суседзямі і рыхтавацца да адпору. Пасля смерці бацькоў ён узнагародзіў некаторых верных бацькоўскіх слуг. Так, у кастрычніку 1546 г. ён паведаміў свайму петрыкоўскаму і колненскаму намесніку Льву Звяровічу, што даў са сваёй ласкі служэбніку Даніле Палчэнскаму людзей з двара кол-




**Гелена Радзівіл.**

**Гравюра з альбома «Icones familiae ducalis Radivilianae». 1758 г.**

ненскага з усімі данямі і павіннасцямі за даўнюю службу роду Алелькавічаў[216].

Паступова князь Слуцкі пачаў уцягвацца ў прыдворнае і палітычнае жыццё краіны. Пасля смерці Жыгімонта І, 1 красавіка 1548 г., яго сын вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст тэрмінова выехаў да Кракава, каб пахаваць бацьку. Пахаванне адбылося 1 мая, і палякі пачалі рыхтавацца да каранацыі Жыгімонта Аўгуста.

Жыгімонт Аўгуст, выязджаючы на сойм да Польшчы ў Петрыкаў, які быў павінен адбыцца ў кастрычніку 1548 г., загадаў арганізаваць урачыстае падарожжа да Польшчы Барбары з Радзівілаў. Асноўнай мэтай такога пышнага выезду было прызнанне законнасці каралеўскага шлюбу.











**Жыгімонт II Аўгуст.**
**Л. Кранах мал. Канец 1555 г.**

Другое яго жаданне — быць каранаваным толькі разам з жонкай — сустрэла супраціўленне польскіх паноў і каралевы Боны Сфорцы. Польскія сенатары, абураныя спробай узвесці на польскі трон жанчыну з непануючага еўрапейскага дому, да таго ж падданую, патрабавалі разводу. Маладому гаспадару пагражалі не каранаваць яго самога, калі ён не адмовіцца ад намеру ўзвесці на польскі трон няроўную да каралеўскай годнасці асобу. Справа зацягвалася, і толькі ў сярэдзіне лета 1548 г. было прынята рашэнне пра выезд Барбары да мужа.

У пачатку жніўня 1548 г. Барбара была павінна прыгатавацца на працягу двух тыдняў выехаць да Кракава. Суправаджаць яе мусілі брат, Мікалай Радзівіл Руды і шэраг вышэйшыхураднікаў, паны радныя. Кароль паведамляў, што дамовіўся з троцкім ваяводам князем Янушам Дубравіцкім-Гальшанскім, падскарбіем Іванам Гарнастаем, князем Юрыем Алелькавічам і іншымі, якіх кароль (і Радзівілы) лічыў адпаведнымі статусу суправаджаючых будучай польскай каралевы[217]. Жыгімонт Аўгуст звярнуўся да гэтых асоб з персанальнымі лістамі з просьбай скласці аршак вялікай княгіні і праводзіць яе з Літвы да мяжы[218]. Ад князёў Слуцкіх у аршаку Барбары паехаў Сямён, а Юрый застаўся ў Слуцку.

Пасля прызнання Жыгімонтам Аўгустам Юрыя II паўналетнім ён не толькі ўзяў пад свой кантроль усю родавую маёмасць, але адчуў сябе правадыром палітычнай партыі. Ён вымусіў лічыцца з сабой і каралеўскі двор, і ўраднікаў ВКЛ. У біржайскім архіве Радзівілаў яшчэ ў канцы XVII ст. захоўвалася шэсць фасцыкул (папак) перапіскі князёў Слуцкіх за 1550—1552 гг.[219]. Усё большая самастойнасць маладога князя Слуцкага, яго традыцыйная для роду арыентацыя на знешніх саюзнікаў — уплывовыя польскія рады — і Прусію, падтрымка ідэй цеснага саюзу з Польскім каралеўствам прывялі да нарастання напружанасці паміж князем Юрыем і хутка набіраючымі сілу братамі Радзівіламі, нягледзячы на іх блізкую роднасць (Алелькавічы былі дзецьмі іх стрыечнай сястры). Князь Юрый знаходзіўся ў апазіцыі да троцкага кашталяна Мікалая Юр'евіча Радзівіла Рудага і маршалка земскага (а з 1550 г. канцлера і віленскага ваяводы) Мікалая Янавіча Радзівіла Чорнага і іх унутранай і знешняй палітыкі. Асноўным пытаннем, па якім яны разыходзіліся, была неабходнасць заключэння дзяржаўна-палітычнай уніі з Польшчай[220]. Браты Радзівілы былі ўпартымі праціўнікамі палітычнага збліжэння дзвюх краін, бачачы ў гэтым пагрозу страты незалежнасці ВКЛ. Князь Юрый Алелькавіч, наадварот, прымыкаў да партыі крайчага літоўскага Яна Радзівіла, якая выступала за далейшае паглыбленне ўнійных стасункаў з Польшчай[221].

Восенню 1550 г. троцкі кашталян паспрабаваў перацягнуць князя Слуцкага на свой бок, нягледзячы на тое, што Мікалай Радзівіл Чорны не вельмі добра ставіўся да старэйшага з князёў Алелькавічаў і іншых палітычных праціўнікаў Радзівілаў. У лісце да стрыечнага брата ён так адгукаўся пра іх: «Мы ўбачым у канцы той іх лігі, да чаго та зграя такіх дрэнных людзей прыйдзе на канец»[222]. У выніку ў 1550 г. выбухнуў канфлікт паміж князем Юрыем Слуцкім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам, фактычна інспіраваны Мікалаем Радзівілам Чорным. Юрый Юр'евіч знайшоў для сваіх брата і сястры добрыя шлюбныя партыі, якія маглі значна ўмацаваць палітычныя пазіцыі князёў Слуцкіх. За малодшага брата ён сватаў дачку памерлага віленскага ваяводы Яна Глябовіча, а сястру хацеў аддаць за Мікалая Кішку. Зразумела, што гэта ніяк не адпавядала жаданням Мікалая Радзівіла Чорнага, які сам імкнуўся да першых роляў у дзяржаве. У верасні 1550 г. віленскі ваявода напісаў пра матрыманіяльныя планы старэйшага князя Слуцкага адносна Жыгімонта Аўгуста і напомніў таму пра права яго вярхоўнай апекі, калі ніхто з праваслаўных не мог без велікакняжацкага дазволу ўступаць у шлюб. Гэтая забарона, прадугледжаная яшчэ агульназемскім прывілеем Ягайлы 1387 г., у XVI ст. ужо не выкарыстоўвалася, але афіцыйна адменена не была. Кароль падабраныя партыі адобрыў, але вырашыў напісаць да князя Слуцкага, напамінаючы, што толькі кароль як вярхоўны апякун можа вырашаць далейшы лёс яго малодшых брата і сястры, і выказаў яму свой гнеў за тое, што Юрый сам не паведаміў яму пра свае планы і дасягнутыя дамоўленасці[223]. Нягледзячы на згоду караля на такія саюзы, перамовы не былі завершаны, хаця кандыдатура Мікалая Кішкі як магчымага жаніха Соф'і Слуцкай разглядалася кара-







**Мікалай Радзівіл Чорны.**

**Гравюра з альбома «Icones familiae ducalis Radivilianae». 1758 г.**

лём яшчэ ў ліпені 1552 г.[224]. Уступленне ў шлюб усіх прадстаўнікоў гэтага пакалення князёў Слуцкіх было адкладзена амаль на сем гадоў.

Даведаўшыся, што Юрый Юр'евіч адышоў ад круга прыяцеляў крайчага літоўскага і з'явілася рэальная магчымасць атрымаць ад яго падтрымку сваёй палітыкі, ацэнкі князя Слуцкага з боку братоў Радзівілаў крыху змяніліся. У лісце ад 2 мая 1551 г. Мікалай Радзівіл Чорны пісаў да брата: «Можаш яго ВМ да сабе схіліць, а мне здаецца, каб то ВМ чыніў пільна, хаця ж дурань, аднак князь вялікі, ёсць штосьці ў тым, каб пры ВМ быў»[225].

Да намоў Радзівілаў Жыгімонту Аўгусту дадаліся скаргі слуцкіх баяр і малодшых




брата і сястры. Князь Сямён у 1552 г. напісаў да караля, што брат трымае яго ў вялікім недахопе рэчаў і грошай так, што немагчыма вытрымаць, і прасіў караля пазбавіць яго ад апекі Юрыя. Сястра Соф'я ў сваім лісце таксама сцвярджала, што старэйшы брат трымае яе ў вялікай нястачы і яе выхаванне не адпавядае яе княжацкаму статусу[226]. Абвінавачанні былі звычайныя: спустошэнне маёмасці брата (збіранне падаткаў і павіннасцей на сваю карысць у вялікіх памерах), збор з падданых розных він (штрафаў) і серабшчызны (дзяржаўнага падатку на ўтрыманне войска), так што з тых маёнткаў стала немагчыма несці ваенную службу. Сямён прасіў прымусова падзяліць маёмасць і вывесці яго з-пад апекі старэйшага брата[227]. Невядома, ці сапраўды Юрый Юр'евіч нанёс такія шкоды маёмасці брата, ці той проста хацеў стаць самастойным гаспадаром, але практыка рабавання маёмасці, якая знаходзілася пад апекай, была вельмі распаўсюджана ў ВКЛ. Што цікава, большасць скаргаў на такія ўчынкі ішла на блізкіх родзічаў ці апекуноў. Яны не проста вывозілі прадукты ці забіралі грошы, а нават спальвалі вёскі і забіралі да сябе сялян. У стане такой вайны на працягу амаль 15 гадоў знаходзіліся князі Астрожскія: удава Іллі Беата з Кацельскіх з яго малодшым братам Канстанцінам (Васілём) і яго маці Аляксандрай з князёў Слуцкіх[228].

Скаргі князя Сямёна пацвердзілі старэйшыя слуцкія баяры, якія прыехалі з ім да каралеўскага двара, Іван Зубковіч, Ян Грабінскі і князь Свірскі. Першы быў спецыяльна прадстаўлены ад караля да князя Юрыя «па праву апеку да цябе ад нашай міласці прыданы», каб быў дарадчыкам маладога князя. Старыя давераныя слугі (князь Ждан Свірскі быў маршалкам двара яго бацькі Юрыя Сямёнавіча, князь Лукаш Свірскі — адной з давераных асоб маці[229], як і Ян Грабінскі[230]) скардзіліся, «што ў многіх месцах ты ўраднікамі паставіў чужых і маладых людзей, да спраў не прыдатных міма сваіх падданых зямян шляхты, якіх да спраў годных у княстве дастаткова, і праз тых сваіх ураднікаў віны несправядлівыя на падданых і зямян ускладаеш. А многім сваім ураднікам маёнткі параздаваў, не маючы моцы»[231]. Фактычна, яны скардзіліся не на злоўжыванні маладога гаспадара, а на тое, што ён адсунуў іх ад улады, не даваў ім урадаў і не браў на службу мясцовых шляхцічаў. Сапраўды, аналіз дакументаў паказвае, што двор Юрыя ІІ пераважна складаўся з ураджэнцаў Польшчы, і не заўсёды знатнага паходжання, ды і сам князь актыўна пераймаў польскую культуру.

Кароль адзначаў, што «малодшых брата і сястру з замкамі і ўсёй маёмасцю табе пад апеку далі, а ў чужыя рукі для знішчэння маёнткаў не пушчалі»[232]. Паны радныя, якія раней адмовіліся ад апекі над князямі Слуцкімі (І. Гарнастай, князь Вішнявецкі), пабачыўшы сваю карысць у канфлікце, перагледзелі сваё рашэнне і ўмяшаліся ў справу. Ад Юрыя патрабавалі, каб ён выдаў брату яго палову грошай з усіх мыт і данін мядовых, бабровых і іншых за апошні год, каб у далейшым усе падаткі збіраліся ўраднікамі Юрыя разам з ураднікамі Сямёна. Старэйшаму Алелькавічу загадалі забараніць сваім ураднікам збіраць подаці і чыніць суд над падданымі без ураднікаў брата, вывозіць збожжа з гумнаў братавых маёнткаў без яго дазволу, а таксама наказалі заараць і засеяць палову яго зямель[233]. У пачатку студзеня 1553 г. Жыгімонт Аўгуст пісаў да Сямёна Юр'евіча, што атрымаў усе іх скаргі і вельмі быў занепакоены становішчам князёўны Слуцкай, якая з-за недастатковага выдзялення ёй старэйшым братам утрымання была вымушана закладаць свае рэчы. Кароль загадваў правесці падзел спадчыны. Пасля падзелу мацярынскай маёмасці (бо бацькоўскія землі дзялілі-



ся толькі паміж сынамі, а дачцэ даваўся пасаг) Соф'і дазвалялася жыць асобна на сваёй трэцяй частцы зямель (што было вялікай рэдкасцю для ВКЛ, дзе жанчына заўсёды была пад апекай мужчыны). У такім выпадку браты мусілі даваць ёй грошы з яе часткі матчынай маёмасці на адпаведнае выхаванне, якое яна была павінна мець паводле свайго грамадскага статусу, на слуг і на служэбніц да таго часу, пакуль яна не будзе выдадзена замуж. Калі б яна захацела жыць разам з малодшым братам, а той пагадзіўся ўзяць сястру да сябе, то Сямён станавіўся адказным за яе прыстойнае ўтрыманне[234].

У маі 1553 г. браты падпісалі падзельныя лісты. Пад падзел паміж братамі і сястрой трапілі ў першую чаргу рухомыя рэчы: каштоўнасці (клейноты, упрыгожанні), сталовы посуд, каштоўнае верхняе адзенне, касцёльныя рэчы, мастацкія тканіны, якія захоўваліся ў скрынях у віленскім палацы Слуцкіх і ў самім Слуцку. Пасля смерці маці яе ўпрыгожанні і клейноты былі пакладзены ў скрыначкі, апячатаныя Мікалаем Радзівілам і Геранімам Хадкевічам[235], і пакінуты на захаванне. Землі заставаліся ў сумесным кіраванні да 1557 г. Пра гэта сведчаць судовыя справы 1555—1558 гг. з суседзямі (Б. Сестранцэвічам[236], І. Кмітам, М. Валадковічам[237]), якія скардзіліся на турэцкага ўрадніка абодвух князёў Слуцкіх Ждана Калантая. Большасць недарэчнасцей адбывалася якраз з-за недакладна вызначаных меж. Толькі ў 1559 г. да Юрыя Слуцкага былі накіраваны каралеўскія камісары, якія на месцы вызначылі межы маёнткаў Турэц, Селішча, Востраў і прыпынілі злоўжыванні турэцкага намесніка князя Юрыя Фёдара Яльца[238].

У 1555 г. з прэтэнзіямі да князёў Слуцкіх выступілі князі Свірскія, якія патрабавалі вярнуць ім частку маёнтка Візна, Вусава і Прусы як выслужаныя іх продкамі ў князёў Алелькавічаў[239].


Vielmozna Pani Pani Siostro
Mnie mila i laskawa
...
8 ianuary Ano 1556
W. M. powolni brath
Iurgi Slucki

**Ліст Юрыя Слуцкага да Ганны з Радзівілаў Кішкі.**

**1556 г. AGAD. AR. Dz. V. Sign. 14634**

Аднак на гэтым канфлікты паміж братамі не скончыліся. Самі князі свае супярэчнасці ўжо не выносілі на велікакняжацкі суд, але напружанасць адбівалася на іх служэбніках. Справа нават дайшла да таго, што слугі князя Юрыя Аляксандр Прарокавіч і Балцер Раецкі ў лютым 1557 г. абстралялі Сямёна са слугамі, калі яны ехалі каля слуцкага замка, і прыказвалі іншым слугам страляць з гакаўніц, рушніц і гармат[240]. У адказ Сямён напаў на маёнтак брата паблізу Слуцка і парабаваў яго. У той жа час Сямён саступіў брату навечна сваю частку палаца ў Вільні, які стаяў на Нямецкай вуліцы[241].

1557—1559 гг. сталі для ўсіх Алелькавічаў вырашальнымі для стварэння сям'і. Для сястры Соф'і нарэшце знайшлі жані-




ха. Ім мусіў стаць удавец літоўскі крайчы Юрый Аляксандравіч Хадкевіч. Першапачаткова вялікі князь літоўскі забараніў пад зарукай у 50 тысяч коп грошаў выдаваць Соф'ю за Хадкевіча. Аднак пасля таго, як да яго звярнуўся Сямён Юр'евіч і прадставіў ліст, падпісаны Соф'яй, дзе яна пацвярджала, што жадае выйсці замуж па сваёй волі і згаджаецца з воляй брата, гаспадар даў свой дазвол. У сакавіку 1557 г. Жыгімонт Аўгуст накіраваў да князя Юрыя Слуцкага ліст, у якім паведамляў, што ён дае згоду на гэты шлюб і загадвае выдаць Соф'ю замуж на працягу чатырох тыдняў пасля прыезду вялікага князя з Варшавы ў Вільню. Каб не было зацягвання справы, братам князёўны слуцкай было дазволена не прывозіць сястру да каралеўскага двара, а гатаваць усё да вяселля[242]. Браты тэрмінова правялі канчатковы падзел бацькоўскай і мацярынскай маёмасці. Што цікава, сведкамі справядлівасці падзелу зямель паміж братамі выступілі браты Радзівілы. З боку Юрыя сведкам разам з кракаўскім ваяводам Станіславам Тэнчынскім быў Мікалай Радзівіл Руды, а з боку Сямёна — Мікалай Радзівіл Чорны[243].

Галоўны маёнтак Слуцк браты падзялілі на дзве часткі. Сямён дазволіў старэйшаму брату выбраць тую палову бацькоўскай маёмасці, якая яму больш падабаецца. Юрыю адышоў верхні замак (г. зв. дзядзінец) з усімі пабудовамі, Сямёну — ніжні, акольны. Горад разам з мяшчанскімі, замкавымі пляцамі, агародамі, садамі і сенажацямі, акрамя пушчаў і грунтаў, прылеглых фальваркаў, таксама быў падзелены. Згодна з умовай падзел горада адбываўся па вуліцах ці канцах, каб падданыя аднаго з братоў жылі побач. Замак Петрыкоў (адноўлены бацькам пасля спалення маскоўскімі войскамі зімой 1535 г.) з дваром Колна, Вака, Цімкавічы, Пагост, Івань, Лішкаў, Амговічы, Мацеевічы, Хрэнаў, Новы Двор, Востраў, Ярэмічы, Турэц таксама адышлі да старэйшага брата[244]. Сямёну даталіся Капыль, Вяйсее, Тонва, Старое Сяло, Быстрыца, Баслаўцы, Старыца, Стары Капыль, Грозаў, Кандратовічы. Акрамя маёнткаў і двароў паміж братамі былі падзелены капыльскія і слуцкія баяры з іх уладаннямі, слугі путныя і панцырныя[245]. Падзельны ліст рэгуляваў і спрэчныя пытанні, якія ўзніклі за час сумеснага кіравання маёмасцю. Так, Сямён узнагародзіў свайго служэбніка з зямель, якія па падзелу адышлі да Юрыя. У лісце абгаворваліся формы і памеры кампенсацыі за гэта. Судовыя спрэчкі з суседзямі і трымальнікамі асобных кавалкаў у атрыманых маёнтках згодна з угодай браты павінны былі ўрэгуляваць самастойна, тады як шкоды, нанесеныя іх падданымі да моманту падзелу, падзяляліся паміж уласнікамі пароўну. Усе гарматы і стрэльбы слуцкага замка дзяліліся пароўну для сумеснай абароны Слуцка па рэестры ляхавіцкага дзяржаўцы Грыгорыя Валадкевіча, пасланага каралём для іх падзелу. Такім жа чынам падзяляліся і стрэльбы з петрыкоўскага замка. Гаспадары, якія мелі дамы ў Слуцку, былі павінны і далей несці «старожу ад татар і масквы на замках украінных» на грунтах сваіх паноў. Капыльскія ловы і пушчы з баярамі, якія іх трымалі, адыходзілі да князя Сямёна. Юрыю было забаронена ў іх ступаць і займаць. Млыны і ставы пры Слуцку браты былі павінны ці падзяліць пароўну, ці трымаць разам. Рамонт замкаў, мастоў кожны брат быў павінен ажыццяўляць самастойна сіламі сваіх людзей. Рамонт тых мастоў і павіннасці, якія былі ўскладзены на саміх мяшчан, а таксама царкоўныя юрыдыкі слуцкія мяшчане па-ранейшаму выконвалі разам. Адзіным адрозненнем было тое, што на карысць верхняга слуцкага замка выконвалі павіннасці акрамя слуцкіх яшчэ і мяшчане Петрыкова (пераважна рамеснікі). Лес

на рамонт агульных мастоў, каб «гасцям і людзям пераезжым» шкоды не рабілася, мог брацца абодвума братамі ў Слуцкай пушчы. Кафедральны касцёл і саборныя цэрквы заставаліся ў сумесным падаванні Юрыя і Сямёна Алелькавічаў[246]. Цэрквы і манастыры на іх прыватных грунтах цалкам знаходзіліся пад іх апекай, і ні адзін з братоў не меў права прызначаць святароў не ў сваёй частцы ўладанняў ці ўмешвацца ў іх справы. Рэгулявалася выкананне і дзяржаўных павіннасцей. Капыльскія, цімкавіцкія людзі мусілі па старому звычаю трымаць гаспадарскіх паслоў і ганцоў і даваць па чатыры падводы на іх патрэбы.

Падзел паміж князямі Слуцкімі бацькоўскіх зямель быў зацверджаны каралём у снежні 1557 г.[247] і ўнесены ў кнігі Метрыкі і наўгародскага гродскага суда ў пачатку 1558 г. Былі падзелены і мацярынскія маёнткі. Да Юрыя адышоў двор Ваўкалата з правам падавання ў рымскім касцёле і цэрквах рускіх, за выключэннем з маёнтка сёл Старое, Вяшняны, Праход і Даўгінава. Права карыстання Ваўкалацкай пушчай было падзелена з князем Сямёнам. Сямён атрымаў двор Маньковічы з правам падаванняў царкве рускай і капліцы ў Мядзелі і сёлы, што былі выключаны з ваўкалацкага маёнтка: Старое, Вяшняны і Праход. Соф'і адышлі ваўкалацкі палац Сітцы і двор Даўгінаў з местам і правам падавання ў касцёле рымскім і царквах рускіх, з усім належным да яго[248].

6 мая 1557 г. быў складзены рэестр пасагу (выправы) Соф'і Алелькавіч. У пасаг сястры ўвайшлі рэчы, атрыманыя ад маці: упрыгожанні на 88 коп грошаў, посуд, каштоўнае аддзенне на 307 коп грошаў, мастацкія тканіны (шпалеры), дываны, касцёльныя рэчы, пасцельная бялізна і нават адзенне для яе прыдворных паненак. Наяўных грошай браты выдзялілі ёй згодна з тэстаментам бацькі са спадчыны маці



**Пячатка Юрыя Слуцкага.**
**1578 г. AGAD. AR. Dz. XXIII. T. 116. Pl. 1**





толькі 300 коп. Агульная сума пасагу, у тым ліку і землі (двор Даўгінаў у Ашмянскім павеце), адпавядала статусу паненкі такога высокага паходжання[249]. Дакладнай даты вяселля вызначыць нам не ўдалося, бо запіс вена на карысць жонкі Юрый Хадкевіч паклаў у судовыя кнігі толькі ў 1558 г., пасля таго, як браты цалкам аддалі сястры яе пасаг[250]. Зыходзячы з ліста Жыгімонта Аўгуста, можна меркаваць, што вяселле адбылося летам—восенню 1557 г., бо ўжо 20 студзеня 1558 г. пры зацвярджэнні каралём падзелу мацярынскіх зямель яна выступала разам з мужам[251]. У гэтым шлюбе Соф'я нарадзіла двух сыноў — Юрыя, Гераніма і дачку Лізавету. Прычым першынец (ці старэйшы з сыноў, што дажылі да сталага ўзросту) Юрый нарадзіўся не раней 1566 г. Па лісту ад 20 чэрвеня 1583 г. сямнаццацігадовы Юрый Хадкевіч прызнаваўся паўналетнім і атрымліваў пад сваю апеку малодшага брата Гераніма і сястру[252]. Аўдавелая ў 1569 г. Соф'я пражыла не вельмі доўгае жыццё і памерла вясной у сваім маёнтку Манковічы Ашмянскага павета[253]. Юрый Слуцкі паслаў туды сваіх служэбнікаў, і яны разам са слугамі сястры склалі вопіс каштоўнасцей, якія засталіся ў тым двары пасля яе смерці, і апячаталі іх для перадачы дзецям





**Кацярына з Тэнчынскіх княгіня Слуцкая.**
**Малюнак. Невядомы мастак. XVII ст.**

пасля дасягнення імі паўналецця. Ужо 15 мая 1571 г. яе маёмасць (двор Роскі ў Ваўкавыскім павеце, вольненская маёмасць) пачала апісвацца для перадачы нашчадкам[254].

У маі 1558 г., пасля велікодных свят, Юрый ажаніўся з Кацярынай (1544—1592), дачкой кракаўскага ваяводы графа Станіслава Тэнчынскага. У свой час той у 1538 г. заключыў шлюб з адной з найбагацейшых спадчынніц ВКЛ Ганнай Багушоўнай, дачкой Богуша Багавіцінавіча[255]. Іх шлюб вызваў вялізны скандал паміж панамі раднымі ВКЛ і Польшчы з-за спрэчак, каму былі павінны належаць землі нявесты[256].

Род графаў Тэнчынскіх адносіўся да ліку самых уплывовых і багатых фамілій польскага каралеўства. Яго прадстаўнікі заўсёды займалі адны з найважнейшых пасад у Малой Польшчы. У XVI ст. многія з іх атрымалі заходнееўрапейскую адукацыю, падарожнічалі па краінах Еўропы, выконваючы дыпламатычныя місіі ў Турцыі, Іспаніі, Францыі, пры імператарскім двары. Замак і двор у Тэнчыне быў вядомы як адзін з цэнтраў рэнесанснай культуры, дзе бывалі такія вядомыя паэты і пісьменнікі, як Мікалай Рэй, Ян і Пётр Каханоўскія. Дзяўчына, якой на той момант было не больш за 15 гадоў, атрымала добрую адукацыю, пра што сведчаць яе лісты, і вызначалася розумам і сціпласцю. Кацярына, хаця і з'яўлялася каталічкай, добра ведала праваслаўнае богаслужэнне, бо яе маці засталася ў праваслаўі. Амаль да канца свайго жыцця яна не проста наведвала праваслаўныя богаслужэнні і прымала прычасце па праваслаўнаму абраду, але была актыўнай апякункай праваслаўных цэркваў ва ўладаннях мужа. Шлюб акрамя вялікага пасагу даў князям Слуцкім палітычную падтрымку аднаго з найбольш уплывовых польскіх родаў. Пасаг у 20 тысяч польскіх злотых[257], атрыманы за Кацярынай, складаўся з срэбра, перлаў, клейнотаў на 13 тысяч злотых і 10 тысяч коп наяўнымі грашыма. Да таго ж ёй адышлі на Падляшшы маёнтак Семяцічы (мястэчка і 7 вёсак) і Орля. Узамен такога вялікага пасагу 25 мая 1558 г. Юрый Слуцкі запісаў сваёй маладой жонцы вена на трэці ўсіх сваіх добр на 50 тысяч злотых[258]. Гэты запіс быў пацверджаны каралём праз некалькі дзён пасля яго выдання. У адказ Кацярына падпісала ліст, якім пацвярджала атрыманне ад бацькі ўсяго пасагу і адмаўлялася ад усіх прэтэнзій на бацькоўскія і мацярынскія маёнткі[259]. Яны павінны былі пасля смерці бацькі перайсці яе старэйшаму брату Яну Хрысціцелю.

Не так ўдала скончыліся пошукі нявесты для малодшага брата. У 1556 г. Сямён пачаў перамовы з княгіняй Беатай Астрожскай аб руцэ яе дачкі Лізаветы (Гальшкі), адзінай спадчынніцы паловы ўсіх уладанняў князёў Астрожскіх. За аб-





**Радавод графаў Тэнчынскіх.**

**Гравюра з твора Б. Папроцкага «Гняздо цноты». 1579 г.**

ставінамі яе шлюбаў на працягу амаль дзесяцігоддзя назірала ўся краіна. Адзіная дачка старэйшага сына вялікага гетмана ВКЛ Канстанціна Астрожскага Іллі, якая нарадзілася праз тры месяцы пасля яго смерці ў лістападзе 1539 г.[260], з самага свайго нараджэння стала аб'ектам залётаў. Яе маці, Беата з Касцялецкіх, была выхавана пры двары Боны Сфорцы і карысталася падтрымкай каралевы ва ўсіх сваіх дзеяннях. Каб захаваць кантроль над землямі Астрожскіх, Беата папрасіла аднаасобнай






**Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі.**
**Копія М. Сварычэўскага. 1883 г.**

апекі Жыгімонта І над сваёй асірацелай дачкой і яе ўладаннямі, хаця па тэстаменту Іллі апекунамі былі Фёдар Сангушка, Канстанцін Астрожскі і кароль з каралевай. Княгіня Аляксандра Сямёнаўна з князёў Алелькавічаў і Астрожскі патрабавалі апекі над малой князёўнай для сябе згодна з правам і звычаем. Іх намаганні падтрымаў і Юрый ІІ Слуцкі, які ў 50-х гг. XVI ст. неаднойчы бараніў інтарэсы свайго стрыечнага брата ў судовых разбіральніцтвах з Беатай. Заступніцтва каралевы Боны дапамагло Беаце дабіцца карыснага для сябе рашэння.

Беата не жадала ні з кім дзяліць вялізныя маёнткі Астрожскіх. Яна сама адмовіла ўсім прэтэндэнтам на сваю руку і для дачкі шукала такога мужа, які пагодзіцца пакінуць землі Астрожскіх пад кіраваннем цешчы. Да пошукаў нарачонага для Гальшкі Астрожскай прычыніліся ўсе больш-менш уплывовыя сілы ў краіне. Дзяўчыне не было яшчэ і дзесяці гадоў, калі да яе маці сталі прыязджаць сваты ад паноў з ВКЛ, Польшчы і з-за іх меж. Княгіня ўсім адмаўляла, спасылаючыся на вярхоўную апеку над князёўнай караля. Сапраўды, Жыгімонт Аўгуст выдаў ліст, па якім пад пагрозай выплаты вялікай заруկі забараняў Беаце без яго дазволу выдаваць дачку замуж[261]. Першым рэальным кандыдатам стаў жытомірскі, канеўскі і чаркаскі староста князь Дзміцер Сангушка. Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі падтрымаў кандыдатуру гэтага здольнага ваяводы. Да таго ж Дзміцер быў сынам лепшага сябра Іллі Астрожскага. Беата пагадзілася выдаць за яго дачку і нават дала адпаведны ліст, хаця той быў ужо заручаны з князёўнай Марынай Палубенскай. Упэўнены ў згодзе княгіні Астрожскай Сангушка вярнуўся дамоў. Тут у справу ўмяшаўся Жыгімонт Аўгуст, які чарговы раз папярэдзіў Беату, каб тая не выдавала дачку замуж без каралеўскага дазволу. Тая і сама перадумала выдаваць дачку за чалавека з цвёрдым характарам. Астрожскі паведаміў Дзміцеру, што княгіня Беата не жадае выконваць свае абяцанні. У адказ Сангушка ў верасні 1553 г., сабраўшы ўзброены атрад, разам з князем Астрожскім здолеў пасля бойкі пад сценамі прарвацца ў Астрог. Супраць волі маці і самой князёўны яна была павянчана па загаду дзядзькі са Дзміцерам Сангушкам. Пасля доўгіх судовых разбіральніцтваў і прыдворных інтрыг у пачатку 1554 г. Дзміцер Сангушка быў асуджаны на смяротнае пакаранне за напад, гвалт і выкраданне дзяўчыны[262]. Беата Астрожская дабілася выдання ўніверсалаў, якія загадвалі тэрмінова злавіць князя Сангушку, а дачку вярнуць ёй. Асабліва актыўна за пакаранне смерцю выступаў калішскі ваявода Марцін Збароўскі, які хацеў ажаніць свайго сына з Гальшкай.

Даведаўшыся пра прысуд, Дзміцер Сангушка, пераапрануўшы Гальшку ў слугу, на адным возе праз Сілезію збег у Чэхію. Там ён спадзяваўся схавацца ў адным з замкаў кароннага гетмана Яна Тарноўскага, цесця Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага. У пагоню за імі кінуліся бацька і сын Збароўскія, родныя Беаты Касцялецкія і Андрэй з Лукашам Гуркам. Дагнаўшы іх недалёка ад мястэчка Німбург у Чэхіі, Збароўскія абвінавацілі Сангушку ў дзяржаўнай здрадзе, забойстве нявінных людзей, выкраданні панны і пры дапамозе мясцовага войта захапілі яго, збіўшы і закаваўшы ў ланцугі. Гальшка са служанкай пацвердзілі ўсе словы князя Сангушкі, што ён яе не гвалціў, а абвянчаўся згодна з воляй дзядзькі. Нягледзячы на гэта, дапамогі ім аказана не было. Без суда, не дазволіўшы лекару нават перавязаць раны палоннаму, Збароўскія скіраваліся ў адваротны шлях.




**Беата Астрожская.**

**Невядомы мастак. XVII ст.**

Праз два дні, 3 лютага 1554 г., у Ямаміры прыйшоў загад ад караля Фердынанда Габсбурга палякаў не выпускаць і чакаць яго суда. Уначы князь Сангушка раптоўна памёр у стайні, якая ахоўвалася татарамі Збароўскіх. Апошнія нават не дазволілі пакласці цела князя ў труну, а кінулі яго ў гной. Толькі праз чатыры дні, калі ў мястэчка прыехалі Касцялецкія і Гуркі, цела Дзміцера Сангушкі было пахавана ў мясцовым касцёле Святога Мікалая[263]. Такое падарожжа і смерць мужа на яе вачах не маглі не паўплываць на Гальшку, якая з гэтага моманту стала давяраць толькі маці і цалкам стала ёй паслухмяна. Беата, якая пасля гэтых падзей вырашыла заставацца ў сваіх маёнтках толькі пад ахова слуг, пераехала разам з дачкой да двара Боны ў Варшаве.

З канца 1554 г. сталі з'яўляцца новыя планы выдання Гальшкі замуж. На той момант каронны гетман Ян Тарноўскі з каралевай Бонай падтрымлівалі кандыдатуру Марціна Збароўскага, аднаго з забойцаў першага мужа Гальшкі. Жыгімонт Аўгуст у процівагу ім высунуў кандыдатуру Лукаша Гуркі, брэст-куяўскага ваяводы, яшчэ аднаго ўдзельніка пагоні. Беата адмаўляла як магла, спасылаючыся на права, якое абмяжоўвала магчымасці выдання падданай ВКЛ за паляка. Гэтаму спрыяла розніца ў заканадаўстве паміж ВКЛ і Каронай Польскай. Дзяўчыну з вялікай зямельнай маёмасцю згодна са Статутам 1529 г. было забаронена выдаваць замуж за межы ВКЛ. У выпадку заключэння такога саюзу кроўныя маглі выкупіць яе землі па заніжанаму кошту і даць ёй у пасаг не землі, а грошы. Кароль прапаноўваў адмяніць гэты артыкул у дачыненні да Гальшкі, аднак Беата не пагаджалася. У 1555 г. Жыгімонт Аўгуст загадаў абвянчаць Гальшку з Лукашам Гуркам. Нягледзячы на нежаданне маці прысутнічаць на цырымоніі (Беата нават схавалася ў лазні, каб яе гвалтоўна не прымусілі прысутнічаць на ёй), шлюб адбыўся. З









**Бона Сфорца.**

**Л. Кранах мал. Канец 1555 г.**

рукі княгіні знялі пярсцёнак і перадалі Гальшцы як знак мацярынскай згоды, бо яна згаджалася абвянчацца толькі па волі маці[264]. Беата, згоды якой на шлюб атрымана не было, забрала Гальшку адразу пасля вянчання і адмовілася выдаваць дачку Лукашу. Яна паспрабавала абвясціць яе шлюб несапраўдным. Умоўна падставы на гэты былі, бо сам Жыгімонт Аўгуст у 1551 г. на Віленскім сойме выдаў права, па якім дзевак, што не маюць бацькі, нельга выдаваць замуж без дазволу блізкіх kроўных[265].

Паколькі жадаючых атрымаць руку багатай панны хапала, у Беаты Астрожскай знайшлося нямала памочнікаў, кожны з якіх прапаноўваў свайго кандыдата. Пасля ад'езду каралевы Боны ў Італію ў студзені 1556 г. Беата засталася без апякункі пры каралеўскім двары. Кароль патрабаваў, каб князёўну Астрожскую прыслалі ў Вільню да двара яго сясцёр, каб абмежаваць уплыў на яе маці і не даць Беаце таемна выдаць Гальшку замуж яшчэ раз.

Дзіўна, але Беата з усіх кандыдатаў на руку дачкі выбрала пляменніка сваёй даўняй праціўніцы Аляксандры Астрожскай князя Сямёна Слуцкага. Пра перапіску Беаты ў справе магчымага шлюбу Гальшкі з Сямёнам Слуцкім стала вядома каралю. У кастрычніку 1556 г. ён паведамляў Мікалаю Радзівілу Чорнаму, што перамовы (соймаванне) у гэтай справе ні Беаце, ні князю Слуцкаму не дапамогуць[266]. Радзівіл, які не жадаў бачыць мужам багацейшай панны-ліцвінкі паляка, таемна супрацьдзейнічаў патрабаванням караля. Не ўдалося Жыгімонту Аўгусту атрымаць згоду на шлюб з Лукашам Гуркам і ад князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага. Для Астрожскага і Радзівіла кандыдатура князя Слуцкага ў дадзеным выпадку была найлепшай, бо ён даводзіўся ім блізкім родзічам. Са свайго боку за князя Сямёна выступіў і ваявода кракаўскі Станіслаў Тэнчынскі, прыяцель Беаты, які дамовіўся выдаць сваю дачку за старэйшага з князёў Слуцкіх.

Невядома, што канкрэтна з намераў караля напалохала Беату, але яна вырашыла збегчы. У 1557 г. разам з дачкой яна таемна ад'ехала да Львова і схавалася ў дамініканскім манастыры, у каменным будынку манастырскай аптэкі. Яе суправаджала некаторая колькасць слуг, ахоўнікаў і сакратар Яцко[267]. Адтуль яна і працягнула перамовы пра шлюб Гальшкі з князем Слуцкім. Было вырашана, што Сямён Юр'евіч прыедзе ва Львоў і возьме там шлюб з Гальшкай. У той жа час кароль прызнаваў толькі шлюб 1555 г., узяты ў яго прысутнасці, з Лукашам Гуркам, і загадаў львоўскаму старасце Пятру Барземе ў сакавіку 1559 г. здабіцца выдачы Гальшкі. Мікалай Радзівіл Чорны зрабіў усё магчымае, каб перашкодзіць






**Львоў.**

**Гравюра з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1617 г.**

планам караля. Гурка, атрымаўшы ад караля мандат, разам з узброенымі родзічамі і слугамі выехаў ва Львоў, каб вярнуць сабе жонку. Віленскі ваявода папярэдзіў Беату пра магчымасць гвалтоўнага адабрання ў яе дачкі і раіў паспяшыць выдаць яе замуж за князя Слуцкага. У сваю чаргу ён напісаў і да Сямёна Алелькавіча з парадай таемна і хутка паехаць ва Львоў[268]. Львоўскі стараста, згодна з каралеўскім загадам бараніць горад і замак ад магчымых боек, аддаў загад без яго дазволу праз мейскія брамы нікога ў горад не пушчаць. Князь Сямён Слуцкі здолеў прабрацца ва Львоў, пераапрануўшыся жабраком, і быў прыняты ў кляштары Беатай. Там ён узяў патаемны шлюб з Гальшкай па каталіцкаму абраду 11 сакавіка 1559 г.[269]. Беата спадзявалася, што несапраўднасць любога з двух шлюбаў Гальшкі можа вызначыць толькі Папа Рымскі.

Аднак у канцы сакавіка кляштар быў узяты ў аблогу, абстраляны з марціраў. Пакінутая без вады абіцель была вымушана капітуляваць. Гальшку перадалі пад апеку львоўскаму старасце, як незацікаўленай асобе, пакуль маці вырашала з каралём пытанне пра сапраўднасць шлюбу дачкі з князем Слуцкім. Пазней Гальшку прымусова перадалі Гурку, які адвёз яе да свайго замку Шаматулы. Сам князь Слуцкі таксама пратэставаў да караля, сцвярджаючы, што Гальшка — яго жонка перад Богам, а не Гуркі, але беспаспяхова[270]. Кароль быў вельмі незадаволены ўчынкам князя Сямёна і не раз ўспамінаў яго знакамітага дзеда (князя Міхаіла Аляксандравіча Слуцкага. — *Аўт.*)[271].

У красавіку 1559 г. Сямён Алелькавіч разам з Беатай выехалі са Львова ў Кракаў для падпісання маёмасных дакументаў, каб добры Астрожскіх ніколі не патрапілі ў рукі Лукаша Гуркі. Яны спадзяваліся, што гэта прымусіць адмовіцца яго ад яе рукі. У чэрвені—ліпені 1559 г. Беата перапісала ўсю сваю маёмасць на князя Сямёна Слуц-







кага з умовай дажывотнага кіравання імі. Князь Слуцкі ў адказ пацвердзіў дадзеныя ўмовы і згадзіўся заплаціць даўгі Іллі і яго бацькі на суму ў 20 тысяч коп грошаў. Беата перадавала зяцю не толькі свае веноўныя маёнткі і падараваныя ёй Іллёй Роўна, палову Сцепані, Хлапоцін, Сацієў і Жарноўну, Янушполе з прылеглымі землямі. Алелькавічу маглі перайсці ўся рухомая маёмасць, 33 084 злотых, атрыманых Беатай на 1/3 зямель мужа (Астрог, Копіш і Гальшаны), а таксама маёнткі, якія перайшлі ёй па спадчыне ад родзічаў. Узаемныя запісы княгіні Астрожскай і князя Слуцкага былі падцверджаны каралём летам 1559 г.[272].

Кароль аддаў загад гнезненскаму арцыбіскупу Пшэрэнбскаму і познаньскаму біскупу Чарнкоўскаму (які вянчаў Гурку з Гальшкай) рассудзіць справу, які са шлюбаў з'яўляецца сапраўдным. Беата ва ўсіх сваіх лістах называла дачку толькі княгіняй Слуцкай[273]. Чакаючы вырашэння сваёй



**Аўтограф і пячатка князя Сямёна Юр'евіча Слуцкага.**

**1558 г. AGAD. AR. Dz. X. A/n. Papiery Olelkowiczów**

справы, князь Сямён Слуцкі знайшоў прытулак у Красніку — замку Станіслава Тэнчынскага каля Любліна. Пазней у пошуках саюзнікаў у сваёй справе ў лістападзе 1559 г. Сямён выехаў да кароннага гетмана ў Тарноў. Незразумела, як доўга цягнуліся б судовыя спрэчкі, але смерць князя Сямёна ў жніўні ці верасні 1560 г. зняла праблему. Гальшка засталася з Лукашам Гуркам.

Пасля смерці Сямёна Юрый і Соф'я падзялілі спадчыну, якая засталася ім. Юрый атрымаў усе бацькоўскія землі, стаўшы аднаасобным уласнікам Капыльскага і Слуцкага княстваў. У чэрвені 1561 г. Соф'я Юр'еўна са сваім мужам Юрыем Аляксандравічам Хадкевічам пазвала брата ў суд для падзелу мацярынскіх зямель, якія былі ва ўласнасці малодшага брата. Паколькі ён памёр, не пакінуўшы нашчадкаў, яна жадала падзяліць мядзельскія добры і Старое Сяло, а таксама клейноты маці і даходы ад яе зямель пароўну з Юрыем. Згодна з падзелам Соф'і адышлі маёнткі Мацковічы, Гародзічы, Праходы, Вясняны, Бохіры. Соф'я разам з мужам пацвердзілі іх атрыманне ад брата і запісалі, што калі яны ад гэтага запісу адступяцца (патрабуюць большае), то будуць павінны заплаціць па 2 тысячы коп грошаў зарукі князю Юрыю і каралю[274].

Юрый Юр'евіч быў адным з буйнейшых землеўласнікаў у ВКЛ, у добрах якога жыло каля 40 тысяч падданых. Ён прымаў

актыўны ўдзел ва ўсіх ваенных кампаніях, якія вяло ВКЛ, а потым і Рэч Паспалітая ў 50—70-х гг. XVI ст. у межах Лівонскай (Інфлянцкай) вайны з Маскоўскай дзяржавай (1558—1582). Канфлікт узнік з-за зямель былога Лівонскага ордэна. Праз Прыбалтыку, у прыватнасці праз Рыгу, праходзілі важнейшыя гандлёвыя шляхі, якія злучалі Заходнюю Еўропу з Усходняй. Ва ўмовах адсутнасці ўласнай сыравіннай базы для вырабу зброі і здабычы каштоўных металаў, тэхнічных спецыялістаў і адмовы ВКЛ і Лівонскага ордэна прапускаць іх у Маскоўскую дзяржаву праз сваю тэрыторыю выхад для Маскоўскай дзяржавы да Балтыйскага мора станавіўся жыццёва важнай задачай. Гэта было неабходна і для змяншэння міжнароднай ізаляцыі Масквы, бо ўсе дыпламатычныя кантакты маглі ажыццяўляцца толькі пры ўмовах пропуску маскоўскіх пасольстваў праз землі ВКЛ ці Прыбалтыкі[275]. Атрыманне выхада да Балтыкі не менш важным было і для ВКЛ з Польшчай. Буйнейшы да іх тэрыторыі порт Гданьск быў вольным горадам і не падначальваўся польскаму каралю.

У 1557 г., пасля забойства каралеўскага пасла Ляцкага, Жыгімонт Аўгуст прыняў рашэнне ўмяшацца ва ўнутраныя справы Інфлянцкіх зямель і загадаў рыхтавацца да ваеннай экспедыцыі. Хутка быў праведзены попіс літоўскіх войскаў, якія павінны былі накіравацца ў бок інфлянцкай мяжы[276]. Армія ВКЛ разам з атрадамі герцага Альбрэхта прускага налічвала каля 70 тысяч чалавек. Князі Слуцкія для ўдзелу ў пазвольскай выправе восенню 1557 г. выставілі 1200 вершнікаў, тады як почты астатніх літоўскіх паноў складалі разам каля 5 тысяч чалавек[277].

Па звестках М. Стрыйкоўскага, удзел князёў Слуцкіх быў яшчэ больш прадстаўнічы. Браты Юрый і Сямён Слуцкія сваім коштам прывялі чатыры тысячы добра ўзброеных вершнікаў і пешых воінаў[278]. Гэтыя дадзеныя пацвярджае ў сваіх нататках і Б. Папроцкі, які так напісаў пра братоў Алелькавічаў у вершы, прысвечаным выправе 1557 г.:

Калі меў Жыгімонт Аўгуст патрэбу такую,
На якую сам мусіў рушыць са сваёй галавою,
Абы ганарлівым Інфлянтам такі кус
заплаціў,
Калі Лацкі нявінны пасол жыццё страціў,
Як тыя двое княжат са сваім почтам вялікім
Гатоўнасць паказалі а дастаткам уселякім,
Чатыры тысячы ездных і пешых мелі,
Той люд сваім уласным коштам доўгі
час трымалі[279].









**Магнацкі почт.**

**Х. Адэльхаўзер, М. Цунт. 1568 г. Фрагмент гравюры «Гродна» з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1575 г.**





У выніку быў падпісаны саюз супраць Масквы, а магістр І. Фюрстэнберг абавязаўся спрыяць далучэнню Інфлянцкіх зямель ВКЛ і падпісаў таемнае пагадненне аб ваеннай узаемадапамозе. У адказ у студзені 1558 г. маскоўскія войскі рушылі ў глыб інфлянцкай тэрыторыі. Ад спроб уладзіць гандлёвыя канфлікты дыпламатычным шляхам Маскоўская дзяржава перайшла да ваенных дзеянняў. Пачалася Інфлянцкая вайна, якая карэнным чынам змяніла не толькі знешнюю палітыку ВКЛ, але і яго ўнутрыпалітычную арганізацыю, прывяла да заключэння новай Люблінскай уніі з Польшчай.

У маі 1558 г. маскоўскія войскі захапілі Нарву і Дзерпт, перарэзаўшы адзін з важных марскіх шляхоў. У 1559 г. у сваім лісце да паноў-рады Жыгімонт Аўгуст пісаў, што вырашыў узяць пад сваю руку вялікага магістра інфлянцкага і таму загадвае збіраць войска і рушыць да межаў. Асноўнай небяспекай на той момант з'яўляліся саюзныя Маскоўскай дзяржаве татары. Таму князям Слуцкім быў аддадзены загад рушыць са сваім почтам да Петрыковіч[280], дзе знаходзілася пераправа праз Прыпяць[281].

Пераход Лівонскіх (Інфлянцкіх) зямель пад пратэктарат ВКЛ згодна з трактатамі 1559 і 1561 гг. азначаў аўтаматычнае ўцягванне ў ваенны канфлікт з Рускай дзяржавай на чале з Іванам IV. У 1562 г. скончылася перамір'е з Маскоўскай дзяржавай. Паход маскоўскіх войскаў і хуткі захоп імі Полацка ў 1563 г. паказаў, што ВКЛ страціла не толькі стратэгічную ініцыятыву, а фактычна згубіла ўсе свае ўсходнія землі і важны гандлёвы шлях па Заходняй Дзвіне. Віленскі сойм 1563 г. ухваліў збіранне войска для вызвалення Полацка, занятага войскамі Івана IV Грознага. У 1564 г. пры арганізацыі паходу разам з польскім войскам былі выстаўлены значныя прыватныя харугвы князёў Юрыя Слуцкага, Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага, Богуша Карэцкага, Андрэя Курбскага і навагрудскага ваяводы Аляксандра Хадкевіча[282]. У лістападзе 1564 г. у маёнтак Лебядзёва, які належаў Мікалаю Крыштафу Радзівілу Сіротку, Юрый Слуцкі прывёў 1200 гусар і казакаў, 900 пяхоты, і 100 стральцоў і сам узначаліў іх[283]. Быў ён і ўдзельнікам радашковіцкага паходу 1567 г., мэтай якога было перашкодзіць маскоўцам замацавацца на тэрыторыі Полацкага ваяводства і паставіць там свае замкі[284]. Згодна з попісам Юрый Слуцкі прывёў з сабой 478 конных і 300 пешых драбаў. Па сваёй колькасці гэта быў другі прыватны почт пасля Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі[285].

Напярэдадні вайны Жыгімонтам Аўгустам пачалі праводзіцца ў краіне дзяржаўна-палітычныя рэформы (змена адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу ВКЛ, прыняцце другога Статута ВКЛ у 1566 г.). На першы погляд, яны не пагражалі грамадскаму і палітычнаму статусу князёў Алелькавічаў. Князі Слуцкія, як і раней, захоўвалі сваё месца ў свецкай частцы віленскага Сенату. Яна не была так абмежавана колькасна, як духоўная, якая складалася з канкрэтных каталіцкіх біскупаў. Склад свецкіх сенатараў ВКЛ вагаўся ў залежнасці ад колькасці запрошаных на сойм вялікім князем паноў і князёў, акрамя вышэйшыхураднікаў — ваяводы віленскага ці троцкага, канцлера, гетмана і інш. Прысутнасць на соймах Алелькавічаў заставалася нязменнай, нягледзячы на змены ў панскай радзе. Тым не менш, у якасці прывілеяў за імі замацоўвалася неабходнасць асабістага запрашэння ад манарха на пасяджэнні рады ці сойма. Агульных лістоў, што рассылаліся па паветах, для іх было недастаткова, і непрысылка персанальнага запрашэння магла стаць прычынай адсутнасці князёў пры двары[286].

Звычайна фармулёўка такіх лістоў не мянялася. Пасля звароту да асобы і пералічэння прычын склікання сойма ішло



**Абарона Полацка 1563 г.**

**Гравюра. II палова XVI ст.**





запрашэнне: «Твоя бы милость, о том ведаючи, ку оному часу на съемъ до нас господара ехалъ, а будучи при насъ господари восполокъ зъ иными паны радами нашими о таковых потребахъ земскихъ, которые тобе на онъ часъ ширей отъ насъ оповеданы будуть, обмышлялъ и радилъ, яко бы было зъ добрымъ нашимъ господарскимъ и речи посполитое земское»[287].

Аднак на растаноўку палітычных сіл і далейшы лёс князёў Слуцкіх на палітычнай арэне паўплываў канфлікт з братамі Радзівіламі. Яго выклікала спрэчка з-за пазіцыі ў велікакняжацкай радзе. Згодна з даўнімі прывілеямі князі Алелькавічы мелі права займаць другое месца пасля віленскага біскупа. Гэта значыць, яны былі першымі сярод свецкіхураднікаў, не займаючы пры гэтым ніякіх афіцыйных пасад. Віленскі ваявода і канцлер Мікалай Радзівіл Чорны здабыўся ад Жыгімонта Аўгуста 20 студзеня 1560 г. выдання ліста, па якому першае месца сярод свецкіх сенатараў перадавалася віленскаму ваяводзе[288]. Тлумачылася гэта тым, што віленскі ваявода з'яўляўся найпатаімнейшым дарадцам караля, заўсёды быў пры ім і таму меў права першага голасу. У 1561 г. кароль прызнаў Мікалая Радзівіла Чорнага велікарадным ВКЛ у сваю адсутнасць, фактычна сваім першым намеснікам[289]. У выніку і пачалася барацьба за прэстыж: хто павінен быць першым — Юрый Слуцкі, які фактычна не ўдзельнічае ў палітычным жыцці дзяржавы і рэдка з'яўляецца на публіцы, ці Мікалай Радзівіл, які займае некалькі вышэйшых дзяржаўных пасад і фактычна кіруе ВКЛ у адсутнасць Жыгімонта Аўгуста. Яна знайшла сваё адлюстраванне нават у тагачаснай літаратуры. Мікалай Рэй з Нагловіц у сваім творы «Звярынец 1562», прысвечаным знакамітым родам Рэчы Паспалітай, у якім ён





**Вершнікі.**
**Х. Адэльхаўзер, М. Цунт. 1568 г. Фрагмент гравюры «Гродна» з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1575 г.**

апяваў вышэйшых ураднікаў, такімі словамі кажа пра князя Юрыя Слуцкага:

> Князь Слуцкі Юрый,
> Таго славіць не ўмею, толькі з гнязда таго
> Паходзі з сумленных князёў народу Слуцкага,
> Якія заўсёды вялікі гонар дзяржаве літоўскай
> Рабілі ў высакародных справах, таксама пану свайму,
> І на тое ж так спадзяюся, што да таго прыйшло,
> Хаця так ціха ходзіць, а не кажа цудоўна;
> Бо цнота, калі патрэба, укажа прычыну,
> І дык вось мусіць распусціць мяшку чупрыну[290].

Што важна, сам верш, прысвечаны князю Слуцкаму, быў размешчаны пасля радкоў пра віленскага ваяводу. Гэта значыць, што на першы погляд у барацьбе за першынства перамог Радзівіл. Для князя Юрыя Слуцкага стала зразумела, што паходжанне і багацця ўжо недастаткова для захавання высокіх палітычных пазіцый. У той жа час князь Юрый Алелькавіч рэдка ўдзельнічаў у публічных справах, часам не прыязджаючы нават на соймы, што таксама не спрыяла павелічэнню яго ўплыву сярод палітычных эліт ВКЛ. Да гэтага дадаваліся падазрэнні (дарэчы апраўданыя) у прапольскіх сімпатыях і здрадзе інтарэсам ВКЛ.

На Гродзенскім сойме, які адбываўся ў снежні 1566 — ліпені 1568 г., зноў выбухнула спрэчка пра першаснасць у радзе ўрадаў і асоб, якія іх займалі. Хто быў павінен займаць другое пасля віленскага епіскапа месца — князь крыві Юрый Алелькавіч Слуцкі ці новы віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Руды?[291] Першы абапіраўся на свае даўнія правы і традыцыю, другі — на рэальную ўладу ў дзяржаве. Ніхто з апанентаў саступаць не жадаў.

Тым часам становішча ВКЛ у выніку зацягнуўшыхся ваенных дзеянняў пагаршалася. Маскоўскія войскі працягвалі будаўніцтва ваенных крэпасцей вакол Полацка. Без знешняй дапамогі войскі ВКЛ аказаліся не ў стане самастойна пераламіць ход падзей. У красавіку 1567 г. было прынята рашэнне пра скліканне паспалітага рушэння ў маі 1567 г. пад Маладзечна. У канцы 1567 г. там сабралося 28—30 тысяч конных і пешых жаўнераў[292]. Аднак у выніку неарганізаванасці і бяздзейнасці цэнтральных улад войска самавольна стала раз'язджацца. Цяжкой ваеннай сітуацыяй і канфліктамі паміж панамі раднымі скарысталіся польскія палітыкі, ад імя якіх каронны падканцлер Пётр Мышкоўскі ў



1568 г. прапанаваў членам рады, якія тады знаходзіліся ў войску пад Маладзечна, абмеркаваць заключэнне палітычнай уніі з Польшчай, пераўтварыць унію дынастычную ў рэальную. Юрый князь слуцкі быў адным з прысутных там 18 паноў радных. Было пастаноўлена сабрацца на агульны сойм у снежні 1568 г. у Любліне і вырашыць там усе пытанні, звязаныя з распрацоўкай новага ўкладу[293]. Усім станам ВКЛ пры гэтым гарантавалася захаванне іх правоў і вольнасцей.

Радзівіл хацеў і ў Любліне здабіцца пацверджання першага месца для пасады віленскага ваяводы і тым самым вырашыць спрэчку на сваю карысць[294]. 28 лютага 1569 г. да караля прыйшлі літоўскія сенатары на чале з Мікалаем Радзівілам Рудым і Янам Хадкевічам. Яны засталі ў пакоях караля каронных сенатараў і папрасілі пра размову сам-насам. Жыгімонт Аўгуст не пажадаў даць ім персанальную аўдыенцыю, і яны былі вымушаны скардзіцца «паціху». Ваявода віленскі пачаў казаць пра сваю спрэчку з князем Слуцкім з-за месца ў вялікакняжацкай радзе, хто з іх павінен сядзець вышэй, і папрасіў караля рассудзіць канфлікт. Жыгімонт Аўгуст параіў вынесці абмеркаванне гэтага пытання на заўтрашняе сумеснае пасяджэнне каронных і літоўскіх станаў[295].

**Пасяджэнне Люблінскага сойма.**

**Гравюра са «Статута» Я. Герберта. 1570 г.**




Але дэлегацыя ВКЛ таемна ў начы на 1 сакавіка пакінула Люблін, каб не дапусціць падпісання ўмоў дзяржаўнай уніі на некарысных для сябе ўмовах. У Любліне засталося толькі некалькі сенатараў і пісар літоўскі Міхал Гарабурда, якія прасочвалі ход падзей.

У адказ на дэмарш літоўскіх паслоў 5 сакавіка 1569 г. Жыгімонт Аўгуст выдаў ліст, па якому Валынь і Падляшша ўключаліся ў склад Кароны Польскай. 8 сакавіка 1569 г. князю Слуцкаму ў ліку іншых дастойнікаў і ўраднікаў ВКЛ, што мелі ўладанні на Падляшшы, быў пасланы ліст з загадам прыехаць 27 сакавіка ў Люблін і прынесці прысягу на вернасць як падданаму Кароны Польскай (на Падляшшы ў Юрыя быў маёнтак Ванева — мястэчка, 6 фальваркаў і 18 вёсак)[296]. Яшчэ на Гродзенскім сойме 1568 г. сярод разгледжаных спраў была просьба падляшскіх шляхцічаў «ку павету и в присуд мельницкого вряду» перадаць шэраг маёнткаў і парафій, якія здаўна да падляшскіх зямель належалі. Сярод іншых былі названы маёнткі Сямяцічы княгіні Слуцкай, Баковічы князёў Палубінскіх і інш.[297]. 8 красавіка 1569 г. быў накіраваны асобны ліст да Кацярыны з Тэнчынскіх княгіні Слуцкай і іншых уласнікаў зямельных маёнткаў з загадам прыехаць у Люблін і прынесці прысягу 24 красавіка за свае падляшскія маёнткі каралю і Кароне Польскай[298]. Падобна на тое, што загад караля князем Слуцкім не быў выкананы, бо Юрый II не змог прыехаць у Люблін на пасяджэнні вальнага сойма, дзе вырашалася і яго будучыня, летам 1569 г. з-за хваробы, як ён сам пісаў у лісце да прускага герцага[299].

23 сакавіка 1569 г. кароль абвясціў па просьбе кароннага сойма ўмовы уніі з ВКЛ. Пра захаванне асаблівага становішча князёў і старых традыцый пры кіраванні дзяржавай у ім не было ні слова[300]. Хаця ў пераліку тытулаў паноў радных князь Юрый па-ранейшаму быў запісаны на другім месцы паміж віленскім і луцкім біскупамі[301], асобна ад астатніх князёў. 6 чэрвеня да Польшчы была далучана Кіеўская зямля[302].

У такіх абставінах вышэйшыя ўраднікі ВКЛ не здолелі працягваць супраціўленне, і 1 ліпеня 1569 г. у люблінскім замку сенатары і паслы з абодвух бакоў прысягнулі дакументу, які напярэдадні быў узгоднены абодвума дэлегацыямі і істотна змяняў існуючыя да гэтага часу прававыя і дзяржаўныя стасункі[303]. Згодна з рашэннямі, прынятымі ў Любліне, акрамя стварэння агульнай дзяржавы Рэчы Паспалітай абодвух народаў, парадку выбараў адзінага ўладара, месца яго каранацыі, парадку пацвярджэння шляхецкіх правоў і прывілеяў, прадугледжвалася і стварэнне адзінага органа ўлады — сойма Рэчы Паспалітай абодвух народаў, увядзенне адзінай манеты і правядзенне агульнай знешняй палітыкі. Прадстаўнікі ад ВКЛ увайшлі ў агульны для ўсёй Рэчы Паспалітай вальны сойм. Парадак яго склікання і колькасць прысутных на ім былі таксама вызначаны ў ліпені 1569 г.[304]. Ад ВКЛ у выніку далучэння значнай яго часткі да Кароны Польскай увайшлі толькі дзесяць ваяводаў і кашталянаў (ад 10 ваяводстваў) і тры біскупы. Да гэтага дадавалася яшчэ пяць міністраў — маршалкі вялікі і надворны, вялікі канцлер і падканцлер і земскі падскарбій[305]. У выніку з 140 пазіцый у Сенаце прадстаўнікі ВКЛ займалі толькі 27[306]. Ні адну з вышэйназваных пасад князь Алелькавіч-Слуцкі не займаў, а значыць, і прэтэндаваць на месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай не мог. Магчыма, калі б князь асабіста прысутнічаў у Любліне, ён змог бы напомніць пра свае правы і каралю, і дэпутатам. Аднак у абставінах цяжкіх перамоў, ваеннай пагрозы літоўскія паслы не сталі бараніць

інтарэсы апазіцыйнага для іх прыхільніка уніі князя Слуцкага. Не было ў Любліне і Радзівіла Рудага. Але ён даручыў свайму сакратару Андрэю Волану мабілізаваць усіх радзівілаўскіх прыхільнікаў супраць Алелькавічаў. Волан па распараджэнні свайго патрона ўзняў пытанне пра канфлікт віленскага ваяводы з князем Слуцкім перад каралём. Той зноў прапанаваў вынесці яго на разгляд сойма. Радзівілы падрыхтаваліся да такога павароту падзей і загадзя дамовіліся з некаторымі польскімі сенатарамі, у прыватнасці з кракаўскім ваяводам Янам Фірлеем, кракаўскім біскупам Філіпам Паднеўскім, крайчым каронным Мікалаем Ласкім. Юрый Алелькавіч, у сваю чаргу, скарыстаўся падтрымкай з боку сандамірскага ваяводы Пятра Збароўскага. Намаганні Радзівілаў аказаліся не марнымі. Пра захаванне прывілеяванага становішча князёў Слуцкіх і Слуцка як асобнай адміністрацыйнай адзінкі ў будучай Рэчы Паспалітай пытанне на пасяджэннях нават не ставілася[307].

Іроніяй гісторыі і шляхецкай дэмакратыі было тое, што князі Слуцкія, валодаючы маёнткамі большай плошчы, чым якія-небудзь з каронных ваяводстваў, не маглі заняць месца ў Сенаце, хаця там былі і прымалі рашэнні ў справах, якія значна перавышалі іх кампетэнцыю і дасведчанасць, дробныя мясцовыя кашталяны.

Распачатыя адразу пасля заключэння уніі спробы князя Юрыя атрымаць месца ў Сенаце сустрэлі разуменне і нават падтрымку з боку Жыгімонта Аўгуста, аднак пытанне так і не было вырашана. У выніку рэформы 1564—1566 гг. і Люблінская унія ўраўнялі спадчынных князёў у правах са шляхцічамі, пазбавілі іх спадчыннага месца ў Сенаце, паколькі тыя месцы перадаваліся ўраднікам. З гэтага моманту, не маючы ўрада, князі не маглі ўплываць на дзяржаўную палітыку.

У пачатку кастрычніка 1569 г. князь Юрый асабіста прыехаў у каралеўскую рэзідэнцыю ў Кнышыне. Кароль выклікаў князя Слуцкага сваім асабістым лістом, дзе звярнуўся да яго як да «рады» каралеўскай і падданага, не прынёсшага прысягу на вернасць з-за адсутнасці на сойме ў Любліне. Князь Слуцкі збіраўся напомніць пра месца князёў Слуцкіх у Сенаце і асабіста прынесці прысягу на вернасць уніі, але як член рады. Сустрэўшы па дарозе каралеўскіх камісараў, ён паказаў ім ліст і прывілеі Жыгімонта Аўгуста, дзе пацвярджаўся яго статус як члена каралеўскай рады. Паколькі камісары не былі паўнамоцны прымаць прысягу сенатараў, князь Слуцкі паехаў да караля. Што цікава, Юрый II прасіў для сябе месца сярод каронных, а не літоўскіх сенатараў. Мікалай Радзівіл Руды пісаў да Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, які толькі стаў маршалкам надворным, што хіба гэта было зроблена наўмысна, каб князь Слуцкі «вышэй за яго сядзеў»[308]. Кароль 12 кастрычніка 1569 г. выдаў ліст, дзе ён адмаўляўся прыняць прысягу князя, спасылаючыся на тое, што такім правам валодаюць толькі спецыяльныя камісары, якія хутка прыедуць да Кнышына[309]. У той жа час ён даў князю Юрыю Юр'евічу надзею, што праблема надання месца ў Сенаце для князёў Слуцкіх будзе вырашана станоўча. Ён згадзіўся прыняць асабіста ў прысутнасці камісараў прысягу ад князя Слуцкага як ад кароннага сенатара[310].

Падавалася, што атрыманне статусу спадчыннага сенатара з'яўляецца толькі пытаннем часу. Князь Юрый адчуваў сябе ўжо падданым Кароны Польскай і нават спрабаваў свае прыватна-прававыя акты праводзіць праз канцылярыю не ВКЛ, а Польшчы[311].

Асноўнай перашкодай для сканчэння справы былі непрыязныя стасункі з











**Мікалай Радзівіл Руды.**
**Невядомы мастак. XVIII ст.**

Мікалаем Радзівілам Рудым, паколькі ў іх супрацьстаянні кароль заўсёды браў бок Радзівіла. Перад соймам 1572 г. кароль папярэджваў, каб віленскі ваявода прыехаў на яго падрыхтаваным, з усімі лістамі і правамі, паколькі магло быць зноў узнята пытанне пра князя слуцкага і яго правы на першынства[312]. Што цікава, самаго Юрыя Алелькавіча пра магчымы разгляд яго справы не папярэдзілі і на сойм не запрасілі. Каралеўскі ліст заклікаў князёў Слуцкіх, як і іншых прадстаўнікоў княжацкіх родаў, прыняць актыўны ўдзел у паветовых сойміках і распрацоўцы іх інструкцый[313]. У выніку наступны Варшаўскі сойм 1572 г. князь Юрый Слуцкі зноў прапусціў. Яго інтарэсы там бараніў князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі. Менавіта ён звярнуў увагу на праблему князёў Слуцкіх і агалосіў яго ліст. У скаргах на рашэнні Люблінскага сойма 1569 г. князь Юрый Слуцкі спасылаўся не столькі на права (каралеўскі прывілей), колькі на «старыну»[314]. У знакамітай пратэстацыі князёў Слуцкіх, якая тычылася месца ў Сенаце, выдадзенай каралём 20 красавіка 1572 г., было адзначана, што князі Слуцкія па дзедзічнаму праву яго мелі: «каб яму паводле прэрагатывы звыклай дому яго старажытнага і фаміліі месца ў лавіцы рад нашых здаўна звыклае, ад слаўнай памяці продкаў нашых пастаноўленае і асобным прывілеям нашым зацверджанае, гэта значыць каля біскупа віленскага была прызначана і цалкам захавана, якое ён сам і продкі яго каля біскупа віленскага заўсёды мелі». Прытым што сам Жыгімонт Аўгуст для вызначэння месца знаходжання князёў Слуцкіх у радзе звяртаўся не да прывілея, а да памяці: «толькі мы, колькі памятаем, іж заўсёды князь Слуцкі ў радзе нашай каля князя біскупа віленскага месца сваё засядаў паводле прэрагатывы сваёй старажытнай»[315]. У той жа час прыняцце канчатковага рашэння адкладалася каралём да наступнага сойма з-за дрэннага стану здароўя самаго Жыгімонта Аўгуста і непрысутнасці ў Варшаве князя Юрыя.

7 ліпеня 1572 г., не пакінуўшы прамых нашчадкаў, памірае апошні мужчынскі прадстаўнік дынастыі Ягелонаў Жыгімонт II Аўгуст. Дзяржава, якая знаходзілася ў стане вайны, уступіла ў перыяд бескаралеўяў.

Бескаралеўе застала Рэч Паспалітую падзеленай на дзве варожыя часткі. У Вялікім Княстве Літоўскім сепаратыстам Радзівілам і Хадкевічам супрацьстаялі прыхільнікі Люблінскай уніі. Сенатараў, якія выступалі за разарванне уніі з Польшчай у часе небяспекі з боку Маскоўскай дзяржавы, падтрымлівала мясцовая шляхта, якая не бачыла рэальных вынікаў саюзу з

Польшчай, у першую чаргу ваеннай дапамогі і пашырэння сваіх правоў. Супраць Радзівілаў і Хадкевічаў з асабістых меркаванняў выступалі князь Юрый Слуцкі і мінскі кашталян Ян Глябовіч. Варожасць паміж імі і Радзівіламі насіла даўні характар з-за першынства ў велікакняжацкай радзе. З Янам Хадкевічам князь Слуцкі варагаваў з-за маёнткаў. Цікава, што Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, які не вельмі любіў Канстанціна Астрожскага і Юрыя Алелькавіча і нават адзываўся пра іх як пра блазнаў[316], заклікаў Радзівіла Рудага прымірыцца з апошнім і аб'яднаць іх палітычныя намаганні[317].

Адносіны паміж князем Слуцкім і партыяй Радзівілаў яшчэ больш абвастрыліся, калі паўстала пытанне пра выбар кандыдата на трон Рэчы Паспалітай. Сярод магчымых кандыдатур называліся прадстаўнікі як замежных краін, так і Кароны Польскай з Вялікім Княствам Літоўскім. Сярод апошніх фігураваў і князь Слуцкі Юрый Алелькавіч. Большасць паноў і шляхта схіляліся да замежнага кандыдата, аўстрыйскага эрцгерцага Эрнста Габсбурга, сына імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміліяна II, і французскага каралевіча Генрыха Валуа, а таксама, як гэта ні дзіўна, сына маскоўскага цара Івана Грознага, з якім краіна ваявала амаль 15 гадоў.

Ва ўмовах няскончанай вайны і ў сваім імкненні разарваць унію з Польшчай некаторыя сенатары ад ВКЛ сталі разглядаць магчымасць выбару асобнага гаспадара — вялікага князя, які б неабавязкова быў і польскім каралём. Такія намаганні былі прамым парушэннем умоў Люблінскай уніі, якія прадугледжвалі абавязковае выбранне адзінага манарха для дзвюх краін. Імператар Максіміліян II даслаў у Гродна сваіх агентаў, якія б схілілі сімпатыі прадстаўнікоў ВКЛ да яго сына, але іх актыўнасць і настойлівасць не мелі поспеху. Перамовы скончыліся толькі размовамі. Знешнепалітычныя абставіны, калі Іван Грозны пагражаў увядзеннем маскоўскіх войскаў у Інфлянты, пры адсутнасці ў Маскве да кастрычніка 1572 г. літоўскага пасольства, вымусілі кіруючыя колы ВКЛ звярнуць увагу на «маскоўскую кандыдатуру». Яна была вельмі папулярна сярод шляхты ВКЛ, бо выбар маскоўскага царэвіча вялікім князем літоўскім не толькі аўтаматычна спыняў вайну, але адкрываў шырокія эканамічныя магчымасці на ўсходзе.

У канцы верасня 1572 г. у Рудніках сабраліся сенатары, якія вырашылі не чакаць адказу ад палякаў у справе высылкі пасольства да Масквы з-за недахопу часу. Яны пастанавілі выслаць да маскоўскага цара свайго пасла, літоўскага пісара Міхала Гарабурду, з адпаведнай інструкцыяй. У ёй ад рады вялікага гаспадарства Літоўскага, а менавіта ад імя канцлера і віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Рудага, троцкага ваяводы Стэфана Збаражскага, мсціслаўскага ваяводы Юрыя Осціка, Яна Хадкевіча, Мікалая Талваша, кіеўскага біскупа Мікалая Паца, літоўскага крайчага Яна Кішкі, якія падпісалі дакумент, і яшчэ сямі асоб, сярод якіх былі названы і князь Юрый Юр'евіч Слуцкі, і мінскі кашталян Ян Глябовіч, праз Міхала Гарабурду перадаваўся даручальны ліст[318].

Згодна з гэтым дакументам прадстаўнікі ВКЛ згаджаліся падтрымаць у якасці кандыдата на велікакняжацкую пасаду малодшага сына Івана — царэвіча Фёдара. Такім чынам, прадстаўнікі ВКЛ хацелі адцягнуць час і пазбегнуць актыўных ваенных дзеянняў, бо з боку Польшчы ні фінансавай, ні ваеннай дапамогі чакаць не прыходзілася. Князь Слуцкі і Ян Глябовіч, якія асабіста на з'ездзе ў Рудніках не прысутнічалі, а былі завочна без сваёй згоды ўпісаны ў ліст, былі абураны такой сітуацыяй.












**Элекцыйнае поле.**
**Гравюра. 1669 г.**

Інструкцыя ў Міхала Гарабурды была адабрана Янам Глябовічам, і незалежна адзін ад другога мінскі кашталян і Юрый Алелькавіч паведамілі польскім сенатарам пра змову сенатараў ВКЛ супраць уніі.

У канцы 1572 г. па ВКЛ кружылі чуткі, што князь Слуцкі разам з Глябовічам сабралі войска, каб высунуць кандыдатуру князя Слуцкага на трон і для іншых мэт, сярод якіх называлі нават забойства Радзівілаў і Хадкевічаў, пра што апошнія папярэджвалі адзін аднаго[319]. Першым знакам змяншэння палітычнага ўплыву князя Слуцкага стала незапрашэнне яго на канвакацыйны сойм 1573 г. на падставе таго, што ён не меў сенатарскага ўрада. На ім былі павінны высунуць кандыдатуры будучага манарха Рэчы Паспалітай. Выбар любой з кандыдатур азначаў змяненні ў палітыцы дзяржавы. Князь Слуцкі падаў пісьмовую скаргу, у якой даказваў, што ў сілу прынесенай прысягі і даўніх прывілеяў, пацверджаных каралём Жыгімонтам Аўгустам, заўжды меў месца ў гаспадарскай радзе[320]. М. Бельскі ў сваёй «Хроніцы» так апісваў падзеі: «Потым ліст ад Юрыя Алелькавіча кн. Слуцкага быў у радзе чытаны <…> як ён праз пісанне сваё жадаў, каб яму месца ў радзе як сенатару прысяжнаму ўказалі, тады яму назначылі за агульнай згодай, там дзе і раней у радзе літоўскай перад уніяй меў, то есць каля кс. біскупа віленскага, а то, каб засядаў, калі на элекцыю прыедзе, то яму дазволілі»[321].

Каб даказаць сваю прыхільнасць да уніі і адвесці ад сябе абвінавачванні ў падтрымцы палітыкі Радзівілаў, князь Слуцкі выступіў у лісце ад 30 снежня 1572 г. з прапановай перадаць Слуцкае княства пад юрысдыкцыю Кароны Польскай з-за таго, што ў яго на Літве было шмат непрыяцеляў. Канвакацыйны сойм у Варшаве станоўча ўспрыняў такі крок Юрыя Юр'евіча, аднак пастанавіў, паколькі сам князь не прысутнічаў на яго пасяджэннях у Варшаве, адкласці канчатковае вырашэнне гэтых пытанняў на элекцыйны сойм[322]. Ліцвіны ўспрынялі гэта як спробу князя

Слуцкага «вызваліцца ад усялякай літоўскай улады»[323]. Гэта яшчэ больш падлівала агонь у полымя супярэчанняў паміж Каронай Польскай і ВКЛ.

21 красавіка 1573 г. на элекцыйны сойм, дзе былі павінны выбраць наступнага караля, князь Юрый, спазніўшыся з-за хваробы, прыехаў на чале ўзброенага почта[324]. Такім чынам ён спрабаваў напомніць пра свае правы і, калі трэба, са зброяй абараніць сваё месца. Ён паспрабаваў заняць месца прысяжнага сенатара ў Сенаце, спасылаючыся на прынятае на канвакацыйным сойме рашэнне. Каронныя сенатары прызналі яго права і пастанавілі выбраць яго ад Наваградскага ваяводства, дзе знаходзіліся яго асноўныя ўладанні. Супрацівіліся гэтаму літоўскія сенатары, якія заўважылі, што згодна з польскім правам «князёў у радзе няма, і не можа быць»[325]. Яны казалі, што спадчынных месцаў у Сенаце князі не захавалі з-за сваёй адсутнасці на Люблінскім сойме, а Слуцк быў запісаны да ваяводства Наваградскага. Выдадзены невядома кім ліст яны не прызнаюць[326]. Ян Хадкевіч цвердзіў, што ніхто не можа атрымаць у Рэчы Паспалітай сенатарскую годнасць па спадчыне, калі нават кароль у ёй выбарны. Самае цікавае, што ў патрабаваннях літоўскай дэлегацыі на элекцыйным сойме прысутнічаў пункт вяртання княжацкім родам і шэрагу ўраднікаў іх перадунійнага статусу, які дазваляў ім удзельнічаць у соймах[327].

Князь Слуцкі яшчэ двойчы спрабаваў заняць месца ў вышэйшай палаце ў пачатку мая 1573 г., але натыкнуўся на ўзброены адпор Мікалая Радзівіла Рудага і Яна Хадкевіча. Пасля нарады з кароннымі басламі было пастаноўлена адкласці вырашэнне пытання пра месца князёў Слуцкіх у Сенаце на разгляд будучага караля, каб не дапусціць узброеных сутычак паміж магнацкімі почтамі. Князь жа заняў месца ў пасольскай ізбе разам з дэпутатамі ад Наваградскага ваяводства. Ён прымкнуў да партыі, якая адмовілася прызнаваць кандыдатуру Генрыха Валуа, у адрозненне ад астатніх паслоў ВКЛ. Фактычна на гэтым удзел князя Юрыя Слуцкага ў падзеях першага бескаралеўя абмежаваўся.



**Генрых Валуа.**
Э. Думонсці. 1578 г.

Падзеі першага бескаралеўя прадэманстравалі Юрыю II, што ён не ў стане ні палітычна, ні вайскова супрацьстаяць усім сенатарам у краіне. Таму ён пачынае шукаць шляхі калі не да прымірэння, то да палітычнага супрацоўніцтва з Радзівіламі і Янам Хадкевічам. Прыезд Генрыха ў Польшчу і яго нядоўгае (некалькі месяцаў) знаходжанне там нічога не змянілі для князя Слуцкага. Тым больш што забегі князя Слуцкага пры двары Генрыха Валуа былі паралізаваны Мікалаем Крыштафам Радзівілам Сіроткам, які застаўся надворным











**Ліст Мікалая Радзівіла і Яна Хадкевіча.**
**1575 г. AGAD. AR. Dz. X. A/n. Papiery Olelkowiczów**

маршалкам і паклапаціўся, каб князю Алелькавічу ніякай манаршай ласкі не дасталося[328]. Такім чынам, чэрвеньскі візіт князя Слуцкага ў Кракаў не даў жаданых вынікаў. Пасля ўцёкаў Генрыха Валуа ў 1574 г. Рэч Паспалітая стала перад чарговым бескаралеўем.

Зноў барацьба разгарнулася паміж прыхільнікамі замежных кандыдатаў: Максіміляна Габсбурга, сямігродскага ваяводы Стэфана Баторыя і маскоўскага царэвіча Фёдара Іванавіча. Юрый II не ўдзельнічаў актыўна ў палітычных падзеях другога бескаралеўя, хаця ўсе палітычныя сілы былі зацікаўлены ў яго падтрымцы. Нягледзячы на адсутнасць у яго афіцыйнага ўрада, ён заставаўся адным з найбольш заможных землеўласнікаў ВКЛ з вялікім асабістым войскам. Пасярод імператарскіх лістоў, што высылаліся ў ВКЛ, заўсёды знаходзіліся асобныя для князя Слуцкага[329]. Падобна, што пасля доўгіх гадоў палітычнай барацьбы Радзівілы вырашылі пайсці на кампраміс з князем Слуцкім, бо, як пісаў Радзівіл Сіротка, «патрэба аб'яднання з тым панам, бо шмат можа перашкаджаць і зараз у адсутнасць караля ісці яму яўна наперакор не раю»[330]. У якасці пасрэдніка выступіў Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка. Юрый II пагадзіўся на саюз з Радзівілам Рудым і прасіў дапамагчы ў перамір'і з Янам Хадкевічам. 10 студзеня 1575 г. у Клецку віленскі ваявода і канцлер Мікалай Радзівіл Руды і кашталян віленскі Ян Хадкевіч далі князю Юрыю Слуцкаму ліст, што яны абавязуюцца яго інкарпараваць у Сенат, і прызналі яго права на месца ў лавіцы рады Вялікага Княства Літоўскага на яго даўнім месцы[331]. За гэта князь Слуцкі перадаў Радзівілу Рудаму 10 тысяч злотых наяўнымі грашыма і аддаў без выплаты пазыкі землі на 30 тысяч злотых. Хадкевіч атрымаў ад яго 15 тысяч злотых і вярнуў застаўленыя маёнткі коштам 30 тысяч злотых. Да таго ж князь Алелькавіч падпісаў ліст, па якім абяцаў падчас элекцыі разам з іншымі сенатарамі падтрымаць кандыдатуру эрцгерцага Эрнста Габсбурга. Ад імя князя Слуцкага патрабаванне пра ўвядзенне яго ў Сенат літоўскія паслы агласілі на сумесным з палякамі з'ездзе пад Сценжыцай у снежні 1575 г. Аднак палякі зноў адмовіліся з патрабаваннем да князя асабіста абвясціць пра свае прэтэнзіі на сойме[332].

У пачатку 1576 г. Ян Глябовіч, ранейшы палітычны паплечнік князя Слуцкага, прасіў Яна Хадкевіча пастарацца адцягнуць князя Алелькавіча ад Радзівілаў. Радзівілы на тэрыторыі ВКЛ былі прыхільнікамі кандыдатуры сына Максіміляна Габсбурга, тады як Ян Хадкевіч падтрымаў Стэфана Баторыя. Афіцыйна князь Слуцкі ні на адным з соймаў не прысутнічаў. Не было яго

і пры прывітанні эрцгерцага Максіміляна, хаця ў пасольства яго ўключылі. Сам князь Алелькавіч не паехаў на элекцыйны сойм, бо асцерагаўся пакідаць свае ўладанні без нагляду падчас аднаго з найбольшых нападаў татараў у другой палове XVI ст. Тым не менш на ўсіх з'ездах і соймах, зараз ужо ад радзівілаўскай партыі, гучала патрабаванне ўвесці князёў Слуцкіх у Сенат Рэчы Паспалітай. Як і раней, рашэнні гэтага пытання адкладаліся па прычыне адсутнасці самога князя.

Пасля вялікіх перыпетый новым манархам быў выбраны Стэфан Баторый, сямігродскі князь, чалавек з моцным характарам. Увядзенне князя Слуцкага ў Сенат Рэчы Паспалітай стала адной з умоў выбрання на трон Стэфана Баторыя, з якой ён пагадзіўся[333]. Сапраўды здавалася, што справа нарэшце зрушылася з месца. Яшчэ адзін шанс вярнуць сабе спадчыннае месца быў страчаны ў сакавіку 1577 г. Стэфан Баторый, выбраны каралём, загадаў прыехаць 23 сакавіка да яго ва Врацлавек на канвакацыю сенатараў[334]. Падобна, што для князя Юрыя нарэшце было вызначана месца. Аднак ён не прыехаў. У сваё апраўданне Юрый пісаў да кароннага канцлера Яна Замойскага, што ліст караля атрымаў толькі 24 сакавіка, на дзень пазней вызначанага тэрміну. Ён прасіў агалосіць гэты факт перад каралём, каб яго не абвінавацілі ў непачцівасці[335].

Пры скліканні галоўнага сойміка шляхты ВКЛ у Ваўкавыску летам 1577 г., які быў павінен даць фінансавую падтрымку для вядзення ваенных дзеянняў супраць Гданьска, асобныя лісты «паводле старога звычаю і права статутовага» былі накіраваны да біскупаў, князя Слуцкага, ваяводаў, кашталянаў і міністраў (усяго 19)[336]. 6 ліпеня 1577 г. у Ваўкавыску сабраліся сенатары, ураднікі сталовыя, земскія, дворныя і паслы ад усіх паветаў і ваяводстваў ВКЛ. Дакументы, складзеныя 17—18 ліпе-




**Стэфан Баторый.**
**Невядомы мастак. Канец 1576 г.**

ня, былі падпісаны сям'ю сенатарамі і князем Слуцкім. Такім чынам, дастойнікі ВКЛ прызнавалі правы яго роду на спадчынную пазіцыю сенатара і яго асабістае першынства сярод іх[337].

Добразычлівая пазіцыя караля (якому былі патрэбны грошы для вядзення ваенных дзеянняў), а таксама парады з боку Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі схілілі Юрыя II даць Стэфану Баторыю неабходную яму на той час пазыку ў 10 тысяч злотых на патрэбы вайны з Гданьскам[338]. Яе неабходнасць да караля падкрэсліваюць яго асабістыя словы, каб без пазыкі ад князя Слуцкага пасланец не вяртаўся[339]. Узамен князю Слуцкаму гэта сума запісвалася на Бабруйскім старостве, у дадатак да запісаных яшчэ пры Жыгімонце Аўгусце грошай і замацавання гэтага трымання за старэйшым сынам Юрыем.

Як бы там ні было, адсутнасць князя Слуцкага зноў перашкодзіла яго палітыч-








ным амбіцыям і памкненням. Толькі ў маі 1578 г. ён прыбыў да каралеўскага двара з афіцыйнай нагоды — прадстаўлення манарху. У слуцкім скарбе захоўваўся прывілей Стэфана Баторыя князям Слуцкім, дадзены ў Вільне 27 красавіка 1579 г., у якім ён абяцае, што на наступным сойме прыложыць намаганні, каб яны маглі сваімі правамі вечна карыстацца[340].

Наогул, князь Юрый быў адным з галоўных крэдытораў правячых манархаў. У 1559 г. Жыгімонт Аўгуст пацвердзіў усе паўнамоцтвы князя Юрыя Юр'евіча на кіраванне Пінскам за 7 тысяч коп грошаў. Грошы былі ўзяты з не падзеленых яшчэ паміж братамі зямель, і таму заклад падзяліўся паміж двума братамі і грошы былі павінны вярнуць Юрыю і Сямёну пароўну. Падданыя, парадак, правядзенне валочнай памеры ў гэтых уладаннях — усё гэта ўскладалася на старэйшага з братоў. Фактычна князю Слуцкаму перадаваліся ўсе ўладныя паўнамоцтвы, у першую чаргу права суда над шляхтай Пінскага павета[341]. Хутка гэтая пазыка была вернута слуцкаму князю.

Наўзамен ў 1561 г. кароль заклаў за 12 тысяч коп грошаў князю Юрыю Бабруйск — места з замкам і ўсім прыналежным да яго[342].

Да ваенных дзеянняў і палітычнай барацьбы з гегемоніяй Радзівілаў і іх знешняй і ўнутранай палітыкай у пачатку 1560-х гг. дадаліся новыя маёмасныя клопаты. У 60—70-х гг. XVI ст. Юрый Слуцкі аказаўся ўцягнутым у некалькі доўгіх судовых працэсаў з-за земляў, якія ён мог атрымаць пасля згасання некалькіх польскіх і літоўскіх родаў.

Па сведчанні С. Цеханьскага, які пісаў да прускага герцага Альбрэхта ў 1564 г., князь Юрый выступіў у Сенаце з пратэстам на завалоданне ўсімі добрамі Яна Хрысціцеля Тэнчынскага[343]. Справа была вельмі галосная адразу па некалькіх прычынах.



**Ян Хрысціцель (Баптыста) Тэнчынскі.**
**Медаль. С. Хер継йк. 1563 г.**

Калі Кацярына Тэнчынская ішла замуж, яна адмовілася ад бацькоўскіх і мацярынскіх маёнткаў. Пасля смерці кракаўскага ваяводы ў 1560 г. усе землі перайшлі яе брату белзскаму ваяводзе Яну Хрысціцелю Тэнчынскаму. Бліскучы кавалер і дыпламат, у 1561—1562 гг. ён быў пасланы як каралеўскі пасол у Швецыю і Фінляндыю. Жыгімонт Аўгуст жадаў спыніць напады шведаў на Інфлянцкія землі і замацаваць саюз шлюбам сваёй сястры Кацярыны і вялікага князя фінляндскага Юхана Вазы. Ян Хрысціцель не толькі выдатна выканаў усе даручэнні свайго манарха, але здолеў заваяваць сімпатыі сястры шведскага караля каралеўны Цэцыліі настолькі, што яна пагадзілася выйсці за яго замуж. Такі магчымы саюз выклікаў хвалю літаратурных твораў[344]. Сам малады Тэнчынскі нават загадаў выбіць медалі з выявамі нарачоных.

У 1563 г. Ян Хрысціцель атрымаў дазвол на свой шлюб са шведскай каралеўнай і стаў збірацца ў Швецыю. Перад сваім выездам у небяспечнае падарожжа ў Любліне ён склаў дакумент, які ў выпадку яго

смерці мог выконваць функцыі тэстамента. Па ім ён запісаў свае землі — палову Тэнчына з вёскамі, фальваркамі і корчмамі, двары ў Кракаве (г. зв. «двор пад тапаром» каля касцёла Святой Ганны і двор на вул. Пасольскай, недалёка ад гарадскога мура) — стрыечным братам Яну і Андрэю Тэнчынскім, бо гэтая ўласнасць магла пераходзіць толькі па мужчынскай лініі. Месца з замкам Краснік з 15 вёскамі ў Люблінскай зямлі было падаравана братам Тэнчынскім (хіба перадавалася за пазыку на святочнае падарожжа).

Карабель, на якім з Гданьска да Швецыі плыў малады Тэнчынскі, быў захоплены датчанамі, якія знаходзіліся ў стане вайны




**Цэцылія Шведская.**
**Медаль. С. Хервійк. 1563 г.**

са Швецыяй і не жадалі гэтага саюзу. Сам Ян Хрысціцель быў арыштаваны і памешчаны пад варту ў капенгагенскім замку. Не прабыўшы ў вязніцы і некалькіх месяцаў, малады Тэнчынскі захварэў у халодным памяшканні і 27 снежня 1563 г. памёр[345].

Пасля смерці брата ў 1564—1573 гг. Кацярына пачала судовы працэс, лічачы сябе адзінай спадчынніцай усіх зямель гэтай галіны Тэнчынскіх[346]. Агульная вартасць спадчыны была ацэнена ў 50 тысяч злотых. Браты Тэнчынскія не сталі праводзіць падзел маёмасці Яна Хрысціцеля і занялі нават тую частку, якая павінна была адысці да Кацярыны, — красніцкі маёнтак. Калі Кацярына прызнавала правы на Тэнчын сваіх родзічаў, то ў Люблінскай зямлі частка маёнткаў перайшла да Тэнчынскіх ад Ганны Багушоўны, і таму ніякіх правоў на іх яны не мелі. Толькі ў ліпені 1579 г. бакі прыйшлі да кампрамісу. Кацярына атрымала Красніцкія землі і пацвердзіла пераход ва ўласнасць другой галіны Тэнчынскіх зямель вакол Тэнчына[347].

За спрэчныя землі Забярэзінскіх, якія павінны былі перайсці ў спадчыну Альжбеце Радзівіл і яе дзецям, Алелькавічы, Кішкі і іх родзічы з 1569 г. судзіліся са Збаражскімі. Князь Сцяпан Андрэевіч Збаражскі ажаніўся першы раз з Ганнай, дачкой Яна Забярэзінскага і Соф'і Радзівіл (роднай цёткі Гелены Слуцкай). У пасаг за ёй і пасля смерці Яна Забярэзінскага без іншых нашчадкаў ён атрымаў яе бацькоўскія маёнткі ў Ашмянскім павеце, двор і сяло Груздава ў Мінскім павеце, мястэчка Узла, двары Старына, Люцін і Селішча. Сярод вышэйзгаданых зямель і падданых былі тыя, якія выйшлі з дому Альжбеты Мікалаевай Радзівіл. Па спадчыне яны перайшлі да Пятра Збаражскага, але той памёр праз некалькі гадоў пасля маці, не пакінуўшы нашчадкаў. Згодна з правам усе мацярызныя маёнткі мусілі падзяліць нашчадкі сясцёр Соф'і Радзівіл. Князь Збаражскі землі вяртаць не спяшаўся, а карыстаўся імі сам. Працэс зацягнуўся на некалькі дзесяцігоддзяў і скончыўся толькі ў 1603 г. пры жыцці апошняй прадстаўніцы роду князёў Слуцкіх Соф'і Юр'еўны[348].

Пасля смерці цёткі княгіні Слуцкай Ульяны Багушоўны, жонкі Івана Гарнастая, з якой Кацярына да канца яе жыцця падтрымлівала добрыя адносіны і нават да-







зволіла ёй жыць у сваім маёнтку, да Слуцкіх адышлі Азярышчы ў Слонімскім павеце і Бліжняя і Прамеж у Ковенскім[349].

Гаспадарчыя клопаты займалі значную частку жыцця любога землеўласніка. Кнігі Літоўскай метрыкі і актавыя судовыя кнігі маюць пэўную колькасць запісаў пра судовыя разбіральніцтвы памежных канфліктаў, скаргі на паграбленне маёмасці сялянамі і ўраднікамі розных маёнткаў. Большасць канфліктаў была звязана з парушэннем меж і нанясеннем крыўдаў чужым падданым[350].

У 1570-х гг. землі князя Слуцкага актыўна размяжоўваліся з велікакняжацкімі ўладаннямі ў межах правядзення валочнай памеры. Ад князя Слуцкага пры гэтых размежаваннях выступаў яго служэбнік Ян Каменскі, з гаспадарскага боку — Фёдар Сапега[351].

Некаторыя працэсы па размежаванні цягнуліся па некалькі гадоў. У лістападзе 1570 г. кароль прыслаў сваіх камісараў для вырашэння справы далучэння гаспадарскіх зямель да Бліжнеўскага маёнтка князя Слуцкага. З боку князя Слуцкага быў прысланы з умацаваным лістом служэбнік Мікалай Валадковіч, бо сам Юрый быў хворы. З гэтай нагоды князь прасіў адкласці разгляд справы на больш позні час. Такія лісты ён прысылаў некалькі разоў, і камісары караля вырашылі разгледзіць справу без князя і прадпісалі пад зарукай 1000 коп грошаў яму ў названыя бор і грунты не ўступаць[352]. У снежні 1570 г. Юрый Юр'евіч склаў ліст да слонімскага старасты ў справе спрэчкі па межах свайго Бліжнеўскага маёнтка са Слонімскай замкавай пушчай[353]. З правамі на Бліжнеўскую пушчу справы не былі скончаны яшчэ ў 1578 г., калі ўжо цяжкахворы князь Юрый у ліпені дасылаў да Слоніма служэбніка Яна Аўгустынавіча Тракініцкага з умацаваным лістом у справе маёнтка Азярыцкі і Бліжнеўскай пушчы[354].

Мерапрыемствы па зямельнаму ўпарадкаванню праводзіліся князем і ў сваіх уладаннях. Нам вядома некалькі сазнанняў спраўцы валочнай памеры Андрэя Бжазонскага, зробленых у 1576—1577 гг. У чэрвені 1576 г. праводзілася размежаванне зямель Слуцкіх баяр і зямян Бокшаў[355]. Праз год, 3 кастрычніка 1577 г., ён згодна з загадам князя праводзіў замену агародаў у старым горадзе ў Слуцку[356]. Магчыма, гэта было звязана з закладаннем за ракой, на месцы, дзе калісьці стаялі татарскія войскі, яшчэ адной княжацкай рэзідэнцыі — Новага Двара. Двор быў не проста пабудаваны, але і ўмацаваны, што было немалаважна ва ўмовах бясконцых татарскіх нападаў на ўкраінскія і польскія землі і няскончанай вайны з Маскоўскай дзяржавай.

Для павышэння прыбытковасці сваіх уладанняў князь Слуцкі дамогся для сваіх мястэчак права на правядзенне ярмарак. У 1557 г. такое права было нададзена Петрыковічам[357]. У 1568 г. прывілеі асадзіць мястэчка, весці торг (ярмарак) і трымаць корчмы былі атрыманы ім для двара Пясочнай[358], што стаяў на Случы і праз які праходзілі гандлёвыя шляхі Случ — Прыпяць — Дняпро, і Леніна над Нёманам. Ленін, праўда, налічваў усяго 20 плацаў, што было вельмі мала для рэальнага пераўтварэння яго ў мястэчка. Магчыма, гэта было звязана з тым, што прыстань Пясочная прыносіла больш прыбытак за кошт гандлю хлебам, які ішоў з маёнткаў князя Слуцкага, і таму Леніну надавалася менш увагі. У 1572 г. прывілей на ярмарак і асаджэнне мястэчка быў выдадзены яшчэ для аднаго двара князя Слуцкага — Тонаў (Слабада) у Мінскім павеце[359].

Наогул, у 70-я гг. XVI ст. па загаду князя Слуцкага былі складзены інвентары і перапісана маёмасць амаль усіх слуцкіх цэркваў і манастыроў. У 1566 г. слуцкім намеснікам Крыштафам Шчыпоўскім было





праведзена спісанне правінентаў царквы Святога Мікалая на рынку[360]. На кожны з чатырох прастольных свят у царкве Святога Мікалая давалася па 15 вёдраў мёду і воск. Царква мела права сыціць на сваю карысць дадаткова 60 вёдраў мёду і вызвалялася ад мядовага мыта. Той жа царкве належалі дом на рынку, 3 каморы, 1 засценак, сенажаці і іншыя мейскія грунты, якія былі нададзены ёй князямі Слуцкімі.

У 1571 г. падскарбій князя Абрам Лапкоўскі склаў інвентар царквы Святой Варвары[361]. У 1575 г. княжацкі каморнік Станіслаў Грыцкевіч разам са слуцкім войтам Кіпрыянам Цішэвічам і слуцкім пратапопам Емяльянам Нікольскім зрабілі спісанне манастыра Святога Іллі, адзінай жаночай абіцелі ў Слуцкім княстве[362].

Юрый не толькі ўпарадкаваў свае спадчынныя маёнткі, але і набываў новыя. Пераважна ён выкупляў землі, калісьці дадзеныя за службу слуцкім баярам. Так, у 1571 г. ён набыў маёнткі Душава і Вялежын[363].

Добраўпарадкаванне маёмасці, багатыя землі, якія пры яго жыцці пазбеглі разарэння, актыўнае развіццё гандлю і рамяства ў гарадах і мястэчках, што належалі Слуцкім, дазволілі князю Юрыю не толькі мець значнае прыватнае войска і вялікі палітычны ўплыў, але і ўтрымліваць уласны двор у Слуцку, дзе квітнела інтэлектуальнае жыццё.

Нягледзячы на тое, што ў 1557 г. князь Юрый атрымаў у аднаасобнае валоданне віленскі палац і нават наняў муляра Пятра Влоха, каб той абнёс яго мурам[364], жыў ён пераважна ў Слуцку. У параўнанні з прадстаўнікамі іншых магнацкіх родаў ён рэдка з'яўляўся пры каралеўскім двары і на публічных мерапрыемствах.

Свой двор князь Юрый збудаваў сам, прыцягнуўшы да працы ўласных слуг, на што яшчэ ў 1550 г. скардзіліся старыя слугі бацькі. Узорам яго арганізацыі традыцый-



**Кантракт балвера з князем Юрыем Слуцкім. 1573 г. А/п. Papiery Olelkowiczów**

на заставаўся велікакняжацкі двор. Аднак арганізацыя магнацкага двара, у адрозненне ад каралеўскага, не мела такой жорсткай структуры служэбнікаў, хаця ў сваім арганізацыйным плане цягнулася да яго і па шэрагу момантаў паўтарала. Двор падзяляўся на некалькі сфармалізаваных груп. Уверсе знаходзілася група давераных асоб, г. зв. ураднікаў дворных, якія з'яўляліся наместнікамі гаспадара ў галінах кіравання асобнымі маёнткамі і прадстаўлення інтарэсаў гаспадара ў судовай, палітычнай і грамадскай сферах. Слуга часта спалучаў некалькі функцый, выконваючы абавязкі сакратара, прыдворнага паэта, намесніка ў маёнтку і г. д. Так, Ян Баяноўскі выступаў і як бабруйскі намеснік, і як маршалак двара. Абрам Лапкоўскі часта выступаў як просты служэбнік і падскарбій князя.

Непасрэдна да іх прымыкалі высокааплочваемыя спецыялісты, якія не ўваходзілі ў групу дворных слуг і дворнай

чэлядзі. Гэта былі кавалькатары, лекары, архітэктары, гувернёры, капеланы. За імі ішлі слугі дворныя, якія складалі аснову падарожнага двара магната і часцей за ўсё суправаджалі яго ў пераездах па краіне (пахолкі, каморнікі, лакеі, пажы). За непасрэднае функцыянаванне стацыянарнага двара ў гарадской ці вясковай рэзідэнцыі, утрыманне і забеспячэнне гаспадара, яго гасцей і прыдворных адказвала дворная чэлядзь.





Сваіх слут князь Слуцкі, які азначаўся схільнасцю да польскай культуры, наймаў у Польшчы. Адтуль былі яго кухары і балвер (хірург, медык больш нізкай кваліфікацыі, чым доктар). У 1573 г. на службу да двара паступіў нейкі Матыс Іхванцер, балвер. За сваю службу штогод ён быў павінен атрымліваць 24 злотых, кажух, грошы на палатно. Акрамя прадуктаў харчавання кожны дзень яму выдавалі два гарнца піва, а калі б князь загадаў медыку куды-небудзь ехаць, то павінен быў даць яму запрэжаны двума конямі воз[365].

Двор Юрыя Слуцкага вылучаўся нават сярод сучасных яму магнацкіх двароў. Сам Юрый II вызначаўся глыбокай культурай, высокім узроўнем адукацыі і інтарэсам да гісторыі. Актыўнасць на палітычнай арэне спалучалася з культурнай і рэлігійнай дзейнасцю князя. Большасць датаваных фундушаў на карысць слуцкіх цэркваў у XVI ст. была выдадзена Юрыем II. Некаторыя з іх пацвярджалі ранейшыя наданні цэрквам на прадукты харчавання ад гаспадароў. У 1566 г. Юрыем II была створана асобная юрыдыка слуцкіх архімандрытаў[366]. Яна атрымала незалежнасць ад гарадскіх улад і падлягала ў судовым парадку спачатку духоўнаму суду, а потым княжацкаму. У рэлігійных справах кіраванне было перададзена кіеўскай метраполіі.

Асноўная колькасць царкоўных дакументаў, звязаных з князем Юрыем II, датычылася манастыроў і цэркваў. Незадоўга да смерці маці ў студзені 1546 г. разам з ёй ён надаў святару Ферапонту замкавую царкву Уваскрэсення разам з засценкам Меляшковічы на пракорм[367]. У 1553 г. усе наданні гэтаму святару былі яшчэ раз пацверджаны і адзін путны баярын заменены на другога служылага чалавека. Князь Юрый вельмі ўважліва ставіўся да магчымых злоўжыванняў сваіх ураднікаў у дачыненні да царкоўных наданняў. Святар царквы Святога Мікалая на рынку Феафілакт, а потым і яго сын Амяльян Феафілактавіч неаднойчы (у 1553, 1566, 1579 гг.) скардзіліся на карпавіцкіх намеснікаў князёў Слуцкіх Міклеша Барташэвіча Гурскага, княжацкага падскарбія Абрама Лапкоўскага за тое, што яны не даюць усяго, што павінны, на царкву Святога Мікалая. Яшчэ ад бацькоў князя Юрыя Сямёнавіча і княгіні Гелены былі дадзены запісы на выдзяленне 12 грошаў, 4 вёдраў мёду слуцкай меры і іншых прадуктаў з карпавіцкага маёнтка. Што цікава, выплаты спыніліся пасля смерці ці ў час адсутнасці гаспадара[368].

Найбольшымі зямельнымі наданнямі і княжацкай ласкай аказалася адорана царква Святой Варвары, якая знаходзілася ў слуцкім замку. Спачатку, у 1572 г., князь надаў ёй 10 дымоў[369]. Потым, у тым жа 1572 г., да ўгоддзяў Варварынскай царквы, па просьбе яе святара Малафея Стэфановіча, дадалі яшчэ востраў Забярвеча з ворыўнай зямлёй[370].

Запатрабаванасць у мёдзе і воску ў цэркваў заўсёды была вялікая, таму не дзіўна, што князі неаднойчы надавалі на карысць таго ці іншага храма бортнае дрэва. Так, у 1574 г. княгіня Слуцкая надала царкве Святога Мікалая засценак Замагілле з дрэвам бортным[371]. Толькі ў 1577 г. на ўтрыманне прытча сабарнай замкавай Успенскай царквы (папа Міны Васільевіча, дзякаў Фёдара і Якуба) розным ураднікам і слуцкаму войту было загадана даваць

штогод 4 бочкі жыта, па 3 вядры мёду, па 2 капы грошаў і сукна па 5 локцяў[372].

Шмат намаганняў надавалася і захаванню духоўнай спадчыны праваслаўных. У 1539 г. па даручэнні бацькі князя ў Трайчанскім манастыры перапісалі «Мінэю службовую», «Павучанні выбранніка», «Евангелле вучыцельнае».

Па ініцыятыве князёў Слуцкіх у пачатку 50-х гг. XVI ст. каралеўскаму бібліятэкару і паэту Станіславу Кашуцкаму быў даручаны пераклад твора Рэйнхарда Ларыхіуса «Пра выхаванне асоб, прызначаных для грамадскіх спраў». Фактычна гэты твор павінен быў стаць першым даступным падручнікам па выхаванні шляхты,ураднікаў і духоўных асоб. Пераклад быў завершаны да лета 1555 г., але кнігу надрукавалі толькі ў 1558 г. пад рэдакцыяй былога педагога князёў Слуцкіх Эразма Глічнера. У тым жа годзе ў Кракаве выйшаў уласны твор Глічнера «Кніжка пра выхаванне дзяцей» з пасвячэннем сваім выхаванцам, першы на гэтых землях педагагічны твор польскамоўнага аўтара[373].

Пры двары Юрыя Слуцкага ў 1575 г. знайшоў прытулак па вяртанні са Стамбула Мацей Стрыйкоўскі. Тут яго чакала не проста апека з боку князя, слугой якога ён сябе называў, але і карысная творчая атмасфера. Князь, які цікавіўся гісторыяй, што і было зразумела ў абставінах палітычнай барацьбы, дзе галоўнымі аргументамі былі паходжанне роду і традыцыя, «старына», ахвотна дапамагаў гісторыку ў яго пошуках.

Менавіта ў Слуцку быў напісаны знакаміты твор «Аб пачатках», ініцыятарам стварэння якога стаў князь Слуцкі[374]. У той час Мацей Стрыйкоўскі быў ужо аўтарам некалькіх друкаванавых прац. У Слуцку Стрыйкоўскі апрацаваў сабраныя раней гістарычныя матэрыялы, атрыманыя ім з розных шляхецкіх архіваў, у першую чар-



**Мацей Стрыйкоўскі.**
**Гравюра. 1582 г.**

гу Хадкевічаў. Дэдыкацыя, якая была размешчана перад творам, выдатна ілюструе тыя стасункі, якія звязвалі пісьменніка і князя Юрыя Юр'евіча. Стрыйкоўскі адзначаў, што ўсе народы, акрамя літоўскага, маюць дзякуючы гісторыкам свае хронікі[375]. У такой сітуацыі князь Юрый, які быў зацікаўлены ў пісьмовым, друкаваным доказе велічы свайго роду, аказаўся найлепшым апекуном для Стрыйкоўскага. У яго бібліятэцы рукапіс, ужо прыгатаваны да друку, быў пакінуты аўтарам і дачакаўся свайго выдання толькі ў 1978 г. У сваім звароце да князя ён паказваў, што Алелькавічы ў сваім родзе могуць знайсці прыклады розных годнасцей і велічы духу, параўноўваў князёў з антычнымі героямі. Дзякуючы дапамозе храніста, з моманту напісання яго працы гісторыя роду князёў Слуцкіх выйшла з ценю і паказала ўсім магутнасць яго прадстаўнікоў. Стрыйкоўскі спадзяваўся, што яго праца не толькі дапаможа скла-





Ktora przedtym nigdy swiatła nie widziała.

Kronika Polska Litewska / Zmodzka / y wszystkiey Rusi Kijowskiey / Moskiewskiey / Siewierskiey / Wołhinskiey / Podolskiey / Podgorskiey / Podlaskiey / etc.

MACIEIA OSOSTEWICIUSA STRY...

...tego Roku 1582.

Drukowano w Krolewcu u Gerzego Osterbergera.

M. D. LXXX

Тытульны ліст «Хронікі» М. Стрыйкоўскага

сці сапраўдную генеалогію князёў Слуцкіх, але і дакажа ўсім непрыяцелям апекуна справядлівасць яго прэтэнзій на высокае месца ў грамадстве[376].

У выніку нядоўгі, але плённы побыт пры двары Юрыя II быў прыпынены смерцю апекуна. Дзіўна толькі, што чалавек, набліжаны да князя, занатаваў у сваіх запісах дату смерці князя ў жніўні 1578 г., хаця тэстамент (а захаваўся яго арыгінал) быў напісаны 16 кастрычніка 1578 г.[377]. Тым не менш яго другі вялізны гістарычны твор, «Хроніка», выходзіць у 1582 г. з прысвячэннем сынам былога апекуна як спадчыннікам славы свайго роду[378].

Рэфармацыйныя працэсы на беларускіх землях закранулі пераважна праваслаўную шляхту, якая масава пачала пераходзіць у кальвінізм. У такіх абставінах князь Слуцкі сумесна з князем Канстанцінам Канстанцінавічам Астрожскім аказваюць актыўную падтрымку не толькі самім цэрквам і манастырам, але і праваслаўным асяродкам культуры. У Слуцку здаўна існавала майстэрня па перапісцы рукапісных кніг. Рэшткі яе твораў былі захаваны яшчэ ў пачатку XX ст. у розных цэрквах вакол Слуцка. Польскі мастацтвазнаўца Ё. Смаліньскі бачыў там застаўкі, кніжныя мініяцюры. Ён нават перамаляваў некаторыя з іх як найбольш яскравыя ўзоры твораў мясцовай мастацкай школы[379]. З-пад рук яе майстроў выйшла некалькі «Евангелляў», якія дайшлі да нашых дзён.

З другой паловы XVI ст. пры двары князя знайшлі падтрымку некалькі рэлігійных дзеячаў, якія актыўна ўдзельнічалі ў культурным жыцці ўсходнеславянскіх земляў. Асноўную ролю сярод іх адыгрываў «ерэтык», былы ігумен Троіцка-Сергіевага манастыра, старац Арцемій. У Маскве ён быў асуджаны як прыхільнік ерасі несцяжацеляў, сасланы ў Салавецкі манастыр, адкуль уцёк у ВКЛ. Уцякач з Маскоўскай дзяржавы заснаваў школу. Па сведчанні А.П. Грыцкевіча, у ёй выкладалі багаслоўе, царкоўнаславянскую, лацінскую і грэчаскую мовы[380]. Сам старац і яго гурток займаліся ў Слуцку перакладамі і перапісваннем рэдкіх помнікаў славянскай пісьменнасці, стваралі палемічныя і павучальныя пасланні на магнатаў і шляхту ВКЛ, выступалі з крытыкай пратэстантаў. Другі «масквіцін», наўгародскі тысячнік Марк (Умар) Васільевіч Сырахозін, займаўся больш традыцыйным кнігапісаннем пры двары князёў Слуцкіх і перакладамі з грэчаскай і лацінскай[381]. Пераважна гэта была перапіска прац «айцоў царквы»: Іаана Златавуста, Грыгорыя Багаслова, Кірыла Александрыйскага, пасланні апосталаў. Асабліва цеснымі былі сувязі гуртка старца Арцемія і Марка Сырахозіна з

колам праваслаўных інтэлектуалаў пры двары князя Андрэя Курбскага. Сваю задачу яны бачылі ў захаванні стараславянскай славеснасці і першапачатковых асноў праваслаўнага багаслоўя і былі накіраваны на барацьбу з ерассю — у першую чаргу пратэстанцкімі плынямі. Што цікава, нават самы знакаміты бяглец з Масквы перыяду Лівонскай вайны, былы сябра і паплечнік Івана IV князь Андрэй Курбскі, знаходзіўся на службе ў князя Слуцкага. Ён сам адзначаў у адным са сваіх лістоў да Марка Сырахозіна: «по килку сотъ копъ от его млсти княжати слуцкого юркгелту мнимаю»[382]. Магчыма, гэтыя грошы ішлі на падтрымку скрыпторыя, які Курбскі стварыў у атрыманым ад Жыгімонта Аўгуста маёнтку Міланавічы на Валыні. Ён настолькі высока цаніў веды і адукаванасць Сырахозіна, што спрабаваў пераманіць яго да сябе на службу[383].

У шлюбе з Кацярынай з Тэнчынскіх у Юрыя нарадзіліся тры сыны: Юрый, Ян Сімяон і Аляксандр, якія сталі апошнімі мужчынскімі прадстаўнікамі дынастыі Алелькавічаў. Некаторыя генеолагі прыводзяць узгадкі, што акрамя сыноў у князёў Слуцкіх было яшчэ дзве дачкі. Крыштаф Радзівіл Пярун у адным са сваіх лістоў да сына Януша напісаў, што падчас шлюбу з князем Слуцкім Кацярына толькі параніла трынаццаць разоў. Канешне, пры такім стане здароўя, частых цяжарнасцях і ўзроўні медыцынскай дапамогі казаць пра здаровых нашчадкаў цяжка. Вядома, што некаторыя параненні дзіцяці здараліся ўжо на вялікіх тэрмінах 7—8 месяцаў і былі выкліканы цяжкай дарогай, калі княгіня Слуцкая ехала да Любліна[384]. На жаль, у афіцыйных дакументах гэтая інфармацыя не сустракаецца. Гэта сведчыць толькі пра тое, што яны памёрлі, не дасягнуўшы паўналецця, калі б маглі ўспамінацца ў афіцыйных дакументах. Няма пра іх і ўзгадкі ў тэстаменце Юрыя, напісаным у Новым Двары падчас цяжкой хваробы за некалькі тыдняў да смерці 16 кастрычніка 1578 г.

Згодна з прынятымі звычаямі выхаваннем і адукацыяй сыноў займаўся бацька. Хлопцы былі ахрышчаны ў праваслаўе і атрымалі традыцыйную для многіх княжацкіх родаў хатнюю адукацыю. Як гэта ні дзіўна, князь Юрый Юр'евіч не ўводзіў сыноў у палітычнае жыццё. У іншых магнацкіх родах хлопцаў высылалі да вышэйшых двароў, каб яны набіраліся там вопыту, ці бралі іх разам з сабой на соймавыя пасяджэнні з 14—15 гадоў. Мы не знаходзім ні аднаго ўспаміну пра прысутнасць маладых князёў на палітычных мерапрыемствах таго часу. У 1576—1577 гг. падчас сваіх хвароб бацька мог бы высылаць да каралеўскага двара старэйшага сына для больш эфектыўнай абароны інтарэсаў роду. Аднак і гэтага не было зроблена. Палітычнай практыкі сыны Юрыя так і не атрымалі да яго смерці.

«Року того ж (78) в лістопаде дня 9 в день неделны умарл' княже его млт юрей слуцкій превелке богатства і скарбы собраные славный пан», — так пісаў пра смерць князя ў сваіх запісках наўгародскі падсудак Фёдар Еўлашоўскі[385]. Князь пакінуў аб'ёмісты тэстамент, дзе падрабязна не толькі распарадзіўся маёмасцю, але і выклаў праграму далейшага выхавання сыноў. Сам тэкст тэстамента з'яўляецца адзіным дакументам такога кшталту князя з роду Алелькавічаў-Слуцкіх, які захаваўся да нашага часу. Што цікава, яго ўдава не толькі паклапацілася пакласці тэстамент і ўпісаць яго ў актавыя кнігі Наўгародскага, Слонімскага і Ваўкавыскага паветаў, але і захавала арыгінал[386]. Таму тэстамент Юрыя II добра вядомы даследчыкам, яго змест неаднойчы коратка пераказваўся ў гістарычнай літаратуры[387] і будзе намі разглядацца ў наступнай главе.

Фармальнымі апекунамі маёмасці і сям'і князь Юрый пакінуў сваіх даўніх са-








**Апошняя старонка тэстамента Юрыя Юр'евіча Слуцкага.**
1578 г. AGAD. AR. Dz. XXIII. T. 116. Pl. 1

юзнікаў і родзіча Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага, князя Вішнявецкага і аднаго з багацейшых землеўласнікаў ВКЛ Яна Кішку. Сам тэкст тэстамента прыцягвае ўвагу адзнакай той ролі, якую адыграла ў жыцці князя Юрыя яго жонка. За час іх сямейнага жыцця яна сустракаецца толькі на старонках судовых працэсаў, па якіх прыносіла ў дом мужа дадатковыя багацці. Гэта значыць, што яе жыццё ніколі не давала ніякай падставы для кружэння плётак ці абвінавачванняў у непрыстойных паводзінах, што нярэдка сустракаліся ў тагачасным грамадстве. Пасля сваёй смерці, у якасці доказу сваёй павагі розуму, гаспадарчым і чалавечым якасцям жонкі, князь Слуцкі перадае пад яе кіраванне не толькі землі і дзяцей, але і ўсе бакі іх жыцця. Менавіта Кацярына вызначала, дзе, калі будуць вучыцца сыны, калі ім можна будзе даверыць кіраванне маёмасцю, з кім яны будуць браць шлюб. Яе ж клопатам аддаваліся цела і душа памерлага мужа.

Як і ўсе яго продкі, князь Юрый Юр'евіч пажадаў быць пахаваным ў Кіева-Пячэрскім манастыры, «ведлуг звычаю хрістіанского православнего». Прычынай выбару менавіта гэтага манастыра ён называе тое, што там былі пахаваны яго продкі і ляжыць цела бацькі. Што цікава, ніхто з князёў Алелькавічаў нават не пачынаў на працягу XV—XVI стст. стварэнне родавай усыпальніцы ў Слуцку. Калі для першых Алелькавічаў пахаванне ў Кіеве, дзе яны былі князямі, выглядала цалкам натуральна, то ў пазнейшы час гэта становіцца справай прэстыжу і падкрэслівання амбіцый. Прыцягальнасць Кіева-Пячэрскага манастыра для князёў Алелькавічаў-Слуцкіх можна растлумачыць пахаваннем там першых трох пакаленняў прадстаўнікоў гэтага роду. Нездарма пераважная большасць фундушаў, нададзеных князямі Слуцкімі ў канцы XV — першай палове XVI ст., ідзе на карысць Лаўры.

І гэта нягледзячы на тое, што Кіеў не ўваходзіў у сферу ні маёмасных, ні палітычных інтарэсаў князёў Алелькавічаў ужо з канца XV ст. Размова тут можа ісці толькі пра стаўленне да Кіеўскага манастыра як да праваслаўнай святыні і месца, пахаванне ў якім можа спрыяць выратаванню душы. Згодна з канцэпцыяй Кіева-Пячэрскага пацерыка, вядомага з XV ст., Гасподзь паабяцаў заснавальнікам манастыра, што ўсе пахаваныя ў манастырскай зямлі і прыняўшыя пострыг грэшнікі будуць выратаваны і пабачаць Царства Нябеснае («постригшись тамъ в монастыре, окончите свою жизнь, — и я вамъ дамъ милость Мою въ будущей жизни, по мо-

літвамъ этихъ строителей Антонія и Феодосія»[388]). Род князёў быў занесены да самага старажытнага з памяннікаў манастыра, якія дайшлі да нас, і такім чынам малітва за прадстаўнікоў гэтага роду павінна была быць «вечнай»[389].

Толькі князі маглі быць пахаваны ва Успенскім саборы, які быў заснаваны «по повелению Небесной царицы»[390], на месцы, паказаным Богам у Тройцы. Такім чынам, сам сабор запяспечваў сакральнасць месца вечнага адпачынку князёў і быў сімвалам вечнасці іх прытулку. Князь Сямён Алелькавіч, які і аднавіў Успенскі сабор, быў пахаваны побач з труной Феадосія, заснавальніка Лаўры. У выніку ў паўднёва-заходняй частцы Успенскага сабора Кіева-Пячэрскага манастыра была створана родавая ўсыпальніца князёў Алелькавічаў. Як паказалі апошнія археалагічныя і антрапалагічныя даследаванні ўкраінскіх вучоных, знаходзілася яна ў адной з крыптаў сабора, дзе было пахавана не менш васьмі прадстаўнікоў гэтага роду.

А. Кальнафольскі ў сваёй «Тэратургіме» адзначаў, што акрамя кіеўскага князя там былі пахаваны яго бацька князь Алелька Уладзіміравіч, сын Васіль Сямёнавіч і Юрый II Юр'евіч Слуцкі. Вопіс пакроваў на княжацкіх і панскіх трунах, складзены Л. Чыжом у 1554 г., дазваляе дакладна вызначыцца з пахаваннямі некаторых прадстаўнікоў гэтага княжацкага роду. Там сказана: «Князя Семена Олелковича злотоглавъ, крестъ на немъ перловый. Князя Слуцкого алтабасъ крестъ на немъ перловый, а оксамитъ червоный на золоте, крестъ на нем сребреный позлотистый, Князей Ярославичовъ тры злотоглавы скресты перловыми»[391], і гэта прытым, што прайшло ўжо дванаццаць гадоў з апошняга пахавання.



**Успенскі сабор. Кіева-Пячэрская лаўра.**
**Гравюра. Л. Тарасевіч. 1702 г.**

Юрый Юр'евіч Алелькавіч князь Слуцкі стаў апошнім прадстаўніком гэтага славутага роду, пахаванага ва Успенскім саборы Кіева-Пячэрскай лаўры. Пахаванне, як гэта было падкрэслена ў тэстаменце, мусіла адправіць яго жонка па праваслаўнаму ўзору.

Смерць князя Слуцкага не проста азначала змену пакаленняў князёў Слуцкіх, яна была знакам канца цэлай эпохі. Змены сярэдзіны XVI ст. паказалі, што разлік на традыцыю ўжо не дае палітычных дывідэндаў, а вялізныя багацці не гарантуюць захавання ўплыву на палітычныя справы і ўваходжання ў эліту. Яго жыццё і дзейнасць былі апошнім усплёскам, водгукам магутнасці роду князёў Алелькавічаў, былых прэтэндэнтаў на велікакняжацкі сталец, родзічаў каралёў.







Знойдзеныя на дадзены момант крыніцы не дазваляюць нам цалкам аднавіць жыццёвы шлях апошняга мужчынскага пакалення князёў Слуцкіх. Сёння невядомы нават дакладны час нараджэння двух малодшых з іх. Устаноўлена толькі дата нараджэння першынца, якому далі традыцыйнае ў родзе для старэйшага сына імя Юрый, — 17 верасня 1559 г.

Другі сын быў названы зноў жа прынятым сярод князёў Алелькавічаў імем — Сямён. Малодшы атрымаў імя ў гонар заснавальніка роду, ад якога і пайшло родавае прозвішча, — князя Аляксандра Уладзіміравіча.

Удакладніць біяграфічныя звесткі пра князёў Алелькавічаў можна паспрабаваць па ўскосных дадзеных. Па тэстаменце бацькі, напісанаму ў 1578 г., усе сыны былі пакінуты пад апекай маці і прызначаных бацькам апекуноў. У той жа час гэты факт не сведчыць, што яны на момант напісання тэстамента былі непаўналетнімі. Бацька пакінуў прызнанне іх паўналетнімі на досвед маці, нягледзячы на тое, што старэйшаму сыну на час складання апошняй волі бацькі было ўжо дзевятнаццаць гадоў, а сярэдні мог набліжацца да свайго васямнаццацігоддзя. Хлопцы не станавіліся паўналетнімі аўтаматычна па дасягненні ўзросту, прапісанага ў адпаведных артыкулах Статута ВКЛ 1566 г.: «а зъ часомъ слушным недбаючи на лета статутовые которые около опеки написаны *сут* але *аж* кгды вжо до *лет* своих сталых статочных придутъ»[392]. Згодна з артыкулам Статута ВКЛ 1566 г., мужчыны дасягалі паўналецця ў 18 гадоў, але бацьку маладых князёў Слуцкіх здавалася, што гэта вельмі малады ўзрост, каб перадаваць хлопцам кіраванне маёмасцю. Трэба заўважыць, што такое меркаванне было распаўсюджана ў тагачасным грамадстве. Маладым шляхцічам пачыналі даваць адносную самастойнасць не раней як за 20—24 гады, асабліва калі былі жывыя бацькі. Таму першы юрыдычны акт, дзе браты выступаюць разам, яны падпісваюць з маці. Амаль адразу пасля смерці бацькі 22 снежня 1578 г. яны сумесна далі ліст служэбніку Юрыя II Юр'евіча Слуцкага Войцеху Кутылоўскаму на замену ўрочышча Узгвохлавічы маёнтка Выжненскі на грунты ў маёнтку Жыліхоўскі[393].



**Князі Слуцкія Юрый, Ян Сіміон і Аляксандр.**

**Гравюра з твора Б. Папроцкага «Гняздо цноты». 1579 г.**





Яшчэ адным пацвярджэннем таго, што з пункту гледжання закона князь Юрый III Юр'евіч быў паўналетнім, стала выданне каралём Стэфанам Баторыем прывілея на Магілёўскае староства для ўдовай княгіні Слуцкай і яе сына як старэйшага мужчыны ў родзе ў 1579 г.[394] Барташ Папроцкі ў сваім знакамітым генеалагічным зборніку «Гняздо цноты» пазначыў пад партрэтамі маладых князёў Слуцкіх іх узрост. Пад выявай князя Юрыя напісана «wieku jego 19», князя Сямёна — «wieku jego 18», князя Аляксандра — «wieku jego 15»[395]. Твор Папроцкага выйшаў у 1578 г., і гравюры, хаця і рабіліся дастаткова адвольна і знайсці ў тварах персанальнае падабенства вельмі цяжка, у подпісах маюць актуальную інфармацыю. З гэтага вынікае, што малодшыя сыны нарадзіліся ўжо пасля 1560 г.

Такім чынам, можна лічыць, што Сямён нарадзіўся ў канцы 1560 — пачатку 1561 г. (дарэчы менавіта ў пачатку восені 1560 г. памёр яго дзядзька князь Сямён Юр'евіч Слуцкі і хлопца маглі назваць у яго гонар), а Аляксандр — у 1562—1563 гг.

Час прызнання хлопцаў дарослымі прыпадаў на 1581—1582 гг., бо менавіта неабходнасцю дачакацца іх сталення і ажыццявіць падзел маёмасці адгаворвалася Кацярына з Тэнчынскіх ад прапаноў паўторнага замужжа.

Пра дзіцячыя гады трох братоў мала што вядома. Падобна на тое, што правялі яны іх у Слуцку. Там яны атрымалі традыцыйнае для прадстаўнікоў праваслаўных родаў хатняе выхаванне, без наведвання школ. Адсутнасць універсітэцкага дыплома ці не наведванне ўніверсітэта не азначала нізкага ўзроўню адукацыі магнатэрыі, як нярэдка спрабуюць прадставіць некаторыя польскія даследчыкі. У першай палове — сярэдзіне XVI ст. сярод вышэйшых ураднікаў ВКЛ не было ні аднаго, які б атрымаў дыплом ці цалкам праслухаў курс лекцый ва ўніверсітэце. Для навучання шляхецкіх дзяцей менш заможных колаў запрашаўся настаўнік з універсітэцкім дыпломам бакалаўра («бакалажа», як пісалі ў дакументах), які вучыў дзяцей чытаць, пісаць і лічыць. Гувернёрамі ў магнатаў служылі не толькі выпускнікі ўніверсітэтаў, якія ведалі некалькі моў, самі падарожнічалі па заходнееўрапейскіх краінах, але і знакамітыя вучоныя, якія пазней прысвячалі сваім выхаванцам філасофскія, багаслоўскія і педагагічныя трактаты. Яны не толькі давалі падапечным пачаткі класічных моў, але і знаёмілі іх з філасофіяй, красамоўствам, традыцыямі і звычаямі розных краін. Да паслуг гувернёраў і іх падапечных была знакамітая бібліятэка князёў Слуцкіх з каштоўнымі гістарычнымі рукапісамі і сучаснай ім літаратурай.

Несумненна, з дзяцінства браты добра валодалі як «рускай», так і польскай мовай. Пры двары знаходзілася шмат слуг — палякаў. К. Нясецкі называе выхавацелем маладых князёў Слуцкіх нейкага Андрэя Мікалаевіча Кослу (?—1589). Ён паходзіў з заможнага кракаўскага мяшчанскага роду, за якім прызнавалі шляхецтва[396]. На службу Косла быў прыняты хіба па рэкамендацыі Тэнчынскіх, з якімі будзе звязаны да сваёй смерці. Пры маладых князях ён знаходзіўся да іх ад'езду ў замежнае падарожжа, а потым стаў адным з намеснікаў іх маці Кацярыны з Тэнчынскіх. У 1581—1585 гг. Косла быў старастам найбольш значнага ўладання Кацярыны з Тэнчынскіх у Польскай Кароне — Красніка[397]. Невялікая колькасць захаваўшыхся лістоў бацькі сведчыць, што ў паўсядзённым жыцці ён карыстаўся польскай мовай. У той жа час бацькі свабодна пісалі (калі была ў гэтым патрэба) і кірыліцай[398]. Маці, Кацярына з Тэнчынскіх, якая паходзіла са знакамітага малапольскага роду, таксама пісала па-







**Андрэй Косла.**
**Краснік. Парафіяльны касцёл. 1594 г.**

польску і па-«руску». Кірылічных аўтографаў саміх маладых Алелькавічаў не захавалася. Малодшыя цалкам перанялі польскую культуру з выкарыстаннем польскай мовы і арганізацыяй пэўнага ладу жыцця.

Князь Юрый II добра бачыў змены ў грамадстве. Яго прапольская палітыка, якая была накіравана на падтрымку заключэння дзяржаўнай уніі з Польшчай, прывяла да варожасці з боку магнацкіх родаў ВКЛ, у першую чаргу Радзівілаў, у дачыненні да князя. Жаданне атрымаць спадчыннае месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай выклікала незадавальненне і супраціўленне польскіх сенатараў і паслоў. У выніку Люблінскай уніі князі Слуцкія страцілі значна болей, чым набылі. Страта пасля Люблінскай уніі традыцыйнага месца ў Сенаце паказала неабходнасць стварэння моцнай палітычнай партыі з ліку мясцовых шляхцічаў, якія б маглі падтрымаць намаганні князёў Слуцкіх на земскіх сойміках і вальным сойме. Для атрымання высокіх дзяржаўных урадаў таксама была неабходна падтрымка, але ўжо сярод сенатараў і міністраў ВКЛ, якой не меў Юрый II.

Унутраная палітыка двара Стэфана Баторыя таксама паказала, што палітычны ўплыў праваслаўных сем'яў, нягледзячы на іх багацце і роднасць з Ягелонамі, змяншаўся. Паходжанне ўжо не давала тых пераваг, як раней. Стаў недастатковым узровень традыцыйнай адукацыі, які не мог супернічаць з падрыхтоўкай, што давалі езуіцкія школы і адукацыйныя падарожжы. У ваенных адносінах краіна сутыкнулася з новым ворагам — Турцыяй, барацьба з экспансіяй якой на землі Аўстрыі і Венгрыі патрабавала новых стратэгій і тактыкі. Гэта разумелі такія лідары праваслаўя, як князі Юрый II




Алелькавіч-Слуцкі і Канстанцін Астрожскі, прадстаўнікі родаў, якія традыцыйна ўзначальвалі войскі ВКЛ. Фактычна адначасова яны прымаюць рашэнне накіраваць сыноў у падарожжа па краінах Заходняй Еўропы з наведваннем імператарскага двара ў Празе ці Вене.

Праваслаўныя падданыя ВКЛ падарожнічалі па краінах Заходняй Еўропы і ў больш ранні час, але гэта былі хутчэй выключэнні. Адным з першых праваслаўных падарожнікаў быў Солтан Аляксандравіч. Ён у 1467—1469 гг. наведаў імператарскі двор у Вене, быў у Парыжы, Рыме, дзе нават атрымаў аўдыенцыю ў Рымскага Папы. Мэтай яго падарожжа, як было напісана ў яго суправаджальных паперах, стала пакланенне святым месцам[399]. Фактычна гэта было першае паломніцтва праваслаўнага магната.

Малая колькасць выездаў шляхецкай моладзі з зямель ВКЛ за мяжу ў XV — пачатку XVI ст. была звязана як з аддаленасцю саміх універсітэтаў, так і з вельмі высокімі коштамі падарожжа. Сітуацыя рэзка змянілася з 30-х гг. XVI ст. У часы Рэнесансу і Рэфармацыі выезды да ўніверсітэцкіх цэнтраў набылі асаблівую папулярнасць і сталі значным элементам агульнай культуры. Не апошнюю ролю ў гэтым працэсе адыграла распаўсюджванне ідэй Рэфармацыі і прыхільнасць да іх магнатаў-пратэстантаў. Веравызнанне і патрабаванні палітычнай сітуацыі былі першаснымі і істотнымі матывамі, якія браліся пад увагу пры выбары месца ці маршрута падарожжа. Менавіта на XVI — першую палову XVII ст. прыпадае самая вялікая колькасць студэнтаў з ВКЛ у Заходняй Еўропе. У выніку адбываецца выразная пераарыентацыя прадстаўнікоў праваслаўных родаў (Хадкевічаў, Сапегаў) на заходнееўрапейскую мадэль выхавання і ладу жыцця і іх адыход ад праваслаўя.

Юрый II Алелькавіч вырашыў накіраваць сыноў у адукацыйнае падарожжа за мяжу, дзе яны былі павінны завязаць карысныя сувязі пры дварах еўрапейскіх манархаў, атрымаць новыя веды ў палітычных і ваенных навуках. Такім чынам, бацька пачынае рыхтаваць сыноў да палітычнай кар'еры, якая раней нікому з прадстаўнікоў роду не была патрэбна. Атрыманне пры нараджэнні статусу князя крыві ўжо гарантавала ўдзел ва ўнутрыпалітычным жыцці краін на самым высокім узроўні. Пры жыцці бацька зрабіць гэтага не паспеў, бо жадаў адправіць усіх сыноў разам і чакаў, пакуль падрасце малодшы сын. Для гэтага ён пакінуў адпаведныя распараджэнні ў тэстаменце. Князь Юрый II Слуцкі пісаў: «въ дому наука вельце пожитечна есть ведже тымъ веньце которые за молод*ы*х летъ сво*и*х припа*т*риваючысе поступъкомъ рыц*е*рскимъ посторони*н*ныхъ краевъ звеедываючы болшая довтипность з ласки милого Бога бывa Ако ты*м* которые не тылко слышенемъ албо з писма читанемъ але и очима своими огледали. Пре то ее *мл* кнежна малъжонка моя сыновъ наши*х* всихъ тро*х* безмешканя до посторонъни*х* па*н*ствъ и краевъ ку видзенѣ? света и твиче*н*ю в рыц*е*рски*х* реча*х* выправитит на певны*й* ча*с* на три а при*й*намне*й* на *д*ва роки зъеднав*ъ*ши *им* якого доброго го*д*ного за*ц*ного почетивого и бывалого чоловека которые абы при ни*х* тамъ мешкаючи яко здоро*в*я такъ и стану *их* княже*ц*кого и всего почетивого хованя пилне престрекга*л*»[400].

Паколькі Юрый II толькі выказаў пажаданне накіраваць сыноў за мяжу, распрацоўка маршрута падарожжа лягла на плечы маці і апекуноў. Такім распараджэннем бацькі скарысталіся езуіты. Менавіта ў 1579 г. да двара Стэфана Баторыя прыбывае папскі нунцый Джавані Андрэй Калігары. У яго задачу ўваходзіла супрацьстаянне Рэфармацыі на тэрыторыі Рэчы

Паспалітай і збор звестак пра палітычныя і грамадскія працэсы ў Рэчы Паспалітай, Трансільваніі і Маскоўскай дзяржаве. Не апошняй мэтай яго місіі было правядзенне прапаганды каталіцкай веры сярод заможных праваслаўных родаў[401].

Большасць арыстакратычных шлюбаў у ВКЛ была поліканфесійнай, і дзеці з маленства былі знаёмыя з рознымі хрысціянскімі канфесіямі. Нярэдка жонкі не толькі захоўвалі сваё веравызнанне пасля выхаду замуж, але і мелі права выхоўваць у сваёй рэлігіі дзяцей (звычайна дачок). Гэта стварала спрыяльную глебу для абарачэння ў каталіцкую веру праваслаўных і пратэстантаў. Поспех у вяртанні ў каталіцтва старэйшага сына лідара пратэстантаў Мікалая Радзівіла Чорнага Мікалая Крыштафа Радзівіла паказаў, што ў грамадстве ВКЛ назіраецца пэўны духоўны крызіс, які можна выкарыстаць для разгортвання шырокай прапаганды каталіцтва. Па прыездзе ў Рэч Паспалітую папскі нунцый пачаў перамовы з родзічамі каталіцкага веравызнання прадстаўнікоў родаў Хадкевічаў, Сапегаў, князёў Астрожскіх і Алелькавічаў. Яго дзейнасць аказалася настолькі паспяховай, што да каталіцтва сталі схіляцца малодшыя пакаленні князёў Астрожскіх і Алелькавічаў. Нават хадзілі чуткі пра прыняцце князем Юрыем III Фларэнтыйскай уніі.

У маі 1579 г. да княгіні Слуцкай Кацярыны з Тэнчынскіх з місіяй быў дасланы знакаміты прапаведнік езуіта Пётр Скарга, будучы стваральнік і рэктар Віленскай езуіцкай акадэміі. У яго задачу ўваходзіла перадаць княгіні Слуцкай ліст ад Папы Рымскага і абмеркаваць з ёй далейшы лёс яе сыноў[402]. Пантыфік быў упэўнены ў поспеху намаганняў у справе прыняцця маладымі князямі Слуцкімі каталіцтва. Лічылася, што яны змогуць стаць прыкладам для іншых праваслаўных. Для гэтага




**Пётр Скарга.**

**Невядомы мастак. XVII ст.**

прапаноўвалася некалькі мерапрыемстваў. Па-першае, атрыманне братамі Алелькавічамі каталіцкай адукацыі. Княгіні прапанавалі накіраваць сыноў ці ў Рым, дзе ў калегіуме Германікум навучаліся сыны нямецкіх князёў і электараў, ці ў езуіцкія школы ў Вене, Празе і Аламоўцы. Там было заснавана некалькі стыпендый для асоб, што прынялі каталіцтва. Па-другое, накіраванне хаця б некалькіх чалавек з праваслаўнай моладзі ў езуіцкі калегіум у Брунсбергу (Браўнсберг)[403]. Калегіум у Брунсбергу прызначаўся ў першую чаргу для ўраджэнцаў Маскоўскай дзяржавы, ці, як называлі іх у Ватыкане, «для сыноў маскоўцаў, русінаў і татар» для наступнай місіянерскай дзейнасці на ўсходнееўрапейскіх землях[404].












**Кацярына з Тэнчынскіх княгіня Слуцкая.**
**Невядомы мастак. 1579—1582 гг.**

Пётр Скарга адпісаў у чэрвені 1579 г. папскаму нунцыю Антоніа Пасевіна, што яго місія мела поспех. Наогул, Кацярына з Тэнчынскіх захавала прыязнь да езуіта да канца свайго жыцця. Па яго патрабаванні яна перастала прымаць святы сакрамант у двух відах, характэрных для праваслаўнага богаслужэння, як рабіла ўвесь час пасля замужжа. Паколькі яе бабка была праваслаўнай, Кацярына ведала праваслаўную абрадавасць і часткова прытрымлівалася яе, жывучы ў Слуцку. Княгіня Слуцкая з вялікай радасцю атрымала ліст ад святога айца і цалкам пагадзілася з яго прапановамі па падтрымцы каталіцкай веры ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Княгіня дала згоду на канверсію сыноў. Больш таго, яна сама вельмі прагнула іх пераходу ў каталіцтва, але скардзілася, што не мае памочнікаў у гэтай справе. Яна была звязана воляй памерлага мужа, які пад пагрозай пазбаўлення спадчыны забараніў сынам мяняць веру. На практыцы змена веравызнання не пагражала магчымасці атрымаць спадчыну. Гэта быў хіба зварот да сумлення сыноў і пагроза бацькоўскага праклёну. Судовая сістэма ВКЛ дзейнічала па іскаваму прынцыпу. Пакуль ніхто з родзічаў ці магчымых спадкаемцаў ня звернецца ў суд, справа разглядацца не будзе. Акрамя таго, згодна з артыкуламі Статута ВКЛ 1566 г., змена веры на каталіцкую не была б прызнана суддзямі дастатковай прычынай для пазбаўлення спадчыны.

Маці не хацела націскаць у гэтай справе на сыноў, але пагадзілася падрыхтаваць іх да ідэі змены веры. Да таго ж яна не хацела канфлікту, які выбухнуў у сям'і князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага, калі яго старэйшы сын Януш прыняў каталіцтва пры імператарскім двары ў Вене[405]. У адказ на «здраду» сына стары князь прымусіў малодшых сыноў прынесці прысягу, што яны праваслаўнай веры не пакінуць[406]. Паколькі князь Астрожскі быў апекуном маладых князёў Слуцкіх, маці баялася яго рэакцыі, калі яны зменяць веру. Княгіня Слуцкая пісала, што адхіленні ад праваслаўя яна ў сыноў бачыць, і таму можна з упэўненасцю казаць пра іх канверсію. Фактычна яна прапанавала заняцца прапагандай канверсіі падчас падарожжа ў Германію і Італію. Яна сама магла выбіраць маршрут і спадзявалася, што падарожжа сыноў і атрыманне імі каталіцкай адукацыі стануць тым штуршком, які і прывядзе да прыняцця каталіцтва[407].

Непасрэдна прыняць удзел у прапагандзе каталіцтва сярод праваслаўнага насельніцтва яна адмовілася, бо пасля размовы са Скаргам яна па маёмасных справах была павінна ад'ехаць у Польшчу. У якасці падтрымкі ідэі навучання ў езуіцкіх школах праваслаўнай моладзі яна пагадзілася накіраваць у Брунсберг прыроднага сына

свайго мужа. Вельмі цікавая ўзгадка, бо ў тэксце было падкрэслена «naturalis»[408], а гэта значыць, што акрамя трох сыноў ад Кацярыны Тэнчынскай у князя Юрыя II быў яшчэ адзін, можа, пазашлюбны сын. Акрамя таго, княгіня Слуцкая паабяцала падтрымаць некалькі здольных юнакоў пры іх прыняцці ў каталіцкія манаскія законы ў Вільні, узяўшы на сябе фінансавыя выдаткі па іх навучанню[409].

Зацікаўленасць у пераходзе ў каталіцтва князёў Слуцкіх выдатна растлумачыў сам Пётр Скарга, калі даў у сваім лісце характарыстыку не столькі людзям, колькі іх уладанням. Вось як ён апісваў Антонію Пасевіна валоданні князёў Слуцкіх: «Усё княства слуцкае не дасягае маскоўскай мяжы, але цягнецца больш ва ўсходнія накірункі да ўладанняў Турцыі, спалучаецца з Кіевам па тячэнню ракі Случ, якая ўпадае ў Прыпяць і Барысфен. Сам горад Слуцк найвялікшы, самы населены і добра ўмацаваны. Гандляры мяшчане багатыя, усе дзікія схізматыкі, якія пераважна гандлююць з Турцыяй, часта даязжаючы да Канстанцінопаля, менш (сярод іх) гандлююць і з Масквою. У горадзе ёсць адзіны каталіцкі храм і чатыры ці пяць на ўсё княства каталіцкія парафіі. Княства ўсё мае 40 польскіх міль у шырыню і даўжыню. Хаця ў многіх частках ёсць пусткі і неапрацаваная зямля, кажуць, што яно дае прыбытак сабраным чыншам у 70 тысяч коп грошаў літоўскіх, якія адпавядаюць 150 тысячам рэйнскіх фларэнаў, за выключэннем падатку і ўтрымання. Падданыя ўсе дзікія схізматыкі, хаця сярод іх ёсць і немала католікаў»[410].

Маршрут падарожжа, узгоднены з папскім нунцыем, прадугледжваў вялікае еўрапейскае турнэ для малодшых братоў Алелькавічаў. Андрэй Тэнчынскі, белзскі ваявода, паведаміў Пасевіна, што князь Аляксандр хацеў бы наведаць Францыю, Іспанію і нават Англію[411], хаця пазней яго падарожжа прайшло праз Чэхію, Германію і Італію.

Летам 1579 г. браты Алелькавічы — князі Юрый, Аляксандр і Сямён — у суправаджэнні шляхцічаў выехалі за мяжу. Суправаджэнне мусіла дэманстраваць грамадскае становішча падарожніка і адначасова ахоўваць і абслугоўваць яго ў дарозе. Найбольшую колькасць суправаджаючых асоб складала чэлядзь, якая наглядала за конямі, везла скарб і дапамагала пры ўладкаванні на доўгі час у нейкім месцы (вазніцы, кухары, машталеры, кур'еры і г. д.). З-за высокіх коштаў утрымання аршакі для замежных падарожжаў імкнуліся зменшыць да мінімуму ад 8 да 12 чалавек разам з гаспадаром. Аднак нават за самымі малымі групамі падарожнікаў (з 7—8 чалавек) ехала некалькі вазоў з рэчамі і ішлі дадатковыя коні[412].

Як правіла, разам з магнатамі адукацыю за мяжой атрымоўвалі небагатыя шляхцічы і нават мяшчане, якія суправаджалі нашчадкаў багатых родаў у іх падарожжах у Заходнюю Еўропу. Па вяртанні менавіта яны станавіліся крыніцай, з якой фарміраваліся асяродкі прыдворнай культуры ў ВКЛ. Традыцыйнымі ўніверсітэцкімі цэнтрамі ў Германіі, дзе навучалася найбольшая колькасць моладзі з ВКЛ і Польшчы, былі ўніверсітэты ў Альтдорфе, Лейпцыгу, Хайдэльбергу і Інгальштаце. У Італіі іх больш за ўсё прываблівалі ўніверсітэты ў Падуі і Балонні[413]. Колькасць прадстаўнікоў Рэчы Паспалітай у Італіі была настолькі вялікая, што слуга князя Юрыя III нават скардзіўся, што не можа знайсці месца без палякаў, дзе б мог спакойна правесці зіму: «Рад бы такое месца знайсці, дзе бы палякаў не было, але не могу такога прыдумаць, бо паўсюль іх поўна, а асабліва ў тых значных месцах, а адзін другому так перашкаджае, што ўсе нічога не робяць, а жыць у тых месцах не вялікі гонар»[414].









ЮРЫЙ

Юрый выехаў разам з малодшымі братамі Сямёнам і Аляксандрам[415]. Падарожнічалі яны з аршакам каля трыццаці чалавек на чале з ахмістрам. Ахмістр, ці старшы слуга, узначальваў падарожны двор маладога магната. Ён быў павінен вырашаць арганізацыйныя пытанні падарожжа: арганізоўваць пераезды і адпачынак свайго гаспадара і слуг, рабіць закупкі прадуктаў харчавання, адзення, весці рахункі, сачыць за паводзінамі слуг і выкананнем імі сваіх абавязкаў. У дарозе многія з іх сумяшчалі адразу некалькі функцый. Слуга мог адначасова быць вазніцай, конюхам, кур'ерам, ахоўнікам. Ахмістр звычайна прызначаўся апекунамі з ліку найбольш даверанных служэбнікаў, бо менавіта на ім ляжала адказнасць за маладога гаспадара. Справаздачы і рахункі накіроўваліся ім непасрэдна апекунам падарожніка. У той жа час ні адзін з вядомых на сёння выездаў за мяжу прадстаўнікоў магнатэрыі як Вялікага Княства Літоўскага, так і Польшчы не суправаджаўся такой колькасцю асоб, як падарожжа князёў Алелькавічаў.

Не ўсе суправаджаючыя асобы выехалі разам з братамі са Слуцка. Частка дваран была ўзята на службу па дарозе, магчыма, у Кракаве. Пераважна гэта датычылася акружэння малодшых братоў — дваран і гувернёраў (прэцэптараў). Грошы самой моладзі на рукі не даваліся, імі распараджаліся ахмістры і гувернёры. Апошнія былі павінны не толькі сачыць за паводзінамі маладых людзей, але і выкладаць ім мовы, быць пасрэднікамі ў перамовах пры еўрапейскіх дварах, даваць справаздачы пра поспехі падапечных у навучанні. У іх падборы заўважана адна тэндэнцыя: усе яны паходзілі з Польшчы і да слуцкага двара патрапілі праз Кацярыну з Тэнчынскіх. Пасля смерці мужа ўдава пераклала фінансавыя і гаспадарчыя клопаты, у тым ліку і суправаджэнне сыноў, на сваіх даверанных асоб, а не кліентаў мужа. Пры выбары служэбнікаў і таварышаў маладым магнатам у аршак звярталася ўвага на, як адзначаў польскі храніст Марцін Кромер, «здольнасць да паслуг, вонкавы выгляд, прыгажосць, лад жыцця і паходжанне»[416].

Ехалі браты праз Вроцлаў. У гэтым памежным сілезскім горадзе закупляліся рэчы для далейшага падарожжа, шылася адзенне па заходнееўрапейскаму ўзору аднаго колеру і фасону. Фактычна замаўлялася ліўрэя, якая б сведчыла пра прыналежнасць іх гаспадара да слаўнага княжацкага роду[417]. Гэта было неабходнасцю, якую вымагала княжацкая годнасць Алелькавічаў. Марцін Кромер так пісаў пра гэты звычай: «Уважаюць за рэч вельмі ганаровую, калі шляхціч ці таксама нявеста з шляхецкага роду з'яўляецца публічна ў акружэнні мужской службы, пані ці таксама ў таварыстве служэбніц. Для гэтай мэты кожны трымаў пры сабе ў дому столькі пахолкаў, наколькі яму хапае, а ў дадатку практыкуецца паўсюль звычай апранання іх у вопратку аднаго крою і колеру, не без вялікіх коштаў і пыхі»[418].

Часта маладыя шляхцічы з зямель ВКЛ наведвалі гімназію, якая дазваляла падрыхтавацца да навучання ва ўніверсітэце. Ва Вроцлаве Алелькавічы прабылі два месяцы, рыхтуючыся да выезду ў краіны Заходняй Еўропы. Магчыма, браты наведвалі знакамітую гімназію Святой Лізаветы, прэцэптар якой Андрэй Калігіус быў вялікім паланафілам[419]. У гонар маладых Алелькавічаў гэты знакаміты сілезскі паэт, які жыў пераважна за кошт сваёй літаратурнай працы і навучання маладых арыстакратаў, напісаў некалькі твораў. Старэйшаму брату быў прысвечаны асобны невялікі твор «Illustrissimo principi ac Domino Georgio, <...> Duci Slucensi et Copulensi», які быў выдадзены ў выглядзе ўлётнага лістка[420].




**Вроцлаў.**

**Гравюра з «Вялікай хронікі свету» Шэдэля. 1493 г.**







Пасля Вроцлава шляхі братоў разышліся. Разам з князем Юрыем паехалі Мікалай Пшонка Стшэшкоўскі[421], прызначаны ахмістрам, Іван Бака, шляхціч Навагрудскага павета, Ян Бараноўскі (Ежыковіч), нейкі пан стараста і слугі, у тым ліку карлік. Выхавацеля да яго, ужо дарослага чалавека, не прыставілі. Юрый праз нямецкія землі накіраваўся ў Італію. У адрозненне ад братоў, праграма падарожжа якіх прадугледжвала навучанне ва ўніверсітэтах, князь Юрый ехаў выключна з прадстаўнічымі намерамі. Яго паездка была разлічана на меншы, чым у братоў, тэрмін, на 1—1,5 года.

Асноўнай цяжкасцю ў прэзентацыі сябе як князя і прадстаўніка старажытнага роду, родзіча польскіх каралёў, з якой сутыкнуўся малады князь, стала фінансавае пытанне. Спачатку Юрый хацеў з гонарам прадставіць свой род — прыстойна ўтрымліваць слуг, мець багаты стол, але яго намерам годна паказаць сябе не было дадзена рэалізавацца.

Перадача Кацярынай з Тэнчынскіх усіх грашовых сум і паўнамоцтваў па іх выкарыстанню сваёй даверанай асобе прывяла да канфлікту паміж ахмістрам і князем. Незадавальненне пачало нарастаць яшчэ падчас падарожжа па Польшчы і Сілезіі, калі ахмістр без нарады з князем на ўласны густ замовіў ва Вроцлаве верхняе адзенне (шаты) для ўсяго аршака з сукна брыдкага колеру і вельмі нетрывалае. З-за закупкі, на думку князя, непатрэбных рэчаў дрэннай якасці ў далейшым падарожжы ён панёс шкоды на паўтары тысячы злотых[422].

Свайго піка супрацьстаянне маладога князя і слугі маці дасягнула ў Італіі. Фактычна князь Юрый, які так акрэсліваў свой характар: «я прыроду маю, абразы не церпячай, да гневу схільнай», на працягу амаль года цярпеў злоўжыванні даверанай асобы княгіні Слуцкай. Незадавальненне паводзінамі старэйшага слугі, яго пыха і ўпэўненасць у сваёй непакаранасці вымусілі князя Юрыя напісаць да маці гнеўны ліст на васьмі старонках, дзе ён апісаў усе свае прыгоды ў Германіі і Італіі і крыўды, якія яму нанёс слуга[423]. Ліст, накіраваны з Мілана, надзвычай эмацыянальны, і адразу бачна, што пісалі яго пад дыктоўку чалаве-





ка, які не стрымліваў свае пачуцці і хацеў апраўдацца перад маці. Князь меў вялікае падазрэнне, што яго папярэднія лісты да маці не дайшлі, а яна робіць высновы пра марнатраўства сына і яго непачцівасць толькі па справаздачах свайго слугі і па-ранейшаму давярае Мікалаю Стшэшкоўскаму.

Пасля некалькіх месяцаў падарожжа праз нямецкія землі ў кастрычніку 1580 г. князь Юрый са шляхцічамі спыніўся ў Мілане. Ахмістр не паклапаціўся пра прыстойнае жыллё для князя і яго акружэння. У выніку князь Алелькавіч быў вымушаны два тыдні жыць у карчме ў танных і дрэнных пакоях, бо грошы на жыллё былі ў старэйшага слугі, які не даваў іх князю, а сам пасяліўся асобна ў «гасцінным дому». Мікалай Стшэшкоўскі жыў у лепшых пакоях, а калі князь прапанаваў ім памяняцца, заўважыў, што ён прывык да славы і не жадае яе пазбавіцца.

Выдача грошай не проста абмяжоўвалася (князю было дазволена купіць толькі абіцце для сцен), ахмістр трымаў іх у сябе, не аплочваў рахункаў гаспадара і траціў толькі на сябе. У сталіцу Ламбардыі яны прыехалі ўсе абарваныя, і князь быў вымушаны замовіць шляхцічам новае аксамітнае адзенне. Юрый у крэдыт купіў па адной змене вопраткі для слуг, прычым да раскошы можна было аднесці толькі берэты з пер'ямі чаплі і іспанскі строй для блазна. У Мілане ён быў вымушаны патраціць на гэта 1,5 тысячы злотых, якія можна было ашчадзіць, справіўшы прыстойнае ўбранне ва Вроцлаве. Ахмістр паставіў гэтыя траты ў віну князю і адмовіўся іх аплочваць. Сваё вялікае запазычанне Юрый тлумачыў маці як нядбайнасцю старшага слугі і неабходнасцю браць крэдыты, так і тым, што быў вымушаны частку сваіх сродкаў адаслаць да сярэдняга брата, які папрасіў у яго грошай на адзенне для сябе і сваіх слуг.

Нараканні князя выклікалі і гаспадарчыя якасці Стшэшкоўскага. Старшы слуга не пацікавіўся, дзе, у каго можна купіць танней прадукты і неабходныя рэчы, як лепей уладкавацца. Ён піў да рана, рахункамі своечасова не займаўся, рабіў прыпіскі ў іх, не сачыў за якасцю прадуктаў і страў і, наогул, быў прыдатны да ахмістарства, па словах Юрыя, «як мой жарабец да гетманства»[424].

Да таго ж Стшэшкоўскі трымаў сябе не як слуга («недастаткова яму, што як роўны са мною сядзіць, роўна ездзіць і першы шапку не здымае»), а як старэйшы родзіч, прыпісваючы сабе паходжанне з роду Тэнчынскіх, лаяўся і павучаў князя. Акрамя таго, ён не саромеўся ганьбіць маладога гаспадара перад наведвальнікамі карчмы — італьянцамі і іспанцамі. Гэта выклікала нямалы гнеў князя Алелькавіча, бо ахмістр дазваляў абражаць гонар яго роду: «А як то нішто сабе, то другое помсты варта, калі б не аглядваўся на ВКМ. Пусціў [плёткі] дрэнны чалавек на пачцівую славу высакародных продкаў маіх, кажучы, што здрайцамі мая продкі былі зачаты, паўсталі і выраслі. Пакідаю то на разгляд самой ВКМ, якая жанчынай будучы, калі б столькі колькі я цярпення магла мець як я маю. Ужо будучы ў тых гадах, у якіх павінен абараняць славу і высакароднасць дому маіх продкаў, і гэта чапаць не дам». Несумненна, тут ён успомніў удзел у замаху на Казіміра Ягелончыка князя Сямёна Алелькавіча і тое, што кароль не пакараў сям'ю здрадніка, а працягваў і далей выказваць сваю ласку да роду Алелькавічаў. Пад яго абразлівыя словы патрапілі і ўсе служэбнікі князя. Юрый скардзіцца, што гэта значна падарвала яго аўтарытэт, бо ўсе італьянцы хадзілі і пыталіся, што гэта за князь-бядак, які жыве ў карчме. Звольніць, аднак, ён ахмістра не мог, бо той падпарадкоўваўся маці.






**Мілан.**

**А. Лафрэці. 1560 г. Гравюра з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1562 г.**

Ахмістр сам амаль ні з кім не падтрымліваў кантакты і не жадаў, каб яго падапечны заводзіў новыя знаёмствы, што і было мэтай падарожжа, ці прымаў удзел у розных забавах. Нават размову з мясцовымі жыхарамі ён успрымаў як пагрозу для свайго месца і павагі. Князь Юрый так апісаў сваю пазіцыю і бачанне сябе як прадстаўніка славутага роду: «Адчуваю, што я ўжо ў тых гадах, калі мне не трэба ногі ставіць, а калі пан Бог сам вызначыць, ці меў той права са мною сурова абыходзіцца і на мяне лаяцца, не маючы на гэта ніякага дазволу, а толькі павінен быць паслухмяным самой ВКМ, якая ж ад мяне і дзесятай часткі той паслухмянасці не жадала, як мой пан старшы. <…> Прыбраўшы сябе ў сваю галаву, што я і мовіць слова і ступіць кроку не магу, толькі што з яго дазвалення, і права штодзень мне пра то адкрыта казаў, што для таго са мною выяхаў, каб да яго павага людзей праз мяне расла, пра што я зразумеў так — што ён для маёй павагі ад ВКМ са мною быў пасланы»[425].

Князь Юрый скардзіўся, што слуга нават пагражаў забіць князя, калі той паспрабуе даць яму адпор: «Пачаў я мець не за старшага слугу, а за айчыма, а ВКМ зрабіла ласку мне яго даць як апекуна. Але акрамя яго разгневанага твару, словаў, што ён да мяне накіроўваў, не так як слуга да пана і не было ў яго позірку і ў адказе ніякай павагі, не так як роўны роўнаму звычайна дае адказ на пытанне, альбо на распараджэнне»[426]. Адбылося гэта на вачах у князя Сямёна, які прыехаў наведаць Юрыя. Сямён






**Мілан. Ратуша.**

**Гравюра. С. Джыміджанана. XVIII ст.**

не разумеў доўгацярплівасці брата і кінуўся на непачцівага слугу з кулакамі, так што толькі два чалавекі змаглі яго ўтрымаць.

У выніку канфлікту паміж гаспадаром і слугой ахмістр не заплаціў па рахунках, пакінуў князя ў карчме, забраўшы сабе ўсе грошы (каля 300 карон[427]) і коней. Скарыстаўшыся нядоўгай адсутнасцю князя Юрыя, які паехаў правесці князя Сямёна на некалькі міль ад горада, Стшэшкоўскі пераехаў у іншае месца. Прытым што князь застаўся без грошай, яго былы слуга скупляў залатыя ўпрыгожванні замест таго, каб разлічвацца па даўгах і два тыдні шыкоўна жыў за кошт сваіх гаспадароў. У выніку малады князь Слуцкі, на ўтрыманні якога было некалькі дзясяткаў асоб, заклаў сваё апошняе ўпрыгожванне (вялікі залаты ланцуг), якое яму ўдалося схаваць ад вараватага ахмістра ў хляве[428]. Гэта не вельмі выратавала сітуацыю. Частка слуг накіравалася да дому, а да паслуг старэйшага Алелькавіча былі наняты мясцовыя людзі. З-за адсутнасці грошай і стаўлення да іх з боку ахмістра ўжо праз малы час яны амаль усе пакінулі князя Юрыя.

Самае цікавае, што, з'ехаўшы ад Юрыя Алелькавіча і фактычна яго абрабаваўшы, ахмістр вырашыў паскардзіцца гарадскім уладам на непаслухмянасць князя. Ён накіраваўся да міланскага магістрата (ці сената, як называе яго Юрый Алелькавіч) з просьбай як старэйшы родзіч з дому Тэнчынскіх: «паўнамоцтваў дамагацца, каб сенат мяне як халопа ці тавар пад яго паслушэнства і ўладу прысудзіў. З чаго ў мудрых людзей смех, а мне вялікая абраза была зроблена»[429]. Самым ганебным у гэтай сітуацыі было тое, што Мікалай Пшонка Стшэшкоўскі паходзіў з дробных, амаль беззямельных шляхцічаў Люблінскага ваяводства. Ён пайшоў на службу да Тэнчынскіх, таму што невялікі маёнтак Стшэшкаў (адкуль і прозвішча) не мог пракарміць некалькі сем'яў. Калі міланскія гарадскія ўлады сталі на бок яго гаспадара, ахмістр вырашыў вярнуцца да князя, але не адчуваў сябе вінаватым і трымаўся, як раней, з пыхай.

Невыкананне ахмістрам сваіх прамых абавязкаў не найлепшым чынам адбілася не толькі на ўспрыманні Юрыя мясцовымі жыхарамі, але і на яго здароўі. Старэйшы Алелькавіч у Мілане двойчы хварэў, але ахмістр доўга не хацеў выклікаць лекара, а калі па загадзе князя гэта было зроблена, то лекару нічога не заплацілі. Магчыма, такое дрэннае стаўленне да здароўя князя і ўмовы, у якіх ён жыў на працягу свайго падарожжа, стварылі спрыяльныя ўмовы для развіцця ў яго небяспечнага захворвання, якое скараціла яго жыццё.

Канешне, малады хлопец, які патрапіў у Італію, дзе былі іншыя звычкі і норавы, які першы раз вырваўся з-пад апекі маці, не заўсёды паводзіў сабе прыстойна. Яму хацелася выпіць віна, бавіць час з маладымі людзьмі, сустракацца з дзяўчынамі, хадзіць на розныя імпрэзы. Што цікава, ён прызнаваў, што ўсё гэта мела месца. У той жа час прычыны сваіх вольных паводзін ён бачыў у прыкладзе, які яму падаваў ахмістр, прызначаны маці сачыць за цнатлівасцю паводзін сына: «Пра мае маладыя ўчынкі,

не мусіў бы вушы ВКМ абражаць, бо гэта залішне, але і ў гэтым маю добры прыклад пана ахмістра, які ад мяне да гасціннага двара пераехаўшы, людзі ведаюць, як веру і прысягу сваёй шаноўнай жонцы захоўваў, а як стрымана ў сваіх сівых гадах жыве»[430].

Князь прасіў маці паверыць яму і адазваць Стшэшкоўскага, бо ён не толькі непрыязнасць да сябе з боку гаспадара выклікаў, але і сапраўдную нянавісць з боку слуг. Сын прасіў у маці дапамагчы аплаціць даўгі і замяніць старэйшага слугу на іншую асобу.

Як бачна з далейшай перапісці, маці выканала абедзве просьбы сына. Стшэшкоўскі быў адазваны на радзіму, а яго месца заняў Ян Бараноўскі (Ежыковіч)[431], якога Юрый характарызаваў як руплівага і гаспадарлівага чалавека. Дзіўна, але Мікалай Стшэшкоўскі не страціў даверу ў сваёй пані, працягваў ёй служыць і выконваць розныя далікатныя даручэнні да яе смерці ў 1592 г.[432]. У той жа час, скаргі ад князя Юрыя і пацвярджэнне яго абвінавачваннем, якія яна атрымала, адыгралі сваю ролю. Недастойныя паводзіны і махлярства падчас замежнага падарожжа княгіня Слуцкая ўзгадвала свайму слузе на працягу некалькіх гадоў. Цікава, як апраўдваў сам Мікалай Пшонка свае ўчынкі падчас замежнага ваяжу: «а што датычыць першых маіх італьянскіх клопатаў, пра якія ВМ да майго жалю мусіць успамінаць, калі б я там выступіў супраць сыноў ВМ, а я сябе там паводзіў як належыць цнатліваму чалавеку, патураючы ласцы ВМ, а не Яго Міласці, як было б мне лепей, чым зараз, бо не цярпеў бы такіх адносін да сябе. Гэта была справа думкаю Яго Міласці, а не паводле загаду ВМ і майго»[433]. Ён сцвярджаў, што паводзіў сябе так, як яму загадала яго пані, а гэта князі, асабліва Сямён, на яго пакрыўдзіліся і наскардзіліся маці. Нянавісць да пана Стшэшкоўскага з боку атачэння




**Ліхвяры і мянялы.**
**Невядомы мастак. Італія. XVI ст.**

Юрыя была настолькі вялікай, што захавалася сярод яго слуг на доўгія гады. Слугі маладых князёў таксама не змаглі дараваць Мікалаю Стшэшкоўскаму яго ганарлівасці і паводзін. Па вяртанні да дому ў Кракаве ў ліпені 1583 г. Ян Бараноўскі разам з братам з помсты напаў на Мікалая Пшонку і збіў яго, за што Юрыю прыйшлося прасіць прабачэння ў маці і вызваляць вернага слугу з турмы[434].

З Мілана князь Алелькавіч з'ехаў, так і не разлічыўшыся з крэдыторамі. На зіму, згодна з жаданнем маці, князь Юрый быў павінен спыніцца на больш доўгі час у адным горадзе. Спачатку выбралі Луку, але Юрый не знайшоў там нічога цікавага («ніводнай прыстойнай забавы») і з суправаджаючымі яго асобамі пераехаў у Падую. Толькі ў наступным годзе, калі маці ў студзені 1581 г. прыслала разам з Іванам Бакам 3300 карон на працяг падарожжа і аплату пазык, князь Юрый здолеў часткова аплаціць кошты свайго прыбывання ў Мілане. Гэтай сумы яму было недастаткова (бо нараслі працэнты), і князь зноў узяў крэдыт, каб утрымліваць сябе і сваіх людзей у належным стане.

Падуя ўваходзіла ў склад Венецыянскай рэспублікі, за межамі якой яна была











**Франчэска Медычы.**
**Аллоры (?). Канец 1567 г.**

вядома як універсітэцкі горад, дзе існавала адна з самых вялікіх польскамоўных дыяспар (ці, як яна звалася ў матрыкулах, «нацыя» студэнтаў Польскага каралеўства і ВКЛ)[435]. Новы ахмістр быў не вельмі задаволены сваім месцам. Адразу вакол маладога Алелькавіча склалася вясёлае таварыства, бо шляхецкай моладзі з Рэчы Паспалітай там было шмат. У выніку асоб, якіх быў вымушаны карміць Юрый, стала больш за 30.

Далей яго шлях з часткай слуг ляжаў праз Балонню ў Рым: «Сам таксама з часткаю да Рыма на пост, калі там у той час найбольш ёсць на што паглядзець»[436]. Недахоп грошай вымусіў яго пакінуць частку сваіх слуг у Падуі, бо ў яго засталося яшчэ невыплачаных 6300 эскуда[437] пазыкі[438]. На папрокі маці і пажаданні ашчаджаць грошы сын адказваў, што, прыехаўшы ў Мілан і Падую, ён не меў з чаго жыць і быў вымушаны прасіць крэдыт, а паколькі грошы з радзімы ішлі доўга, то і атрымалася такая велічэзная сума.

У Рыме Юрый прабыў да Вялікадня. Па дарозе адтуль яго прыняў вялікі герцаг тасканскі Франчэска I Медычы. Медычы выказаў вялікую ласку да старэйшага Алелькавіча і размясціў яго са слугамі ў сваім палацы. У адказ князь Слуцкі падараваў Франчэску I карліка, апранутага па-татарску. Падарунак выклікаў у фларэнтыйскага герцага такое захапленне, што ён папрасіў прыслаць яму яшчэ карліка і карліцу. Князь Юрый паабяцаў выслаць яму адпаведных асоб з Польшчы. Такія намеры князя выклікалі заклапочанасць Яна Бараноўскага, бо абяцанні, дадзеныя чалавеку, які, па словах слугі, «ў Італіі стаіць за вялікага караля», варта не проста памятаць, але і выконваць[439]. Наогул, тады пры дварах магнатаў ВКЛ карлікі прысутнічалі амаль заўжды. Звычайна яны выконвалі функцыі пакаёвых слуг, дапамагалі сваім гаспадыням як фрауцымеркі, забаўлялі іх у вольны час. Гаспадыні былі нярэдка прывязаны да іх больш, чым да іншых набліжаных слуг, і нярэдка запісвалі ім значныя пасагі ці прасілі родных забяспечыць іх прыстойнае існаванне да смерці[440]. Мужчыны-карлікі служылі вазніцамі, блазнамі. Некалькі карлікаў жылі і пры двары ўдовай княгіні Слуцкай. Аднаго з іх, які раней служыў маскоўскай княгіні, падараваў ёй троцкі кашталян Крыштаф Радзівіл Руды[441].

У наступных лістах маці параіла сыну пераехаць бліжэй да мяжы са Свяшчэннай Рымскай імперыяй, каб пры патрэбе ён мог хутка праз аўстрыйскія землі вярнуцца дадому.

Было некалькі прычын, па якіх маці жадала хутчэйшага вяртання сыноў дадому. Першая — месца сыноў у палітычнай сістэме дзяржавы, другая — падзел баць-





коўскай спадчыны, трэцяя — далейшы лёс самой удовай княгіні Слуцкай. Усе тры прычыны аказаліся цесна звязаныя паміж сабой. Пакуль сыны падарожнічалі, маці пастаралася зрабіць усё магчымае, каб забяспечыць іх будучыню. Асноўным пытаннем заставалася вяртанне князям Слуцкім спадчыннага месца ў Сенаце. Княгіня скарысталася добрым стаўленнем да сябе віленскага ваяводы і канцлера Мікалая Радзівіла Рудага і звярнулася да яго з просьбай аб пратэкцыі[442]. Толькі сваімі асабістымі намаганнямі яна змагла змяніць яго стаўленне да князёў Слуцкіх з рэзка




**Крыштаф Радзівіл Пярун.**

**Гравюра з альбома «Icones familiae ducalis Radivilianae». 1758 г.**

адмоўнага на станоўчае. Мікалай Радзівіл Руды яшчэ ў лісце ад 26 мая 1579 г. абяцаў падтрымаць далейшыя намаганні князёў Слуцкіх атрымаць сенатарскае крэсла. Не апошнюю ролю адыгралі тут і асабістыя матывы.

У 1580 г. да ўдовай княгіні Слуцкай пачаў заляцацца троцкі кашталян Крыштаф Радзівіл Пярун. Не зважаючы, што пані была старэйшая за яго на некалькі гадоў, Крыштаф прасіў яе выйсці замуж не для маёмаснай карысці (хаця яна і мела ў руках вялікую суму грошай, запісаную ад Юрыя II Алелькавіча і атрыманую па спадчыне ад бацькі і брата). Размова тут ішла пра каханне: «толькі з-за ўсіх пабожных цнот і ўсіх іншых прыгожых прадметаў, даўно вочы маюць»[443]. Пасрэднікамі паміж



**Ліст Мікалая Мікалаевіча Радзівіла да Кацярыны Слуцкай са згодай падтрымаць намаганні князёў Слуцкіх па атрыманні спадчыннага месца ў Сенаце на Наваградскім сойміку.**

**22.01.1582. AGAD. AR. Dz. IV. Sign. 503**





удовай княгіняй Слуцкай і троцкім кашталянам сталі даўнія прыяцелі абодвух родаў Андрэй Трызна і яго жонка Соф'я з Копцяў Трызніна. Апошняя была ахмістрыняй (старэйшай пані) пры двары Кацярыны з Тэнчынскіх, калі тая пераехала са Слуцка ў Турэц, і карысталася вялікім даверам сваёй пані[444]. Кацярына з Тэнчынскіх дала сваю згоду на шлюб з троцкім кашталянам, але спачатку хацела атрымаць дазвол сыноў і ўрэгуляваць усе маёмасныя пытанні з імі, як абяцала свайму мужу. Такое жаданне сустрэла разуменне з боку будучага айчыма князёў Слуцкіх, але Крыштаф Радзівіл пачаў настойліва прасіць Кацярыну як мага хутчэй паслаць за сынамі, бо баяўся, што шлюб можа адкласціся на нявызначаны час з-за зацягнуўшыхся ваенных дзеянняў у Прыбалтыцы[445].

Дзякуючы намаганням Кацярыны з Тэнчынскіх на павятовых сойміках зноў можна было ўзняць пытанне пра прадастаўленне спадчыннага месца для князёў Алелькавічаў у Сенаце. У Варшаве 7 сакавіка 1581 г. літоўскія паслы выступілі з гэтай прапановай[446]. У канцы вясны 1581 г. княгіня Слуцкая накіравала да каралеўскага двара свайго вернага слугу Ёзафа Быхаўца. Ён перадаў пасланне княгіні Крыштафу Радзівілу, які пагадзіўся падтрымаць просьбу княгіні[447]. Пасля атрымання згоды ад найбольш уплывовых асоб у дзяржаве маці напісала да старэйшага сына. Яна прасіла князя Юрыя выказаць свае пажаданні, пачынаць тую справу ў адсутнасць сыноў ці дачакацца іх вяртання з падарожжа. Юрый адразу не мог даць маці нейкага адказу, а папрасіў часу параіцца з Сямёнам[448].

Князь Юрый, сустрэўшыся ў Рыме з братам, вярнуўся ў Падую, дзе яны сталі весела бавіць час. Тым часам даўгі раслі. Толькі жыццё ў Луцы і Балонні абышлося Алелькавічам у 2 тысячы эскуда. Мясцовыя жыхары сталі нават падазрона да іх ставіцца, бо з Мілана дайшлі звесткі, што князь не можа разлічыцца з пазыкамі. У выніку Юрый пераязджае ў Балонню, дзе размяшчаецца ў каталіцкім манастыры ў езуітаў[449]. Можа, гэта было жаданне маці, якая не пакінула надзеі, што старэйшы сын прыме каталіцтва.

З Балонні Юрый пераехаў у Венецыю. На гэтым яго падарожжа па Італіі скончылася. Там ён затрымаўся ненадоўга, і ўжо 7 мая 1581 г. накіраваўся дадому, пакінуўшы ў Італіі частку сваіх слуг, у тым ліку і Яна Бараноўскага[450]. Кацярына з Тэнчынскіх хацела, каб ён застаўся з яе малодшымі сынамі, падарожжа якіх было павінна працягнуцца яшчэ год.

Падобна, што вяртаўся князь Юрый праз Вену і Інсбрук, спачатку да Кракава, а потым у ВКЛ. Да сярэдзіны чэрвеня маці і яе слугі чакалі прыезду Юрыя ў Слуцк[451]. Яшчэ ў канцы красавіка княгіня Слуцкая аднаасобна паведамляла слуцкаму пратапопу Амяльяну Фіяфілактавічу, што пасля смерці святара ў царкву Святога Іаана, якая знаходзіцца на Новым месцы, слуцкім святаром прызначаны Гаўрыла Міроўскі[452].

У канцы чэрвеня — пачатку ліпеня Юрый прыехаў да Кракава, дзе спыніўся ў Ядзвігі Андрэеўны з Тэнчынскіх Мышкоўскай (?—1592). Гэта была родная цётка княгіні Слуцкай, у якой падчас сваіх прыездаў у Кракаў часта спыняліся прадстаўнікі роду Алелькавічаў[453]. Пасля 7 ліпеня 1581 г. ён быў у Слуцку, дзе выдаў ліст свайму візненскаму ўрадніку Мікалаю Кендзяроўскаму з распараджэннем перадаць святару Васілю Трафімавічу некалькі валок зямлі[454].

Яшчэ да вяртання князёў Алелькавічаў на радзіму 6 сакавіка 1581 г. Стэфан Баторый пацвердзіў пратэстацыю паслоў і сенатараў ад ВКЛ, куды было ўнесена пажаданне разгледзець праблему князёў Слуцкіх. У пасольскіх інструкцыях зноў

было ўзнята патрабаванне прадастаўлення месца ў Сенаце князю Слуцкаму, аднак яго вырашэнне было адкладзена на пазнейшы час з-за больш важных пытанняў (працягвалася вайна з Маскоўскай дзяржавай)[455].

Фінансавыя справы князёў Алелькавічаў знаходзіліся не ў лепшым стане. Нягледзячы на гаспадарлівасць маці, замежны ваяж сыноў абышоўся ёй вельмі дарага. Звычайна навучальнае падарожжа маладога магната з суправаджэннем у 5—7 асоб і навучаннем у нямецкіх і швейцарскіх універсітэтах абыходзілася не менш за 3 тысячы злотых штогод[456]. І гэта пры ўмове, калі б сыны паехалі разам. Са Слуцка ж выехала адразу тры аршакі, агульная колькасць якіх была не менш чым 30—40 чалавек. Усе яны знаходзіліся на ўтрыманні маладых князёў, ці, што дакладней, іх маці. У такіх умовах з улікам таго, што іх падарожжа ставіла сваёй мэтай рэпрэзентацыю славутага роду, кошты іх утрымання павышаліся. Яшчэ да пераезду ў нямецкія землі ва Вроцлаве было выдаткавана не менш за 2 тысячы злотых на пражыванне, пашыў новага адзення і г.д. Толькі па лістах Юрыя мы можам сказаць, што за некалькі месяцаў 1580 г. ён выдаткаваў каля 10 тысяч злотых, а толькі ў Італіі ён знаходзіўся каля года. Такім чынам, кошты падарожжа аднаго сына склалі не менш за 15 тысяч злотых. Наяўных грошай у такой колькасці ў Кацярыны з Тэнчынскіх не было. Яна была вымушана пазычаць іх не толькі ў кракаўскіх банкіраў Себасцьяна і Валерыя Мантэлупі, люблінскага купца Лукаша Рачка, але і ў сваіх слуг.

Павялічвалі расходы і запазычанасці Кацярыны бясконцыя госці, якія прыязджалі да Слуцка і Турца. Як трапна заўважыў А. Сайкоўскі, удовая княгіня стала «слуцкай Пенелопай». Як і ў выпадку з жонкай Адысея, прагныя жаніхі ў адсутнасць гаспадароў сваімі візітамі ўводзілі Кацярыну ў вялікія расходы. Жадаючых пасватацца было настолькі шмат, што не было месца нават для іх коней у княжых стайнях. Трэба было прыняць, уладкаваць і накарміць як саміх візіцёраў, так і іх слуг. Вакол асобы Кацярыны пачалі кружыць бясконцыя плёткі. Як яна сама іранічна заўважала, «мяне так часта выдаюць (замуж. — *Аўт.*), што я ўжо на тыя вяселлі сілы страціла»[457].

Пасля падзелу бацькоўскіх зямель паміж дзецьмі Кацярына была вымушана ўзяць у Лукаша Рачка 14 тысяч злотых тэрмінам на 1 год, бо сыны не выдзелілі ёй частку, якая павінна была адысці па тэстаменту мужа[458]. Па прыезду сына яна бярэ ў жніўні 1581 г. у слуцкага войта Купрыяна Цішэвіча 140 коп грошаў з умовай аддачы, як толькі прывязуць чынш з маёнткаў[459].

Так, Соф'я Трызна вельмі настойліва прасіла княгіню ў канцы 1582 г. вярнуць ёй узятую пазыку[466]. З Мантэлупі і Рачкам Кацярына не магла разлічыцца яшчэ праз некалькі гадоў. Выплата грошай Мантэлупі адкладвалася Кацярынай з Тэнчынскіх на працягу некалькі гадоў, пакуль банкіры, якім за чатыры гады надакучылі адгаворкі, не прыгразілі паведаміць пра даўгі пані яе новаму мужу Крыштафу Радзівілу[461]. Што цікава, сыны адмовіліся дапамагаць маці, хаця і падпісалі лісты як гаранты своечасовай выплаты грошай. Кацярына была вымушана закласці маёнткі, што адышлі ёй ад мужа, але і гэтых сродкаў не хапала[462].

У той жа час пагаршаюцца адносіны з маці. Сыны былі не задаволены яе рашэннем пайсці другі раз замуж. У выніку абвастрэння адносін з сынамі маці вырашыла пераехаць са Слуцка ў Турэц, які адышоў ёй згодна з тэстаментам Юрыя II, і перавезла туды свой двор. Акрамя таго, маці дакарала Юрыя з-а вялікіх коштаў яго замежнага падарожжа. Аднак дваццацідвухгадовы князь жадаў быць самастойным гаспадаром у сваіх уладаннях і менш








**Вяртанне блуднага сына.**

**Гравюра. Манаграміст «ТТ». «Евангелле вучыцельнае». Кіеў. 1637 г.**

за ўсё быў схільны прыслухоўвацца да парад старэйшых. Кацярына з Тэнчынскіх скардзілася Крыштафу Радзівілу, што была вельмі заклапочана прыездам старэйшага сына і слуг ад двух малодшых. Адначасова з імі да яе прыехала ў госці ваяводзіна валынская[463]. Яны прынеслі ёй столькі клопатаў і страт, што княгіня захварэла і за месяц не змагла ачуняць. Пра сына яна пісала так: «Сына майго старэйшага так вельмі злыя людзі намовілі супраць мяне той справаю, што з ім што ні дзень мела турботаў досыць і мела размовы з ім у той справе і што ён мне сказаў»[464].

Чуткі пра канфлікт паміж маці і сынам дайшлі і да Крыштафа Радзівіла, які быў абураны няўдзячнасцю маладога Алелькавіча. Праз некалькі месяцаў Юрыю ўдалося прымірыцца з маці, хаця пра парады Крыштафа Радзівіла ён казаў шмат і добрага, і дрэннага. Усталяванне добрых стасункаў паміж маці і сынам пацвярджаюць і сведчанні ахмістрыні двара Кацярыны Соф'і Трызнінай. Яна запэўнівала троцкага ваяводу, што сын вельмі пачціва ставіцца да маці, ніякіх прыкрасцяў ёй не чыніць, і яна вельмі жадае ўсім сынам, «каб так з паняй маткаю абыходзіліся і так яе любілі, як князь Юрый — Пан Бог дай, каб так было да канца»[465].

У канцы студзеня — пачатку лютага 1582 г. князь Юрый Алелькавіч разам з маці прыехалі ў Вільню, каб урачыста прадставіць князя Юрыя да каралеўскага двара. Слуга Мікалая Радзівіла Рудага Маскевіч паведаміў канцлеру, што малады князь хоча прыехаць у Вільню і атрымаць аўдыенцыю ў караля. Канцлер прасіў паспяшацца з прыездам у сталіцу ў лютым 1582 г., бо кароль планаваў выехаць да Рыгі для прыняцця прысягі на вернасць Рэчы Паспалітай і польскаму каралю ад яе жыхароў. На просьбу Кацярыны Слуцкай прыехаць у Вільню і падтрымаць яе старэйшага сына Мікалай Радзівіл Руды з ахвотай пагаджаўся, але папярэджваў, што будзе вымушаны з'ехаць разам са дваром да Рыгі і таму ніякай карысці Алелькавічам гэта не прынясе. У такой сітуацыі дапамагчы ў вырашэнні пытанняў знаходжанне ў Вільні не магло, і канцлер даў княгіні параду паспрабаваць вырашыць усе праблемы загадзя, параіўшыся з «прыяцелямі»[466].

Старэйшы з князёў Алелькавічаў улічыў выказаныя пажаданні, прыехаў у сталіцу і быў прадстаўлены каралю на аўдыенцыі ў Стэфана Баторыя 9 лютага 1582 г., дзе павітаў яго. Пра гэта Кацярыне паведаміў жмудскі староста Ян Кішка. Ён адзначыў, што малады князь змог перадаць каралю свае просьбы, у тым ліку і дзякуючы самому Яну, і распавесці пра звычаі, згодна з якімі жылі князі Слуцкія[467]. Несумненна, размова ішла пра правы князёў Слуцкіх на спадчыннае месца ў Сенаце. Стэфан Баторый паабяцаў звярнуць увагу на гэтую праблему, але, як і раней, адклаў яе канчатковае вырашэнне на разгляд сойма. Па нарадзе ў караля, як гэта было прынята да Люблінскай уніі, князь Юрый Слуцкі займаў другое месца перад канцлерам і віленскім ваяводам Мікалаем Радзівілам адразу пасля віленскага біскупа[468]. Адносіны Мікалая Радзівіла Рудага з прадстаўнікамі роду Алелькавічаў настолькі палепшылі-




ся, што канцлер нават запрасіў Кацярыну з Тэнчынскіх да свайго дому ў Вільні і пісаў, што рады бачыць «такіх гасцёў у дому сваім і з жонкаю сваёю, а там каб уцешылі абодва старасць сваю»[469].

Каб забяспечыць сабе прыхільнасць караля, Юрый ад свайго імя і імя братоў накіраваў на дапамогу войску Стэфана Баторыя, што рыхтавалася да пскоўскага паходу, свае ваенныя атрады[470]. На першы погляд, падавалася, што кароль схільны прыняць рашэнне на карысць князёў Слуцкіх, калі абяцаў гэта Юрыю, выязджаючы з Вільні[471].

Абнадзеяны абяцаннямі Баторыя, Юрый пачаў рыхтавацца да падзелу бацькоўскай маёмасці. Было неабходна дачакацца вяртання Аляксандра, прыняць маёмасць, прызначыць сваіхураднікаў. Палітычныя мэты, якія ставіў перад сабой малады князь, таксама патрабавалі добрых памочнікаў. Таму ён бярэ да сябе на службу старых слуг бацькі, якія вызначаліся сваімі палітычнымі, дыпламатычнымі і гаспадарчымі здольнасцямі. Сярод іх адразу можна вылучыць асобу Яна Баяноўскага, Анікея Уніхоўскага, Марціна Вярбіцкага, Яна Бараноўскага.

У сакавіку 1582 г. Юрый накіраваўся ў Бабруйск[472]. Яшчэ ў чэрвені 1577 г. бацька афіцыйна перадаў астаўлены яму ў 1561 г. Жыгімонтам Аўгустам горад і валасць. Да каралеўскага закладу на 30 тысяч коп грошаў Юрый II дадаў 10 тысяч і здабіўся ад Стэфана Баторыя замацавання за старэйшым сынам пажыццёвага трымання гэтага староства і адначасовай выплаты скарбам адразу ўсёй сумы ў 40 тысяч коп грошаў[473]. Каралеўскі прывілей быў абвешчаны на галоўным сойміку ў Ваўкавыску і гарантаваў старэйшаму з сыноў князя Алелькавіча пажыццёвы даход са значнай маёмасці, бо было малаверагодна, што ва ўмовах ваеннага канфлікту ў дзяржаўным скарбе



**Падзельны ліст братоў Алелькавічаў.**
**1582 г. AGAD. AR. Dz. X. A/n. Papiery Olelkowiczów**

хопіць грошай разлічыцца з князямі Слуцкімі. Аднак фінансавыя справы маладога князя аказаліся ў настолькі заблытанай сітуацыі, што ён быў вымушаны ў сваю чаргу спачатку закласці частку Бабруйска Яну Баяноўскаму за 3 тысячы злотых[474], а потым Бабруйскую валасць Яну Кішку.

У красавіку—маі 1582 г. ён разам з маці паехаў у Польшчу для разгляду пытанняў, звязаных з уладаннямі ў Кароне[475]. У пачатку лета 1582 г. старэйшы князь Слуцкі вярнуўся ў Слуцк. Браты прыйшлі да згоды і 17 чэрвеня 1582 г. падпісалі пагадненне пра падзел маёмасці. Згодна з гэтым актам Юрый атрымаў слуцкі замак (верхні і акольны) з усімі будынкамі і Старым местам слуцкім. Акрамя часткі Слуцка ста-



**Пячаткі і аўтографы князёў Слуцкіх.**
**1582 г. AGAD. AR. Dz. X. A/n. Papiery Olelkowiczów**

рэйшаму брату адышлі наступныя двары і фальваркі ў Наваградскім ваяводстве: Івань з фальваркам Ялеўскі, Пагост, Мятасвічы, Візны, Заўшыцы, Прусы, Чалесвічы, Беліцы, Красны, Бернінская воласць з Морачскім манастыром. У Гародненскім павеце знаходзіўся яшчэ маёнтак Вяйсее з фальваркам Олны. Некаторыя найбольш важныя ў эканамічных адносінах уладанні, а менавіта порт у Пясочным на р. Нёман, і магчымасці карыстацца воднымі шляхамі захоўваліся за ўсімі трыма братамі. Пад сумеснай апекай і падаваннем трох князёў Алелькавічаў застаўся Трайчанскі манастыр, усе цэрквы і манастыры ў Слуцку, а таксама каталіцкая парафія. Браты абавязваліся кіраваць імі згодна са старым звычаем і не дапускаць, каб наносіліся нейкія шкоды[476]. Са слуцкага мыта і частак кожнага з братоў было вырашана выплочваць і грошы на карысць Пячорскага манастыра ў Кіеве (50 коп грошаў на год). Князі Алелькавічы дамовіліся сумесна ўтрымліваць слуцкі шпіталь, заснаваны іх бацькам на Востраве ў Слуцку.

У дадатак, згодна з воляй Юрыя II і па асабістаму жаданню, Кацярына з Тэнчынскіх перадала сынам дакументы (цырографы і запісы) на сумы, якія былі пазычаны яе мужам розным асобам, нягледзячы на тое, на чыё імя яны былі пацверджаны (яе асабіста ці разам з сынамі), — на агульную суму ў 204 500 польскіх злотых. Сярод іх былі пазыкі як прыватных асоб — канцлера Астафея Валовіча, гетмана Мікалая Юр'евіча Радзівіла, Андрэя Фірлея, князя Палубінскага і іншых, так і дзяржаўнага скарбу. Сярод апошніх самым вялікім трыманнем быў Магілёў да аддання дзяржавай 55 тысяч злотых[477].

Пасля ўрэгулявання маёмасных канфліктаў, звязаных са спадчынай, Юрый канчаткова памірыўся з маці і яе будучым мужам. Карысць ад падтрымкі з боку віленскага ваяводы і яго сына перавесіла асабістыя крыўды і прэтэнзіі князя. Сапраўды, у лістах маці і яе слуг значна больш скаргаў паступала на малодшых сыноў, якія фактычна рабавалі яе маёнткі.

Адначасова працягвалася падрыхтоўка да сойма, на якім, як спадзяваліся браты Алелькавічы, канчаткова будзе вырашана пытанне атрымання імі месца ў Сенаце. Князі не прэтэндавалі ўжо на месца для кожнага. Размова ішла толькі пра крэсла для старэйшага «сеньёра» роду[478]. Найбольшым вынікам усіх ранейшых намаганняў князёў Слуцкіх за свае палітычныя пазіцыі ў краі стала каралеўскае запрашэнне іх як прадстаўнікоў Гедымінавічаў да ўдзелу ў сойміках свайго павета. Там яны маглі, як кожны абывацель павета, дэбатаваць, выбіраць паслоў ці выстаў-



ляць сваю кандыдатуру ў адной палаце са шляхтай[479]. Князі крыві былі афіцыйна ўроўнены ў правах і прывілеях са шляхтай ВКЛ. З пункту гледжання сацыяльнага становішча для Алелькавічаў гэта быў крок назад.

Уваход у дзяржаўныя структуры і забеспячэнне адпаведнага статусу пры двары і ў дзяржаве станавіліся магчымымі толькі з атрыманнем аднаго з вышэйшых ці прыдворных урадаў. Каб іх атрымаць, акрамя знатнасці роду і «заслуг продкаў» патрабавалася пэўная падтрымка ў магнацкім асяродку і ўплывовых асоб, а таксама значныя грашовыя ўкладанні. Дзякуючы статусу роду, памяці пра кроўную роднасць з пануючай дынастыяй браты Алелькавічы маглі аўтаматычна ўвайсці ў велікакняжацкую раду. Аднак пасля Люблінскай уніі яна не мела значнай палітычнай вагі, застаючыся дарадчым органам пры вялікім князі. Для фактычнага ўплыву ў палітычнай сферы патрабаваліся афіцыйныя ўрадавыя годнасці.

Адсутнасць апекі ўплывовых асоб негатыўна адбілася на палітычнай кар'еры апошніх князёў Слуцкіх. Калі раней уплывовасць роду забяспечвалася ўдзелам у ваенных аперацыях супраць татараў, то ўдзел у Лівонскай вайне такіх палітычных дывідэндаў роду не прынёс.

Юрый прыклаў усе намаганні, каб змабілізаваць сваіх палітычных прыхільнікаў у Кароне, якія маглі б аказаць яму падтрымку на сойме: «Па ўсёй Польшчы, дзе толькі калі маёй партыі быць каго разумеў, не sollicować аб камандванні астатнімі ўжо сіламі справы сваёй на тым блізка будучым сойме і да паслання яе першага шляху на павятовых сойміках»[480]. Асаблівага поспеху яго намаганні не мелі. У маладога князя было шмат праціўнікаў сярод сенатараў у Вялікай Польшчы. Не меў ён падтрымкі і сярод польскай шляхты. Сваёй партыі і ўплыву на шляхту ў Вялікім Княстве Літоўскім у Алелькавічаў таксама не было. У такіх абставінах ён быў вымушаны шукаць падтрымкі ў Крыштафа Радзівіла Перуна. У сваім лісце ад 14 жніўня 1582 г. ён прасіў будучага айчыма: «А іж падобна на тым павінна, каб іх міласці паны паслы, якія на сойм ад рыцарства выбраны, будуць да мяне ахвочы і схільны былі. Тады прашу ВМ майго міласцівага пана для таго прыкласці намаганні, каб тая справа ад усяго рыцарства паспалітым хадайніцтвам паручана была», каб той сваім «абыходжаннем і змягчэннем рабіў захады, каб старанне маё перашкоды не дадчула»[481].

Пасяджэнні Варшаўскага сойма 1582 г. не толькі не прынеслі чаканага месца для князя Юрыя ў Сенаце, а сталі часам яго паражэння. Супраць патрабаванняў маладога князя выступілі польскія сенатары, якія не жадалі паслаблення сваіх пазіцый за кошт выдзялення месца князю Алелькавічу. Супраць была і польская шляхта, якая бачыла ў прадастаўленні для князёў Слуцкіх як князёў крыві асобнага месца парушэнне прынцыпаў шляхецкай роўнасці. Выразнікам пазіцыі ўсіх незадаволеных стаў земскі калішскі суддзя Святаслаў Ажэльскі. Ад імя пасольскай ізбы (ніжняй палаты сойма) ён выступіў супраць уключэння князёў Слуцкіх у Сенат. Ажэльскі лічыў, што такі акт будзе лжывым у дачыненні да польскіх урадаў, з якіх ні аднаго не было спадчыннага. Акрамя таго, спадчыннасць сенатарскай годнасці, з пункту гледжання шляхты, пагражала каралеўскай уладзе, бо толькі кароль мог прызначаць вышэйшых ураднікаў з найбольш годных асоб. Рэчы Паспалітай наяўнасць спадчыннасці ў Сенаце прынесла б толькі шкоду, бо ніхто не мог гарантаваць, што гэтае крэсла займе годны даверу чалавек. Прыняцце такіх рашэнняў супярэчыла б палажэнням Люблінскага сойма 1569 г.





У той жа час польскія паслы былі не супраць, каб князі Алелькавічы захавалі сваё месца ў панскай радзе ВКЛ[482].

Паміраўшы сыноў і Крыштафа Радзівіла, Кацярына з Тэнчынскіх прызначыла нарэшце дату свайго вянчання з троцкім кашталянам. 17 кастрычніка 1582 г. Крыштаф Радзівіл Пярун з бацькам, братам і іншымі панамі, шыкоўна ўбраныя, прыехалі ў Турэц да двара ўдовай княгіні Слуцкай. Княгіня з прыяцелямі прыняла гасцей, і ў той жа дзень адбылося вянчанне. Сам працэс залётаў Радзівіла і вяселле былі падрабязна апісаны ў знакамітай паэме А. Рымшы «Deketeros akroama, альбо Дзесяцігадовая вайна» ў XXV акрааме (песні). Невядома, ці былі сыны на вянчанні, бо маці праз Пятра Скаргу перадала ім ліст, што не можа з імі пабачыцца пасля вяселля. Сыны, якія не чакалі таго, што маці адразу пасля шлюбу паедзе разам са сваім новым мужам, не сустрэўшыся з імі, сталі прасіць не пакідаць іх без размовы, мацярынскай ласкі і падтрымкі іх намаганняў[483]. Крыштаф Радзівіл, у сваю чаргу, запэўніў пасынкаў, што яны атрымаюць падтрымку і ад яго, і ад яго бацькі, канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Рудага, у сваіх стараннях аб сенатарскім крэсле[484].

Паступова Юрый пачаў уладкоўваць свае справы і станавіцца паўнавартасным гаспадаром у сваіх маёнтках. З боку маці і яе новага мужа, які рабіў хуткую палітычную кар'еру, ён атрымаў падтрымку практычна ва ўсіх сваіх пачынаннях.

Юрый узнагародзіў за службу верных слуг бацькоў, якія перайшлі да яго двара, надаў землі баярам Слуцкага княства. Фактычна ён пачынае рабіць крокі па атрыманні падтрымкі з боку шляхты Навагрудскага і Слонімскага паветаў. На 1582—1583 гг. прыпадае найбольшая колькасць наданняў зямлі на ўмовах выканання земскай службы. Можна прывесці некалькі прыкладаў: 13 мая 1582 г. тры браты перадалі дажывотна за верную службу маці і ім траім Яну Паўлавічу Уніхоўскаму разам з жонкай Соф'яй Паўлаўнай Быстрыеўскай маёнтак Брынёва і сяло Татолічы ў Мазырскім павеце. Калі б самі князі ці іх нашчадкі пажадалі пазбавіць Яна Уніхоўскага гэтага трымання, то яны былі б павінны выплаціць ім 400 коп літоўскіх грошаў[485]. 12 сакавіка 1583 г. Юрый надаў Ахею Казарыну, які яшчэ бацьку служыў, зямлю у Балотчычах[486], 23 мая 1583 г. Яцку Ляўковічу ад князя Юрыя Алелькавіча былі перададзены правы на вёску Баланчаны[487], 1 верасня 1585 г. Ждану Ярожку Даровічу за заслугі яго бацькі Трафіма перад бацькамі князя далі 10 валок у фальварку Касунічы[488]. Усе яны былі павінны несці ваенную службу, што ва ўмовах бясконцых ваенных канфліктаў, у якія было ўцягнута Вялікае Княства Літоўскае, было вельмі важным для князёў Слуцкіх, не займалі ніякіх дзяржаўных пасад, а значыць, і не мелі крыніц дадатковых прыбыткаў. Таму ён спрабаваў вырашыць праблему ўзнагароджання адных слуг за кошт іншых. Былы слуцкі намеснік Ёзаф Быхавец пісаў да Кацярыны з Тэнчынскіх, што князь Юрый загадаў забраць маёнтак жонкі Івана Багушэвіча, калі тая паедзе да Турца. У час папярэджаная жанчына сядзела на месцы і баялася выязджаць за межы двара[489].

Да смерці Юрыя браты часта выступалі разам пры падпісанні юрыдычных дакументаў, на аўдыенцыях у каралеўскім двары ці калі ўдзельнічалі ў нейкіх свецкіх мерапрыемствах. У пачатку чэрвеня 1583 г. яны прыбылі ў Кракаў, каб прыняць удзел у святкаванні вяселля вялікага кароннага канцлера Яна Замойскага і пляменніцы караля Грызельды Баторый, прызначанага на 12 чэрвеня. Вясельныя імпрэзы цягнуліся 10 дзён. Князі Слуцкія прынялі ўдзел у трыумфальным шэсці, прысвечаным вяр-

танню з інфлянцкай і маскоўскай кампаній пераможцаў, дзе прадставілі адзін з найбольш прыгожых і багатых вазоў з ваеннапалоннымі[490]. Браты Слуцкія ўзначалілі тую частку шэсця, якая звалася «Маскоўскі трыумф», што было падрабязна апісана ў творы Антоніа Гваньіні[491]. Гэта прытым што атрады князёў Алелькавічаў удзельнічалі толькі ў пскоўскім паходзе Стэфана Баторыя.

Пасля доўгіх перамоў Кацярына з Тэнчынскіх падзяліла з сынамі і перадала ім сваю маёмасць. Ва ўладанне братоў пераходзілі маёнткі ў Люблінскай зямлі, атрыманыя ёю ў спадчыну пасля смерці брата Яна Хрысціцеля Тэнчынскага[492]. Замак і места Краснік, які да 1579 г. быў адной з галоўных рэзідэнцый галіны роду Тэнчынскіх, з 14 вёскамі перадаваўся маці сынам разам з умовай, што яна сама выкупіць яго закладзеныя часткі ў Андрэя Кослы, даўняга слугі Кацярыны з Тэнчынскіх[493]. У трыманне сыноў адыходзіў і маёнтак Туробін, закладзены ўдовай княгіні Слуцкай спадкаемцамі познаньскага ваяводы Лукаша Гуркі за 100 тысяч злотых, з якога яны маглі атрымліваць дадатковы прыбытак.

13 і 27 чэрвеня 1583 г. у слонімскім гродскім судзе былі пакладзены акты падзелу зямель, якія пазней былі пацверджаны каралём Стэфанам Баторыем як выправа маці, дадзеная ёй сынамі. Кацярыне з Тэнчынскіх адыходзілі ў Вялікім Княстве Літоўскім Турэц, Старое Сяло ў Наваградскім павеце, Тонвы ў Мінскім павеце, у Кароне Польскай маёнтак і замак Вамеўскі на Падляшшы ў Бельскім павеце[494].

Для канчатковага афармлення падзелу маёмасці паміж імі і маці браты вырашылі выкарыстаць час, калі ўся магнатэрыя сабралася на ўрачыстасці ў Кракаве. Маці паабяцала перадаць сынам землі, запісаныя ёй іх бацькам, а гэта былі немалыя сумы — 60 тысяч коп грошаў. З гэтай сумы сынам адыходзіла 50 тысяч коп грошаў (фактычна пасаг маці, на які яны маглі прэтэндаваць пасля яе смерці). З рэшты ў 10 тысяч Кацярына Тэнчынская вырашыла выплаціць грашовае ўзнагароджанне сваім даўнім слугам. Папярэдне яна абяцала ім даць у пажыццёвае трыманне зямельныя маёнткі. Пасля перадачы гэтых зямель яе сынам слугі ўжо не маглі разлічваць на карыстанне імі. Першапачаткова Кацярына з Тэнчынскіх была павінна заплаціць усе пазыкі, якія яна брала пад заклад гэтых зямель. Сыны адмовіліся ёй дапамагаць, хаця выплаты па абавязку Лукашу Рачку яны гарантавалі сваім лістом. Спрабаваў размаўляць з імі і даверыны слуга маці Мікалай Стшэшкоўскі, але гэта была не лепшая кандыдатура для перамоўшчыка, калі ўспомніць італьянскія прыгоды князёў Алелькавічаў. Ён спрабаваў давесці да князёў, што яны шмат чым абавязаны маці і будзе шкада нават для іх гонару, калі выбухне скандал з нявыплатамі пазык і нявыкупам зямель. У сваім лісце слуга не напісаў дакладна, хто з сыноў адмовіўся дапамагаць маці. Аднак заўважыў, што дарма гаспадыня пасяшалася перадаць дзецям сваю маёмасць[495].

У выніку іх абавязкі ўзяў на сябе Крыштаф Радзівіл, якога ніхто не мог абвінаваціць у марнатраўстве. Нягледзячы на сваю некаторую скнапнасць, ён за ўласныя грошы выкупіў маёмасць жонкі, якая была павінна перайсці ва ўладанне нават не яму ці яго спадчыннікам. Магчыма, гэта стала прычынай яшчэ адной крыўды маці на сыноў, пра якую яна пісала ў 1583 г.: «кгды сынове мои кн(я)жата их мсть юрий, янъ семен, и александер олельковичи слуцкие в значнюую неприязнь и недобрую волю зо мною се вылизавели, на тот час его млсть пан малжонокъ мой пан криштофь радивил высвободжаючи мне именя в поруке полной <…>долги заплатючи выложил»[496].

У жніўні 1583 г. па ўзаемнай згодзе браты абмяняліся атрыманымі маёнткамі,











**Ліст Яна Баяноўскага да Аляксандра Слуцкага. 1587 г. ЛНБ. Ф. 103. Т. 1. № 7**

аддаўшы малодшаму брату Аляксандру Краснік з Батожам і Туробін у Люблінскай зямлі ў абмен на маёнткі вакол Слуцка[497].

Не апошнюю ролю ва ўпарадкаванні адносін паміж маці і сынамі адыграў слуга Юрыя Ян Баяноўскі. Ён карыстаўся даверам усіх зацікаўленых бакоў. Кацярына з Тэнчынскіх даверала яму як вернаму слузе, які быў з яе мужам доўгі час. Яго дасведчанасць, высокі ўзровень адукацыі, багаты вопыт неаднойчы выкарыстоўваліся князямі Слуцкімі. Фактычна Баяноўскі стаў пасрэднікам князя Юрыя ва ўладкаванні яго фінансавых, палітычных і нават матрыманіяльных планаў. Яну Баяноўскаму былі перададзены паўнамоцтвы па ўрэгуляванню праблем з трыманнем князямі Слуцкімі Магілеўскага староства. Менавіта яму Юрый даручыў утаварыць маці не прысвячаць ва ўсе маёмасныя справы яе другога мужа, а даць яму магчымасць самастойна распараджацца сваімі ўладаннямі.

Нягледзячы на атрыманне бацькавай і матчынай спадчыны, запазычанасць Юрыя не памяншалася, а расла. Толькі для ўладкавання ўсіх спраў у Кракаве (з польскімі ўладаннямі Алелькавічаў) было неабходна тэрмінова знайсці 20 тысяч злотых. Як некалькі філасофскі заўважыў слуга, такой вялікай запазычанасці можна было б пазбегнуць, калі б не маладыя гады князёў. Фактычна іх утрыманне патрабавала ўдвая менш сродкаў, але заставалася толькі спадзявацца, што з часам князі навучацца добра гаспадарыць[498].

У лютым 1584 г. князь Юрый узгадняе ва Уселюбе, маёнтку польнага гетмана Крыштафа Радзівіла, свае далейшыя дзеянні ў барацьбе за месца ў Сенаце. З Янам Баяноўскім праз Радзівіла Перуна перадаецца просьба да караля Стэфана Баторыя звярнуць увагу на справу князёў Алелькавічаў[499]. Трэба заўважыць, што айчым не пакінуў без увагі просьбу князёў Слуцкіх, пра што з радасцю даведаўся Юрый. Амаль у кожным лісце да жонкі польны гетман дае справаздачу, з кім і калі ён дамаўляўся пра падтрымку інтарэсаў князёў Слуцкіх[500]. З яго дапамогай Юрый змог уладзіць усе спрэчныя пытанні вакол трымання Магілёўскага староства і нясення ваеннай службы мясцовымі баярамі. У сваім прывілеі Стэфан Баторый яшчэ раз падкрэсліў, што замак, горад і воласць Магілёўская перададзены ў трыманне Юрыю Слуцкаму[501]. Пра гэта ён і пісаў з Магілёва польнаму гетману 10 мая 1584 г.[502]. Платай за падтрымку стала выкананне каралеўскіх даручэнняў. Князя Юрыя Алелькавіча папрасілі падчас яго прыбывання ў Магілёве сабраць звесткі пра абстаноўку на

мяжы з Маскоўскім царствам. У сваім лісце Юрый паведаміў, што ніякіх новых звестак пра справы маскоўскія ён падаць не можа, аднак па яго распараджэнню да Смаленска і за мяжу было накіравана два шпіёны. Калі яны вернуцца, ён зможа больш падрабязна распавесці пра палітычную і ваенную сітуацыю на ўсходніх межах дзяржавы[503].

На наступным сойме, які адбываўся ў студзені—лютым 1585 г., Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі, як прадстаўнік Кароны Польскай, і паслы ад ВКЛ зноў узнялі пытанне пра прадастаўленне князям Слуцкім месца ў Сенаце. Аднак соймавыя абрады зноў скончыліся для Алелькавічаў няўдачай. Справа была перанесена на разгляд наступнага сойма[504]. Каронны канцлер Ян Замойскі раіў князю Слуцкаму выкарыстаць тактыку паступовага вяртання ва ўладныя структуры: спачатку атрымаць любую сенатарскую годнасць, потым імкнуцца дамагчыся павышэння свайго статусу сярод сенатараў і толькі пасля гэтага весці размовы пра захаванне сенатарскага крэсла на спадчынных правах за князямі Слуцкімі. Такім чынам, малады князь, нягледзячы на свае багацце і добрую адукацыю, магчымую падтрымку з боку айчыма, не здолеў зрабіць палітычнай кар'еры. Перашкаджала гэтаму не толькі даўняя традыцыя ўдзелу ў палітычным жыцці княства не як урадніка, а як князя крыві, але і слабое здароўе.

З восені 1583 г. са згоды маці старэйшыя сыны пачалі шукаць сабе шлюбныя партыі. Тэстамент бацькі прадугледжваў, што выбар нявесты павінен быў быць узгоднены з маці і адобраны ёю. З дапамогай родзічаў і прыяцеляў Крыштафа Радзівіла пачаўся пошук кандыдатур. Сваю ўвагу маці засяродзіла на дзяўчынах з каталіцкіх фамілій з добрым пасагам. Прымусу для сыноў не было, ім прапаноўвалася спачатку пазнаёміцца з патэнцыяльнымі нявестамі.

Юрый падышоў да выбару нявесты вельмі рацыянальна. Добрае паходжанне абавязкова было павінна злучацца з багатым пасагам. Гэтая якасць нявесты стаяла для яго на першым месцы. Праз Яна Баяноўскага ён прасіў маці параіцца з прыяцелямі і знаёмымі, ці нельга дабіцца павелічэння пасагу. Князь быў у цяжкім фінансавым становішчы, хаця і не паведамляў пра гэта маці. Аднак ні для каго гэта не было сакрэтам. Як заўважаў Баяноўскі, «што то з іншых высакародных дамоў не навіна такая вестка, што калі бы які з княжат Іх Міласці сыноў ВМ хацеў узяць за сябе, каб над назначаны пасаг добра папраўлены (быў)»[505].

Князь добра разумеў, што такое патрабаванне хто-небудзь мог назваць гандлем («торгованнем»), але, як заўважыў карэспандэнт, «не толькі для людзей такога высокага паходжання, а ў кожным доме людзі імкнуцца, каб карысць ад шлюбу была». Князь Слуцкі шукаў сабе такую партыю, каб мог далей спакойна жыць. Пры гэтым ён спасылаўся на вопыт продкаў, кожны з якіх ажаніўся з прыбыткам для сябе. Толькі фінансавыя цяжкасці вымушалі Юрыя, з яго пункту гледжання, у такім маладым узросце (23 гады) шукаць сабе жонку. Яшчэ адным аргументам для заключэння шлюбнага саюзу стала неабходнасць дапамогі ў нясенні цяжара службы на карысць караля і Рэчы Паспалітай, бо ніякіх іншых крыніц даходаў, акрамя сваіх маёнткаў, князь не меў.

У 1585 г. бакі спынілі свой позірк на кандыдатуры Барбары, дачкі падляшскага ваяводы Мікалая Кішкі. Саюз паміж прадстаўнікамі знакамітых фамілій (праваслаўнай і каталіцкай) стаў магчымым дзякуючы дапамозе жмудскага старасты Яна Кішкі і са згоды маці князя Кацярыны з Тэнчынскіх Радзівіл і яе другога мужа віленскага ваяводы князя Крыштафа Ра-









**Ліст Кацярыны Радзівіл**
**да Крыштафа Радзівіла ў справе шлюбу**
**князя Юрыя Слуцкага.**
**[1585] BN III 3277 (4838)**

дзівіла Перуна. Звычай пасылаць знатнага свата да кандыдаткі быў вельмі распаўсюджаны на абшарах Рэчы Паспалітай. Прытым сватам павінен быў быць хтосьці з адпаведным грамадскім статусам, паколькі сваталіся да дзяўчыны з сям'і сенатара. Ян Кішка прыходзіўся родзічам абодвум бакам. Ён быў звязаны даўнімі сувязямі з родам Алелькавічаў, а ўзяўшы шлюб з малодшай дачкой князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага Лізаветай, ён парадніўся і са слуцкімі князямі. Па тэстаменту Юрыя II Алелькавіча жмудскі стараста быў адным з апекуноў маёмасці маладых Алелькавічаў да часу іх выхаду з-пад апекі[506].

Маладыя да вяселля ніколі не бачыліся. Маці пісала 1 жніўня 1585 г., што князь Юрый ад яе з Турца накіраваўся да старасты жмудскага (Яна Кішкі), а адтуль паедзе да падляшскага ваяводы і, калі паненка спадабаецца, тады адразу і вяселле справяць, «а калі не спадабаецца, тады ад'едзе далей да іншых»[507]. Падобна, што справа ладзілася, і ў жніўні Барбара пайшла замуж за Юрыя Алелькавіча. Маці не змагла паехаць са старэйшым сынам і пазнаёміцца з будучай нявесткай. Яна не магла выехаць з Турца, куды да яе са дня на дзень быў павінен заехаць Ян Сімяон. Невядома, ці даехаў на вяселле брата апошні, бо адразу ад маці ён збіраўся выехаць у Польшчу. З сярэдзіны жніўня лістоў ад яго не было, і Ян Баяноўскі пісаў да Кацярыны з Тэнчынскіх, што на той момант было невядома, дзе знаходзіцца князь.

Вяселле князя Юрыя і Барбары адбылося ў маёнтку бацькоў нявесты, як гэта было прынята ў той час. Нягледзячы на тое, што нарачоныя былі знаёмыя нядоўгі час, арганізавана ўсё было вельмі шыкоўна. Аршак князя быў апрануты ў аднолькавыя шаты з тканіны серабрыстага колеру. Самае цікавае, што сродкаў на арганізацыю святочнага цягніка ў князя не хапала і ён прасіў справіць адзенне свайго слугу, слуцкага намесніка Юрыя Гурскага, які «выправіў для павагі маёй каштоўнае ахендожества — срэбраныя шаты для пахолкаў у такой барве»[508]. Адзенне толькі для пахолкаў (маладых хлопцаў-слуг) абышлося ў 400 коп грошаў — вартасць цэлага маёнтка. Юрый паабяцаў выплаціць свайму намесніку грошы за арганізацыю вяселля праз год, да дня Святога Міхаіла, ці перадаць яму ў трыманне сяло Умайсуце.

Паўстае пытанне: адкуль у слуг заўжды знаходзіліся грошы, якія яны пазычалі сваім гаспадарам? У слуцкага намесніка яны былі дзякуючы Кацярыне з Тэнчын-




скіх. Памятаючы пра волю памерлага мужа, яна ўзнагародзіла вернага слугу з 10 тысяч злотых, застаўшыхся ёй пасля падзелу маёмасці з сынамі. Юрыю Гурскаму з жонкай і дзецьмі 7 жніўня 1582 г. была падаравана 1 тысяча злотых[509]. Паступова гэтыя грошы ён пазычыў свайму маладому гаспадару. Князь Юрый браў у сваіх слуг не толькі грошы, але і каштоўныя рэчы, закладаючы ім сваю маёмасць. Таму ж Гурскаму ў пачатку 1586 г. ён быў вінен за трох коней (аднаго тураватага і двух іназходнікаў) шлык мармурковы і іншыя рэчы на 84 капы літоўскіх грошаў.

У дадатак да гэтага з восені 1585 г. абвастраецца хвароба Юрыя, ён фактычна адыходзіць ад публічнай дзейнасці і падоўгу знаходзіцца ў Слуцку. Малады князь аддае ўсе сілы сваім уладанням і падданым. Слуцк недарма лічыўся адным з багацейшых гарадоў краіны. Рэзідэнцыя князёў Слуцкіх таксама ўражвала. Нягледзячы на невялікія памеры верхняга замка, ён ні ў чым не саступаў велікакняжацкім рэзідэнцыям. На яго тэрыторыі акрамя княжацкага палаца з гаспадарчымі пабудовамі размяшчаліся дзве царквы, жылыя будункі ўраднікаў і нават звярынец, які знаходзіўся ў рове паміж верхнім і ніжнім слуцкімі замкамі. Упрыгожваннем звярынца былі леапарды і львы. У маі 1582 г. для іх былі зроблены новыя клеткі, «каморы для ніх умацаваны»[510]. Здабыць леапардаў ад князёў Слуцкіх імкнуліся многія знатныя асобы. Так, Крыштаф Радзівіл Пярун сам не рызыкнуў папрасіць у князёў Слуцкіх некалькі леапардаў для сябе (сем'і тады былі не ў лепшых адносінах), а прасіў пра гэта князя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага малодшага[511].

Складаная палітычная сітуацыя, актывізацыя дзейнасці езуітаў, прыхільнікамі якіх сталі члены сям'і Юрыя, вымусілі яго звярнуць больш увагі на канфесійныя пытанні. У справе аховы традыцый і становішча праваслаўнай царквы князі Алелькавічы ішлі пераважна па шляху апекі і падтрымкі існуючых цэркваў і манастыроў. Не трэба забываць, што з пачатку XVI ст. заканадаўча ў ВКЛ было забаронена будаўніцтва новых праваслаўных цэркваў. Самі князі Слуцкія доўгі час былі членамі львоўскага стаўрапігіяльнага брацтва, аднаго з найбольш заможных і ўплывовых на землях Рэчы Паспалітай[512]. У функцыі князя Юрыя як апекуна ўваходзіла разбіральніцтва памежных і гаспадарчых спрэчак, прызначэнне святароў, забеспячэнне існуючых цэркваў і манастыроў. Так, у снежні 1583 г. ён задаволіў скаргу папоў саборнай слуцкай царквы, якія скардзіліся князю на недахоп утрымання. Князь Юрый загадаў свайму іваньскаму намесніку Юрыю Гурскаму і ключніку замка Пятру Сажэўскаму выдаць усе прадукты дзякам згодна з фундушамі і запісамі яго продкаў[513]. У наступным годзе ён надаў на карысць Супрасльскага манастыра вёску Добрая ў сваіх падляшскіх маёнтках, якія межавалі з манастырскімі землямі[514]. У 1586 г. князь Юрый падцвердзіў правілы слуцкага брацтва, якое дзейнічала ў прыватнаўласніцкім горадзе і праз некалькі дзесяцігоддзяў стала найбольш актыўным царкоўным брацтвам[515].

У той жа час мы не заўважаем актыўнай грамадскай ці палітычнай пазіцыі апошняга праваслаўнага прадстаўніка гэтага роду ў пытаннях абароны інтарэсаў праваслаўнай царквы, якую дэманстравалі яго бацька, князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі, князь Багдан Агінскі.

На дадзены момант мы не маем звестак пра падтрымку інтэлектуалаў, чым славіўся двор яго бацькі. Няма дакладных пацвярджэнняў функцыянавання пры князі Юрыі ў Слуцку школы, скрыпторыя ці нейкіх іншых асяродкаў культурнага і рэлігійнага жыцця.




**Запіс святара Малафея на фарзацы «Слуцкага Евангелля».**
**1582 г. (?)**

Высновы пра вялікую набожнасць старэйшага з братоў Алелькавічаў былі зроблены на падставе захаваўшыхся ў Трайчанскім манастыры рэчаў. Гэта багата ўпрыгожанае каляровымі мініяцюрамі рукапіснае «Евангелле», пацір і посах архімандрыта. Багаты рукапіс быў прызначаны для прастола Успенскага сабора Трайчанскага манастыра ў Слуцку, дзе ён захоўваўся да 1917 г. На апошняй старонцы княжацкім спаведнікам пратапопам Малафеем (Мілахвіем) быў зроблены наступны запіс: «Не чудися благоразсудителное читателъю сие светлое Евангелии которое сам светое памяти Юры Юревичъ Олелько Княжа благочестивое Слуцкое року АФИЭ (1585) сам своею рукою власною переписав что починает золотом, а далее простым чернилом и миниею, бо тое учинилось не от скупости, Але от ревности великое ко благочестию светому, дабы такое переписане скоро до скутку своего прышло, а знову утаеваючи працы свои и кошты пред человеки, тое тот князь учинив йак мысьмо часто там бывали и видили и слышыли <…> Свядчим многогрешный поп Мілахвей Светое Барборы в Слуцку церкви, княжети с.п. духовный отец»[516]. Асоба, якая зрабіла гэты запіс, вядома нам. Гэта быў іерэй замкавай Успенскай царквы ў Слуцку Малафей Стэфановіч, які 2 студзеня 1572 г. атрымаў ад Юрыя II Юр’евіча князя Слуцкага царкву Святой Варвары ў замку[517]. Праз месяц, 5 лютага, князь пацвердзіў яму ўсе ранейшыя наданні, зробленыя на карысць гэтай царквы, і замацаваў іх навечна[518]. Такім чынам, асоба, якая служыла ў замкавай царкве, магла быць княжацкім спаведнікам і пакінуць нататкі пра свайго патрона. Выклікае сумненні даследчыкаў, што менавіта князь быў перапісчыкам і стваральнікам гэтага рукапісу. Мастацкія якасці «Евангелля», яго аздабленне сведчаць, што яно было зроблена прафесіянальнымі пісцамі. У паўсядзённым жыцці кірылічным уставам, якім было напісана «Евангелле», не карысталіся. Наўрад ці малады князь, атрымаўшы еўрапейскую адукацыю, вучыўся прыёмам кніжнага пісьма і мініяцюры ў нейкім скрыпторыі. Пра гэта няма звестак ні падчас яго дзяцінства, ні пасля яго вяртання з адукацыйнага падарожжа. Акрамя таго, як мы бачым, князь Юрый амаль усе пяць гадоў, што прайшлі паміж яго вяртаннем на Радзіму і смерцю, вёў актыўны лад жыцця, увесь час падарожнічаў па землях ВКЛ і Кароны Польскай. Таго кароткага часу, калі ён, захварэўшы, жыў у Слуцку (дзесьці паў-





гады), не хапіла б для стварэння такога аб'ёмнага рукапісу.

У працы архімандрыта Мікалая прыводзяцца звесткі, што «Евангелле» (хіба вокладка) было аздоблена надпісам з літых срэбраных літар: «сие Святое Евангелие рукою власною Юрии Юревичъ Олелько княже Слуцкое, во имя Пресвятыя Живоначальныя Тройцы, Отца и Сына и Св. Духа вечныя часы до С.М. благочестивого архимандрии Слуцкой на вечнаго богомолья и спасения души своея, во не забудную память прародители своихъ К.С. родителей самого себя Anno 1581 выписал року Р.Х. 1582 Іюня 4 дня нодалъ»[519]. Да нашых дзён гэты надпіс не захаваўся, але ён уступае ў супярэчанне са звесткамі і датай, пададзенай Малафеем. Гэтае супярэчанне можна вырашыць толькі наступным чынам: ці памыліліся складальнікі гэтых запісаў, ці князь Юрый замовіў напрастольнае «Евангелле» адразу пасля свайго вяртання з Італіі і падараваў яго манастыру, апекуном якога быў разам з братамі. Сама фармулёўка надпісу на вокладцы сведчыць, што гэта быў класічны спосаб памінання і сваёй душы, і душ сваіх продкаў. Старадаўняя традыцыя, якая існавала і ў праваслаўнай царкве, надавала значна большую вагу духоўным каштоўнасцям. Служэнне Богу было важнейшае за зямное, цялеснае жыццё, і таму захаванне памяці пра чалавека існавала ў форме малітвы за выратаванне яго душы. Магчыма, з гэтага разумення каштоўнасці святых кніг і падараванняў царкве і зыходзілі князь і яго спаведнік. Гэтым самым яны працягнулі традыцыю папярэдніх пакаленняў князёў Алелькавічаў-Слуцкіх[520].



**Застаўка са «Слуцкага Евангелля».**
**1582 г. (?)**

Імя Юрыя звязваюць яшчэ з дзвюма рэчамі, якія захоўваліся ў рызніцы Трайчанскага манастыра да 20-х гг. ХХ ст. Гэта срэбраны з пазалотай унутры чашкі келіх і пастараль. Час узнікнення існуючых рарытэтаў можна ўстанавіць вельмі прыблізна. Надпіс, зроблены на адваротным баку падстаўкі келіха, сведчыць, што ён быў падараваны манастыру князем Юрыем у 1580 г.: «юріи юрїевичъ олелко кнїажа слуцкое АФП до мон(ас)тира светое Троици Архїма(ндрии) слуцкое». Падобны надпіс быў размешчаны на срэбраным посаху архімандрыта[521]. Найбольшую цікавасць уяўляе менавіта дата. Юрый у гэты час знаходзіўся ў Італіі і нічога не мог падараваць манастыру. Магчыма, па яго просьбе гэта зрабіла маці ці ён замовіў посах і надпіс на гатычным пацiры, створаным у канцы XV ст. у Кракаве перад яго выездам за мяжу. Калі заказ быў пастаўле-







**Келіх. Канец XV ст. Дар Юрыя III Слуцкага Трайчанскаму манастыру.**
**Фота Ё. Смалінскага. 1904 г.**

ны ў Слуцк, мог ужо наступіць 1580 г., і таму менавіта гэта дата з'явілася на надпісах.

У выніку памяць пра князя Юрыя захавалася не дзякуючы стварэнню літаратурных і мастацкіх твораў, якія б апявалі яго род і жыццё, а ў выглядзе літургічнай памяці, характэрнай для больш ранніх часоў. Спалучэнне вернасці «даўніне», традыцыі з новымі заходнееўрапейскімі павевамі ў паўсядзённым жыцці з'яўляецца асноўнай рысай партрэта князя Юрыя Алелькавіча як гістарычнай постаці.

Памёр Юрый Алелькавіч 6 мая 1586 г. у Слуцку, дачакаўшыся з'яўлення на свет 1 мая свайго першынца — дачкі Соф'і. Апошнія некалькі тыдняў ён так саслабеў, што не ўставаў з ложка. Яго спаведнік Малафей бачыў прычыну яго ранняга зыходу ў клопатах, якія выпалі на долю маладога князя, «а найвенцей што уже и хороба приближалася, турбацыя Речи Посполитой укоротили жизнь тое княжати». Смерць мужа не была нечаканай для Барбары. Яшчэ ў пачатку лютага 1586 г. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка паведаміў Крыштафу Радзівілу пра дрэнны стан здароўя князя Юрыя. Становішча было настолькі дрэнным, што да яго ў Слуцк запрасілі асабістага лекара караля Стэфана Баторыя Сімоніуса. Ён і паведаміў Радзівілу Сіротку ў Нясвіжы, што малады Алелькавіч згасае ад сухот (tuszą że phtisis)[522]. Пан Куршскі, Ёзаф Быхавец з іншымі слугамі перапісалі ўсю маёмасць князя адразу пасля нараджэння дачкі, бо ўжо 1 мая было відавочна, што князь не паправіцца. Слугі таксама папрасілі скласці рэестр слуг і належнага ім, а таксама скласці тэстамент. Відавочна, яны хацелі, каб на паперы было



**Посах архімандрыта. 1580 г. Дар Юрыя III Слуцкага Трайчанскаму манастыру.**
**Фота Ё. Смалінскага. 1904 г.**

зафіксавана ўсё, што ім вінен князь[523]. Не зусім зразумела, чаму князь не паслухаўся сваіх намеснікаў. Магчыма, ён да апошняга спадзяваўся, што хвароба адступіць. Нягледзячы на такія крокі, слугі не атрымалі належнага ім яшчэ праз паўгады пасля смерці князя і былі вымушаны знаходзіцца ў Слуцку, чакаючы вырашэння праблем роднымі свайго памерлага гаспадара[524].

З блізкіх у той час у Слуцку нікога не было. Ян Сімяон знаходзіўся ў Капылі і адтуль кіраваў падрыхтоўкай да пахавання[525]. Ян Кішка ўзяў на сябе абавязак паведаміць смутную навіну родным і паклапаціцца пра маладую ўдаву і немаўля: «А што [датычыць] маёй беднай сястры, якая будучы з цяжарнасці цяжкой развязана, а без таго для сябе толькі ў турбоце і клопаце дні свае і гадзіны бавіць. З павіннасці пабожнага і літасцівага чалавека можа кожны таго пашкадаваць»[526].

Па просьбе старэйшага з братоў Алелькавічаў апекунамі нашчадкаў князёў Слуцкіх мусілі стаць дзве асобы, адной з якіх быў стараста асвенцымскі[527], а другой — князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі. Землі Юрыя III перайшлі ва ўласнасць дачкі. У яе ўладанні яны былі павінны заставацца пажыццёва[528]. Клопаты па кіраванні маёмасцю да дасягнення Соф'яй паўналецця ўзялі на сябе малодшыя браты Юрыя Ян Сімяон і Аляксандр.

На пахаванне, прызначанае на 6 жніўня 1586 г., у Слуцк з'ехаліся не толькі родзічы маладога князя. Развітацца з нябожчыкам палічылі неабходным прадстаўнікі амаль усіх знатных родаў ВКЛ. Свае спачуванні блізкім князя Юрыя Слуцкага выказаў нават кароль, прыслаўшы з Гродна праз Крыштафа Радзівіла ліст. Дакладна мы можам казаць пра родных (братоў, маці, братоў Хадкевічаў), Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіротку, Льва Сапегу, князёў Астрожскіх, Яна Кішку. Не змаглі прыехаць толькі тыя, хто па загаду караля быў павінен сустракаць маскоўскае пасольства і весці з ім перамовы[529].

Юрый III быў «погребен в Слуцку в Соборней Успенъя Пресвиатыя БогоМатери церкви у правого клироса положен»[530], згодна з запісам яго спаведніка на палях знакамітага Слуцкага Евангелля 1582 г. Па больш позніх звестках Афанасія Калнафойскага, які склаў апісанне некропаля Кіева-Пячэрскага манастыра, там знаходзілася надмагілле князя Юрыя III з наступным надпісам: «W roku panskim 1586 miesiaca maia. Dnia 6. Bywszy żyw lat Dwadzieścia sześć. Miesiecy ośm. Dni dziewietnaście. Jerzy Xiaże Słuckie, Z dawney a Zacney Jagełłonowey Familiey, Ierzego Olelkowicza, Xiążęcia Słuckiego, a Katarzyny Grabianki z Tenczyna Syn pierworodny, niemieszkawszy roku z Zoną swą Katarzyną Kiszczanką, ktora sobie poiał, z tego świata z wielka Matki y Braci, Przyiacioł, Sług y Poddanych swych zaiością iest powolany»[531]. Як мы бачым, надпіс на пліце чамусьці польскамоўны, чаго не бывала ў праваслаўных. Аднак сам аўтар напісаў, што надмагілле гэта было створана і пакладзена ва Успенскім саборы не роднымі князя, а слуцкім архімандрытам Самуэлем Залескім і кіеўскім мітрапалітам Пятром Магілай, якія хацелі такім чынам ушанаваць памяць апошняга апекуна манастыра з роду князёў Алелькавічаў. Пра больш позні характар гэтага мемарыяла, створанага праз 50—70 гадоў пасля смерці старэйшага з братоў, кажа і сам надпіс, які ўтрымлівае факталагічныя памылкі ў апісанні жыцця князя Юрыя. Як можна заўважыць, яго жонкай названа Кацярына, а не Барбара Кішка. Прыватная перапіска магнатэрыі ВКЛ таксама сведчыць пра тое, што на пахаванне з'язджаліся ў Слуцк, і пра перанос цела ў Кіеў нічога не гаворыцца.

У II палове XVI ст. адбываецца змена ўяўленняў пра добрае «пахаванне»[532]. Памяняліся самі арыенціры: зараз пахаванне











**Ліст Барбары княгіні Слуцкай да Крысціны Яўфіміі Радзівіл.**
**1586 г. AGAD. AR. Dz. II. Sign. 3414**

ў манастыры і прыняцце пострыгу перад смерцю становіцца не актам пакаяння і смірэння, а падкрэсліваннем «славы» нябожчыка, спосабам апявання яго жыцця і ўчынкаў. У выніку заможныя роды пачынаюць пераносіць родавыя ўсыпальніцы з манастырскіх крыптаў у родавыя маёнткі ці патранальныя манастыры, што падкрэслівала высокую пазіцыю роду (Супрасль, Кодзень, Еўе, Прылукі пад Мінскам і тое ж пахаванне Юрыя III у Слуцку). На погляд Н. Якавенка, такі выбар месца пахавання паказваў не клопат пра выратаванне душы, а толькі родавую салідарнасць «вялікіх людзей» ці падкрэсліванне статусу месца для дадзенага роду. Да сярэдзіны XVI ст. матэрыялізаваным увасабленнем такой салідарнасці для Алелькавічаў выступае Кіева-Пячэрскі манастыр, дзе князі нібыта былі адзіным родам, які выводзіўся ад старадаўніх кіеўскіх князёў (для нашчадкаў галіцка-валынскай галіны).

Да гэтых фактараў дадаецца крызіс у праваслаўнай царкве і падзенне яе аўтарытэту. Гандаль царкоўнымі пасадамі, невысокі ўзровень адукацыі і эрудыцыі святароў, невыкананне ўмоў фундыцый (калі малітвы за душы рэгулярна перасталі адбывацца) прывялі да падзення даверу да саміх святынь. Быць пахаваным там ужо было актам не столькі выратавання душы, колькі вернасці традыцыі быць пахаваным разам з продкамі. У той жа час у родавых маёнтках, патранальным манастыры ці храме заўпакойныя службы служыліся рэгулярна, можна было самім прысутнічаць на іх. Акрамя таго, пахаванні ў праваслаўных храмах не вызначаліся пышнымі надмагіллямі. Прадстаўнікі роду, манахі і міране традыцыйна аддавалі пашану сваім уладарам і іх продкам без лішняй помпы.

Лёс пахавання князя Юрыя склаўся нешчасліва. Успенскі сабор у слуцкім верхнім замку перабудоўваўся некалькі разоў. Першы раз у 1673 г., потым пасля пажару 1702 г.[533]. У 1745 г. замкавая саборная царква згарэла ў чарговы раз[534]. Паколькі яна была драўляная, то ад яе нічога не засталося. Уладальнік Слуцка Геранім Фларыян Радзівіл забараніў аднаўляць царкву на замку, у якой да пажару служыла 12 святароў. Звестак пра тое, што труна князя (якая знаходзілася ў крыпце) была перанесена, намі не знойдзена. Пры археалагічных даследаваннях пахавання пад правым клірасам сабора таксама не было выяўлена. Адзіным пацвярджэннем пахавання князя Юрыя ў Слуцку, акрамя запісу яго спаведніка, можа служыць надпіс на яго алейным партрэце: «Jerzy Xiążе Słuckie umarł 1586 leży

w Słucku»[535]. Калектыўны партрэт князёў Алелькавічаў быў сфатаграфаваны і апісаны польскім мастацтвазнаўцам Ёзафам Смалінскім падчас экспедыцыі 1904 г. На чорна-белым здымку надпісы і сентэнцыі не былі бачнымі, і таму даследчык іх перамаляваў. Акрамя таго, ён занатаваў падрабязнае апісанне саміх выяваў. Пасля рэвалюцыі выявы князёў Слуцкіх з царквы былі перанесены ці ў гістарычны музей у Слуцку[536], ці ў гістарычны музей у Мінску, адкуль і зніклі падчас Другой сусветнай вайны[537]. Тут варта скарыстацца нататкамі Ёзафа Смалінскага, які даў падрабязнае апісанне постаці на партрэце: «малады князь Юрый прадстаўлены на фоне чырвонай у фалды драпіроўкі ў італьянскім адзенні, з белым жабо на шыі і ў кафтане цёмна-сіняга колеру, перапаясаны светлым пасам; штаны абцягваючыя цёмна-карычневыя, плашч цёмна-чырвоны з жоўтай адамашкавай падшыўкаю з рэнесансным арнаментам. Шпага вузкая з багатай італьянскай рукаяццю»[538]. Гэта дало падставы выказаць меркаванне, што арыгінал партрэта быў выкананы падчас замежнага падарожжа князя Слуцкага. На жаль, даследчык не ўказаў ні колеру валасоў, ні колеру вачэй князя.



**Юрый III Слуцкі.**
**Гравюра з партрэта 1753 г.**





Пра далейшы лёс удавы Юрыя вядома не шмат. У Барбары адразу ўзніклі праблемы з даўгамі мужа і магчымымі апекунамі яго маёмасці — братамі мужа. Фактычна яны адсунулі яе ад вырашэння ўсіх спраў. Яны не дазволілі ўзяць ёй да сябе паперы мужа, як таго хацеў Ян Кішка. Ян Баяноўскі пісаў, што княгіня пасля смерці мужа паведаміла, што стараста жмудскі пытаўся, дзе знаходзяцца мембраны князя Юрыя і паперы на Бабруйск, і прасіў іх перадаць яму. Ян Сіміяон забараніў рабіць гэта. Не магла яна прэтэндаваць і на ўтрыманне яе як удавы. Амаль адразу пасля вяселля яна запісала князю Юрыю ўсё вена, якое ён даў за пасаг[539]. У роспачы праз некалькі дзён пасля смерці Юрыя яна пісала да жонкі Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі з просьбай дапамагчы ёй у складанай сітуацыі. У сваім лісце адзначыла, што муж тэстамента не пакінуў і ёй ніякай маёмасці не запісаў, а ўсе каштоўнасці, прынесеныя з бацькоўскага дому, яна яму падаравала[540]. У спісе дакументаў слуцкага архіва, якія былі перададзены Юрыю Хадкевічу, ёсць пазіцыя, якая пацвярджае словы Барбары. Гэта ліст, якім Барбара Кішка мужу свайму Юрыю вена запісала[541].

Згодна з правам, браты мужа нічога і не былі павінны выдзяляць яго ўдаве. Пра будучае жанчыны клапаціліся яе бацькі (яны давалі пасаг і сачылі, каб муж яго забяспечыў запісам на сваіх землях). Барбара добраахвотна падаравала мужу ўсю маёмасць, якая ёй належыла. Яна паверыла Юрыю, які ўпэўніў жонку, што яна пакрыўджана не будзе і ён паклапоціцца пра яе





будучыню. Князь Слуцкі свайго абяцання не выканаў, ніякіх лістоў на яе карысць не склаў і нават не напісаў тэстамент, хаця яго настойліва прасілі пра гэта. У выніку жанчына засталася без сродкаў да існавання.

Тым не менш, як сведчыць тэстамент Барбары, сваякі ўжо праз некалькі месяцаў пасля пахавання мужа запісалі ёй на маёнтках Язель у Наўгародскім павеце і Саколна ў Мазырскім павеце 1600 коп грошаў літоўскіх, ці 4 тысячы злотых[542]. Гэта прытым, што яе пасаг быў ніяк не менш за 10 тысяч злотых, а хутчэй за ўсё, і значна болей. Ян Сімяон падпісаў паперы 12 жніўня 1586 г., Аляксандр — на некалькі месяцаў пазней, 14 лістапада. На правах дажывотнага трымання яна карысталася даходамі ад Петрыкоўскага і Колненскага маёнткаў, а таксама Дабрадзееўскай воласці.

Праз некалькі гадоў, яшчэ да пачатку лютага 1592 г., Барбара выйшла другі раз замуж за гомельскага старасту Андрэя Сапегу. Разам з другім мужам яна ў 1595 г. пашырыла даўні фундуш 1501 г. князя Юрыя Сямёнавіча Алелькавіча на Уваскрэсенскую царкву ў Петрыкове[543]. Яшчэ раней, 8 лютага 1592 г., яны далі сынам святара коленскай царквы Святога Іаана Якава Галакціёнавіча царкву і зямлю ў вёсцы Боркі. Сыны павінны самі вырашыць паміж сабою, хто з іх найбольш годны да царкоўнай службы. Новы святар акрамя звычайных абавязкаў быў павінен маці з іншымі дзецьмі да яе смерці шанаваць і даглядаць[544]. Гэтымі землямі Барбара карысталася да смерці ў красавіку 1596 г. і запісала іх па тэстаменту не адзінай дачцэ, а мужу[545].

Даўгі мужа і абавязкі іх выплаціць перайшлі да апекуноў адзінай дачкі Юрыя — Соф'і. Ян Баяноўскі пісаў, што ў лістападзе 1586 г. ён адчувае недахоп у грошах і не можа расплаціцца з купцамі, якім быў павінен у канцы кастрычніка ў Слоніме вярнуць 13 тысяч лоўгу[546]. З прэтэнзіямі выступіў і князь Палубенскі, які перад самай смерцю Юрыя пазычыў яму 5 тысяч злотых пад заклад некаторых частак Бабруйскага староства[547]. Яшчэ 3 тысячы злотых Юрый застаўся вінен самому Баяноўскаму, акрамя тых выдаткаў, якія верны слуга панёс, арганізуючы пахаванне свайго патрона[548]. Нядоўга чакаў, каб выступіць з патрабаваннем вярнуць грошы, яшчэ адзін слуга Юрыя Алелькавіча — Вярбіцкі, якому той быў вінен 1000 злотых. Не былі ў час выкуплены закладзеныя Юрыем маёнткі Фантаў і Яжыла, што таксама не паляпшала фінансавую сітуацыю нашчадкаў князя Юрыя. Сам Юрый быў не ў стане займацца справамі ўвесь 1586 г. У выніку на момант смерці даўгі князя Юрыя складалі 30 тысяч злотых. Судовыя справы па іх выплатах расцягнуліся да смерці апошніх мужчынскіх прадстаўнікоў роду і прынеслі нямала клопату davераным слугам і крэдыторам Юрыя Алелькавіча.

Пасля яго смерці большасць слуг перайшла на службу да яго брата Яна Сімяона, які стаў главой роду і паспрабаваў працягнуць пачынанні бацькі і брата на палітычнай арэне.

## ЯН СІМЯОН

Як мы пісалі вышэй, другі сын нарадзіўся ў Юрыя II Слуцкага і Кацярыны з Тэнчынскіх у канцы 1560 — пачатку 1561 г.

За мяжу ён паехаў, дасягнуўшы свайго васямнаццацігоддзя, але ў адрозненне ад старэйшага брата яго падарожжа прадугледжвала наведванне ўніверсітэцкіх цэнтраў і, магчыма, слуханне там пэўных курсаў лекцый па філасофіі, палітыцы, рыторыцы, праву. Па звестках Джавані Андрэя Калігары, папскага нунцыя пры каралеўскім двары ў Польшчы, мэтай падарожжа малодшых Алелькавічаў быў Інгальштацкі ўніверсітэт, адна з найбольш






**Інгальштат.**

**К. Цвікопф, Х. Мюліх. 1546 г. Гравюра з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1572 г.**

вядомых езуіцкіх школ[549]. У сваіх лістах папскі нунцый дапускаў магчымасць наведвання князямі Алелькавічамі і езуіцкіх калегіумаў у Рыме. На падставе аналізу перапіскі папскіх пасланнікаў можна сцвярджаць, што калі старэйшы брат рабіў, хутчэй за ўсё, азнаямляльнае падарожжа, каб сябе паказаць і людзей пабачыць, то малодшыя князі Аляксандр і Сямён накіроўваліся менавіта на навучанне. Колькасць чалавек, якія выехалі з Сямёнам, зараз устанавіць цяжка, бо ва ўніверсітэцкія матрыкулы ён не ўпісваўся. Крыніцамі пра асабісты склад яго суправаджэння могуць быць толькі ўскосныя згадкі і лісты яго родных. Аршак сярэдняга брата, як і астатніх, быў змешаны — з ураджэнцаў Кароны Польскай і ВКЛ. Дакладна вядома, што ў падарожжы падчас вяртання дадому яго суправаджалі Андрэй Рагульскі, Геранім Валовіч, Станіслаў Гумінскі, Прандота Дзержак, Сымон Пётр Собек і Марцін Панескі. Мы маем звесткі толькі пра некаторых з іх. Так, Геранім Валовіч выехаў за мяжу на некалькі гадоў раней за братоў Алелькавічаў і ўжо ў 1578 г. быў іматрыкуляваны ў Лейпцыгу[550]. Магчыма, ён далучыўся да князя Сямёна ў Германіі як «прыстойная» для князя Слуцкага кампанія і чалавек, дасведчаны ў мовах і звычаях чужаземцаў. Прандота Дзержак быў малодшым братам гувернёра князя Аляксандра Слуцкага, каралеўскага сакратара Яна Дзержака. Разам са сваім патронам ён не толькі атрымаў адукацыю, але і заставаўся ў яго на службе да самай смерці князя Слуцкага. Магчыма, дзякуючы гэтаму Прандота Дзержак потым зрабіў неблагую палітычную кар'еру, стаўшы стольнікам і люблінскім гродскім суддзёй[551]. Станіслаў Гумінскі, герба Роля, быў сынам малазямельнага шляхціча з Ленчыцкага ваяводства і выконваў функцыі пахолка і кур'ера. Акрамя названых вышэй шляхцічаў у аршаку знаходзіўся і блазан іспанец, які, магчыма, далучыўся ўжо ў Еўропе. Як бачна, нам не хапае кандыдатуры ахмістра аршака сярэдняга брата і яшчэ некалькіх чалавек, якія падарожнічалі з ім па нямецкіх і італьянскіх землях.

Пасля Вроцлава Сямён паехаў далей, у вызначаны праз маці нямецкі ўніверсітэт,





і праз некаторы час сустрэўся з Аляксандрам. Пазней, у канцы верасня — пачатку кастрычніка 1580 г., ён накіраваўся ў Мілан, каб пабачыцца са старэйшым братам Юрыем і пазычыць у яго грошай на далейшы шлях. Звесткі пра гэта мы знаходзім у лісце князя Юрыя да маці: «да прыезду да мяне князя Сімяона, які застаўшы мяне ў такой школе, а палову толькі ведаючы, што са мною адбывалася, сам мяне шкадаваў з братэрскай любові»[552]. Брат вельмі вобразна апісвае стаўленне сярэдняга Алелькавіча да сітуацыі, што склалася ў адносінах паміж князем Юрыем і Стшэшкоўскім. Узгадкі старэйшага брата сведчаць, што Сямён меў выбуховы, гарачы, хуткі на абвінавачванні і расправу характар, быў схільны да раскошы і марнатраўства. На гэтыя рысы яго характару неаднойчы будуць скардзіцца як слугі Сямёна, так і яго блізкія знаёмыя. Той жа Стшэшкоўскі, калі апраўдваўся перад Кацярынай з Тэнчынскіх за італьянскія прыгоды, пісаў, што менавіта Ян Сімяон «ненавісць да яго ўзяў», а сам гаспадар князь Юрый казаў, што ахмістр быў невінаваты. Хіба ён так і не даведаўся праз вялізны ліст свайго гаспадара да маці, а падазраваў яго сярэдняга брата ў злапомнасці.

У Мілане Сямён прабыў не больш чым за некалькі тыдняў. Ён быў у сталіцы Ламбардыі, калі захварэў князь Юрый, пазычыў ад брата 200 злотых (ад продажу апошняга залатога ланцуга) на далейшую дарогу. Адтуль ён накіраваўся ў Балонню, пра што ўскосна сведчыць узгадка з ліста Юрыя ад 31 студзеня 1581 г., дзе ён абяцае маці параіцца з Сямёнам пра неабходнасць пачынаць новы этап барацьбы за спадчыннае месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай[553].

Кароткія звесткі пра яго побыт у Балонні пакінуў у сваіх лістах Д.А. Калігары. Прыезд Сямёна ў Балонню і навучанне яго ў мясцовым універсітэце былі спланаваны яшчэ да пачатку яго падарожжа. Выбар маршрута быў вынікам перамоў паміж маці, яе стрыечным братам Андрэем Тэнчынскім і папскім нунцыем. Паколькі Сямён, на думку маці, быў схільны да прыняцця каталіцтва, было вырашана ажыццявіць гэты акт у Балонні. Ад імя Рымскага Папы Грыгорыя XIII, ураджэнца Балонні, вядомага ўвядзеннем новага календара, і па яго жаданню губернатару Балонні быў аддадзены загад прыняць «аднаго з трох сыноў колішняга князя Слуцкага веры рускай, але схіляецца да прыняцця каталіцтва, <…> завецца Сімон князь Слуцкі»[554] на самым высокім узроўні і арганізаваць прыняцце ім каталіцкай веры. Усё ўказвае на тое, што канверсія другога брата адбылася менавіта ў Балонні. Ва ўсялякім разе, ліст, напісаны ў красавіку 1581 г. да маці ён падпісаў ужо як «JSimeon kx slucz ręką swą» — «Ян Сімяон князь Слуцкі рукою сваею»[555]. З гэтага моманту ва ўсіх дакументах ён падпісваецца падвоенным імем — Ян Сімяон. У далейшым таксама будзем называць яго і мы. У лістах людзей, якія яго ведалі да прыняцця каталіцтва, ён да канца жыцця будзе называцца князем Сямёнам.

Пасля Балонні Ян Сімяон сустрэўся на Вялікдзень з братам у Рыме, у красавіку знаходзіўся ў Луцы і потым на працягу лета—восені 1581 г. падарожнічаў па Італіі. У сваім лісце з Лукі ён дзякаваў маці за клопаты пра здароўе і прысланыя падарункі, аднак скардзіўся, што больш за ўсё яму не хапае грошай. Зроблена гэта было вельмі тонка. Сын проста выказаў шкадаванне, што не можа зрабіць маці падарунак на Новы год: «А было б добра ВКМ адасланць нейкі тутэйшы падарунак на памяць, але на гэты час ніводнага такога, які бы быў годны патрапіць да рук ВКМ знайсці не змог. Часткова за недахопам тут тых рэчаў, часткова і за нястачы грошай»[556].

У чэрвені 1581 г., даведаўшыся пра вяртанне на радзіму старэйшага з братоў Юрыя, Крыштаф Радзівіл Пярун стаў



BONONIA DOCET MATER STVDIORVM
ILLVSTRISSIMO SENATVI BONONIENSI







**Балонняя.**

**Гравюра. І. Блеў. 1640 г.**

прасіць Кацярыну з Тэнчынскіх загадаць і астатнім сынам хутчэй вяртацца дадому: «Пра тое Пана Бога прошу, загадайце ВКМ у гэтый жа час па сыноў сваіх паслаць»[557]. Падобна, што маці пайшла насустрач яго просьбе. Ян Сімяон выехаў дадому, у жніўні 1581 г. сустрэўся з малодшым братам Аляксандрам у Інгальштаце. Там адбыўся абмен дваранамі. Частку з іх Ян Сімяон забраў з сабой, некаторых са сваіх слуг пакінуў пры Аляксандры. Дадому ў Слуцк ён прыехаў праз некалькі месяцаў пасля старэйшага брата. Як пісала Соф'я Трызна, у Слуцку ён быў 20 снежня 1581 г.[558]. Адразу па яго вяртанні ў сям'і пачаліся канфлікты. Пачатак ім быў пакладзены яшчэ ў Германіі. Ян Сімяон вельмі дрэнна паставіўся да планаў маці пайсці замуж за Крыштафа Радзівіла Перуна. Вінаватай у іх збліжэнні сярэдні брат палічыў ахмістрыню маці Соф'ю Трызну. Ян Сімяон не толькі абвінаваціў яе ў сводніцтве, але выказаў яе сыну Аляксандру Трызну меркаванне, што Соф'я Трызна жадае атруціць свайго мужа, каб пайсці замуж за служэбніка Радзівіла Перуна[559]. Магчыма, гэта і стала адной з прычын адсылкі маладога Трызны на радзіму. Да таго ж на Трызніну нагаварыў Яну Сімяону по-





**Рым.**

**Дж. Ф. Камоцыа. 1569 г. Гравюра з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1572 г.**

знаньскі купец і крэдытор княгіні Слуцкай Лукаш Рачак.

Яшчэ не ўступіўшы ў правы на спадчыну, Ян Сімяон пачаў рабаваць маёнткі і выганяць намеснікаў і слуг, пастаўленых там бацькам і маці. Ёзаф Быхавец паведамляў, што, асцерагаючыся такіх настрояў сярэдняга сына сваёй пані, Андрэй Трызна з жонкай і ўсёй маёмасцю мусілі выехаць са свайго дома да Уселюба, уладання Мікалая Радзівіла Рудага, бо баяліся нападу з боку Яна Сімяона. Прыехаўшы ў Турэц, які па тэстаменту бацькі адыходзіў да маці, ён паспрабаваў забраць рамеснікаў і рухомую маёмасць, кажучы, што маці ўсе скарбы павывозіла (хіба, са Слуцка да Турца). Дайшло да таго, што малады князь хацеў забраць з сабою нават дворку маці, нейкую панну Рашчанку, якая ад яго таксама ўцякла да Уселюба. Быхавец прасіў у Кацярыны з Тэнчынскіх: «а калі яшчэ ці два прыезда, каб зноў чаго бараніць не жадалі, раю Вашай Міласці нашай міласцівай пані старацца пра тое, каб маёнткі ў спакою былі і мы слугі Вашай міласці былі ў бяспецы наконт здароўя свайго»[560].

Пасля падзелу бацькоўскай маёмасці Яну Сімяону адышлі Новы Двор у Слуцку (частка, якая знаходзілася на другім беразе р. Случ) разам з дваром Амговічы і валасцямі Скавыцінскай і Валатынскай. Акрамя гэтых уладанняў сярэдні брат атры-





маў Капыль — замак з горадам і воласцю, двары Цімкавічы, Савічы, Скеп'ева, Усава, Дзелядовічы, мястэчка Семежава, палову маёнтка Глуск і Дарогі з дваром і мястэчкам Дарогі (зараз Старыя Дарогі), якія знаходзіліся ў Наваградскім ваяводстве. У Гродзенскім павеце ў яго было толькі адно ўладанне — Лішкава.

Як і браты, ён амаль адразу пасля падзелу ўзнагародзіў бацькавых слуг, якім былі абяцаны землі ці ўтрыманне з зямель, што перайшлі ў спадчыну да яго. Сведкамі пры гэтых наданнях на карысць старых бацькоўскіх слуг выступілі астатнія князі Слуцкія — Юрый і Аляксандр. Ён перадаў 8 лістапада 1582 г. фальварак Хжанаў з дзвюма вёскамі Рэдкавічы і Касляшэвічы слузе, «что его милости пану Юрию Олельковичу княжати Слуцкому пану ойцу нашому пан Ян Кавецкий учтивее и пристойнее з молодости лет своих час немалый служил с ласки отца нашого имение в повете Слуцком лежачае называемое Храново с людьми с селах полеских <...> аж до живота отца нашого и до делу мне с их милостями братями <...> служить не переставал»[561]. Вартасць гэтых зямель была дастаткова вялікая. Калі б самі князі ці іх нашчадкі пажадалі вярнуць фальварак, то павінны былі выплаціць Яну Кавецкаму ці яго дзецям 2 тысячы злотых, ці 800 коп літоўскіх грошаў.

Недахоп грошай стаў адзнакай усяго жыцця Яна Сімяона. Ён быў вымушаны ўвесь час пазычаць грошы, закладаць ці прадаваць каштоўнасці і землі. Адным з асноўных яго крэдытораў стала сям'я слуцкага войта Купрыяна Цішэвіча. У пачатку снежня 1582 г. Ян Сімяон паведаміў свайму навадворскаму намесніку



**Ліст Яна Сімяона Слуцкага на пазыку грошай у братоў Валадковічаў. 1584 г.**








**Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка.**
**Л. Кіліані. XVII ст.**

Мікалаю Прышмыкоцкаму і войту места навадворскага, што заклаў Саве Купрыянавічу Цішэвічу шэраг зямель з дваром плябанскім у Новым Двары Наваградскага павета[562]. У канцы чэрвеня 1584 г. князь пазычыў у слуцкага войта Купрыяна Цішэвіча з сынамі Міхалам і Емяльянам 700 коп грошаў літоўскіх і запісаў ім у трыманне на адзін год, да Святых Пятра і Паўла (29 чэрвеня) 1595 г., з правам збору падаткаў маёнтак Васілеўшчына і востраў на ставе на р. Случ, дзе былі пашня і бортнае дрэва. Слуцкі войт у дадатак быў пазбаўлены і ад ваеннай службы з гэтых земель[563]. Грошы вярнуць ім Ян Сімяон у час не змог і праз два гады пазычыў пад заклад тых жа маёнткаў у слуцкага войта яшчэ 100 коп грошаў[564]. Для справядлівасці трэба заўважыць, што ў гэты ж час у слуцкага войта пазычыла 1055 коп грошаў і маці Яна Сімяона Кацярына з Тэнчынскіх[565].

У сакавіку 1584 г. пад пазыку ў 300 коп грошаў ён перадаў у пажыццёвае валоданне бацькоўскім служэбнікам Васілю, Яну і Грыгорыю ПаўлавічуВаладкевічам маёнтак Старыцы недалёка ад Капыля і Прошыцы недалёка ад Слуцка. Праўда, апошні трымаў яшчэ іх бацька Павел Валадковіч, а ў маладога князя не было сродкаў выкупіць яго[566]. У красавіку 1584 г. ён заставіў князю Палубінскаму, дзержаўцы вількейскаму і паюрскаму, за 9 тысяч коп грошаў маёнтак Дарогі з мястэчкам, усёй воласцю і сёламі, Скавыжынскую воласць з усёй маёмасцю і падданымі на адзін год. Умовы былі такія ж, як з Цішэвічамі. Пры невяртанні пазыкі праз год у Дзярэчыне Дарогі заставаліся ў трыманні Палубінскіх да моманта вяртання пазыкі[567].

У жніўні 1584 г., не здолеўшы выплаціць доўг старому слузе бацькі Міхалу Булгарыну ў 1500 коп грошаў, Ян Сімяон перадаў яму маёнтак Заволкі ў Капыльскім княстве разам з баярамі. За службу асабіста слузе было запісана дадаткова яшчэ 400 коп грошаў пажыццёва, і гэта без уліку таго, што Булгарын за ўласныя сродкі адбудаваў маёнтак і двор[568].

Фінансавая сітуацыя пагоршылася пасля таго, як у 1585 г. ад Яна Сімяона патрабавалі вярнуць у скарб грошы, атрыманыя з Магілёўскага староства, якое было пацверджана яму і братам Стэфанам Баторыем у 1579 г.[569]. Пакуль староства знаходзілася пад іх сумесным кантролем, яны мелі штогод пэўную суму грошай, але зараз скарб выкупаў сваю заставу.

Спроба самастойна зрабіць палітычную кар'еру таксама скончылася да Яна Сімяона нічым. Ён не пайшоў па ранейшаму шляху, калі князі Алелькавічы патрабавалі хаця б адно спадчыннае месца для старэйшага ў родзе. Ён узяў за прыклад палітыч-





ную кар'еру князёў Астрожскіх і паспрабаваў атрымаць адзін з вышэйшых урадаў, каб на законных падставах увайсці ў Сенат. Па чыёсьці парадзе ён стаў спрабаваць атрымаць міністэрскі ўрад надворнага маршалка ВКЛ і нават здабіўся намінацыйнага прывілея для сябе. У той жа час Мікалай Радзівіл Сіротка, які сам доўга займаў гэты ўрад, вельмі скептычна паставіўся да гэтай спробы князя Слуцкага. У сваім лісце да Крыштафа Радзівіла Перуна ён выказаўся на гэты конт недвухсэнсоўна. Ні ён сам, ні Крыштаф Радзівіл не раілі Яну Сімяону гэтага рабіць, таму на іх падтрымку ён не мог разлічваць. Як выказаўся Сіротка, няхай князь сам думае, навошта яму гэта патрэбна, бо кожны сам майстар свайго лёсу. Прыдворны ўрад нікога да галечы не даводзіў, але ён сам са свайго вопыту можа паведаміць, што маршалкоўства патрабуе добрых грошай. Сіротку ў маладосці пашчасціла, бо ён быў не жанаты і з добрым утрыманнем ад караля. Ян Сімяон гэтага не мае, акрамя таго, знаходзіцца ў вялікіх даўгах. Да таго ж яму будзе неабходна амаль увесь час праводзіць пры каралеўскім двары, а калі ён хутка ажэніцца, выдаткі яшчэ больш вырастуць. Фактычна Ян Сімяон можа патраціць рэшты сваёй маёмасці толькі на шанс вярнуцца ў Сенат і зрабіць кар'еру. Не спрыяў, з пункту гледжання Радзівіла Сіроткі, хуткаму атрыманню вышэйшых пасад малады ўзрост князя і тое, што ён патрабаваў кіраўніцтва з боку старэйшых прыяцеляў. Калі б на вышэйшыя ўрады прызначалі толькі са знакамітых асоб, тады б кандыдатура Яна Сімяона падыходзіла добра, але звычайна кароль кіраваўся іншымі крытэрыямі. Фактычна, на думку нясвіжскага ардыната, малады князь Слуцкі не быў здатны для такой высокай пасады, а яго спроба атрымаць урад маршалка дворнага была толькі выразам асабістых амбіцый[570].

Невядома, ці пазіцыя Стэфана Баторыя супала з меркаваннем Мікалая Крыштафа Радзівіла, ці адсутнасць падтрымкі літоўскіх магнатаў не спрыяла прасоўванню кандыдатуры Яна Сімяона, але кароль адмовіў яму ў атрыманні гэтага прыдворнага ўрада[571]. Так скончылася адзіная спроба за ўвесь час існавання роду атрымаць дзяржаўную пасаду. Магчыма, калі б не заўчасная смерць Стэфана Баторыя, сітуацыя магла б абярнуцца па-іншаму.

Выратаваннем ад канчатковага краху магла стаць жаніцьба на нявесце з вялікім пасагам. У нявесты Яну Сімяону прыгледзілі Соф'ю, старэйшую дачку вялікага кароннага гетмана, падольскага ваяводы Мікалая Мялецкага (к. 1540 — 11.05.1585) і Лізаветы Мікалаеўны Радзівіл (1550—1591). Мікалай Мялецкі быў не толькі вельмі заможным, але і ўплывовым



**Мікалай Мялецкі, гетман каронны.**

**Гравюра з твора Б. Папроцкага «Гняздо цноты». 1579 г.**






**Соф'я з Мялецкіх.**
**Невядомы мастак. Копія XVIII ст.**

чалавекам, кандыдатуру якога двойчы прапаноўвалі на польскі трон падчас бескаралеўяў. У яго было толькі дзве дачкі — Соф'я і Кацярына, якія заставаліся адзінымі спадчынніцамі значнага маёнтка і маглі ўмацаваць пазіцыі князёў Алелькавічаў у Кароне. Саюз з Мялецкай мог параднiць маладога князя з нясвіжскімі Радзівіламі і адной з багацейшых польскіх фамілій і паспрыяць яго далейшай палітычнай кар'еры. Тут пасрэднікамі-сватамі выступілі віленскі ваявода Крыштаф Радзівіл Пярун і кракаўскі ваявода Андрэй Тэнчынскі (к. 1510 — 1588).

Першапачатковыя перамовы з Мікалаем Мялецкім былі праведзены на Варшаўскім сойме віленскім ваяводам Радзівілам Перуном. Мялецкі даў згоду на такі саюз, бо, як пісаў сам Ян Сімяон, меў да яго «прыязнь блізкую», і запрасіў «прыехаць у дом свой»[572]. Згоду гетман пацвердзіў яшчэ раз праз Мікалая Фірлея. Аднак 11 мая 1585 г. падольскі ваявода памёр. Князь Слуцкі выехаў з Кракава да Мяльца, суправаджаючы жалобны картэж разам з падканцлерам каронным Войцехам Бараноўскім, серадзкім ваяводам Альбертам Ласкім і «дваром караля ЯМ усім»[573]. Падчас пахавання Мікалая Мялецкага 20 мая ў Мяльцы і жалобных імпрэз Ян Сімяон паспрабаваў дамовіцца пра шлюб ужо з маці Соф'і, але тая папрасіла час падумаць і адклала адказ да дня Святога Марціна (11 лістапада). Лізавета з Радзівілаў Мялецкая не так прыхільна ставілася да кандыдата з роду Алелькавічаў, як яе муж. Значныя маёнткі былі абцяжараны даўгамі, ніякага ўрада малады князь не атрымаў, месца ў Сенаце род таксама быў пазбаўлены. Да таго ж маці была не проста набожнай каталічкай, а асобай, якую цікавілі багаслоўскія пытанні і палеміка. Яна не была ўпэўнена ў адданасці каталіцтву выхаванага ў праваслаўі князя. Да таго ж яна хацела атрымаць згоду ад апекуноў, прызначаных падольскім ваяводам: «адклала тыя справы да размовы з панамі апекунамі, паміж якімі мне мае мацярынскае права і ласка пана мужа маяго першай зрабілі, але мяне мой жаночы розум прыніжае і для таго без паноў апекуноў, на якіх нябожчык роўна са мною (абавязкі) усклаў, я ў той справе нішто. Будзь таму церплівы, паразмаўляўшы з імі, адказ дам»[574].

Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка таксама ўважліва назіраў за перамовамі, якія вырашалі далейшы лёс яго пляменніцы, хаця і не ўваходзіў у кола афіцыйных апекуноў. Менавіта да яго ў чэрвені 1585 г. Ян Сімяон накіраваў ліст з просьбай падтрымаць яго сватаўства. Ён прасіў найлепшым чынам рэкамендаваць яго сястры, якая абавязкова звернецца да брата за дапамогай у такім важным пытанні. Князь Слуцкі спадзяваўся, што Радзівіл Сіротка прыедзе на пахаванне швагра і там зможа паразмаўляць з сястрой[575].

Трэба думаць, што папярэдняя згода была атрымана, бо праз паўгады пасля

смерці Мікалая Мялецкага да яго ўдавы былі зноў накіраваны сваты. У Гродак, дзе на той час знаходзілася ўдава з дочкамі і апекунамі Мікалаем Фірлеем і Янам Астрарогам, быў пасланы чалавек з прыяцелем Кашкам ад кракаўскага ваяводы Андрэя Тэнчынскага, з якім малодшыя Алелькавічы былі ў сяброўскіх стасунках. Яны былі павінны атрымаць і прывезці ад удовай падольскай ваяводзіны канчатковы адказ.

Тут было некалькі складанасцяў, чаму ваявода ці жаніх не самі паехалі за адказам. Андрэй Тэнчынскі не мог губляць сваёй годнасці, калі будзе дадзены адмоўны адказ, і таму на ўсялякі выпадак накіраваў да ўдавы свайго пасланца, як пісаў той: «хацеў Яго Міласць пан ваявода кракаўскі ехаць даведаўшыся спачатку пэўна пра станоўчы адказ, пра дрэнны — даведаўшыся не хацеў, бяручы пад увагу, што было б то для князя яго міласці леккасць, калі б я, слуга то (адмову) на сабе аднёс, чым ён абавязаны вялікі сенатар»[576] (мелася на ўвазе, як сват). Слугу з адказам кракаўскі ваявода чакаў у 10 мілях ад Гродка.

Два дні слуга проста чакаў, пакуль яго прымуць, і толькі заступніцтва Мікалая Фірлея зрушыла справу з месца. Вяселле было прызначана на 3 жніўня 1586 г. Смерць старэйшага брата адклала яго яшчэ на некаторы час. Маці нявесты хацела перанесці яго да канца жалобы, але Ян Сімяон настойваў на адтэрміноўцы ў некалькі тыдняў да канца жніўня. Нарэшце з дапамогай прыяцеляў і родзічаў князь Слуцкі здабіўся пераносу тэрміну толькі на месяц, на 7 верасня.

Вяселле адбылося ў маёнтку Мялецкіх Загорск. Ліст, па якім князь Слуцкі абавязваўся забяспечыць жонку пад зарукай у 20 тысяч злотых, быў дадзены ім апекунам маладой 14 верасня 1586 г.[577]. Можна меркаваць, што зроблена гэта было ці напярэдадні вяселля ці адразу пасля яго. Пасля шлюбу Ян Сімяон хацеў выехаць дадому, але мусіў яшчэ затрымацца на некаторы час у Загорску. У Слуцку ён спадзяваўся быць толькі пасля дня Святога Марціна[578]. Звязана гэта было з неабходнасцю ўзгадніць з апекунамі жонкі памеры яе пасагу і колькі маёмасці яна атрымае ў клейнотах, а колькі грашыма і землямі.

Веноўны запіс Ян Сімяон паклаў у лютым 1587 г. у віленскія гродскія кнігі. Згодна з ім акрамя значнага пасагу, які складаўся з каштоўных рэчаў, золата, срэбра (на 3200 коп грошаў) і наяўных грошай (разам 7200 коп грошаў), Соф'я атрымала і частку бацькоўскіх маёнткаў у Кароне Польскай: у Рускім ваяводстве Калачкоўцы і Карапец. Фактычна яны былі павінны знаходзіцца пад яго кіраваннем, пакуль малодшая сястра жонкі Кацярына не выйдзе замуж. За прынесеную ў дом князёў Слуцкіх маёмасць Соф'і Мікалаеўне Мялецкай запісвалася 14 400 коп грошаў на трэцяй частцы маёнткаў Яна Сімяона, якія знаходзіліся ў ВКЛ. У Наваградскім павеце ёй былі запісаны двор і мястэчка Цімкавічы, мястэчка Себежаў, сёлы Гаркубовічы, Бучачын, Жэлехаў, Рачковічы, Прусы, Доўгае, Чарнецкі дварэц, сяло Агародніцкае, Блеўчыцы, Лешнае, двор і сяло Быстрыцы, сяло Васільчыцы, сяло Замарач, Сухоўчыцы, фальварак Скеп'ева, сяло Радускае, Каладзеум, Ледня, Какорычы[579]. Ёй дазвалялася, як пры жыцці мужа, так і пасля яго смерці, свабодна імі распараджацца, запісваць, прадаваць ці перадаваць блізкім і кроўным асобам.

Гэты шлюб не толькі спрыяў збліжэнню князёў Слуцкіх з польскімі арыстакратычнымі родамі, але і павялічыў зямельныя ўладанні Яна Сімяона. Лізавета Мікалаеўна Мялецкая з Радзівілаў перадала яму свой спадчынны («имение бабизное и материзное») маёнтак Таргавіца ў Люблінскім ваяводстве з умовай, што палову яго кошту









ён перадасць яе малодшай дачцэ, калі яна дасягне паўналецця і будзе выходзіць замуж[580].

Доўгая хвароба, а потым і смерць старэйшага брата, няўдача ў маршалкоўстве не спынілі намаганняў князёў Слуцкіх вярнуць сабе месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай. Пры чарговых выбарах караля пасля смерці Стэфана Баторыя акрамя габсбургскай і шведскай партый каронным канцлерам Янам Замойскім вылучаецца ідэя выбараў пяста (ад імя князя, заснавальніка першай княжацкай польскай дынастыі). Сярод падданых ВКЛ кандыдатамі называліся князі Ян Сімяон і Аляксандр Слуцкія, Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі. Аднак выбар мясцовага кандыдата ў тых ўмовах і на той час быў неверагодны.

Наступіўшы перыяд бескаралеўя пасля смерці Стэфана Баторыя зноў быў скарыстаны Янам Сімяонам для спробы здабіцца месца ў Сенаце. Гэтае патрабаванне — дапусціць князя Слуцкага ў Сенат — прысутнічае ў інструкцыях павятовых соймікаў 1587 г. побач з выпрацоўкай парадку элекцыі (выбара) новага ўладара, захаваннем уніі і правамі шляхты ВКЛ[581]. Па сваіх фармулёўках гэты пункт не адрозніваўся ад папярэдніх патрабаванняў: «А ижъ тэжъ домъ и фамилия кн(я)жат их м(и)лости Слуцких немалое уближене и нарушене права и прэрокгативы своее против зъвязку унии мають, што иж всих нас обходит, старат се и мовити их милост мают, абы и в том зв'язок унии не был порушон, а их милости абы при праве своемъ были захованi»[582].

Ян Сімяон выступіў прыхільнікам шведскага каралевіча Жыгімонта Вазы і нават здабіўся ўключэння ў пасольства, якое ехала да Швецыі, даўняга слугі свайго роду Яна Баяноўскага. Дзякуючы яго намаганням шведскі каралевіч быў знаёмы з прэтэнзіямі князёў Слуцкіх. Амаль адразу пасля свайго прыезду ў Рэч Паспалітую ён загадаў напісаць да князя Слуцкага Яна Сімяона (хіба як старэйшага ў родзе). У ласкавым лісце караля казалася пра правы князёў крыві і крыўды, якія яны панеслі. Баяноўскі палічыў гэта перамогай сваіх гаспадароў і нават віншаваў іх с заканчэннем доўгага шляху па аднаўленні сваіх правоў[583].

Пасля вяртання са Швецыі Ян Баяноўскі на працягу палутара гадоў заставаўся пры каралеўскім двары, дзе працягваў абараняць інтарэсы сваіх патронаў, аказваючы паслугі і князям Слуцкім, і Радзівілам. Ян Сімяон, падзякаваўшы слугу за верную службу, не выказаў жадання прыняць яго да свайго двара і фактычна перастаў падтрымліваць з ім кантакт. Баяноўскі нават скардзіўся на такую адсутнасць увагі Крыштафу Радзівілу Перуну, бо без «знаку» князя Слуцкага ён не мог прадпраймаць канкрэтных крокаў па абароне іх інтарэсаў[584]. Ян Сімяон абвінаваціў яго ў тым, што той ад імя сваіх гаспадароў браў пазыкі і прыўлашчваў грошы сабе. Адбылося гэта ў прысутнасці Бакі, Окуня, слуг князя і іншых асоб. Прычынай стала спроба Ю. Вярбіцкага, слугі князя Юрыя III, атрымаць рэшту пазыкі, дадзенай свайму гаспадару. Князь Юрый перад смерцю пазычыў у яго тысячу злотых пад заклад вёскі з Магілёўскага староства, а вярнуў толькі 500. Вярбіцкі прыехаў да Слуцка і стаў прасіць аддаць рэшту, бо скарб патрабаваў вярнуць староства ва ўладанне караля. Ян Сімяон загадаў падняць паперы брата, абвінавачваючы слуг, што яны прыпісваюць памеры даўгоў. Аказалася, што грошы бралі, сам князь, а таксама Баяноўскі на патрэбы патрона па яго загаду. Ян Сімяон сказаў, што ён не прызнае лістоў, выпісаных Баяноўскім, і няхай той сам іх выплачвае. Калі слуга асмеліўся

напомніць, што яму дагэтуль не вярнулі грошы (200 фларэнаў), якія ён патраціў на пахаванне князя Юрыя, кошты срэбранага посуду для вяселля самога Яна Сімяона і — галоўнае — грошы, пазычаныя пад заклад бабруйскай маёмасці, Баяноўскі адразу быў абвінавачаны ў непачцівасці і ганарлівасці. Ян Баяноўскі дакладна вызначыў час пачатку канфлікту — канвакацыя новага караля. З аднаго боку, князь Слуцкі сам паслаў яго ў Швецыю і патрабаваў справаздач пра ўсе абставіны перамоў, з другога боку, не пажадаў вярнуць на службу пасля прыезду каралеўскага двара да Кракава.

Крыштаф Радзівіл і далей працягваў раіцца з Сіроткам, якога вельмі паважалі за яго розум і дасведчанасць, пра магчымасць палітычнай кар'еры Яна Сімяона. Мікалай Крыштаф Радзівіл тлумачыў, што ён у вочы паведаміў Яну Сімяону, калі той быў у Вільні ў сакавіку 1587 г., што «калі ты чаго-небудзь жадаеш дасягнуць, не трэба лайдакам быць». Тут ён меў на ўвазе той факт, што малады Алелькавіч «тае ў даўгах як зараз снег» (ліст быў напісаны ў красавіку), і трэба добра папрацаваць у сваіх маёнтках, а не выкідваць грошы на шыкоўны лад жыцця[585]. Кацярына з Тэнчынскіх жартам у размове з ім сказала, што яе сын арыентуецца на свайго памерлага цесця Мікалая Мялецкага і на самога Сіротку. Той у адказ заўважыў маці, што лепей бы сын глядзеў не на іх лад жыцця, а на іх учынкі. У першую чаргу гэта датычылася паспяховага кіравання Сіроткам сваёй зямельнай маёмасцю, за якую ён ўсе даўгі паплаціў, і якую значна павялічыў.

Ян Сімяон не страціў надзеі на фармальнае пацвярджэнне сваёй высокай годнасці і, калі не ўдалося атрымаць сенатарскі ўрад, імкнуўся даказаць гэта вонкавай раскошай. Падчас першага прыезду караля Жыгімонта III Вазы ў ВКЛ 31 студзеня 1589 г. у Гародне князь Ян Сімяон вітаў



**Жыгімонт III Ваза.**
**Невядомы мастак. XVII ст.**

караля: «того ж княже семен слуцкий короля витал пред покоем з орацыю наготованаю»[586] . Тая прамова была спецыяльна напісана Мікалаем Крыштафам Радзівілам Сіроткам, які выдзяляўся сярод магнатаў ВКЛ не толькі сваім высокім узроўнем адукацыі, але і выдатнай культурай слова. Да таго ж гэта сведчыла, што самому князю не хапала ведаў у рыторыцы лацінскай мовы. Наогул не зразумела, на якім узроўні ён валодаў замежнымі мовамі, ці змог удасканаліць іх падчас свайго замежнага вяжу. Яго лісты маюць невялікую колькасць лацінскіх фраз і цытат, якія так любіла ўстаўляць магнатэрыя ў сваёй перапісцы. З другога боку, ён прымаў актыўны ўдзел у судовых працэсах у Кароне Польскай, дзе судаводства было лацінамоўным. Аднак у прывітанні караля нас цікавіць іншы факт.





**Ян Сімяон Слуцкі. 1753 г.**
**Фота Ё. Смалінскага. 1904 г.**

Нашу ўвагу прыцягвае той факт, што князя Слуцкага пры гэтым суправаджала дваццаць асоб. Пра прагу сярэдняга з братоў Алелькавічаў да вонкавых эфектаў сведчыць і апісанне яго партрэта: «партрэт князя Я. Сімяона намаляваны на фоне чырвонай драпіроўкі. Адзенне яго складалася з венгерскай бекешы фіялетавага колеру з белым жабо на шыі, са светлага шаўковага паса і з дэліі вішнёвага колеру з футраною апушкаю, накінутай на адно плячо. Шпага прывешана на асобным паску»[587].

Урачыстае прывітанне не асабліва дапамагло князю. Кароль зноў перанёс разгляд яго прэтэнзій на месца ў Сенаце на пасяджэнне наступнага сойма ў 1590 г. У прынятай праз Жыгімонта III Вазу пратэстацыі казалася агульна пра прыяцеляў князёў Слуцкіх, якія патрабавалі надання ім месца ў Сенаце[588].

У гэты ж час Ян Сімяон пазбавіўся падтрымкі многіх старых дасведчаных слуг, якія былі ўраднікамі яшчэ пры двары яго бацькоў і старэйшага брата. Прычынай зноў была нявыплата ім пазык ці абяцаных узнагарод. У 1588 г. ад князёў Слуцкіх канчаткова забралі (выкупілі) Магілёўскае староства, перадаўшы яго пажыццёва Станіславу Мінскаму. З гэтага моманту князь Слуцкі мог разлічваць толькі на самога сябе.

У 1588 г. да яго двара вярнуўся Ян Баяноўскі, каб працягнуць верную службу чарговаму прадстаўніку роду князёў Слуцкіх. Па просьбе князя ён шукаў для яго коней (інаходнікаў), вёў перамовы, кіраваў маёмасцю[589]. Ян Сімяон і Аляксандр не толькі не змаглі выплаціць даўгі памерлага брата, а дадалі да іх свае. Толькі на Бабруйску Яну Баяноўскаму яны былі вінны 4120 коп грошаў. Пасля папярэдняга канфлікту з гаспадаром, які абвінаваціў яго ў фінансавых махінацыях, Баяноўскі звярнуўся да караля з просьбай пацвердзіць яго правы на Бабруйск і адсудзіў для сябе яго з усімі прыбыткамі[590].

Шыкоўны лад жыцця вымагаў вялізных фінансавых сродкаў, пра што ў свой час папярэджваў Радзівіл Сіротка. Яну Сімяону катастрафічна не хапала грошай. Фактычна ўсе дакументы, вядомыя нам за перыяд 1587—1592 гг., — гэта закладныя лісты, дакументы на пазычэнне грошай ці продаж маёмасці.

Фінансавыя выдаткі князя раслі, бо акрамя сваіх даўгоў ён быў павінен выплочваць пазыкі, што засталіся пасля смерці Юрыя Алелькавіча. У выніку ён быў вымушаны частку сваіх маёнткаў прадаць, а астатнія закласці. У 1588 г. ён прадаў за 12 тысяч злотых маёнтак Гавезна ў Навагрудскім павеце Мікалаю Крыштафу Радзівілу Сіротку, які ахвотна набыў добры, што гранічылі з Мірскім графствам[591]. 10 студзеня 1588 г. князь Слуцкі пазычыў 1000 коп грошаў у Малхера Мікалаевіча Кослы і яго жонкі Ганны Фантаны. У заставу ім

ён аддаў трэцюю частку камяніцы Алелькавічаў у Вільні на Нямецкай вуліцы насупраць камяніцы Глябовіча, а таксама трэць маёнтка Вакі ў Троцкім павеце, якія адышлі яму па спадчыне[592]. Гэтую пазыку Кослы не змаглі вярнуць не ад самога князя, не ад апекуноў яго спадчынніцы і былі вымушаны чакаць паўналецця Соф'і Алелькавіч і выхаду яе з-пад апекі.

У 1589 г. Ян Сімяон пазычае грошы ў ліхвяроў, служэбнікаў, прыяцеляў. З яго даўгамі Мікалаю Кішку, Абрахаму Гарайскаму, Мікалаю Брадоўскаму, Яну Бараноўскаму апекуны маёмасці будуць не ў стане разлічыцца і праз некалькі гадоў пасля яго смерці[593]. Закладаюцца не толькі землі, каштоўнасці, але і свойская жывёла. Так, Францкевічу, падкаморыю падольскаму, было закладзена «быдло галендерскае» ў Случызне[594]. У Лукаша Рачка, даўняга крэдытора роду ў Сандаміры, князь узяў 2200 фларэнаў[595], у кракаўскіх банкіраў Мантэлупі — яшчэ 1500 фларэнаў[596]. Пазней за гэтую пазыку Соф'я Алелькавіч будзе вымушана перадаць прадстаўніку Мантэлупі Мікеланджэла Леры ключ Ботаж, які таксама быў закладзены Янам Сімяонам у 1591 г.[597].

Ян Сімяон паспрабаваў выканаць хаця б частку сваіх абавязацельстваў перад слугамі. Слугам у якасці аплаты іх службы прапаноўваюцца не грошы, а зямля. 22 мая 1589 г. у Слуцку ён даў навечна Васілю Галаўне, яго жонцы Багдане Пятроўне Камянічоўне і нашчадкам фальварак Селішча і запісаў дадаткова 300 коп грошаў, бо Васіль «правуючися з нами через час немалы пришол до убоства великаго»[598]. Праўда, грошы слузе князь так і не выплаціў, а толькі паабяцаў, пераклаўшы гэтую павіннасць на сваіх спадчыннікаў.

Слуцкаму гараднічаму Лявону Чайку за верную службу Яну Сімяону і Аляксандру, а таксама іх продкам, былі дадзены 5 пустых валок пры засценку Чайкаўшчызна з тым, каб за гэтую зямлю ён падчас вайны сам з яе ехаў на службу, а ў астатні час выконваў свае абавязкі на ўрадзе[599]. За ваенную службу зямля раздавалася не толькі шляхцічам, але і татарам[600].

У кастрычніку 1589 г. ён закладае за 2 тысячы коп літоўскіх грошаў маёнтак Савічы ў Наваградскім павеце свайму капыльскаму ўрадніку Валенцію Тэлшэўскаму[601]. У сярэдзіне снежня 1590 г. Ян Сімяон прызнаў, што не мае сродкаў на выплату пазык. Сярод іншых ён застаўся вінен 20 тысяч коп грошаў сваёй жонцы. Згодна з запісам і ўмовай з прыяцелямі жонкі князь быў павінен аддаць ёй свой замак Капыль з местам Капыль, мястэчкамі Сямёнава, Пясочнае і фальваркамі ў Наўгародскім павеце. Запіс гэты быў пакладзены яго служэбнікам Севярынам Хамцом, які будзе служыць яго жонцы і пасля яго смерці[602]. У гэтыя ж гады разам з братам Аляксандрам ён перадае застаўныя правы на Туробінскую і Гарайскую валасці, перададзеныя ім маці Паўлу Шчавінскаму за 95 тысяч злотых[603].

Фактычна гаварыць пра нейкія інвестыцыі ў гаспадарку ці развіццё Слуцка, Капыля і іншых мястэчак з боку Яна Сімяона не прыходзіцца. Яго якасці, пра якія так зняважліва адгукаўся Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, а менавіта патрэба ў кіраванні ўсімі дзеяннямі, праявіліся і ў эканамічнай сферы. Ужо ў верасні 1583 г. ён пісаў да маці з просьбай дапамагчы ўладкаваць спрэчныя справы, звязаныя з маёнткамі бацькі ў мінскім судзе[604]. У дачыненні да Слуцка ён толькі пацвярджае дадзеныя раней мяшчанам правы і прывілеі. Так, 30 ліпеня 1587 г. Ян Сімяон у пацвярджэнне надання бацькі дазволіў слуцкім мяшчанам вазіць дрэва на будаванне і паправу мастоў з лясоў і бароў на адлегласці 3 мілі ад горада бясплатна[605].









**Прывілей на слуцкі касцёл. 1591 г.**

Атрыманне вялікай спадчыны пасля смерці малодшага брата Аляксандра не палепшыла фінансавую сітуацыю Яна Сімяона. Ён працягвае браць пазыкі, але толькі зараз пад заклад новай маёмасці Краснік.

Няўдачы на палітычнай і фінансавай арэне суправаджаліся і трагедыямі ў асабістым жыцці. Будучы на сойме ў Варшаве ў красавіку 1590 г., Ян Сімяон даведаўся, што памёр яго сын. Спачуванні з нагоды смерці адзінага ўнука накіраваў да Кацярыны з Тэнчынскіх Мікалай Фірлей, кракаўскі ваявода[606]. Яго адзіная дачка памерла ў красавіку 1591 г., пражыўшы не больш за год. Звесткі пра гэта ўтрымліваюцца ў лісце Льва Сапегі да Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, якому ён пераказваў навіны з ліста самога Яна Сімяона Слуцкага[607].

У галіне апекі над праваслаўнымі і каталіцкімі вернікамі дзейнасць Яна Сімяона таксама не вызначалася вялікай актыўнасцю. Пасля смерці брата апека над праваслаўнымі Слуцка перайшла да Яна Сімяона як старэйшага ў родзе. Нягледзячы на цесныя стасункі з езуітамі, дзякуючы блізасці да князёў Слуцкіх Пятра Скаргі, ён па-ранейшаму апякаў цэрквы і манастыры, заснаваныя продкамі. У яго задачы ўваходзіў нагляд за тым, каб выконваліся ўсе ранейшыя фундушы і храмы з іх служыцелямі не мелі нястачы. У 1587 г. ён надаў новаадбудаванай царкве Святога Юрыя ў Слуцку правы і прывілеі, якія мела ранейшая царква[608]. Гэта царква была перанесена па яго загаду са Старога места ў Новы горад і пастаўлена недалёка ад грэблі на вуліцы, якая злучала гэтыя дзве часткі горада. У той жа час Ян Сімяон фундуе ў Цімкавічах касцёл, асвячэнне якога было павінна адбыцца ў пачатку 1589 г.[609]. У Красніку па ініцыятыве яго жонкі Соф'і з Мялецкіх яны становяцца апекунамі кляштара і шпіталя пры ім.

Як пісаў Фёдар Еўлашэўскі, «марца 9 княже ян сымэон слуцкий умарл»[610]. Смерць Яна Сімяона выклікала вялікі рэзананс, бо з ім не проста згас род, а скончвалася эпоха існавання князёў крыві з іх узлётамі і падзеннямі. Найбольш падрабязна абставіны яго смерці занатаваў у сваёй



ананімнай хронiцы кракаўскі мешчанін. Ян Сімяон памёр у ноч з нядзелі на панядзелак 9 сакавіка 1592 г. у доктара ў Любліне[611]. Падобна, што смерць яго была нечаканай для родных і хвароба напаткала яго ў дарозе на Люблінскі трыбунал.

Як і старэйшы брат, Ян Сімяон не пакінуў тэстамента, ніякіх распараджэнняў па сваёй маёмасці. Згодна з правам, уся яго ўласнасць пераходзіла адзінай спадчынніцы — пляменніцы шасцігадовай Соф'і Юр'еўне Алелькавіч. Адзінае, што родныя яго жонкі не паўтарылі памылкі Барбары з Кішкаў. Мялецкая захавала не толькі сваё вена, але і лісты на закладзеную ёй мужам маёмасць. Сітуацыя са спадчынай была настолькі заблытаная і складаная, што Соф'я з Мялецкіх баялася самастойна не вырашыць усе праблемы. Праз тыдзень пасля смерці мужа яна пісала да Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі з просьбай прыехаць да Красніка, абараніць яе і даць парады, што рабіць далей[612].

У разгубленасці былі не толькі сям'я, але і слугі. Як пісаў Ян Астрарог у сваім лісце да Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, пасля смерці князя ў яго засталася толькі палова ранейшых абавязкаў, і тое аблігі (распіскі ў атрыманні пазыкі). Не было зразумела, каму далей служыць, бо памёр і сам князь, і яго дзеці. Праз час некаторыя слугі, сярод якіх быў родзіч выхаванца маці Мікалая Пёра Адам[613], Севярын Хамец і яго родныя, знайшлі сабе новых патронаў. Адам Пёра перайшоў на службу да Крыштафа Радзівіла, сям'я Хамцоў засталася на службе ў Соф'і з Мялецкіх і перайшла пад заступніцтва Хадкевічаў.

Ад роду засталіся толькі жанчыны — удава Соф'я з Мялецкіх і пляменніца Соф'я Юр'еўна Алелькавіч. Ні адна з іх самастойна распараджацца маёмасцю не магла, а афіцыйных апекуноў прызначана не было. Да таго ж літаральна праз тыдзень, 17 сакавіка, у Мірскім замку памірае і маці апошніх князёў Слуцкіх — Кацярына з Тэнчынскіх Радзівіл, віленская ваяводзіна. Як напісаў яе муж да Яна Замойскага, яна «жыццё амаль святое вяла»[614]. У такіх абставінах было неабходна вырашаць пытанне пахавання адразу трох членаў роду, пытанне апекі над Соф'яй, кіравання маёмасцю. Не было яснасці, хто павінен узяць на сябе ўсе абавязкі па распараджэнні вялікай фартунай.

Кацярына з Тэнчынскіх, таксама як і яе малодшы сын, прасіла пахаваць яе ў Красніку. Ян Сімяон ніякіх пажаданняў наконт свайго пахавання не пакінуў, і яго цела было перавезена з Любліна да Красніка, дзе тады знаходзіліся жонка, пляменніца і некаторыя з прыяцеляў роду, у прыватнасці Мікалай Фірлей. Крыштаф Радзівіл Пярун звярнуўся да Соф'і з Мялецкіх з просьбай пакласці цела жонкі побач з яе мужам і дзеверам. Аднак маёмасць князёў Слуцкіх знаходзілася ў руках крэдытораў, ды і сам Краснік быў закладзены Мацею Бялынскаму. Намаганні Соф'і і фінансавыя праблемы са спадчынай князёў Слуцкіх прывялі да таго, што віленскі ваявода вырашыў пахаваць сваю жонку ў Вільні ў радзівілаўскай капліцы кафедральнага касцёла Святога Станіслава побач са сваёю другой жонкаю і Кацярынай з князёў Астрожскіх. Пахаванне было прызначана на 22 ліпеня 1592 г.[615]. Казанне на яе пахаванні, напісанае высакамоўным слогам, агласіў Станіслаў Градзіцкі. Пазней яно было выдадзена ў Вільні асобнай кніжкай больш чым на 100 старонках[616].

## АЛЯКСАНДР

Звестак пра малодшага з братоў Алелькавічаў няшмат не толькі таму, што той пражыў кароткае жыццё. Ён амаль увесь час знаходзіўся ў цені сваіх старэйшых братоў — главы роду Юрыя і свавольнага,






**Прага.**

**Я. Капер, М. Петрле. 1562 г. Гравюра з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1572 г.**

гняўлівага Яна Сімяона. Пра яго дзіцячыя гады інфармацыі амаль няма, пра што мы казалі вышэй.

Са Слуцка ў першае далёкае падарожжа за мяжу Рэчы Паспалітай Аляксандр Алелькавіч выехаў адначасова з Юрыем і Янам Сімяонам разам з пятнаццаццю хлопцамі, некаторыя з якіх атрымлівалі адукацыю за яго кошт[617]. Фактычна гэта быў падарожны двор са слугамі, якія выконвалі розныя функцыі: гувернёра, сакратара, пасыльных, кухараў з асобным ад іншых братоў бюджэтам. Звязана гэта было з маладым узростам князя, якому на той час было каля 16 гадоў.

Ужо ва Вроцлаве Аляксандр пачаў спрабаваць самастойна (і не вельмі ўдала) распараджацца грашыма і быў вымушаны прасіць дапамогі ў старэйшага брата, які «двумаста злотымі брата Аляксандра ратаваў»[618]. Магчыма, таму да яго і прыставілі гувернёра, які наглядаў не толькі за выхаваннем, але і за паводзінамі хлопца. Праз Сілезію, дзе ён быў разам з братамі, у студзені 1580 г. малодшы з Алелькавічаў, па сведчанні Райнера Райнікуса, прыехаў да Прагі[619], адкуль накіраваўся ў нямецкія землі. Памяццю пра знаходжанне ва Вроцлаве стала невялікая эпіграма «Principi Alexandro Principi Slucensi et Copulensi»[620], прысвечаная Аляксандру А. Калагіі і выдадзеная сілезскім паэтам праз дзесяцігоддзе пасля смерці князя. Наогул, як гэта ні дзіўна, менавіта самы малодшы з князёў Слуцкіх сабраў падчас свайго падарожжа багаты «ўраджай» прысвечаных яму твораў.

У Германіі першай навучальнай установай, дзе ён запісаўся, быў Інгальштацкі ўніверсітэт. Выбар месца навучання быў не выпадковы. Маці, якая пачала падтрымліваць актыўныя сувязі з Пятром Скаргам, вырашыла прыкласці ўсе магчымыя намаганні, каб сыны перайшлі ў каталіцтва. Падарожжа па каталіцкіх землях і навучанне ва ўніверсітэце, цэнтры Контррэфармацыі, павінны былі спрыяць канверсіі маладых князёў Слуцкіх і іх асяроддзя. Пасля перадачы ўніверсітэта ў 1543 г. ордэну езуітаў ён праславіўся не толькі сваім высокім узроўнем выкладання, але і добра пастаўленай місіянерскай працай. Дагэтуль там навучаліся і родзічы князёў Слуцкіх (у 1564 г. Андрэй Тэнчынскі), і прадстаўнікі магнацкіх родаў ВКЛ. Так, у 1577 г. там слухаў лекцыі Яўстафій Тышкевіч, у 1578—1579 гг. — Геранім Ва-

ловіч[621]. У 1581 г. у матрыкулы Інгальштацкага ўніверсітэта быў упісаны Крыштаф Мікалаевіч Нарушэвіч, будучы надворны і вялікі літоўскі падскарбій, які з братам Янам з 1577 г. навучаўся ў розных нямецкіх універсітэтах (Крулявец, Альтдорф).

Па патрабаваннях універсітэцкага статута ад 1556 г. у матрыкулы былі павінны ўпісвацца ўсе — як гаспадар, так і яго суправаджэнне: слугі і нават кухары. Запісаныя маглі на аднолькавых правах наведваць лекцыі і заняткі[622]. Таму калі туды летам 1580 г. прыехаў Аляксандр Слуцкі, то ён быў упісаны разам са сваім аршакам, што дазваляе нам аднавіць імёны асоб, якія суправаджалі князя і засталіся на яго службе пасля падарожжа. Матрыкулы занатавалі, што на летні семестр 1580 г. 28 мая запісаўся: «Alexander dux Slucensis et Copeliansis (Аляксандр князь Слуцкі і Капыльскі), а таксама Ян Дзержак, Пётр Збароўскі, Юрый Шыгоўскі (Georgius Sigowski), Вшэбор Тымінскі, Станіслаў Каханоўскі, Фелікс Рачыньскі, Абрахам Скарсецкі, Ян Паклатэрскі, Ян Вітускі, Ян Келтыка, Аляксандр Трызна, Ян Калантай, Станіслаў Пежхальскі, Пётр Тымінскі, Давід Геліконіус. Запіс у матрыкулы ўсіх разам дваран з князем каштаваў маладому Алелькавічу вельмі значную суму — 22 фларыны[623].

Сярод суправаджаючых князя Аляксандра шляхцічаў былі прадстаўнікі як польскіх, так і ліцвінскіх родаў. Што цікава, разам з малодшым Алелькавічам падарожнічалі вернікі розных хрысціянскіх канфесій. Пераважная колькасць асоб, якія паехалі з Аляксандрам, як гэта ні дзіўна, былі пратэстантамі. Кальвініст Ян Дзержак (?—1628), сакратар яго міласці польскага караля, відавочна, выконваў у гэтым падарожжы функцыі ахмістра і педагога (прэцэптара)[624]. Ён паходзіў з вядомага роду з лінгвістычнымі здольнасцямі з Люблiншчыны і мог быць звязаны з Тэнчынскімі. У 1575 г. Ян навучаўся ў Базыле разам з Андрэем Фірлеем, Пятром Астраверскім. У матрыкулах яны былі адзначаны як poloni coronatum aureum. Пазней ён накіраваўся ў Альтдорф. Па вяртанні праз некаторы час Дзержак атрымаў урад сакратара Стэфана Баторыя і прыняў удзел у полацкай выправе. Падчас панавання Баторыя, дзякуючы веданню некалькіх моў, яго неаднойчы пасылалі за мяжу як у складзе пасольстваў, так і асабіста. Давер манарха і асабістыя веды маглі паслужыць найлепшай рэкамендацыяй для маці пры выбары педагога для малодшага сына[625]. Да таго ж у пачатку 80-х гг. XVI ст. ён пачаў ужо схіляцца да каталіцтва. Рэкамендаваць яго мог таксама родзіч, які знаходзіўся на службе ў Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі[626], ці Андрэй Фірлей, з якім яны разам вучыліся ў нямецкіх універсітэтах.

Верным каталікам быў асабісты сакратар князя Аляксандра Мікалай Рымлянін, італьянец па паходжанні[627]. Гэтым кола дасведчаных асоб з вядомых сваёй вучонасцю сем'яў не заканчвалася. Станіслаў Каханоўскі паходзіў з пратэстанцкай сям'і з Барычы, цесна звязанай з Тэнчынскімі. Ён быў сынам Андрэя Каханоўскага, тлумача «Энеіды», і пляменнікам знакамітага паэта Яна Каханоўскага. Пратэстантамі былі і яго сваякі Пётр і Вшэбор Тымінскія, якія таксама паходзілі з Люблінскага ваяводства.

Адзіным праваслаўным, акрамя самога князя, у гэтым аршаку быў Аляксандр Трызна. Сын былога наўгародскага гродскага суддзі Андрэя Трызны, ён праз бацькоў быў цесна звязаны са дваром у Слуцку. Варта ўспомніць, што яго бацька — адзіны прыяцель, якога ўспомніў у сваім тэстаменце Юрый II Алелькавіч. Ён жа прадстаўляў у наўгародскім земскім судзе інтарэсы ўдавы Кацярыны з Тэнчынскіх пры актыкацыі тэстамента і маёмасных дакументаў[628]. Яго маці Соф'я з Копцяў была






**Вільгельм Баварскі.**
**Д. Кустос. 1596 г.**

даверанай асобай удовай княгіні Слуцкай і нават выступіла пасрэдніцай у сватаўстве Крыштафа Радзівіла да яе. Пазней яна стала старэйшай пані, ці ахмістрыняй двара Кацярыны, які размясціўся ў Турцы. Зразумела, што княгіня аказала паслугу даўнім прыяцелям сям'і і накіравала іх сына разам са сваімі на навуку ў краіны Заходняй Еўропы.

Князя Аляксандра з яго суправаджэннем чакаў у Інгальштаце вельмі цёплы прыём. Гэтаму спрыяла і яго высокае паходжанне, а таксама жаданне родзічаў, каб ён прыняў каталіцтва. У акцыі пераходу прадстаўніка знакамітага роду ў каталіцтва прыняў удзел баварскі герцаг Вільгельм V Пабожны (1548—1626)[629]. Як і яго бацька, ён быў прыхільнікам Контррэфармацыі, большую частку дня прысвячаў слуханню імшы, малітвам і чытанню рэлігійнай літаратуры і з ахвотай падтрымаў ідэю канверсіі прадстаўніка праваслаўнага роду. З мэтай падрыхтоўкі да прыняцця праўдзівай веры праваслаўным князем у Інгальштат ім накіраваны эйхштацкі біскуп. У верасні 1580 г. ва ўрачыстай атмасферы малодшы князь Слуцкі адмовіўся ад ерасі[630]. Не зусім зразумела, навошта спатрэбілася такая цырымонія, калі князь быў праваслаўным, але, магчыма, баварскім герцагам гэта разглядалася як згода на адыход ад ерэтычных поглядаў і згода на прынясце каталіцтва. У той жа час студэнт універсітэта Крыстоф Селла з Норымберга прысвяціў князю Аляксандру свой антылютэранскі дыспут[631]. Прыняцце каталіцтва Аляксандрам у Інгальштаце ўсё ж было малаверагодным. Калі гэта і адбылося, то значна пазней, вясной 1582 г., у Рыме, бо на той момант асяроддзе князя не дазволіла б яму змяніць веру.

У Інгальштаце аршак князя сустрэўся са знакамітым педагогам і гісторыкам, рэфармацыйным дзеячом Янам Ласіцкім. Магчыма, ён быў знаёмы з Янам Дзержакам, які прадставіў яго малодшаму Алелькавічу. Яму Ласіцкі прысвяціў сваю гісторыка-этнаграфічную працу «Пра лжывых багоў жамайцкіх, сармацкіх і пра армянскую рэлігію». Рукапіс праляжаў у базыльскага друкара больш за 30 гадоў, пакуль не быў выдадзены ў 1615 г. разам з творам Міхалона Ліцвіна «Аб нравах татар, літвінаў і масквіцян»[632].

У кастрычніку 1580 г. адбыліся ўрачыстыя выбары рэктара ўніверсітэта. Пасада гэта была ганаровая, і звычайна паўнамоцтвы рэктара ахоплівалі адзін семестр. Аляксандру князю Слуцкаму было прапанавана заняць яе, але малады чалавек «з важных прычын адмовіў»[633]. У той час пераход Аляксандра ў каталіцтва быў замаруджаны самім маршрутам падарожжа. З Інгальштата ён быў павінен наведаць выключна пратэстанцкія асяродкі, і яго су-



**Страсбург.**

**С. Мюнстэр. 1560 г. Гравюра з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1572 г.**

праваджэнне не дазволіла б актыўна весці пры ім пракаталіцкую прапаганду.

У Інгальштаце, дзе князь пражыў амаль год, частка шляхцічаў, пераважна паходзячых з ВКЛ, пакінула двор Аляксандра Слуцкага (Пётр Збароўскі, Ян Вітускі, Аляксандр Трызна, Ян Калантай, Станіслаў Пежхальскі, Пётр Тымінскі, Давід Гелііконіус). Магчыма, ад'езд амаль паловы аршака мог быць звязаны з агульным для ўсіх магнатаў, якія падарожнічалі, — недахопам сродкаў. Некаторыя з іх вярнуліся на радзіму разам з Янам Сімяонам, які ехаў у Слуцк са свайго падарожжа, іншыя працягнулі сваё навучанне ва ўніверсітэтах. На вяртанне Аляксандра Трызны паўплывала хвароба бацькі і блізасць яго маці Соф'і Трызны да біржайскіх Радзівілаў, як мы пісалі раней. Толькі Давід Гелііконіус працягнуў навучанне і запісаўся на зімовы семестр 1584 г. у Хайбельберг як «livonus». Адзін з братоў Тымінскіх не выклікаў даверу ў маці маладога князя. Яна лічыла, што ён дрэнна ўплывае на Аляксандра, і князь быў вымушаны адаслаць свайго слугу да князя Юрыя ў Балонню. Старэйшы брат паспрабаваў бараніць слугу Аляксандра пры маці, засведчыў яго добрасумленнасць







**Іаган Штурм.**

**Гравюра з партрэта Т. Сцімера. Я. ван дэ Хейдэн. 1617 г.**

і паслужлівасць, сцвярджаў, што той быў бязвінна абвінавачаны. Юрый прасіў маці асабіста выслухаць Тымінскага і толькі тады выносіць свой прысуд[634].

У канцы чэрвеня 1581 г. да Андрэя Фірлея, люблінскага кашталяна, прыехаў Вшэбор Тымінскі з лістом ад малодшага Алелькавіча і рэестрам даўгоў Аляксандра. Князь паведамляў, што здаровы, і прасіў аплаціць яго даўгі, якія ўзніклі з-за неабходнасці прэзентаваць сябе на належным узроўні. Па просьбе Тымінскага люблінскі кашталян паведаміў княгіні Слуцкай пра існуючыя праблемы і прапанаваў як мага хутчэй адправіць слугу назад да Аляксандра з грашыма[635].

Пасля прыезда ў Інгальштат Яна Сімяона з шасцю дваранамі (А. Рагульскім, Г. Валовічам[636], Ст. Гумінскім, П. Дзержакам, С. Собкам, М. Панескім) у другой палове жніўня 1581 г. браты накіраваліся ў Страсбург, адкуль Аляксандр працягнуў падарожжа самастойна.

Страсбург прываблівае моладзь славутай гімназіяй, дзе рэктарам доўгі час быў вядомы багаслоў Іаган (Жан) Штурм. Многія студэнты з зямель Рэчы Паспалітай прыязджалі у Страсбургскую акадэмію, каб паслухаць лекцыі вядомага педагога. Апякаць знатнага госця было даручана Й. Лобарту. Сам рэктар у той час рэдка бываў у горадзе, ён знаходзіўся ў недалёкім Нордхайме. Аляксандр выказаў жаданне пазнаёміцца з навукоўцам. Праз Й. Лобарта князь Слуцкі папрасіў рэктара пра спатканне. Аднак сустрэча не адбылася, бо малодшы Алелькавіч быў вымушаны тэрмінова ад'ехаць у герцагства Віртэнбергскае. Прычын магло быць некалькі. Папершае, Страсбург на той час быў адным з найдаражэйшых для жыцця гарадоў у Заходняй Еўропе, а сродкаў і так не хапала. Па-другое, магла існаваць дамоўленасць пра аўдыенцыю пры віртэнбергскім двары. У Штутгарце 2—3 верасня князь Аляксандр з суправаджаючымі яго асобамі быў прадстаўлены да двара герцага Фрэдэрыка. Як ганаровыя госці, яны ўпісалі свае імёны ў штамбух (памятную кнігу) герцага. Узнагарода, у якасці падзякі за інтарэс да сябе і сваіх поглядаў такой высакароднай асобы, як князь Слуцкі, Іаган Штурм напісаў твор «De educatione principum» («Прынцыпы выхавання»)[637] аб праблемах выхавання манархаў і прысвяціў яго Аляксандру. У прадмове да свайго твора (фактычна гэта быў ліст) ён прадэманстраваў добрае веданне генеалогіі князёў Слуцкіх. Ён дзякаваў князю за выказаны да яго інтарэс і адзначаў, што такія арыстакраты, як князі Слуцкія, з'яўляюцца аздобай грамадства.

Далей падарожжа Аляксандра ляжала ў Базыль. Як і ў Страсбургу, прыезд асобы, параднёнай з каралеўскай дынастыяй, магчыма, кандыдата на трон, выклікаў




**Базыль.**

**С. Мюнстэр. 1538 г. Гравюра з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1572 г.**





зацікаўленасць з боку ўлад і прафесуры. Нягледзячы на тое, што ў матрыкулы малодшы Алелькавіч не быў запісаны, а значыць, і не слухаў курса лекцый, прафесар Т. Цвінгер прысвяціў Аляксандру Слуцкаму сваё выданне «Этыкі» Арыстоцеля. У дэдыкацыйным лісце ён асобна падкрэсліў сувязь Алелькавічаў з Ягелонамі[638].

На радзіму Аляксандр вярнуўся пазней сваіх братоў, што было адразу прадугледжана праграмай яго падарожжа. У красавіку 1582 г. княгіня Слуцкая прасіла Крыштафа Радзівіла яшчэ крыху пачакаць з вяселлем да вяртання малодшага сына. Соф'я Трызна адзначала, што дакладных звестак, дзе на той момант знаходзіўся малодшы сын, яна не мела. З лістоў, дасланых ім да Я. Мышкоўскай, цёткі княгіні, і чэсніка Панятоўскага, было вядома, што на Вялікдзень Аляксандр быў у Рыме. Княгіня туды па яго выслала спачатку двух слуг, а потым і яшчэ аднаго[639]. Магчыма, яны павезлі не толькі лісты маці, але і грошы, каб разлічыцца з даўгамі князя Аляксандра ў Італіі і забяспечыць яму дарогу дадому. Гэта значыць, яго вяртанне не планавалася раней за чэрвень 1582 г. Падрабязней пра планы Аляксандра можна было даведацца ў яго слугі Вшэборга Тымінскага. Ён чакаў распараджэнняў маці і апякункі свайго гаспадара ў Кракаве[640]. Не пазней за пачатак лета 1582 г. апошні брат вярнуўся дадому, каб вырашыць маёмасныя справы. Аднак яшчэ 21 ліпеня 1582 г. маці з малодшым сынам не бачылася[641], хаця падзел бацькоўскай маёмасці адбыўся ўжо 17 чэрвеня ў Слуцку. Такім чынам, сцвярджэнне Г. Барыча, што восенню 1582 г. Аляксандр быў у Італіі, адкуль па моры вярнуўся праз Гданьск на радзіму, не мае падставы. Такое меркаванне было выканана польскім даследчыкам зыходзячы з запісу князя Слуцкага ў штамбуху Г. Шрётэра ў Гданьску (без даты), дзе побач з імем Аляксандр памясціў прыгожа намаляваны герб[642]. Аднак запіс не мае даціроўкі і таму не можа быць дакладна звязаны з канкрэтнай датай знаходжання Аляксандра ў Гданьску.





Ліст Аляксандра Слуцкага. 1589 г.

На далейшай службе ў Аляксандра засталася толькі нязначная колькасць шляхцічаў, з якімі ён падарожнічаў. Так, у 1586 г. пры яго двары працягваў служыць Вшэбор Тымінскі[643]. У канцы 1582 г. паспрабаваў вярнуцца да яго на службу Аляксандр Трызна, але, прабыўшы пры князі некалькі тыдняў, з'ехаў да бацькоў, бо пачуў, што князі вельмі на яго маці гневаюцца, лічачы, што гэта па яе парадзе княгіня Слуцкая пайшла замуж за кашталяна троцкага. Аляксандр не хацеў адпускаць яго ад двара, аднак Соф'я Трызна скардзілася, што на яго пры дварах сыноў крыва паглядаюць, як на шпіёна княгіні-маці. Так гэта было на самой справе ці тут зноў умяшалася адсутнасць грошай як у князёў, так і ў іх слуг, цяжка сказаць. Аляксандр загадаў маладому Трызне мець пры сабе аднолькавых коней для вазоў (возніказ) для ўрачыстага выезду з упражжу і розным рыштункам, усё пазалочанае. Гатовага рыштунку і коней у Аляксандра Трызны не было, грошай на харчаванне (страўных) для сына і яго суправаджэння маці таксама не магла даць. Па гэтай прычыне яна не пусціла сына назад да двара Аляксандра князя Слуцкага[644].

Да яго дадаліся Мацей Бялынскі, Севярын Хамец, Мірасла ў Галдзішоўскі. Пасля смерці Юрыя да двара Аляксандра перайшоў Анікей Уніхоўскі. Пры гэтым яшчэ ў верасні 1583 г. Вшэбор Тымінскі паведаміў Анікею Уніхоўскаму, што за даўнюю службу князь надае яму двор Грозава[645]. Сваё абяцанне Аляксандр князь Слуцкі выканаў толькі праз год. 6 снежня 1584 г. у Навагрудку ў земскім судзе быў пакладзены ліст князя, дзе ён адзначаў, што за верную службу князю і яго бацьку, за шкоды, панесеныя на службе, і для памнажэння вернасці дому надае яму і яго жонцы фальварак Грозава (пазней Грозава Уніхоўскае) разам з усімі землямі, падданымі, угоддзямі і манастыром Святога Мікалая ў дажыватнае трыманне і запісвае на маёнтак 800 коп грошаў, за якія пасля смерці нашчадкі Уніхоўскіх могуць па жаданню ці прадаць яго князям Слуцкім ці саступіць гэта права каму пажадаюць[646].

3 кастрычніка 1589 г. у слонімскім земскім судзе былі пакладзены адразу некалькі лістоў на ўзнагароджанне верных слуг за службу. Лукашу Адалінскаму быў нададзены маёнтак Цэцэлеўка ў Навагрудскім павеце[647], Ярашу Зверу — вёска Бранчычы[648].

Першапачаткова да Аляксандра ў выніку падзела бацькавай спадчыны адышлі: у Слуцку частка горада, вядомая як Востраў, з востраўскім дваром і замкавымі людзьмі. Гэта значыць, што браты не былі пазбаўлены рэзідэнцыі ў родавым цэнтры. Для забеспячэння функцыянавання двара Аляк-

сандра ў Слуцку былі нададзены дзве вёскі Шостакі і Брановічы, двор Баслаўцы з фальваркам Грозава, двор Старыца з фальваркам Свідыцкі, двор Быстрыца, Бялевічы, Язы, двор Курапатынскі з мястэчкам Семяёўскае, дварцы Душава, Велячына, Ярэмічы з мястэчкам Любаньскае. Да яго ж адышла другая палова Глуска і Дарог. Браты перадалі Аляксандру і паўднёвую частку бацькоўскіх уладанняў, якія ляжалі ў Мазырскім павеце: замак Петрыкоў з горадам і воласцю, двор Колна з мястэчкам Леніна і валасцямі Дабрадзееўская і Ядынеўская. У Ашмянскім павеце да яго адышоў маёнтак Ваўкалаты.

30 чэрвеня 1582 г. Аляксандр выступіў гарантам і сведкам здзелкі паміж Кацярынай з Тэнчынскіх і познаньскім купцом Лукашам Рачкам. Княгіня Слуцкая пазычыла ў купца 14 тысяч польскіх злотых, каб пагасіць усе выдаткі на замежнае падарожжа сыноў. Акрамя сына сведкамі выступілі Ян Аўгусцінавіч Тракініцкі, харунжы віленскі, і Анікей Уніхоўскі, зямянін Наўгародскага павета і даўні слуга князёў Слуцкіх[649]. Самае цікавае, што, калі падышоў тэрмін выплаты пазыкі (дзень Святога Яна 1585 г.), а маці не змагла сабраць належную суму, сын адмовіўся адказваць за яе даўгі, хаця раней гарантаваў гэта пісьмова і грошы пайшлі на яго з братамі патрэбы. Гэты факт выклікаў вялікую крыўду маці, якая пасля такіх учынкаў сына вырашыла перадаць застаўшуюся ў яе зямельную маёмасць свайму другому мужу[650].

Дадавала полымя ў адносіны з маці і стаўленне да яе слуг. Быхавец скардзіўся, што маладыя князі да служэбнікаў маці ставяцца пагардліва і крыўдуюць іх. Аляксандр загадаў віленскаму харунжаму Яну Аўгустынавічу Тракініцкаму забраць маёнткі каля Ваўкалаты і запісаў свайму слузе Чарніцкаму ў пажыццёвае трыманне. Слугам княгіні Аляксандр Алелькавіч паведаміў, што маці не магла ім нічога дажывотна на іх маёнтках запісваць, і слугі турбаваліся пра далейшы лёс сваіх сем'яў. У Турцы (які быў валоданнем Кацярыны) Быхавец хацеў раздаць работнікам сукно і палатно, а князь Аляксандр сабе забраў не толькі тканіну, але і ўсе грошы[651].

Пасля падзелу маёнткаў паміж маці і сынамі, зацвярджэнне якога адбылося ў Кракаве, старэйшыя браты і Кацярына з Тэнчынскіх з Крыштафам Радзівілам ад'ехалі з Польшчы. Амаль адразу па перадачы маці траім братам сваёй спадчыннай маёмасці ў Польшчы Аляксандр, які вельмі цесна сыйшоўся са сваімі родзічамі па маці, а менавіта з Андрэем Тэнчынскім, звярнуўся да братоў з прапановай аб абмене маёмасцю. Ён прасіў саступіць яму ўсе польскія землі, адпісаныя ім маці, а абмен на яго частку бацькоўскай маёмасці ў ВКЛ. У выніку на карысць Яна Сімяона адышлі частка Слуцка (Востраў), Будовічы, Старычы, Свядасць, Душава, Валожын, Быстрыца, Петрыкоў і Зарыйская воласць[652].

Праз два тыдні пасля ад'езду маці, у канцы ліпеня 1583 г., Аляксандр вырашыў пакланіцца адной з найбольш шаноўных каталіцкіх святынь у Польшчы і выехаў на пілігрымку да Чэнстахова. Пасля яе ён збіраўся яшчэ не менш як на месяц затрымацца ў Кракаўскім гаспадарстве, каб вырашыць пытанні, звязаныя з уваходжаннем у валоданне Красніцкай маёмасцю ў Люблінскай зямлі[653].

Нельга сказаць, што малодшы Алелькавіч не клапаціўся пра свае ўладанні ці падданых. Пасля падзелу бацькоўскай маёмасці ён паспрабаваў правесці некалькі мерапрыемстваў, якія б палепшылі гаспадарчае жыццё ў яго добрах і павысілі іх прыбытковасць. 17 лістапада 1582 г. ён надаў сваім лістом мястэчку Петрыкоў гарадскую ўставу, якая ўвяла ў горадзе самакіра-







ванне[654]. Як князь адзначаў у прэамбуле да гарадской уставы Петрыкову: «да аздобы места і большым вольнасцям прыдаваць будуць»[655]. Самае цікавае, што князь сваёй воляй замацаваў праваслаўную веру для гарадского насельніцтва і паслухмянасць яго канстанцінопальскаму патрыярху. Умовы ўставы адпавядаюць усім патрабаванням у гарадах з самакіраваннем: яны звальнялі насельніцтва ад суда ўладальніка, дазвалялі функцыянаваць уласнаму суду, рэгламентавалі павіннасці мяшчан на карысць абароны горада праз рэестр, прадстаўлялі падатковую аўтаномію, забяспечвалі права на ўласнасць, права на выкарыстанне лясоў, рэк, давалі гандлёвыя прывілеі. Гараджане, незалежна ад этнічнага паходжання, траплялі пад судовую ўладу і юрысдыкцыю намеснікаў (княжацкіх ураднікаў). Першаснай фігурай у сістэме мясцовага самакіравання быў войт (у нашым выпадку намеснік). Князі Алелькавічы праз яго кантралявалі насельніцтва горада цалкам, акрамя мяшчан таксама шляхту і баяр. Рашэнні па спрэчных пытаннях прымалі «старшыя людзі» (на самай справе дарадцы і члены войтаўскага суда, які часцей зваўся лавай). Яны былі павінны не толькі судзіць, але і вывешваць выпісы з судовых пастаноў на табліцах на дамах, дзе суд адпраўляцца будзе, уносіць у судовыя кнігі лісты, звароты і іншыя юрыдычныя дакументы за пэўную плату. Да таго ж прапісваліся правілы ўзаемаадносін паміж хрысціянамі і яўрэямі, і нават добраўпарадкаванне вуліц (быдла не ганяць, бо яно вуліцы паскудзіць; каб дамы пустыя без гаспадароў не стаялі).

Пасля 1583 г. большасць часу Аляксандр праводзіў у Красніку, Любліне і Кракаве[656]. Цэнтральнай яго рэзідэнцыяй стаў Краснік. З гэтага часу ён надае сваю ўвагу ўладкаванню гаспадарчых спраў у гэтым маёнтку. Акрамя таго, ён бярэ на сябе прадстаўленне ў Люблінскім трыбунале інтарэсаў маці[657]. Папеаразварот, які праходзіў праз судовыя інстанцыі ў Любліне, быў настолькі вялікі, што асобна плацілася нейкаму Чынскаму, які пільнаваў справы князёў Алелькавічаў у Любліне[658].

Сродкаў на пераўтварэнне Красніцкага замка ў цэнтральную рэзідэнцыю ў князя не было. Гэта і не ўваходзіла ў яго намеры, бо ён па-ранейшаму заставаўся ўласнікам часткі Слуцка, дзе таксама часта бываў для вырашэння агульных з братамі спраў у слонімскіх і наўгародскіх судах.

Археалагічныя даследаванні польскіх гісторыкаў паказалі, што ў канцы XVI ст. ніякіх інвестыцый у замак, кляштар ці касцёл уласнікамі не рабілася. У Аляксандра, а потым і яго спадчыннікаў на гэта не было сродкаў. Частка маёнтка была закладзена Андрэю Кослу. Аляксандр здолеў разлічыцца з ім, вярнуўшы 11 тысяч фларэнаў, якія пазычала яшчэ яго маці[659]. Аднак амаль адразу ён заклаў Краснік Мацею Бялынскаму.

Хаця спробы пашырыць крыніцы прыбытку ад горада за кошт з'яўлення там новых катэгорый насельніцтва рабіліся. У 1586 г. Аляксандр Алелькавіч выдаў ліст, які дазваляў асесці ў Красніку яўрэйскай грамадзе, што раней яўрэям было забаронена[660]. Судовыя красніцкія кнігі сведчаць, што ўтрыманне княжацкага почту, пасланнікаў перакладалася на гарадскі бюджэт, а раней грошы выдаваліся са скарбу ўсяго маёнтка. Так, спачатку на прыезд Кацярыны з Тэнчынскіх з Юрыем у 1581 г., потым на прыезды Аляксандра горад плаціў за каплуноў, мяса, хлеб, стрэлы з гарматы пры прывітанні і інш.[661]. Красніцкі намеснік Мацей Бялынскі, даўні слуга Аляксандра князя Слуцкага, адзначаў у рахункавых кнігах, што сродкі на рамонт гарадскіх умацаванняў таксама браліся з мяшчан[662].

1589 год стаў часам вялікіх фінансавых клопатаў Аляксандра. Магчыма, гэта



**Кракаў.**
**Гравюра з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1617 г.**





было звязана з яго жаданнем пачаць палітычную кар'еру. Як бы там ні было, менавіта ў гэты час ён робіць найбольшую колькасць пазык як у Польшчы так і ў ВКЛ, закладае землі і маёмасць. 25 сакавіка 1589 г. у Слуцку ён пазычыў у слуцкага войта Цішэвіча і яго сыноў на адзін год 4 тысячы коп грошаў. За гэта ён заставіў ім сваю маёмасць: мястэчка Любань на р. Арэса з мытам і новазбудаванай стадолай ў мястэчку Ярэмічы, двух стральцоў, млын і сяло Таль. Да выкупу ўсіх гэтых зямель Цішэвічам дазвалялася карыстацца прыбыткамі, сыціць мёд, судзіць і мілаваць падданых[663]. У 1589 г. «in tonis oppidi Crasnik, fortalicii» (ва ўмацаваным месцы Краснік з замкам) была забяспечана квота ў 8562 фларына яшчэ аднаму слузе Аляксандра Якубу Глінскаму[664].

Малодшы князь ўвесь час цярпеў на розныя хваробы, асноўнай з якіх, падобна як і ў старэйшага брата, былі сухоты. Амаль кожны ліст паміж роднымі, дзе размова ішла пра Аляксандра, суправаджаўся заўвагамі пра стан яго здароўя. Родныя як маглі дапамагалі яму ў пошуках лекараў і замове новых лекаў, але вялікага поспеху лячэнне не мела. Ян Сімяон прывозіў лекараў з Кракава і Любліна. Лекі замаўляліся ў розных кутках краіны. Так, у канцы 1588 г. яго слуга Дзержак паехаў у Гданьск за «патрэбамі для здароўя князя яго міласці»[665], хаця сам князь накіраваўся ў Польшчу.

Нават яго партрэт сведчыць пра субцільнасць. У адрозненне ад сваіх братоў Аляксандр меў больш далікатныя рысы твару, як дзяўчына, якія можна растлумачыць яго хваробамі, светлыя валасы і блакітныя вочы. На партрэце, што знаходзіўся ў крыпце Трайчанскага манастыра, ён быў апрануты ў польскі касцюм з белым жабо, а менавіта ў цёмна-карычневы кунтуш з апушкай, цёмна-сіні жупан з жоўтым шаўковым пасам. Адна рука на стале трымае канец апушкі кунтуша. На баку вісіць меч з залатою рукаяццю. Такое апісанне партрэта пакінуў Ё. Смалінскі[666]. Самае цікавае, што яго ацэнка партрэта супадае з апісаннем знешнасці князя, пакінутым яго сучаснікамі. Ст. Калакоўскі пісаў:

Каторага за княжацкую прыгажосць
Як квет лілеявы пасяродку саду
Здабыў айчызне сваёй у той польскай
кароне
Славуты як некалі Парыс ён
у Траянскім краю[667].

Канешне, трэба ўлічваць, што гэта быў твор, у якім усхваляліся існуючыя і неіснуючыя якасці прадстаўнікоў славутага роду. Тым не менш адзнака знешняй прыгажосці




была дадзена толькі ў характарыстыцы малодшага з братоў.

Стан здароўя Аляксандра у дадатак пагаршалі прастудныя захворванні, а таксама доўгія пераезды паміж польскімі і беларускімі маёнткамі. Летам 1585 г., не звяртаючы ўвагі на парады доктара, які раіў яму застацца ў Красніку і не ездзіць далёка, ён паспяшыў у Сандамір, а потым збіраўся выехаць у Салец, дзе хацеў пабачыцца з маці[668]. У маі 1589 г. хвароба не дазволіла яму наведаць маці у Койданаве[669]. З пазнейшых яе лістоў вынікае, што хвароба зацягнулася на некалькі месяцаў і Аляксандр быў вымушаны ляжаць у ложку ў Баслаўчыцах у гарачцы і прымаць лекі, прапісаныя доктарам[670]. Тым часам справы не чакалі, і, не далячыўшыся да канца, князь выехаў у Слуцк, дзе павінен быў сустрэцца з Янам Кішкам. У снежні 1589 г. разам з сям'ёй Яна Сімяона ён цярпеў ад нечага падобнага на грып: «баліць у сэрц, у плячах таксама, і ў сэрца ное і пасяродку, што ледзь можна трываць»[671]. Праз некалькі месяцаў, у канцы сакавіка 1590 г., Ян Сімяон зноў паведамляе, што брат быў вельмі небяспечна хворы.

Падобна на тое, што яго хвароба перашкодзіла яму і ў стварэнні сям'і. У сакавіку 1590 г. у Любліне малодшы Алелькавіч быў павінны падпісаць дакументы, якія датычыліся яго магчымага шлюбу з дачкой кракаўскага ваяводы Мікалая Фірлея. Ён падпісаў з братам Янам Сімяонам чарговыя трактаты па абмену добрамі, каб задаволіць патрабаванні кракаўскага ваяводы, згодна з папярэднімі дамоўленасцямі. Цяжкая хвароба Аляксандра перашкодзіла яму прыехаць і прысутнічаць на перамовах з магчымым цесцем, які адмовіўся першым падпісваць абавязацельствы і патрабаваў, каб князь Слуцкі спачатку зрабіў запісы на яго карысць. На думку брата і бецкага кашталяна Севярына Банера, які быў пасрэднікам у сватаўстве, запісы на карысць будучага цесця ці жонкі не рабіліся нават перад вяселлем, а не толькі за нейкі час да яго. Ехаць і сустракацца з кракаўскім ваяводам на такіх умовах было б ганьбай для князя Слуцкага[672]. Ян Сімяон сустрэўся з кракаўскім ваяводам у Варшаве, але бакі не дамовіліся пра ўмовы заключэння шлюбу. Ва ўсякім выпадку ў сваім лісце да Кацярыны Тэнчынскай Мікалай Фірлей не напісаў і слова пра справы з яе малодшым сынам.

Не спрыяла здароўе і палітычнай актыўнасці Аляксандра. У дакументах звычайна ад яго імя выступаюць старэйшыя браты, асабліва ў барацьбе за месца ў Сенаце. Не змог Аляксандр з'явіцца і на каралеўскую службу. Замест сябе ў сакавіку 1584 г. ён паслаў Мацея Бялынскага. У сваім лісце малодшы з братоў прасіў Крыштафа Радзівіла Перуна дапамагчы слузе пры каралеўскім двары ў вырашэнні спраў яго гаспадара[673].

Нельга сказаць, што малодшы з князёў Слуцкіх наогул не ўдзельнічаў у палітычным жыцці. Доўгае знаходжанне ў Кракаве не магло пакінуць яго па-за межамі прыдворнага жыцця. Ён быў удзельнікам канвакацыйнага сойму, які адбыўся ў Варшаве ў лютым—сакавіку 1587 г. Праўда, дарога зімой праз усю краіну пагоршыла і так не лепшае здароўе Аляксандра. Пра важнейшыя падзеі, якія адбываліся ў іншых месцах дзяржавы, яму даносілі слугі. Так, з Петрыкава, дзе сабралася шляхта, каб вітаць шведскага каралевіча Жыгімонта Вазу, выбранага новым каралём, яму пісаў Ян Баяноўскі. Асабіста дакласці пра падзеі, якія там адбываліся, быў павінен слуга Аляксандра Севярын Хамец. Ян Баяноўскі, які фактычна сышоў са службы Яна Сімяона і амаль два гады знаходзіўся пры каралеўскім двары, пісаў Аляксандру пра ўсе прыдворныя навіны, змены ў знеш-

няй і ўнутранай палітыцы[674]. Маючы такога дасведчанага карэспандэнта, князь быў павінен добра арыентавацца ў палітычнай сітуацыі ў краіне і раскладзе сіл пры двары Жыгімонта III Вазы.

Пры дапамозе айчыма Аляксандр хацеў папрасіць у караля замак у Прыбалтыцы, які да гэтага трымаў Пракоп Пянёнжак, прыхільнік Радзівіла Перуна. Размова хутчэй за ўсё ішла пра замак Румборг, які быў атрыманы Пракопам у 1583 г. разам з вендзенскім староствам за ваенныя заслугі[675]. Аляксандр змог знайсці падтрымку гэтаму свайму намаганню ў падляшскага кашталяна Марціна Леснівольскага і пана Етлівы, каб не залежыць толькі ад ласкі айчыма[676].

Незадоўга да смерці 8 чэрвеня 1591 г., будучы цяжка хворым, Аляксандр склаў у Кракаве ліст, які фактычна замяніў тэстамент. Па ім князь Аляксандр запісаў усе свае маёнткі: Краснік, дараваны ад маці, Туробін (маёнтак застаўны ад Станіслава Гуркі) у Польшчы і ўсе маёнткі ў ВКЛ — брату Яну Сімяону як адзінаму спадчынніку па мужчынскай лініі. Землі пераходзілі да яго пры ўмове, што нейкую частку зямель ён можа запісаць на карысць Соф'і, дачкі князя Юрыя, і нікога болей, асабліва «чужога». Землі павінны былі пераходзіць і далей па спадчыне нашчадкам толькі Яна Сімяона. У гэтым тэстаменце Соф'я Юр'еўна і яе нашчадкі навечна аддаляліся ад гэтых маёнткаў. Прадугледжвалася і ўзнагароджанне слуг, але не было распісана, канкрэтна каму і што ён бы хацеў пакінуць. Была толькі выказана просьба пакінуць ім разданыя пры яго жыцці маёнткі ці адкупіць іх за вызначаную суму. Пячаткі да гэтага ліста «тэстамента» прыклалі прыяцелі Аляксандра Альбрэхт Радзівіл, Габрыэль Война і Мацей Война[677].

Ян Сімяон, прыняўшы пад сваё кіраванне маёнткі брата, аказаўся сам абцяжараны даўгамі. Просьбу брата паклапаціцца пра слуг ён не выканаў. У выніку доўг слугам Аляксандра, які складаў больш за 1 тысячу злотых, перайшоў на пляменніцу Соф'ю. З імі разлічыліся толькі праз некалькі гадоў апекуны яго адзінай спадчынніцы Соф'і Юр'еўны.





Памёр Аляксандр у Кракаве 26 чэрвеня 1591 г.[678]. Хроніка кракаўскага мешчаніна занатоўвае яго смерць на дзень раней — 25 чэрвеня. У ёй адзначана, што князь Аляксандр Слуцкі памёр у камяніцы пані ваяводзіны Мышкоўскай (цёткі Кацярыны з Тэнчынскіх), што стаяла на рагу вуліцы Сеннай. Гэта быў самы цэнтр Кракава, вуліца адыходзіла ад рынкавай плошчы. Цела яго доўга стаяла непахаваным. Па сведчаннях родных, ён хацеў быць пахаваны ў Красніку разам са сваім дзедам па маці Андрэем Тэнчынскім. У касцёле ў Красніку пачалі рыхтаваць крыпту. Толькі пасля дня Святога Францыска (4 кастрычніка) труну з яго целам па Вісле спусцілі да Красніка, дзе ў нядзелю пахавалі з вялікай учцівасцю[679].

## ПАХАВАННІ І ПАМЯЦЬ

Пасля смерці Яна Сімяона Крыштафу Радзівілу Перуну і Соф'і з Мялецкіх стала неабходна вырашаць праблему пахавання адразу трох прадстаўнікоў славутага роду. У Красніку пахаванне арганізаваць не ўдалося. На гэтыя акалічнасці скардзіўся ў сваім лісце да Яна Замойскага Крыштаф Радзівіл. Маёнтак знаходзіўся ў закладзе ў руках слугі Аляксандра красніцкага намесніка і дзяржаўцы Мацея Бялынскага, і часовы ўласнік не дапусціў Радзівіла да арганізацыі там пахавання[680]. Спачатку Соф'я Мялецкая хацела пакласці яго цела побач з братам у Красніку ў касцёле ў крыпце Тэнчынскіх. Тым больш што крыпта была ўжо гатовая і арганізацыя пахавання не





патрабавала вялікіх сродкаў, якіх у ўдавы не было. Пазней удава Яна Сімяона вырашыла не пакідаць апошніх слуцкіх князёў у капліцы Тэнчынскіх. Было вырашана фундаваць капліцу ў касцёле ў Любліне, куды праз некаторы час і была прывезена труна з целам Яна Сімяона.

Пазней удава Яна Сімяона передумала і вырашыла пахаваць мужа ў Любліне, а цела Аляксандра перавезці да Слуцка. Прычыны такога рашэння яна нідзе ў лістах не тлумачыла. За некалькі гадоў да смерці Ян Сімяон стаў членам брацтва міласэрнасці, якое падпарадкоўвалася езуітам. Ён быў адным з заснавальнікаў і фундатараў люблінскага езуіцкага калегіума, нягледзячы на тое, што паходзіў з праваслаўнай сям'і. Менавіта езуіты здабіліся пераходу князёў Слуцкіх у каталіцтва, пра што паведамляў у 1579 г. у Рыме Пётр Скарга[681].

Гэта і стала адной з асноўных прычын таго, што рашэнне было прынята на карысць Любліна. Соф'я з Мялецкіх, хаця і скардзілася на недахоп грошай, хацела пахаваць свайго мужа асобна з усёй магчымай помпай. У той жа час вымураванне і ўпрыгожванне мармурам новай капліцы ў касцёле езуітаў у Любліне патрабавалі ад яе значна большых выдаткаў, чым яна магла сабе дазволіць.

Усё гэта схіліла Соф'ю з Мялецкіх да пышнага пахавання з усімі атрыбутамі, якія падкрэслівалі высокае грамадскае становішча роду князёў Слуцкіх. Арганізацыю пахавання ўзялі на сябе стрыечныя браты князёў Слуцкіх Юрый і Геранім Хадкевічы. Пасля нарад удавы з імі, Крыштафам Радзівілам, Янам Астрарогам быў распрацаваны наступны план. Спачатку адбудзецца ўрачыстае пахаванне Яна Сімяона. Пахаванне яго брата Соф'я пераклала на плечы апекуноў маёмасці і Крыштафа Радзівіла, просячы, каб ён арганізаваў усё сам па свайму разуменню.

Як пісаў Ян Астрарог, неабходна было арганізаваць пахаванні на такім узроўні, каб ніякіх нараканняў не было, і прапаноўваў свае паслугі Соф'і з Мялецкіх, і неадкладна выязджаў да Сандаміра, каб быць паблізу ад Красніка. Неабходна было вызначыць жалобную трасу і правесці яе так, каб цела абодвух братоў былі правезены па ёй[682]. Распарадзіліся ўсім браты Хадкевічы. Соф'я з Мялецкіх даведалася пра падрыхтоўку, якая пачалася, ад слуг жмудскага старасты Юрыя Хадкевіча Зянковіча і Мацкевіча. Яны паведамілі, што цела князя Аляксандра ўжо паклалі на мяжы, а зараз пачынаюць арганізацыю пахавання Яна Сімяона[683]. Удаве прапанавалі далучыцца да арганізацыі і выказаць свае пажаданні. Калі яна не пажадае ў тым удзельнічаць, то князя Аляксандра Хадкевічы былі згодны пахаваць самі без яго брата. Соф'я напісала, што яна добра разумее свае абавязкі, усё магчымае для прыстойнага пахавання зробіць і слуг нябожчыка мужа ўзнагародзіць за верную службу. Аднак яна прасіла адсунуць час пахавання мужа, бо хацела б бачыць падчас гэтай смутнай цырымоніі шэраг асоб, у тым ліку Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіротку.

Па некаторых звестках, труну з целам Аляксандра перавезлі ў Слуцк. Ва ўсякім выпадку, забраўшы яе ў красніцкага касцёла, жалобны картэж давёз яе да мяжы Кароны Польскай і ВКЛ. У Слуцку цела Аляксандра размясцілі ў скляпеннях Трайчанскага манастыра. Дакументальных сведчанняў гэтаму факту пакуль што не знойдзена, акрамя надпісу на партрэце малодшага з братоў Алелькавічаў: «Alexander Xiąże Słuckie umarł 1591 leży w Słucku»[684].

У сакавіку 1593 г. па просьбе Яна Астрарога да Красніка прыехалі слугі і прыяцелі, у тым ліку староста сандамірскі. У той жа час удава не прывезла ніякіх грошай і, як з абурэннем пісаў Ян Астрарог да

Крыштафа Радзівіла 7 сакавіка 1583 г., хоча пахаванне справіць пышнае, а са слугамі не разлічылася, і яны не ведаюць, што ім рабіць далей[685].

Пахавалі цела Яна Сімяона ў Любліне 29 красавіка 1593 г. з помпай, вартай нашчадка каралеўскай фаміліі. Труна знаходзілася на катафалку, упрыгожаным алегарычнымі выявамі веры, надзеі, кахання, мужнасці і пакрытым чорнай тканінай. Абабітыя чорным сцены ў ззянні вялікай колькасці свечак надавалі цырымоніі яшчэ большую веліч. Кожны прадмет, які знаходзіўся ў касцёле ці на катафалку, меў сімвалічнае значэнне. Галовы — мудрасць і жыццё, якое заўжды заканчваецца, гадзіннік — бег жыцця ад нараджэння да смерці, стаячая смерць — каб людзі памяталі, што іх чакае ў канцы жыцця. Такое знешняе афармленне пахавання апошняга князя Слуцкага азначала не толькі канец эпохі ці роду, а змену духоўных каштоўнасцей і традыцый славутага роду.

Самі князі Алелькавічы ніколі не забываліся пра сваю роднасць з кіруючай дынастыяй і богаадоранасць. Нездарма на іх пячатках стаяла абрэвіятура DG DS традыцыйнай формулы заходнееўрапейскіх уладароў DEI GRATIS DUX SLUCENSIS альбо GEORGIUS D G DUX SLUC ET COPIL ETC[686].

Кожны прадстаўнік роду проста дадаваў да яе свой ініцыял: G(eorgius), A(lexander)[687], IN(Ioannis)[688]. Да такога пазіцыяніравання сябе абавязвала ўся родавая традыцыя князёў крыві. Што цікава, нават лацінскі надпіс (а не кірылічны) падкрэслівае, якое месца адводзілі сабе князі Алелькавічы сярод іншых знатных родаў. Менавіта тут можна шукаць карані шанавання іх не проста як светлых, богапаслухмяных князёў, але і як апошніх абаронцаў веры і нават святых, як гэта адбылося з Соф'яй Слуцкай. Ім не было неабходнасці рабіць сабе міфічную генеалогію, шукаючы знатных продкаў, паколькі яны самі адносіліся да Гедымінавічаў.

Вяршыняй стварэння мемарыяльных помнікаў князёў Слуцкіх можна назваць капліцу Алелькавічаў каля прэсбітэрыума люблінскага касцёла езуітаў. Першапачаткова план касцёла быў выкананы знакамітым архітэктарам Я. М. Бернардоні, а будаўніцтва працягнуў Ёзаф Брызіа. Да 1592 г. былі вымураваны фундаменты, над якімі паднялі толькі частку сцен. Аднак ужо ў 1592 г. Соф'я з Мялецкіх ахвяравала 10 тысяч злотых на заканчэнне паўднёвай «мармуровай капліцы» і пераўтварэнне яе ў месца пахавання мужа[689]. Згодна з воляй фундатараў і з ініцыятывай пераўтварэння паўночнай капліцы ў свой маўзалей яшчэ ў 1591 г. выступіў кракаўскі ваявода М. Зебжыдоўскі, і архітэктары перапрацавалі праект будаўніцтва. Соф'я з Мялецкіх збіралася паставіць у капліцы Алелькавічаў пышны надгробак са скульптурнай постаццю памерлага. Яго праект быў падрыхтаваны ўжо да пахавання князя ў Любліне. У 1594 г. генерал ордэна езуітаў Аквавіта пісаў да правінцыяла Яна Паўла Кампана, каб той пераканаў Соф'ю абмежавацца пакладаннем пліты з гербам памерлага і надпісам. Звязана гэты было з забаронай езуітаў размяшчаць выявы свецкіх асоб у касцёлах[690].

Паколькі будаўніцтва зацягнулася, труна з целам князя некалькі гадоў знаходзілася ў часовай капліцы. У ўдавы князя Слуцкага не хапала грошай, каб выплаціць будаўнікам неабходную суму. Толькі ў 1596 г. будаўніцтва маўзалея працягнулася і было завершана да 1604 г. У 1605 г. разабралі часовую капліцу і труну з целам князя Алелькавіча і перанеслі ў прыгатаваную крыпту[691].

Капліца стала не толькі месцам пахавання Яна Сімяона князя Слуцкага, але і











**Люблін. Кафедральны касцёл.**
**Сучасны стан**

помнікам пераходу аднаго са старажытнейшых праваслаўных родаў у лона каталіцкай царквы[692]. Найбольш выразна імкненне захаваць памяць пра род з дапамогай вонкавага ўражання бачна ў існаванні мастацкай праграмы аздаблення капліцы. У 1609 г. Соф'я, якая была на той час замужам за Янам Каралем Хадкевічам, выдала яшчэ 6 тысяч злотых на аздабленне капліцы мармурам і разьбой. Сцены капліцы былі ўпрыгожаны арэхавым хенцінскім мармурам. Да 1615 г. роспіс і аздабленне разьбой сцен капліцы былі скончаны. Рэнесансныя зводы, падзеленыя на медальёны, былі аформлены ляпным арнаментам. Першапачаткова там знаходзіліся намаляваныя партрэты, пазней забеленыя. У капліцы быў размешчаны і жывапісны партрэт апошняга князя Слуцкага. Пасля смерці Соф'і з Мялецкіх у 1618 г. далейшыя працы былі спынены[693]. На жаль, у XVIII ст. штукатурка была моцна пашкоджана вільгаццю і на сёння маляўнічы дэкор, у тым ліку і партрэты, страчаны. У 1630 г. у капліцы пабудавалі алтар, прысвечаны Святому Станіславу Костку, у гонар якога і была асвечана ўся капліца. Далейшае яе ўпрыгожванне было звязана з мастацкімі творамі на тэму жыцця і цудаў гэтага папулярнага ў Польшчы святога.

Капліца дайшла да нас фактычна ў сваім першапачатковым выглядзе, толькі падчас яе рэканструкцыі была страчана першапачатковая надмагільная пліта. Замест яе рэстаўратары ў 1878 г. размясцілі на адной са сцен табліцу з імёнамі ўсіх пахаваных там. Як аказалася, з усіх архітэктурных помнікаў, якія былі ство-

раны, замоўлены, прафінансаваны князямі Алелькавічамі, да нас дайшла толькі капліца ў Люблінскім касцёле.

Ушанаванне памяці апошняга памерлага прадстаўніка роду Алелькавічаў з'яўляецца яскравым сведчаннем таго, як змянілася культурная арыентацыя апошніх прадстаўнікоў гэтага роду. У той жа час панегірыкі былі данінай заходнееўрапейскай моды, распаўсюджанай дзякуючы замежным кантактам шляхецкай моладзі і сетцы навучальных езуіцкіх устаноў. На пахаванні Яна Сімяона езуіт Шымон Высоцкі агласіў сваё казанне, што было характэрна для польскай каталіцкай культуры. Яго асноўнай задачай стала ўслаўленне роду, да якога належаў памерлы князь. Прытым што на яго асабістых якасцях ці вартасцях увага не была засяроджана. Фактычна гэты быў панегірык зыходзячаму з гістарычнай арэны знакамітаму роду[694]. Цікава, што пацвярджэннем кахання Соф'і з Мялецкіх да памерлага мужа панегірыст называе не толькі будаўніцтва для яго апошняга прытулку. Шымон Высоцкі піша пра тое, што ўдава наняла паэтаў, гісторыкаў і кантараў, каб яны ў літаратурных і музычных творах славілі яе мужа[695].

У трэцяй частцы «Казання на смерць» аўтар звярнуў увагу менавіта на адданасць нябожчыка каталіцкай царкве.

Заўчасны зыход з жыцця князёў Алелькавічаў, які паклаў канец традыцыі існавання і ўдзелу ў палітычным жыцці краіны «князёў крыві», азначаў канец старой сістэмы ўлады. Як падсумаванне жыццёвага шляху апошніх князёў Слуцкіх у 1593 г. у друкарні Мамонічаў у Вільні выйшаў твор Станіслава Калакоўскага (Яцвежыуса) «Катэмерыніён княства Слуцкага»[696]. Там знайшліся добрыя словы не толькі для апошніх князёў Слуцкіх, але і да ўсіх іх родных. Асобныя вершы былі звернуты ў суцяшэнне стратам да Соф'і з Мялецкіх, Барбары з Кішкаў, Соф'і Юр'еўны Алелькавіч і яе апекуноў Юрыя і Гераніма Хадкевічаў.


KAZANIE
NA POGRZEBIE
Iáśnie Oświecone
go Kśiążećiá / Je° X. Mczi Páná Páná
Janá Symeoná Olelkowiczá / z łáski
Bożey Kśiążećiá Słuckiego y Kopylskie-
go. etc. Ostátecznego / Męskiey płći tey Zá-
cney y stárodáwney Fámiliey
Potomká. Miáne.
PRZEZ
X. SYMONA WYSOCKIEGO, SOCIETATIS
IESV KAPLANA. W Kośćiele teyże Societatis
W LVBLINIE 29. Aprilis. 1593.

W WILNIE,
W Drukárni Akádemiey Societatis IESV.
1593.

**«Казанне на смерць Яна Сімяона Слуцкага».**
**Ш. Высоцкі. 1593 г.**

# АПОШНЯЯ З КНЯЗЁЎ СЛУЦКІХ





Лёс апошняй з князёў Слуцкіх Соф'і Алелькавіч, найбагацейшай нявесты канца XVI ст., набыў рамантычны арэол яшчэ ў XIX ст. намаганнямі літаратараў і гісторыкаў Ё. Крашэўскага і Ул. Сыракомлі. Паэтаў перыяду рамантызму прыцягвалі рамантычныя гісторыі заключэнняў шлюбу, дзе сустракаліся бедныя сіроты, жорсткія апекуны. На падставе гістарычных падзей можна было стварыць захапляючыя п'есы і раманы. Гераінямі разнастайных літаратурных твораў гэтага перыяду сталі дзве дзяўчыны-князёўны, што жылі ў XVI ст., — Гальшка Астрожская і Соф'я Слуцкая. Лёс Соф'і Алелькавіч падштурхнуў Ёзафа Крашэўскага да напісання аповесці з выкарыстаннем гістарычных фактаў — «Апошняя з князёў Слуцкіх», якая выйшла ў 1841 г. Некалькі пазней Ул. Сыракомля ў вершаванай форме прадставіў сваю версію падзей 1600 г. у драматычным творы «Магнаты і сірата (Соф'я князёўна Слуцкая)»[697].

Нягледзячы на тое, што апошні, працуючы архіварыусам у Нясвіжы, меў доступ да гістарычных дакументаў, твор вельмі спрошчана паказваў абставіны жыцця князёўны. Аўтар не проста літаратурна апрацаваў ход падзей, але і пераблытаў дзеючых асоб, дадаў тых, якія наогул у іх не ўдзельнічалі. Тым не менш сенсацыйныя падзеі, сварка паміж двума найбольш уплывовымі родамі ў Вялікім Княстве Літоўскім, рэлігійнае пытанне, якім была афарбавана сама цырымонія, не маглі не прыцягнуць увагу расійскіх уладаў. Праваслаўная царква пасля падаўлення паўстання 1830—1831 гг. шукала асоб, якія маглі б падкрэсліць вернасць мясцовай шляхты праваслаўю, стварыць супрацьвагу польскай нацыянальнай ідэі, таму звярнула ўвагу на апошнюю прадстаўніцу славутага роду. Настаўнікам Слуцкай духоўнай семінарыі іераманахам Маркіянам быў прапанаваны свой варыянт біяграфіі Соф'і Алелькаўны, якая лягла ў аснову фарміравання культу праваслаўнай святой.

Сёння вельмі цяжка аднавіць падрабязна, дзень за днём жыццё чалавека, які памёр больш за 400 гадоў таму. Даўнымдаўно няма людзей, якія былі сведкамі тых падзей, загінула значная частка дакументаў. Аднак у архівах Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны і Расіі часткова захавалася асабістая перапіска большасці дзеючых асоб. У першую чаргу гэта лісты Януша Радзівіла да сваякоў жонкі і сваіх родных, дзе абмяркоўваліся асабістыя ўражанні і пачуцці жаніха падчас залётаў, перапіска апекуноў маладых — братоў Юрыя і Іераніма Хадкевічаў з Крыштафам Радзівілам Перуном. На вялікі жаль, перапіска самой Соф'і Алелькавіч да нас не дайшла. Уласных



**Соф'я Юр'еўна Слуцкая.**

**Гравюра з альбома «Icones familiae ducalis Radivilianae». 1758 г.**







**Ліст Ёзафа Быхаўца да Кацярыны Радзівіл. 1.05.[1585]. AGAD. AR. Dz. V. Sign. 1759 г.**

аўтографаў княгіні ці лістоў да яе намі не знойдзена, вядомы толькі пераказы яе лістоў у перапісцы Януша. У сваім часопісе «Атэнеум» Ю. Крашэўскі адзначаў, што лісты князёўны Слуцкай захоўваліся ў Пецярбургу, па звестках С.А. Ляховіча. Іх публікацыя нават была праанансавана ў адным з нумароў часопіса[698]. Аднак там яны так і не былі надрукаваны. Затое ўсе бакі, уцягнутыя ў канфлікт, зберaглі судовыя дакументы, якія маглі б даказаць іх правату і пацвердзіць прэтэнзіі на маёнткі князёў Алелькавічаў.

Апошняя прадстаўніца славутага роду Соф'я Юр'еўна Алелькавіч-Слуцкая была дачкой князя Юрыя III Юр'евіча Слуцкага і Барбары, дачкі ваяводы падляшскага Мікалая Кішкі (? — паміж 7 і 11 красавіка 1596 г.). Іх першае і адзінае дзіця нарадзілася ў чацвер, 1 мая 1586 г., літаральна за некалькі дзён да смерці бацькі. Дзяўчынку назвалі традыцыйным для роду імем — Соф'я. Пра гэта лістом, напісаным уначы, паведаміў Кацярыне з Тэнчынскіх Радзівіл яе стары слуга, былы слуцкі намеснік Ёзаф Быхавец: «і хутка па нараджэнню магло быць <…> гадзіне пані Хабрыжэўская несла тое дзіця да князя его міласці, які яго міласць быў вельмі рады калі пабачыў цалаваў»[699]. Па просьбе старых слуг (маршалка двара Яна Баяноўскага і Ёзафа Быхаўца), якія бачылі, што стан здароўя князя не папраўляецца, Юрый распарадзіўся маёмасцю і напісаў ліст, які фактычна мог замяняць тэстамент. Сам тэкст гэтага дакумента дагэтуль не выяўлены, і даведацца пра яго змест можна па ўскосных сведчаннях ці іншых захаваных дакументах. Згодна са звесткамі, якія былі прыведзены ў лістах Юрыя Хадкевіча, апекунамі нашчадкаў князёў Слуцкіх станавіліся асвенцымскі стараста Пётр Мышкоўскі[700], люблінскі кашталян Пётр Чорны з Вітовіц[701] і кіеўскі ваявода князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі.

Выбар апекуноў быў даволі незвычайны і яскрава ілюстраваў сяброўскія сувязі князёў Алелькавічаў. Усе патэнцыяльныя апекуны паходзілі з каронных зямель: Валыні і Малой Польшчы. Як мы пісалі вышэй, князі Алелькавічы на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў знаходзіліся ў складаных адносінах з большасцю вышэйшых ураднікаў ВКЛ. Не вельмі добра складваліся і адносіны братоў Алелькавічаў з другім мужам іх маці, хаця Крыштаф Радзівіл Пярун, які быў ваяводам віленскім, мог стаць абаронцам інтарэсаў князёўны на самым высокім узроўні. Сярод апекуноў толькі адна асоба займала высокае становішча — князь Канстанцін (Васіль) Астрожскі, што не магло спрыяць добрай абароне інтарэсаў немаўляці. Князь Астрожскі, які

прыходзіўся князю Юрыю не толькі родзічам, быў адным з нямногіх палітычных і рэлігійных саюзнікаў праваслаўнага князя Слуцкага і не меў вялікага ўплыву на сітуацыю на землях ВКЛ. Два другія апекуны наогул не займалі ніякіх высокіх пазіцый на працягу свайго жыцця: Пётр Мышкоўскі, асвенцымскі, ойцаўскі, хенцінскі, тышавецкі староста, хаця і паходзіў з вядомага сенатарскага роду, сам значных пасад не меў і толькі ў канцы жыцця заняў урад люблінскага кашталяна. Пётр Чорны паходзіў з даўняй кракаўскай мяшчанскай сям'і, якая ў канцы XV ст. атрымала шляхецтва. Для яго ўрад люблінскага кашталяна быў вяршыняй палітычнай кар'еры, якую ён пачаў каралеўскім дваранінам[702]. Ніякай палітычнай ці маёмаснай карысці ад такіх апекуноў дзяўчынка б не атрымала, і абарона яе правоў была б пад пытаннем. Зразумела, што асноўная апека аўтаматычна пераходзіла да братоў бацькі.

Адразу пасля смерці Юрыя III жмудскі староста Ян Кішка, родзіч з боку маці, пачаў цікавіцца тым, хто будзе выхоўваць князёўну, а таксама кім яна павінна быць дагледжана. Даведацца пра пазіцыю сям'і ён спрабаваў праз маршалка двара памерлага князя Юрыя Яна Баяноўскага спачатку ў Вільні, потым у Слуцку падчас пахавання князя Юрыя III[703]. Ян Кішка непакоіўся, што яго сястра, якая не адышла яшчэ ад цяжкасцей нараджэння дзіцяці, не будзе здольная сама вырашыць усе праблемы, якія выклікала смерць князя Юрыя[704]. Як паказалі далейшыя падзеі, яго асцярога мела пад сабой падставу.

Па Статуту 1588 г. дзяўчынкі да выхаду замуж маглі заставацца пры маці, а апекуны павінны былі прызначаць ім утрыманне[705]. Некаторы час Соф'я заставалася пры маці, але тая даволі хутка (да пачатку 1592 г.[706]) выйшла замуж за Андрэя Сапегу, старасту гомельскага[707]. Пакуль былі жывыя Ян Сімяон і Аляксандр Алелькавічы, пытанне пра тое, хто будзе займацца кіраваннем маёмасці Соф'і, не ўздымалася. Фактычна яна знаходзілася пад апекай першага, паколькі на землях ВКЛ маёмасці Аляксандра Алелькавіча амаль што не было. Ян Сімяон прадстаўляў інтарэсы дзяўчыны ў судовых разбіральніцтвах[708]. Нечаканая смерць усіх родных (абодвух дзядзькаў і бабкі) зрабіла дзяўчыну фактычна безабароннай. Родзічы з боку маці, той жа Ян Кішка, які памёр у канцы лістапада 1592 г., таксама зышлі са свету. Што цікава, ужо тады дзяўчынку не пакінулі пры маці. Соф'я на той момант была ў Красніку разам з удавой Яна Сімяона Соф'яй з Мялецкіх. Князёўна стала спадчынніцай вялізных зямельных маёмасцяў у Вялікім Княстве Літоўскім і Кароне Польскай — Слуцка, Капыля, 7 мястэчак і 32 фальваркаў. Вялізныя маёнткі былі абцяжараны не меншымі пазыкамі: каля 200 тысяч польскіх злотых на частцы Яна Сімяона, не былі выплачаны асабістыя даўгі Аляксандра на 14 тысяч злотых і пазыкі самога Юрыя — не менш 50 тысяч злотых.





Па меркаванні Яна Баяноўскага, які на працягу апошніх шасці гадоў кіраваў маёмасцю памерлага князя як эканом, землі князя Юрыя павінен быў узяць пад сваю апеку кароль Жыгімонт III Ваза. Ён жа мог прызначыць новых апекуноў, бо князёўна мела права толькі на дажывотнае ўладанне ўсімі землямі. Баяноўскі паспрабаваў сустрэцца са старастам асвенцымскім і каронным маршалкам (апекунамі па просьбе бацькі), каб узгадніць сітуацыю з далейшай апекай над князёўнай. Сам Баяноўскі быў не супраць і далей служыць князёўне без юргельду (платы), але прызначэнне ўраднікаў знаходзілася ў кампетэнцыі самога гаспадара ці апекуноў, калі гаспадар быў непаўналетні. Баяноўскі паехаў да ўдавы Яна Сімяона, бо з ім дагэтуль не разлічылі-







KAZANIE
Ná pogrzebie
Oświeconey Kśiężny J. M. Pániey
P. Kátárzyny z Tęczyná Rádziwi-
łowey / Woiewodźiney Wileńskiey etc. etc.
Miáne w kośćiele Tumskim Wileńskim /
Dniá 20. Julij. Roku Páńskiego 1592.
Przez X. D. Stániſławá Grodźickiego/
Theologá Societatis Iesu.

A PRZYTYM
TRVTINA PSYCHOTOPII,
przeciw temu kázániu przez Ministrá [illegible]
wydáney.

W WILNIE
W Drukárni Academij Societatis Iesu Anno Domini
1592. Przez Daniela Leczyciusa.

**«Казанне на смерць Кацярыны з Тэнчынскіх».**
**Ст. Гразіцкі. 1592 г.**

ся за арганізацыю вяселля князя Юрыя і яго брата (не было нават вернута срэбра, якое бралася калісьці на іх вяселле), азнаёміў яе з воляй караля. Кароль загадаў, каб ні аднаму пану апошнюю прадстаўніцу роду на выхаванне не аддавалі, а перадалі толькі самому каралю[709]. Гэта не дзіўна, калі ўспомніць пра лёс іншых багатых спадчынніц, хаця б Гальшкі Астрожскай, пра якую мы пісалі раней. Старасце асвенцымскаму Пятру Мышкоўскаму толькі і засталося, як згадзіцца з воляй караля і чакаць, калі ён прышле за Соф'яй.

Ян Баяноўскі разам з пасланцом Крыштафа Радзівіла Графам і каралеўнай Ганнай Вазоўнай спрабавалі пераканаць караля, што дзяўчыне будзе лепш з роднымі. Яны прасілі, каб кароль выказаў сваю ласку і па прыездзе ў Люблін Крыштафа Радзівіла аддаў таму Соф'ю пад апеку яго жонкі, бабкі дзяўчыны. Кароль адказаў, што ніякай ласкі і кандыцыі з боку ваяводы віленскага ён да сябе не бачыў, і гэта быў каралеўскі загад — дзяўчыну нікому на выхаванне не перадаваць. Кароль хацеў, каб яна знаходзілася пад апекай каралеўны (пэўна, Ганны Вазы) і магла б далей заставацца пры каралеўскім двары пад апекай будучай каралевы Ганны Аўстрыйскай. Незразумела, ці было выканана каралеўскае пажаданне, ці ў перадвясельных клопатах кароль адклаў пераезд Соф'і на больш позні час. У той жа час Жыгімонт III пагадзіўся прыняць самога ваяводу віленскага, але не з яго прадстаўнікамі, каб паразмаўляць з ім наконт апекі над апошняй прадстаўніцай роду Алелькавічаў. Кароль пацвердзіў, што ён будзе мець на ўвазе кандыдатуру Кацярыны з Тэнчынскіх як апякункі, бо на той момант ніхто іншы для сябе апекі над князёўнай не прасіў[710]. Ян Баяноўскі пытаўся ў Крыштафа Радзівіла Перуна, ці будзе ён і далей працягваць свае намаганні ў гэтым накірунку. Ён нагадваў, што ўся ўласнасць слуцкіх князёў можа перайсці да караля, калі род выгасне канчаткова. Падобна, што ўжо тады ў Радзівіла Перуна з'явілася думка пра шлюб апошняй князёўны Слуцкай са сваім сынам, каб не дапусціць пераходу яе спадчыны ў рукі іншых родаў. Смерць Кацярыны з Тэнчынскіх 17 сакавіка 1592 г. зняла пытанне. У віленскага ваяводы больш не было падстаў для атрымання апекі над князёўнай Слуцкай.

Пасля смерці Яна Сімяона ў сакавіку 1592 г. усе клопаты пра пахаванне апошняга князя, кіраванне яго маёмасцю, апеку над апошняй прадстаўніцай князёў Слуцкіх, выплаты слугам узялі на сябе Юрый і Геранім Хадкевічы[711]. Яны былі сынамі Соф'і Юр'еўны Слуцкай, сястры Юрыя II, і прыходзіліся апошнім князям Слуцкім роднымі дзядзькамі. Менавіта яны паведамілі Крыштафу Радзівілу Перуну пра смерць





**Прывілей Жыгімонта III Яну Баяноўскаму на Бабруйск.**
**1589 г. AGAD. AR. Dok. Perg. 4639**

апошняга князя Слуцкага[712]. Акрамя таго, бабка малой Соф'і па мацярынскай лініі Барбара Геранімаўна Кішка таксама паходзіла з роду Хадкевічаў[713]. У сувязі са смерцю ўсіх блізкіх родзічаў паўстала пытанне, хто возьме на сябе справу апекі над апошняй прадстаўніцай роду. Хадкевічы апелявалі да факта свайго блізкага пакрывенства з апошняй князёўнай Слуцкай і прасілі апекі для сябе[714]. Жмудскі староста Юрый Хадкевіч неаднойчы звяртаўся па дапамогу да Крыштафа Радзівіла, паколькі Хадкевічы, як бліжэйшыя па крыві, хацелі ўзгадніць свае дзеянні па пахаванню апошніх князёў Слуцкіх з мужам іх маці. Фактычна Юрый Хадкевіч узяў на сябе справы апекі адразу пасля смерці Яна Сімяона і жадаў замацаваць склаўшуюся сітуацыю афіцыйна. Ужо 27 чэрвеня 1592 г. усе дакументы князёў Слуцкіх былі перададзены слугой Аляксандра і Яна Сімяона петрыкоўскім наместнікам Анікеем Уніхоўскім на захаванне старасце жмудскаму[715].

Усё гэта выклікала вялікія складанасці, бо тэстамента, ці ліста, які б рэгламентаваў гэтае пытанне, у Юрыя III не было. Маці таксама не мела тут вырашальнага голасу, калі яе ўдзел у вырашэнні лёсу дзяцей не агаворваўся спецыяльнымі пунктамі ў тэстаменце[716]. Акрамя таго, пайшоўшы другі раз замуж, Барбара Кішчанка страчвала магчымасць самастойна ўмешвацца ў судовыя спрэчкі. Незразумела, чаму з просьбай прызначыць апекуном не выступіў яе муж Андрэй Сапега, але падобна на тое, што ён проста не быў дастаткова ўплывовым і заможным, каб узяць на сябе абавязкі па кіраванні маёмасцю, як гэтага патрабаваў Статут ВКЛ 1588 г.[717].

Сітуацыя была вельмі цяжкай. Частка маёмасці была закладзена і не прыносіла князёўне ніякага даходу. Крэдытары патрабавалі ад апекуноў выплаціць грошы. На той час некаторыя з іх чакалі ўжо па некалькі гадоў. Выплата такіх пазык, кіраванне, утрыманне маёмасці і выхаванне







**Севярын Налівайка.**
**Невядомы мастак. XIX ст.**

дзяўчыны патрабавалі вялізных сродкаў, якія былі не ў кожнай сям'і. Справа зацягнулася надоўга, і Леў Сапега быў вымушаны прасіць стаць пасрэднікам Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіротку і ўладзіць справу: «праз права ці так жа праз умову»[718]. У выніку Барбара афіцыйна адмовілася ад апекі над дачкой на карысць Юрыя Хадкевіча[719].

Юрый Хадкевіч адразу аказаўся ўцягнутым у розныя судовыя працэсы, звязаныя з вялікімі даўгамі князёў Слуцкіх. На яго, як на апекуна малой Соф'і Слуцкай, якая стала спадчынніцай Яна Сімяона і Аляксандра Слуцкіх, сталі падаваць у суд іх крэдытоны. Што цікава, грошы бралі Ян Сімяон з жонкай, але Соф'я з Мялецкіх, хаця і атрымала правы на карыстанне да сваёй смерці капыльскімі ўладаннямі князёў Слуцкіх, плаціць адмаўлялася[720]. Так, скаргі Марціна Окуня на ўдовую княгіню, пададзеныя праз год пасля сканчэння тэрміну выплат, аказаліся незадаволенымі яшчэ праз 10 гадоў. Ён не толькі не атрымаў ад Соф'і з Мялецкіх і апекуноў малой Соф'і Юр'еўны 1320 коп грошаў, пазычаных пад заклад Візны, і астатнія сумы, а нават і аплату за дзесяць леапардавых скур[721]. Малады апякун паспрабаваў палепшыць фінансавыя справы, адабраўшы ў былых слуг Алелькавічаў абяцаныя ім наданні. Самым буйным і прыбытковым быў Бабруйск. За верную службу ён быў абяцаны ў трыманне Яну Баяноўскаму спачатку Юрыем князем Алелькавічам, потым Янам Сімяонам, якому яны былі павінны шмат грошай. Пасля смерці князёў Слуцкіх Ян Баяноўскі здабіўся каралеўскага пацвярджэння на гэтыя наданні яшчэ ў 1589 г.[722], а потым паўторна, у 1592 і 1593 гг. У студзені 1595 г. Юрый Хадкевіч прасіў Мікалая Крыштафа Сіротку сваім аўтарытэтам паспрыяць перадачы 40 тысяч злотых, запісаных каралямі на Бабруйску, на карысць «сіраты сыновіцы сваёй княжны слуцкай», і скасаваць дакументы, атрыманыя Янам Баяноўскім[723].

Нягледзячы на малы ўзрост, Соф'я амаль адразу стала аб'ектам залётаў з боку прадстаўнікоў розных магнацкіх фамілій. Першымі дамовіцца з апекунамі змаглі Радзівілы. Малады Юрый Хадкевіч, які толькі вярнуўся з-за мяжы, пачаў шукаць рукі пляменніцы Крыштафа Радзівіла Перуна Соф'і, дачкі памерлага навагрудскага ваяводы Мікалая Радзівіла. Адной з умоў шлюбу Хадкевіча стала абяцанне выдаць князёўну замуж за Януша Радзівіла, што было замацавана лістом ад 18.01.1594. Пасля вяселля Юрыя, апетага ў вершанай форме студэнтам Віленскай езуіцкай акадэміі Янам Баболем[724], Соф'я Алелькавіч некаторы час жыла ў Навагрудку з Хадкевічамі (у пачатку 1594 г.), пазней разам з апекунамі пераехала ў Берастовіцы, потым у Слуцк.

Канчаткова ў справы апекі Юрый Хадкевіч увайшоў толькі ў канцы 1594 г. Амаль адразу яго напаткалі непрыемныя







**Соф'я з Радзівілаў Хадкевіч.**
**Невядомы мастак. Копія канца XVII ст.**

весткі. У сваіх лістах ён выказваў трывогу за спадчыну князёў Слуцкіх, бо каля Мазыра і нават Слуцка ўжо ў лютым 1595 г. пачалі гуляць нізавыя (украінскія) казакі. Неабходна было арганізоўваць абарону велізарных уладанняў князёў Алелькавічаў, але ўласных сіл на гэта ў Хадкевічаў было недастаткова. З вясны 1595 г. паўднёвыя і цэнтральныя беларускія землі былі ўжо цалкам ахоплены паўстаннем пад кіраўніцтвам Севярына Налівайкі.

Праз некалькі месяцаў, у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1595 г., Юрый Хадкевіч памёр[725], пакінуўшы пасля сябе вялізныя даўгі.

Апека над Соф'яй Алелькавіч перайшла да яго роднага брата віленскага кашталяна Гераніма Хадкевіча. 27 ліпеня 1595 г. Геранім Хадкевіч уступіў у правы апекуна і паслаў сваіх слуг да Вільні заняць палац князёў Слуцкіх на Нямецкай вуліцы[726]. Брат пакінуў пад яго апекай не толькі князёўну Слуцкую, але і сваю сям'ю — жонку і немаўля сына Мікалая. Геранім не быў так, як брат, схільны да саюзу з Радзівіламі, тым больш на не вельмі карысных для сябе ўмовах. Ён абвінавачваў Радзівіла Перуна, што той скарыстаўся маладосцю і закаханасцю старасты жмудскага, які пагадзіўся на такую прадшлюбную ўмову падапечнай. У дадатак да ўсіх палітычных і ваенных цяжкасцей спадчына князёў Алелькавічаў у некалькі разоў перавышала ўсю зямельную маёмасць Хадкевічаў. Заблытаныя маёмасныя справы і паўстанне, якое закранула і большасць зямель Слуцкага і Капыльскага княстваў, і сам Слуцк, вымусілі Гераніма Хадкевіча




**Геранім Хадкевіч.**
**Невядомы мастак. Пачатак XVII ст.**







**Нізавыя казакі.**
**Гравюра з «Хронікі еўрапейскай Сарматыі» А. Гваньіні. 1611 г.**

пайсці на дамову з Радзівіламі. У прысутнасці чатырох сведак у маёнтку Берастовіцы 31 ліпеня 1595 г.[727]. Геранім быў вымушаны пацвердзіць папярэднія дамоўленасці, бо не меў сродкаў на выплату даўгоў брата і на кіраванне маёмасцю падапечнай[728]. Соф'і на той момант было 9 гадоў, а Янушу (1580—1620) — няпоўных 15.

У верасні 1595 г. Геранім запрасіў Крыштафа Радзівіла на пахаванне брата ў Берастовіцы і паведаміў, што там ваявода віленскі зможа пабачыць князёўну[729]. Дзяўчынка там і заставалася, а віленскі кашталян разам з сынамі накіраваўся ў Слуцк, каб узяць маёмасць пад сваю руку і прызначыць новыхураднікаў. Частка старых слуг, якія служылі князям Слуцкім на працягу некалькіх пакаленняў, пайшла на службу да Хадкевічаў, магчыма жадаючы быць пры апошняй прадстаўніцы славутага роду. Фактычна яны не змянілі месца сваёй службы, перайшоўшы да новага гаспадара. Некаторыя засталіся пры малой князёўне. Адным з такіх старых слуг быў Анікей Уніхоўскі[730], якому было даверана захоўваць усе дакументы па маёмасці Алелькавічаў[731]. Геранім Хадкевіч сам прызнаваў, што Уніхоўскі не з'яўляецца яго слугой, але пакінуў яго на ўрадзе слуцкага намесніка[732]. Родныя Уніхоўскага доўгі час служылі пры двары Юрыя III Алелькавіча за што і атрымалі ад князя зямельныя уладанні ў Навагародскім ваяводстве[733].

У лістападзе 1595 г. казакі захапілі Слуцк. Сыны Гераніма Хадкевіча, якія знаходзіліся там, ледзь паспелі збегчы («убекглъ слуцк новэмбра S (6) дня и был там немало заварлисе были на замку з двема сынами детми малыми пана виленского яронима ходкевича»)[734]. Горад быў абкла-





дзены вялізнай кантрыбуцыяй. 27 лістапада, спужаўшыся падыходзячага шляхецкага войска, увечары Севярын Налівайка пакінуў горад і накіраваўся ў Альгомлічы. Кашталян віленскі не меў магчымасці выратаваць давераную яму маёмасць. Ён быў вымушаны неаднаразова звяртацца па дапамогу да вялікага гетмана літоўскага, фактычна перадаўшы яму справу абароны слуцкіх зямель. Дайшло да таго, што Геранім Хадкевіч пытаўся ў Крыштафа Радзівіла Перуна пра стан забяспечанасці слуцкага гарнізона стрэльбамі[735]. Крыштаф Радзівіл Пярун пасля заключэння дамовы, па сведчанні польскага храніста Марціна Бельскага, прыслаў па дапамогу почту Хадкевіча радзівілаўскую пяхоту. З яе дапамогай апякун малой князёўны Слуцкай змог удзельнічаць у канцы лістапада 1595 г. у бітве пад Слуцкам. Толькі на войскі Радзівілаў разлічваў Геранім Хадкевіч у выпадку падыходу да Слуцка войска Лабады, якое налічвала не менш 8 тысяч чалавек у канцы снежня 1595 г.[736].

Таму Геранім Хадкевіч у той момант не мог дазволіць сабе разарваць папярэдні шлюбны кантракт. Ён тады б не толькі страціў патэнцыяльнага саюзніка ў ваеннай аперацыі супраць казакоў, але і быў бы павінен выплаціць Радзівілам вялізную заруку ў 100 тысяч коп грошаў. Акрамя таго, Хадкевічы былі абавязаны, згодна з пастановай сойма, выплаціць у пачатку лютага 1596 г. падатак на набор наёмнікаў, якія мусілі ўдзельнічаць у ваенных аперацыях супраць казакоў як са сваіх уладанняў, так і з маёмасці князёўны[737].

Уклад з Радзівіламі быў пакладзены 3 лістапада 1595 г. у ваўкавыскім гродскім судзе. Па ім Геранім Хадкевіч павінен быў выдаць Соф'ю па дасягненні пэўнага ўзросту (г. зн. пасля паўналецця, якога дзяўчына, згодна са Статутам ВКЛ 1588 г., дасягала ў 13 гадоў[738]) толькі за Януша Радзівіла падчас каталіцкіх запуст 1600 г. у Вільні: «Я, Геранім Хадкевіч, пан віленскі, маю і павінен буду княжну Яе Міласць Зафію Алелькавічоўну Слуцкую, якая на той час у моцы ва ўладзе і апецы маёй ёсць, выдаць у стан святой шлюбны за князя Януша Радзівіла ваяводзіча віленскага на год і час пэўны, менавіта ў годзе да Пан Бог наступным тысяча шасцісотым у нядзелю за тыдзень перад рымскімі запустамі на месцы пэўным у месце Яго Каралеўскай міласці сталічным у Вільне на двары пляменнікаў маіх Іх Міласці паноў пана Аляксандра і пана Караля Хадкевічаў графаў на Шклове і Мышы». Шлюб павінен быў быць добраахвотным з абодвух бакоў. Кантракт мог быць разарваны толькі смерцю князёўны: «Пастанавіўшы яе да прыняцця шлюбу *добраахвотнага непрымушонага* (*курсіў Аўт.*) з абодвух бакоў не адмаўляючыся ні якімі праўнымі прычынамі і выпадкамі ўсялякімі, акрамя самой смерці княжны Яе міласці Зафіі Слуцкай»[739]. Выкананне кантракта забяспечвалася высокай зарукай у 100 тысяч коп літоўскіх грошаў. Як мы бачым, апекуном у дадзеным дакуменце называўся толькі адзін чалавек — Геранім Хадкевіч — і ўдзел іншых асоб у вырашэнні лёсу князёўны не прапісваўся. Не ўздымалася таксама і пытанне рознасці рэлігій суджаных. Апекунам асобнымі лістамі было забаронена вывозіць князёўну за межы ВКЛ. У выпадку адсутнасці Гераніма і яго жонкі ў межах ВКЛ апека перадавалася полацкай ваяводзіне Гальшцы Юр'еўне з Хадкевічаў Шэмет, роднай сястры Гераніма[740]. Жыць Соф'я магла ў любых маёнтках, сваіх ці апекуноў, на землях ВКЛ[741].

Патрапіўшы да двара Юрыя, а пасля Гераніма Хадкевічаў Соф'я папераменна жыла ў Слуцку, Бярэсці, Вільні, Наваградку, Цімкавічах[742]. Пра паўсядзённае жыццё і ўласныя меркаванні Соф'і нам нічога не вядома. Уласнаручнай яе







**Януш Радзівіл.**

**Гравюра з альбома «Icones familiae ducalis Radivilianae». 1758 г.**

карэспандэнцыі не захавалася. Вядома, што выхаваннем дзяўчынкі займаліся жонка Геранiма Хадкевiча Ганна Тарлоўна і Соф'я Мялецкая, удава Яна Сімяона князя Слуцкага[743]. У ліпені 1593 г. Ян Караль Хадкевіч ажаніўся з удавой Яна Сімяона Алелькавіча-Слуцкага Соф'яй Мялецкай і быў зацікаўлены ў карысным для сябе падзеле маёмасці паміж астатнімі князямі Слуцкімі. Адукацыю і выхаванне дзяўчына атрымлівала згодна са сваім статусам князёўны. Для лепшага выхавання ў веры да князёўны быў прыстаўлены каплан, яна ўмела чытаць і пісаць па-польску і, хіба, па-старабеларуску, але, на жаль, ні аднаго кірылічнага аўтографа намі не было знойдзена. З асабістай перапіскі апекуноў з Крыштафам Радзівілам выразна не прасочваецца тэма рэлігійнага выхавання, аднак прысутнічаюць звесткі пра наведванне ёю розных каталіцкіх цырымоній[744].

Да пэўнага моманту інтрыгі вакол рукі знатнай і заможнай паненкі нічым не адрозніваліся ад многіх прыгодніцкіх драм, што былі нярэдкасцю на беларускіх землях. Заўсёды карысці шукалі і апекуны малых сірот, і амбіцыйныя жаніхі са сваімі сем'ямі. Але толькі ў выпадку з Соф'яй Слуцкай і Янушам Радзівілам краіна апынулася на мяжы грамадзянскай вайны.

Усе пытанні з рэалізацыяй шлюбу і яго арганізацыяй вырашалі апекуны. Маладыя да пэўнага моманту не былі знаёмыя. Перад імі і не ставілася задача добра ведаць адзін аднаго. Дастаткова, каб бацькі ці апекуны палічылі іх вартай партыяй. Соф'я была прадстаўніцай славутага роду, не толькі спадчынніцай вялізных зямель, але і раднёй каралям. Януш таксама паходзіў з сям'і, якая была на той час на вяршыні сваёй магутнасці. Яго хросным бацькам стаў польскі кароль і вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый, які і даў яму венгерскае імя Януш[745]. З дзяцінства ён выхоўваўся як прадстаўнік двух знакамітых родаў Радзівілаў і Астрожскіх, у разуменні неабходнасці абароны правоў усіх дысідэнтаў у краіне: і пратэстантаў, і праваслаўных. Абарона правоў сваіх кліентаў і падданых, служба айчыне, павелічэнне славы роду і імкненне, каб пра яго ведалі ва ўсіх еўрапейскіх краінах, — вось былі асноўныя прынцыпы яго выхавання, светапогляду і жыцця.

Выхаванне, блізасць да двара, прыязныя стасункі са Стэфанам Баторыем, высокія пасады бацькі — здавалася, перад Янушам ляжала адкрытая дарога да вяршыняў улады. Адзінае, што ад яго патрабавалася, — гэта атрымаць адукацыю згодна са сваім прызначэннем і практыкай ў ваенных справах. Выданне Соф'і Алелькаўны замуж

за Януша Радзівіла спрыяла ўзмацненню палітычных пазіцый біржайскай пратэстанцкай галіны Радзівілаў. Рэалізацыя шлюбу павялічвала зямельныя валоданні біржайскіх Радзівілаў на 20—25 працэнтаў, прыносіла ім каля 7200 дымоў[746]. Такую сілу, нават калі яна знаходзіцца ў апазіцыі да каралеўскага двара, ігнараваць было б немагчыма.

Аднак спробы Крыштафа Радзівіла забяспечыць высокія пазіцыі для сына натыкнуліся на супраціўленне з боку каралеўскага двара. Кароль не жадаў яшчэ большага ўзмацнення грамадскай пазіцыі Радзівілаў у Вялікім Княстве Літоўскім. Непакоіў яго і саюз Радзівілаў з каронным канцлерам Янам Замойскім. Амаль з самага пачатку панавання Жыгімонта III Крыштаў Радзівіл, як адзін з лідараў дысідэнтаў, знаходзіўся ў пастаяннай апазіцыі да караля і яго атачэння. Асноўнымі пытаннямі, па якіх разыходзіліся каралеўскі двор і віленскі ваявода, сталі рэлігійная і знешняя палітыка двара, жаданне Жыгімонта III Вазы прызначыць паляка віленскім біскупам пасля заняцця кракаўскага біскупства Юрыем Радзівілам[747].

У супрацьвагу ім кароль спрыяў узвышэнню Хадкевічаў, якія перайшлі ў каталіцтва, асабліва Яна Караля[748]. Супрацьстаянне біржайскіх Радзівілаў і братоў Яна Караля і Аляксандра Хадкевічаў пачалося менавіта з-за маёмасных спрэчак. Да 1593 г. стасункі былі роўныя, і маладыя Хадкевічы нават шукалі патрымкі ў Радзівіла Перуна для пачатку ваеннай кар'еры.

У 1594 г., ажаніўшыся ў чацвёрты раз з багатай удавой Яна Кішкі князёўнай Гальшкай Канстанцінаўнай Астрожскай, Крыштаф Радзівіл працягнуў павелічэнне сваёй латыфундыі. Ад імя свайго сына і новай жонкі (роднай сястры маці Януша) ён узбудзіў судовую справу супраць цесця. Князёўна Кацярына Астрожская,



**Гальшка Астрожская.**
**Гравюра з альбома «Icones familiae ducalis Radivilianae». 1758 г.**

якая памерла пры нараджэнні сына, разам са сваёй сястрой і братамі была названа спадчынніцай вядомай Гальшкі Ільінічны Астрожскай. Сваю палову агромістых уладанняў князёў Астрожскіх яна запісала на карысць стрыечных братоў і сясцёр, дзяцей князя Канстанціна (Васіля) Канстанцінавіча Астрожскага. Бацька гэтыя землі дзяліць паміж дзецьмі не стаў, а трымаў пад сваёй рукой. Радзівіл патрабаваў падзелу маёмасці Гальшкі Астрожскай і перадачы часткі Кацярыны Янушу. Слонімскі земскі суд прызнаў, што палова зямель Гальшкі Астрожскай павінна адысці да Януша і яго мачахі. На Люблінскім трыбунале 24 жніўня 1594 г. Канстанцін Астрожскі пагадзіўся перадаць у рукі Радзівіла Раманаў, Барань, Глуск, Копысь і Тарнопаль[749]. Аднак апошні








маёнтак Радзівілы так і не атрымалі. Значныя праблемы выклікала і атрыманне Копысі. Копысь заставалася з часу апекі караля над Гальшкай Астрожскай пад каралём. Пасля яе выхаду замуж за Лукаша Гурку кароль не вярнуў ёй частку зямель, а калі ў скарбе ў чарговы раз не было грошай, кароль заклаў маёнтак Копысь Хадкевічам. Сваю частку Гальшка Канстанцінаўна таксама не стала запісваць мужу, а пакінула сабе. Тым не менш, па дасягненні паўналецця Януш ужо меў зямельныя маёнткі. Гэта было важным, асабліва з пункту гледжання будучага саюзу з адной з найбольш заможных нявест ВКЛ.

Заканадаўства ВКЛ патрабавала ад жаніха забяспечыць сваёй будучай жонцы прыстойнае (згодна з яе статусам) існаванне[750]. Дзяўчына, выходзячы замуж, прыносіла з сабой пасаг. Ён перадаваўся мужу, але ў адказ апошні быў павінен запісаць на карысць жонкі маёнткі, якія каштавалі ў два разы болей, чым прынесены пасаг. Гэтай маёмасцю жонка магла распараджацца цалкам самастойна: прадаваць, закладаць, дарыць, карыстацца даходамі з маёнткаў. Таму ні адзін шляхціч не мог спадзявацца на добрую партыю, калі сам не быў забяспечаны маёмасна. Рэдка якая сям'я пагадзілася б выдаць дзяўчыну замуж, не забяспечыўшы яе будучыню. Для Хадкевічаў такое фінансавае становішча жаніха магло стаць яшчэ адной падставай для адмовы Янушу ў руцэ Соф'і.

Радзівілы аказаліся ў цяжкой сітуацыі. У магнацкіх сем'ях не было прынята дзяліць маёмасць пры жывых бацьках. Заканадаўства таксама гэта не прадугледжвала[751]. Сваю долю родавага багацця і зямель дзеці атрымлівалі толькі пасля смерці бацькі. Так было і з дзедам Януша Мікалаем Радзівілам Рудым, з бацькам Крыштафам Радзівілам Перуном. Бацька атрымаў спадчыну і бацькоўскія землі толькі ў 1584 г., калі быў жанаты ўжо трэці раз. Выхадаў было некалькі: зрабіць кар'еру і атрымаць зямельнае наданне разам з урадам ад караля, ажаніцца з багатай удавою ці атрымаць дазвол ад бацькі запісаць вена жонцы на яго землях. Аднак апошні варыянт не гарантаваў дабрабыту маладой. Свёкр мог прадаць, падарыць, закласці запісаныя ёй маёнткі, і пасля смерці мужа ўдава засталася б ні з чым. Янушу Радзівілу ні адзін з гэтых варыянтаў не падыходзіў. Выйсцем было атрымаць спадчыну маці, Кацярыны Астрожскай. Такім чынам, малады хлопец мог стаць уласнікам значнага зямельнага маёнтка і фінансава быць падрыхтаваны да шлюбу.

Атрымаўшы законныя правы на землі Астрожскіх, ваявода віленскі ўзбудзіў працэс супраць Хадкевічаў, патрабуючы вярнуць яму маёнтак Копысь. У 1596 г. у выніку працэсу ў Літоўскім трыбунале Копысь была адабрана ў Аляксандра і Яна Караля. Браты, якія не атрымалі кампенсацыі за свае фінансавыя страты і пазбавіліся вялікага прыбытковага трымання, былі пакрыўджаны на Крыштафа Радзівіла Перуна і перайшлі да актыўнай апазіцыі да яго[752]. Іх саюзнікам мог бы стаць кіеўскі ваявода князь Канстанцін Астрожскі, адносіны з якім былі напружанымі з-за працэсу па спадчыне яго пляменніцы. Аднак хваля Контррэфармацыі і актыўная падрыхтоўка да заключэння царкоўнай уніі вымусіла яго пайсці на цесны саюз з пратэстантамі і іх лідарам Крыштафам Радзівілам. Рэлігійныя і палітычныя інтарэсы аказаліся вышэй за эканамічныя. Дзед нават даручыў Янушу Радзівілу прадстаўляць інтарэсы праваслаўных на з'ездзе ў Сандаміры ў 1595 г.[753]. У выніку князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі, які прыходзіўся не толькі родзічам малой Соф'і, але і яе апекуном па лісту бацькі, не стаў умешвацца ў канфлікт паміж Радзівіламі і Хадкевічамі, а

пазней стаў на бок свайго ўнука ад каханай дачкі.

У 1598—1599 гг. значна абвастраюцца адносіны паміж апазіцыяй, узначаленай Радзівіламі, і пракаралеўскай партыяй, да якой належалі Хадкевічы. Крыштаф Радзівіл пасля смерці бацькі аб'яднаў у сваіх руках некалькі вышэйшых урадаў у дзяржаве: адначасова ён быў ваяводам віленскім, гетманам польным, а з 1589 г. дадаў да гэтага і пасаду найвышэйшага гетмана літоўскага[754]. Канцэнтрацыя важных палітычных пазіцый у руках пратэстантаў не магла задавальняць караля, які імкнуўся замацаваць пазіцыі каталіцкай царквы на землях ВКЛ. Фармальна Жыгімонт III нічога не мог зрабіць супраць біржайскіх Радзівілаў, таму ўсе намаганні каралеўскай партыі былі накіраваны на недапушчэнне далейшага ўзмацнення гэтай галіны роду.

Да гэтага дадаліся маёмасныя спрэчкі паміж Радзівіламі і Хадкевічамі. Менавіта з маўклівага адабрэння караля Ян Караль і Аляксандр Хадкевічы спачатку здабіліся сумеснай апекі разам з Геранімам Хадкевічам над апошняй слуцкай князёўнай Соф'яй Алелькавіч, а пазней паспрабавалі перашкодзіць яе выхаду замуж за Януша Радзівіла. Яны абавязалі Гераніма даць ім заручныя лісты, што без іх згоды ён не выдасць Соф'ю замуж. Па венавым лісце Яна Сімяона князя Слуцкага яго жонцы дажывотна былі запісаны Цімкавічы, частка Капыля, а пазней Краснік. Ян Сімяон пазычыў у сваёй жонкі 30 тысяч злотых і перадаў ёй за гэта правы на красніцкі маёнтак[755]. У выніку Ян Караль Хадкевіч, як прадстаўнік сваёй жонкі, удавы апошняга слуцкага князя, стаў адным з асноўных крэдытораў малой князёўны. У той жа час паглыблялася і фінансавая залежнасць віленскага кашталяна Гераніма Хадкевіча ад Радзівіла Перуна. Не разлічыўшыся за абарону Слуцка, ён працягваў пазычаць у




**Ян Караль Хадкевіч.**
**Невядомы мастак. Копія XVIII ст.**

гетмана значныя грашовыя сумы: ад 1 да 5 тысяч злотых па некалькі разоў на год[756].

Па закону апякун мог атрымаць да 10 працэнтаў ад маёмасці падапечнага як аплату за яго выхаванне і кіраванне ўласнасцю. Геранім Хадкевіч, па намове Яна Караля Хадкевіча, жонка якога мела пажыццёвыя правы на Капыль, прасіў для сябе менавіта гэтае ўладанне. Крыштаф Радзівіл не жадаў, каб сын страціў адно з цэнтральных уладанняў, нават у якасці кампенсацыі за страты, панесеныя падчас апякунства Геранімам Хадкевічам.

Хадкевічы паспрабавалі здабіцца скасавання папярэдняй дамоўленасці пра шлюб праз суд у сярэдзіне 1598 г. Апекуны апелявалі да блізкай роднасці, рознасці рэлігій жаніха і нявесты, а таксама націску з боку Радзівілаў на Юрыя Хадкевіча пры падпісанні першай шлюбнай умовы.








Крыштаф Радзівіл добра ўсведамляў, што з заключэннем шлюбу могуць узнікнуць праблемы, аднак ён бачыў асноўную перашкоду ў рознасці веры будучай пары[757].

Дзяўчыне ў той час нават не казалі пра тое, што яна прасватана. Самога жаніха з 1596 г. не было ў краіне. Януш атрымліваў належную адукацыю спачатку ў ВКЛ, потым у замежным падарожжы па універсітэтах Германіі, Швейцарыі і Галандыі. Бацька накіроўваў яго ў 1596 г. за мяжу разам са стрыечным братам Юрыем Радзівілам і чатырма слугамі — князем Янам Агінскім, Аляксандрам Трызнам, Янам Шадэкам і Янам Балтазарам Лютамірскім[758]. Асноўнай мэтай двухгадовага падарожжа было завязванне цесных кантактаў з нямецкімі курфюрстамі, французскім і імператарскім дваром, удасканаленне моў — лаціны і нямецкай. Для Януша бацька планаваў ваенную кар'еру. Таму хлопец пасля наведвання ўніверсітэтаў са сваімі суправаджаючымі прыняў удзел у 1597 г. у іспанска-французскім канфлікце, а ў 1598 г. — у вайне з Турцыяй, для чаго паехаў да Венгрыі ў абозе аўстрыйскага эрцгерцага Маціяша.

Пасля вяртання ў канцы 1597 г. на радзіму Януш пачынае рабіць не вельмі ўдалыя спробы пазнаёміцца з нявестай. У студзені 1598 г. ён папрасіў дазволу ў Гераніма Хадкевіча наведаць Соф'ю. Віленскі кашталян прапанаваў яму прыехаць да Слуцка, дзе ў той момант знаходзілася дзяўчына разам з яго жонкай. Была вызначана і канкрэтная дата, бо на запусты Ганна з Тарлаў Хадкевіч з падапечнай павінны былі выехаць да Цімкавіч. Януша паставілі перад выбарам: ці зараз, ці ніяк («Sin minus et contra»)[759]. У чацвер, 8 лютага 1598 г., яму было загадана прыехаць у Слуцк, дзе ён спадзяваўся пабачыцца з князёўнай[760]. Падобна на тое, што Геранім Хадкевіч запрасіў яго ў Слуцк на адзін з баляў, якія звычайна ладзілі паміж Калядамі і Вялікім пастом. Нярэдка пад пільным вокам старэйшых жанчын у запусных святах разам з мужчынамі і замужнімі жанчынамі прымалі ўдзел і маладыя паненкі. Фактычна ўдзел у балях, танцавальных імпрэзах быў адзінай магчымасцю публічных спатканняў моладзі і дэманстрацыі новых убораў і ўпрыгожванняў. Моладзь мела пад іх час нядрэнны шанс завязаць знаёмствы:

Мясапусты, запусты,
Моладзь не хоча капусты,
Жадаюць яны танцаваць,
а паненак цалаваць[761].

За некалькі дзён да гэтага ён сустрэўся на сняданні з Геранімам і Янам Каралем Хадкевічам і быў уражаны дрэнным стаўленнем да сябе апошняга. Пасля размовы з апекунамі вялікіх ілюзій наконт блізкага знаёмства з нявестай ён не меў. Ужо да спаткання Януш пісаў Радзівілу Сіротку: «бо калі мяне пра размову з княжною (да якой цяжка хіба толькі ў танцы перайсці мог)»[762].

Такая пазіцыя Яна Караля Хадкевіча становіцца зразумелай, калі звярнуць увагу на палітычныя падзеі, якія разгортваліся як у краіне цалкам, так і ў Наваградскім ваяводстве, дзе ў асноўным знаходзіліся валоданні князёў Слуцкіх. Перад Хадкевічамі, прыхільнікамі караля (г. зв. партыі рэгалістаў), у выпадку заключэння гэтагу шлюбу рэальна паўставала б пагроза страты сваіх палітычных пазіцый і ўзмацнення дысідэнтаў. Асабліва супрацьстаянне паміж дысідэнтамі (пратэстантамі і праваслаўнымі) і католікамі абвастрылася на наваградскім сойміку, які адбыўся 19—21 студзеня 1598 г.[763]. На гэтым сойміку шляхта патрабавала, каб Хадкевічы разлічыліся за ўтрыманне наёмнага войска, якое было сабрана супраць казакоў. У свой час у 1596 г. імі нічога не было выплачана: «з ымен панов Ходкевичов, з ымен княжат слуцких и иншихъ не мало показовал,

же ничого з маетностей своих не дали»[764]. Зборшчыкі падаткаў апраўдваліся, што не маглі ўзяць падатак да 1598 г., бо маёнткі пацярпелі «одно приложившы тые градобитья и шкоды козацкие, так же побор духовный»[765]. Такім чынам, асноўны цяжар па ўтрыманню войска быў ускладзены не на буйнейшых землеўласнікаў, а на шляхту. Да таго ж па прапанове Хадкевічаў у соймікавую інструкцыю было ўнесена патрабаванне замясціць пасаду польнага гетмана. Аднак па патрабаванню Радзівіла Сіроткі ўсё ж быў запісаны пункт, які прадугледжваў згоду на гэта ваяводы віленскага і вялікага гетмана Крыштафа Радзівіла. Як мы пісалі раней, пасаду з 1589 г. трымаў за сабой Крыштаф Радзівіл і ў будучым жадаў перадаць яе сыну. Зразумела, што Ян Караль, які прэтэндаваў на гэтую пасаду, не быў задаволены такімі рашэннямі наваградскай шляхты і сваё раздражненне выліў на Януша Радзівіла.

Крыштаф Радзівіл, для якога такі паварот падзей быў нечаканы, паведаміў, што ў далейшым, калі будуць выказвацца патрабаванні пра замяшчэнне пасады польнага гетмана, ён не будзе іх цярпець і адпаведна адкажа[766]. Такім чынам, злучэнне некалькіх фактараў і крыўда з боку Хадкевічаў прывялі да таго, што Геранім Хадкевіч паддаўся на націск сваіх стрыечных братоў і выступіў супраць шлюбу Януша Радзівіла са сваёй падапечнай.

З лета 1598 г. былі адменены спатканні нават на шматлюдных імпрэзах. Расчараваны Януш не бачыў патрэбы і далей знаходзіцца ў Вялікім Княстве Літоўскім. Летам 1598 г. ён стаў прасіць бацьку дазволіць працягнуць падарожжа, каб удасканальваць свае ўменні як ваеннага. Крыштаф не захацеў адпускаць яго ні ў Галандыю, ні ў Францыю, нягледзячы на асабістае запрашэнне французскага караля Генрыха IV Наварскага і яго маршалаў[767]. Пасля неласкавага прыёму ў Брэсце Януш Радзівіл вырашыў далучыцца да польскага войска, якое было павінна выступіць на дапамогу венграм у вайне з Турцыяй. Венгерская кампанія давала яму магчымасць наведаць і імператарскі двор, які ў той час знаходзіўся ў Вене[768]. Дазвол караля і бацькі быў атрыманы, і ваяводзіч віленскі на некалькі месяцаў ад'ехаў у Венгрыю.





Соф'я тым часам разам з апекунамі пераязджае ў Брэст. Геранім Хадкевіч з 1595 г. быў брэсцкім старастам, рэзідэнцыяй якога быў замак у гэтым горадзе. У ім значна лягчэй было арганізаваць нагляд за кантактамі прыдворных і гарантаваць бяспеку членам сям'і віленскага кашталяна і яго падапечнай. Хадкевічы вельмі баяліся, што дзяўчыну могуць скрасці і прымусіць выйсці замуж супраць іх волі, што неаднойчы было ў гісторыі, і не трацілі надзеі знайсці ёй іншую партыю. Таму некалькі месяцаў яна фактычна не пакідала сваіх пакояў, доступ у якія мелі толькі апекуны і каплан. Магчыма, гэта быў асабісты каплан віленскага кашталяна Грахоўскі[769]. Выходзіць яна магла толькі да капліцы. Гэта паўплывала на характар дзяўчыны: ён вельмі змяніўся, як адзначалі шляхцянкі, якія былі знаёмыя з ёй[770].

Падарункі, пажаданні пра спатканне, удзел у балях перадаваліся праз апекуноў Соф'і і Януша. Аднак усё выглядала так, што да Соф'і яны не даходзяць. Да яе не дапускалі не толькі жаніха, але і блізкіх да яго слуг, якія калісьці служылі яшчэ яе бацьку. Нават калі Януш па дарозе да Венгрыі спецыяльна завітаў у Брэст 19 верасня 1598 г., сыны Гераніма Хадкевіча Ян Геранім і Крыштаф яго не толькі не дапусцілі да нявесты, але нават выправадзілі з вялікай залі: «а правадзілі мяне калі выходзіў аж да самага мосту». Ян Баяноўскі, колішні слуга апошніх князёў Слуцкіх, і пані Гурская, жонка яшчэ аднаго з давераных слуг Юрыя







**Крыштаф Хадкевіч.**
**Невядомы мастак. XVII ст.**

Алелькавіча, прасілі ў слугі Хадкевіча Каханоўскага дапусціць іх толькі да дзвярэй паненкі. Перад імі ўсімі дзверы зачынілі і не адчынілі, нават калі Януш сам доўга ў іх калаціў. Тады Януш вырашыў дзейнічаць праз асабістых слуг Хадкевічаў. Пан Няшчыцкі пазнаёміў яго з капланам, які кожны дзень служыў пры князёўне імшу і еў разам з ёй. Каплан сказаў, што дзяўчыне ніхто не паведаміў пра прыезд жаніха і наогул яна пра яго нічога не ведае. Аднак святар сам прапанаваў знайсці некалькіх музыкантаў і загадаць ім зайграць на дабранач, каб над ракой было чутна. А там ужо, як сама князёўна зразумее, і Бог у тым дапаможа. Ад сябе «мілы каплан», як называе яго Януш, абяцаў прынесці праз некалькі гадзін пасля размовы які-небудзь знак ад князёўны[771].

У гэты ж дзень Ян Баяноўскі таксама напісаў да Крыштафа Радзівіла, дзе распавёў, што сапраўды Януша далей залы не пусцілі. Нягледзячы на папярэднюю дамоўленасць з Геранімам Хадкевічам, не дазволілі і пані Гурскай пабачыцца з дзяўчынай ці пры дзвярах, ці на ганку[772]. Падтрымалі Януша і іншыя асобы, якія былі звязаны з Хадкевічамі. Пані мечнікава[773], якой давярала жонка Геранім Хадкевіча, абяцала распавесці пра жаніха пры Соф'і, а раней гэтага не рабіла, бо асабіста Януша не ведала.

Такое актыўнае імкненне Януша пазнаёміцца з нявестай выклікала непакой апекуноў. Пад націскам Аляксандра і Яна Караля Геранім Хадкевіч пачаў шукаць саюзнікаў у барацьбе з Радзівіламі. Найлепшым варыянтам быў выбар жаніха з іншага ўплывовага роду. Такія прэтэндэнты ўжо былі, калі нявесту выдавалі замуж не за змоўленага хлопца. Разбіральніцтва па спрэчнай справе магло цягнуцца некалькі гадоў у розных судах ці быць перададзена на разгляд да караля. Жыгімонт III Ваза, які не быў прыхільны да біржайскіх Радзівілаў, мог вырашыць канфлікт на карысць рэальнага мужа. Геранім Хадкевіч паслаў свайго пляменніка Сямашку, які быў жанаты з дачкой кіеўскага кашталяна Паўла Сапегі, да брацлаўскага ваяводы Януша Збаражскага. У лісце, падпісаным усімі трыма Хадкевічамі, прапаноўвалася выдаць Соф'ю замуж за яго сына, пінскага старасту Юрыя Збаражскага. Наўзамен яны прасілі рукі дачкі троцкага ваяводы Барбары Збаражскай, якая знаходзілася пад апекай брацлаўскага ваяводы, для Аляксандра Хадкевіча. Змову пра невыданне князёўны замуж без згоды трох Хадкевічаў і прапанову яе рукі Збаражскім трымалі ў вялікай таямніцы. Ведалі пра гэты ліст і пошукі іншага жаніха толькі двое слуг Хадкевічаў — нейкі Прашчыцкі і ксёндз Грахоўскі[774]. Тым не менш, Крыштафу Радзівілу паведаміў пра гэтую прапанову адзін з яго «прыяцеляў» у лісце ад 9 кастрычніка 1598 г.

Наогул, увосень гэтага года з розных куткоў краіны да ваяводы віленскага па-

ступалі перасцярогі ў справе шлюбу Януша. Хадкевічы паспрабавалі скарыстацца разладам у яго сям'і і заручыцца падтрымкай апошняй жонкі Радзівіла Перуна Гальшкі з Астрожскіх. У той момант яны з Крыштафам Радзівілам знаходзіліся не ў лепшых стасунках. Гальшка, атрымаўшая багатую спадчыну пасля смерці свайго першага мужа Яна Кішкі, адмовілася перадаць яе Крыштафу Радзівілу. Муж настолькі быў абураны яе адмовай і жаданнем захаваць свае ўладанні пры сабе, што яны амаль перасталі бачыцца. Прымірыла іх толькі абяцанне Гальшкі перадаць усю сваю ўласнасць у спадчыну Янушу як адзінаму сыну каханай сястры. Геранім Хадкевіч спачатку прыслаў да Гальшкі свайго слугу Прашчыцкага, а потым да двара віленскай ваяводзіны прыехала яшчэ некалькі давераных асоб віленскага кашталяна — ксёндз Грахоўскі і сакратар Гераніма Крыштаф Чыж. Нягледзячы на іх угаворы, яна не толькі не падтрымала пазіцыі Хадкевічаў, але і паведаміла мужу пра нядобрыя захады з боку апекуноў дзяўчыны[775].

Ужо ў сярэдзіне снежня 1598 г. Януш быў вымушаны вярнуцца ў Кракаў для ўрэгулявання тэрміновых спраў[776]. Там ён знаходзіўся да пачатку наступнага года, а ў студзені зрабіў яшчэ адну спробу пабачыцца з нявестай.

Як мы пісалі раней, студзень—люты быў часам розных імпрэз, баляў, маскарадаў. У дадатак да іх маладыя людзі маглі сустрэцца на розных «цукровых цырымоніях», калі паненкам, нявестам кавалеры прысылалі ў знак сваёй схільнасці марцыпаны. Тая ж песня «Мясапуст» успамінае пра такія забавы моладзі:

Елі б і каўбасы
У тыя мясапусныя часы,
І пад вечар марцыпан,
Калі б даў яго які пан[777].

**Вызначэнне ступені роднасці Януша Радзівіла і Соф'і Слуцкай**

Крыштаф Радзівіл Пярун прасіў у сярэдзіне студзеня 1599 г. у Гераніма Хадкевіча літасці да свайго сына: «тады прашу,








**Гальшка з Радзівілаў Сапега.**
**Невядомы мастак. Канец 1730 г.**

каб Ваша Міласць тое ўсё магла дазволіць майму сыну, каб, хаця б праз якога свайго слугу, мог Княжне Іх міласці марцыпан які на наступаючы мясапуст паслаць, не дапускаючы ЯМ кіслай капусты ў той запуст»[778].

У адказ апекуны не толькі не дапусцілі Януша да нявесты, а наогул забаранілі любыя спатканні з 27 студзеня 1599 г. без тлумачэння прычын[779]. Нясвіжскі ардынат даведаўся, што Хадкевічы нават загадалі не пушчаць Януша ў Слуцк, а той, нічога не ведаючы, паехаў да нарачонай[780].

Сам Януш пісаў пра гэта да Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі: «Сустрэўся з панам віленскім[781] і з панам падчашым[782] у адной карчме на поўдарогі паміж Мірам і Нясвіжам. Тамжа сам найперш прывітаўшыся пан падчашы да мяне приступіў і онага прывітаў. Там жа зараз дэклараваў з тым, што намысліў для таго ў Слуцк ехаць, каб службы мае княжне Яе Міласці адрэкамендаваць і зрадаваўся таксама яго добраму здароўю. Потым яму паведаміў, што маю тэрміновыя лісты ад Яго міласці пана айца майго і ад Яе Міласці[783] да самой паненкі, просячы яго зараз пра дазвол, каб мне туды ехаць дазволіў і ліст да самой пані даў. На што мне адразу не адказаў, потым разам з тым адмовіў і паведаміў, што тое без яго быць не можа. Дакладаю тыя словы: каб нават слугі мае не маглі там асмеліцца ВМ у маю адсутнасць пусціць і адклаў мне час (візіту. — *Аўт.*) да некалькіх дней падчас наступіўшага паста. Такім чынам не ведаю, калі то не стратыгема якая на да мною, завей мудрай галавы хоча паказаць. Пра тое таксама спытаў, а што ці будзе ведаць яшчэ княжна ВМ, на што мне адказалі: калі не будзе на тое воля божая, тады і ўсе на свеце марцыпаны таго не выправяць. Аднак іж тую цукровую цырымонію і ВМ і княжна не страці, а мне бы зараз за непрыняццем таго дэспект[784] маг вырасці»[785].

Такая актыўнасць, якая пагражала доўгімі судовымі працэсамі для ўсіх бакоў, уцягнутых у канфлікт, прывяла да таго, што Януш Збаражскі не прыняў прапановы Хадкевічаў. У той жа час, пакуль вяліся перамовы, ён адмовіў у руцэ сваёй падапечнай Юрыю Радзівілу, пляменніку Крыштафа Перуна[786].

У такіх умовах размовы пра шлюб і выкананне папярэдніх дамоўленасцяў ужо не вяліся. Апекуны абодвух маладых Януша (ад яго імя выступаў Крыштаф Радзівіл) і Соф'і (браты Хадкевічы) нават не пачалі перамовы пра ўмовы заключэння шлюбу, перадачы маёмасці і арганізацыі вяселля. Пазіцыя апекуноў Соф'і выцякала з іх жадання разарваць папярэднія дамоўлена-



сці любымі законнымі сродкамі і скарыстаць для гэтага рознасць веравызнанняў і блізкае пакрывенства жаніха і нявесты. Па бацькоўскай лініі Януш прыходзіўся Соф'і родзічам у чацвёртай ступені, бо іх прадзеды былі роднымі братамі (прабабка Соф'і Гелена была дачкой Мікалая Мікалаевіча Радзівіла, ваяводы віленскага і канцлера ВКЛ). Па мацярынскай лініі роднасць была яшчэ бліжэйшая — у трэцяй ступені. Прабабкай Януша была княгіня Аляксандра Сямёнаўна Алелькавіч-Слуцкая.

Радзівілам стала неабходна падтрымка вышэйшых польскіхураднікаў, калі Жыгімонт III у сакавіку 1599 г. адкрыта стаў на бок Хадкевічаў. Яе яны атрымалі ў асобе кароннага канцлера Яна Замойскага і прадстаўнікоў сям'і князёў Астрожскіх.

Крыштаф Радзівіл пачаў падрыхтоўку да судовых працэсаў. На яго баку быў канцлер ВКЛ Леў Сапега, якому віленскі ваявода паабяцаў руку сваёй дачкі Гальшкі. Цікава, што апошняя была дачкой Кацярыны з Тэнчынскіх, бабкі Соф'і, і прыходзілася цёткай малой князёўне Слуцкай. Леў Сапега папярэджваў свайго будучага цесця: «Даўно як ведаю, што паны Хадкевічы як дому Вашай княжацкай Міласці, так таксама і маему і мне самому не ёсць прыяцелі <...>; той што прышываецца да ніх, мяркую жа не вельмі шкодзіць можа» [787]. Да таго ж біржайскія Радзівілы мабілізавалі ўсе магчымасці, каб забяспечыць выбар дэпутатаў на грамнічных павятовых сойміках 1599 г. з радзівілаўскіх прыхільнікаў.

7 мая 1599 г. Аляксандр Хадкевіч сам і ад імя свайго брата Яна Караля Хадкевіча, стрыечнай сястры Гальшкі Юр'еўны з Хадкевічаў Вацлававай Шэмет паклаў скаргу на Geraніма Хадкевіча за тое, што ён заручыў Соф'ю з Янушам. З пункту гледжання радаводу Астрожскіх, ад якіх быў народжаны Януш, і Алелькавічаў, названыя Хадкевічы, як кроўныя родзічы князёўны Соф'і, просяць пра скасаванне не адпавядаючага праву ўкладу, «каб непрыстойнасцяў не чыніць»[788].

Па скарзе Хадкевічаў наваградскі земскі суд выдаў позву, якая прадугледжвала магчымасць скасавання шлюбнай дамовы з прычыны блізкай кроўнай роднасці[789]. Суддзі скарысталіся артыкулам 22 раздзела 5 Статута ВКЛ 1588 г., які забараняў уступаць у шлюб родзічам да чацвёртага калена: «Абы нихт повинное собе ве крви не поймовал». Статут ВКЛ 1588 г. пагражаў асобам, што парушылі закон, пазбаўленнем усёй маёмасці і забаронай перадачы яе ў спадчыну. Сам шлюб скасоўваўся. На практыцы гэтых нормаў закона мала хто прытрымліваўся, бо ўжо да канца XVI ст. большасць шляхецкіх заможных родаў былі роднасныя адзін аднаму. Тым не менш, шанцы на поспех у Хадкевічаў былі.

У выніку праца земскага наваградскага суда была фактычна паралізавана, бо Радзівілы спрабавалі адцягнуць разгляд справы, не дапускаючы пасяджэнняў судовых сесій. У адказ на дзеянні апекуноў Крыштаф Радзівіл абскардзіў у Літоўскім трыбунале дзеянні Геранíма Хадкевіча аб змове з братамі з мэтай недапушчэння шлюбу і непрадстаўлення справаздачы Радзівілам пра землі князёўны Слуцкай, што былі ў яго ў апецы[790]. Віленскі ваявода скардзіўся ў сваім лісце да Станіслава Пукшты Клаўзгелы, што быў вымушаны кінуць усе справы і ехаць у сярэдзіне мая 1599 г. да Наваградка, каб вырашыць справу. Віленскаму кашталяну прадпісвалася заплаціць 10 тысяч злотых за непрадстаўленне справаздачы, а калі б і далей яе не зрабіў, павінен аддаць яшчэ 100 тысяч коп грошаў закладу і быць пакараны на баніцыю[791].[792]

Польскі канцлер Ян Замойскі раіў Крыштафу Радзівілу вырашыць справу






**Ян Замойскі. Залаты медаль. 1598 г.**

згодна з заканадаўствам ВКЛ, а калі гэтага не атрымаецца, падаваць у суд на апекуноў за перашкоды ў спатканнях нарачоных, за недапушчэнне да Соф'і пасланцоў і слут Януша, за тое, што, «панне зло ў сэрцы супраць абяцанага малжонка чыняць, розныя спосабы для гэтага знаходзячы»[793]. Радзівілы скарысталі гэтыя парады старога кароннага канцлера. Слуга Януша Радзівіла Ян Агінскі ад яго імя паклаў скаргу ў судзе 25.05.1599 на тое, што маючы кантракт на шлюб, жаніх не можа пабачыцца з Соф'яй. Яна знаходзілася ў слуцкім замку з вялікай колькасцю служэбнікаў і пяхоты Хадкевічаў. Да князёўны не пускалі як самога князя, так і яго пасланцоў. Януш выказваў апасенне, каб пры такім строгім даглядзе не было нанесена шкоды здароўю нарачонай[794].

Для таго каб праясніць сітуацыю, Ян Замойскі паслаў сваіх слуг даведацца, што робіцца пры двары віленскага кашталяна, і яны прынеслі не вельмі добрыя весткі. Пані, дапушчаная да Соф'і, пісала, што дзяўчына вельмі скардзіцца на сваё выхаванне[795] і ўтрыманне пад вартай. Яна пачала дрэнна сябе адчуваць, уся збляднела і хвалюецца за свой далейшы лёс. Яе адзінай надзеяй было тое, што пасля Грамніц (на якія было прызначана вяселле) яна будзе з гэтай турмы вызвалена. Таксама людзі Замойскага чулі ад кагосьці з хатніх, што Геранім Хадкевіч шукае нявесту для свайго сына і ёй, пэўна, будзе дзяўчына, што знаходзіцца ў яго на выхаванні. Тут адразу пабачылі намёк на князёўну Слуцкую[796].

Да судовых спрэчак вакол шлюбных кантрактаў падключыліся ўсе родныя. Елізавета з Хадкевічаў Мікалаевая Кішкавая (бабка па маці) склала 8 ліпеня 1599 г. пратэстацыю да трыбунала, патрабуючы, каб Хадкевічы не парушалі ўмоў кантракта і выдалі Соф'ю замуж за Януша[797].

Нарэшце, справа з земскіх судоў была перанесена на разгляд суддзяў Літоўскага трыбунала, маршалкам якога выбралі мазырскага старасту Юрыя Радзівіла[798]. Таго самага, якому стараннямі Хадкевічаў было адмоўлена ў руцэ Барбары Збаражскай.

Кароль усімі магчымымі спосабамі спрабаваў дапамагчы Хадкевічам. Ужо да гэтага Жыгімонт III неаднойчы выказваў сваю ласку да Хадкевічаў. Нягледзячы на просьбы канцлера Льва Сапегі і самога Крыштафа Радзівіла, пасаду польнага гетмана, якую трымаў за сабой ваявода віленскі, далі не яго сыну Янушу, а Яну Каралю Хадкевічу. Неаднаразовыя лісты Жыгімонта III да Льва Сапегі ў справе віленскага кашталяна ў жніўні, верасні і кастрычніку 1599 г. пісаліся з мэтай недапушчэння выдачы баніцыі. У адказ канцлер з віленскім ваяводам пайшлі на хітрасць. Яны не сталі паведамляць каралю, як ім было загадана, пра адасланне справы пра баніцыю Хадкевічаў на разгляд навагрудскага гродскага суда. У выніку рашэнне



суда было на карысць Радзівілаў[799]. Кароль нагадваў канцлеру, што выданне баніцыі можа быць ажыццёўлена толькі па яго асабістаму мандату і заверана пячаткай асобы, якая знаходзіцца пры каралі, і патрабаваў адкласці разгляд справы да яго вяртання са Швецыі.

Спрэчкі па маёмасных пытаннях і нежаданне бакоў саступіць адзін аднаму завялі вырашэнне справы ў тупік. Кароль не пайшоў насустрач Крыштафу Радзівілу Перуну ў прызначэнні Януша на ўрад польнага гетмана, а прызначыў яго толькі на прыдворны ўрад падчашага. Хадкевічы прайгралі судовыя справы па сваіх прэтэнзіях на капыскія маёнткі, таму з восені 1599 г. абодва бакі пачалі рыхтавацца да вырашэння спрэчкі з дапамогай зброі, што ледзьве не прывяло да міжусобнай вайны паміж Радзівіламі і Хадкевічамі.

Сам Жыгімонт III, сенатары (каталікі і езуіты) выступілі ў падтрымку братоў Хадкевічаў. З канца лістапада 1599 г. Крыштаф Радзівіл пачынае мабілізацыю слуг і кліентаў з загадам прыбыць узброенымі ў Вільню перад шлюбам Януша. Янушу было загадана не прадпрымаць самастойных крокаў і тэрмінова выехаць з Польшчы да бацькі. Той, пасля нарады з каронным канцлерам Янам Замойскім, прыняў рашэнне, як весці далей справу з Хадкевічамі. Геранім Хадкевіч яшчэ меў надзею, што ён зможа вырашыць праблему на прававым полі і не панясе ніякага пакарання за парушэнне папярэдніх дамоўленасцяў. 20 студзеня 1600 г. ён накіраваў ліст да дэпутатаў слонімскага сойміка. У ім ён прасіў уключыць у інструкцыю для наступнага сойма абарону яго правоў супраць трыбунальскіх дэкрэтаў ваяводы віленскага, які пагражае яму баніцыяй, калі ён не паставіць Соф'ю князёўну Слуцкую 6 лютага 1600 г. перад алтаром для заключэння добраахвотнага шлюбу з Янушам[800]. Падставай для выдачы баніцыі сталі нявыплата па двух лістах зарукі на 100 тысяч коп грошаў за спробу выдаць замуж падапечную за іншую асобу і непрадстаўленне справаздачы па кіраванні маёнткамі на 10 тысяч злотых.

26 жніўня 1599 г. памерла апошняя жонка Крыштафа Радзівіла Гальшка з князёў Астрожскіх. Нягледзячы на хрышчэнне ў праваслаўі ў Астрогу, Гальшка, як і яе сястра, была выхавана маці Соф'яй з Тарноўскіх у каталіцкай веры[801]. Пасля выхаду замуж за арыяніна Януша Кішку яна стала наведваць касцёл і адчуваць сябе каталічкай. Не змяніла яна сваіх рэлігійных поглядаў і ў другім шлюбе. У сваім тэстаменце Гальшка папрасіла мужа пахаваць яе па каталіцкім абрадзе ў катэдральным




**Леў Сапега.**

**Невядомы мастак. XVIII ст.**





**Вільня.**

**Гравюра з альбома Г. Бравуна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1581 г.**

саборы Святога Станіслава ў Вільні. Насуперак тэстаменту праваслаўныя святары і бацька патрабавалі, каб пахаванне адбылося не ў касцёле, а ў царкве. Пахаванне было прызначана на 4 лютага 1600 г. Блізкасць двух дат — пахавання і вяселля — дазваляла адначасова сабраць родзічаў, прыяцеляў і прыхільнікаў Радзівілаў, якіх звычайна запрашалі на такія акты.

У канцы студзеня 1600 г. у ваколіцах Вільні сабралося каля 6000 узброеных людзей Радзівілаў[802]. Слугі Крыштафа Радзівіла таксама прыбылі на чале атрадаў, ад двух да пяцідзесяці чалавек. Сведчанне брэсцкага вознага Яна Казухоўскага таксама фіксавала канцэнтрацыю розных вайсковых атрадаў за р. Вілія[803]. Возны налічыў не менш за 200 чалавек. Там знаходзіўся двор Крыштафа Радзівіла, і атрады былі сканцэнтраваны каля маста праз раку.

Свае почты прыслалі Ян Замойскі (200 гусар[804]) на чале з Пятром Збарынскім, герцаг Курляндскі (200 чалавек), Юрый Радзівіл староста мазырскі (300 чалавек конных), Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі з сынамі. Януш Астрожскі не толькі падтрымаў пляменніка, але і сам асабіста з'явіўся ў Вільню на чале аб'яднанага почта з 700 гайдукоў. У сваіх лістах ён паведамляе, што павінен быць на пахаванні сваёй сястры Елізаветы, апошняй жонкі Крыштафа Радзівіла[805]. Ва ўсялякім выпадку, калі б малодшы Астрожскі не паспеў да пазначанага часу, то да 6 лютага мусіў прыехаць дакладна. Для большай упэўненасці сваю пяхоту ён паслаў наперад і прасіў Крыштафа Радзівіла падрыхтаваць месца, дзе мог бы спыніцца і ён сам з прыяцелямі, і яго слугі. За чатыры дні да прызначанай даты вяселля атрады Януша і Канстанціна Астрожскіх злучыліся і выступілі разам да Вільні[806].

Другім бокам кіраваў Ян Караль Хадкевіч. У сваім віленскім палацы на вуліцы Савіч, дзе быў павінен адбыцца шлюб, Ян Караль размясціў 1600 конных, 600 пяхоты з 24 гарматамі і шмігаўніцамі[807]. Прычым няма звестак, што хтосьці з іншых магнатаў падтрымаў яго ўзброенымі людзьмі. Да Вільні прыехаў толькі ваявода сандамірскі Юрый Мнішак, швагер Гераніма Хадкевіча, але без узброенага атрада[808]. Сам палац быў дадаткова ўмацаваны. Па сведчанні К. Зяновіча: «ва ўсіх пабудовах, і на дахах

камяніц і па дамах і па кухнях, стайнях, паўсюль люд да бою прыгатаваны і гарматы накіраваны супраць варот, …да таго па дамах і вакол палаца на вуліцах паўсюль гакаўніцы і гарматы з людзьмі пасажаны і прыстасаваны былі, карацей пішучы гатовы былі да вайны, а не да шлюбу»[809].

Сітуацыя ў краіне была настолькі напружана, што з заклікам да Радзівілаў і Хадкевічаў памірыцца выступілі нават кальвініcцкія прапаведнікі. Знакаміты Андрэй Волан нават надрукаваў сваю «Прамову да святлейшых Радзівілаў і Хадкевічаў», дзе прасіў два знакамітыя роды вырашыць свае спрэчкі мірным шляхам[810].

За некалькі дзён да вяселля Жыгімонтам III былі скіраваны ў Вільню чацвёра сенатараў, каб памірыць бакі і не дапусціць праліцця крыві. Ад імя кальвіністаў выступаў вялікі маршалак літоўскі Крыштаф Манвід Дарагастайскі, ад каталікоў — жмудскі біскуп Мельхіёр Гедройц, віцебскі ваявода Ян Завіша, земскі падскарбій літоўскі Андрэй Завіша. У сваім лісце Жыгімонт III загадваў апекунам арганізаваць і правесці вянчанне мірным шляхам паводле права ці па сяброўскай згодзе, а не даводзіць справу да ўзброеных сутыкненняў. 5 лютага 1600 г. пасрэднікі прынеслі ад Крыштафа Радзівіла наступныя ўмовы замірэння: Гераніму Хадкевічу скасаваць усе аблігі і запісы перад судом, не пачынаць новых судовых працэсаў, разгледзіць гэтую справу на сойме паміж прыяцелямі, дазволіць Янушу свабодна ў нявесты бываць, па атрыманні папскага дазволу і згоды Соф'і пачаць рыхтавацца да вяселля. Акрамя таго, замірыцелі прынеслі ад Крыштафа Радзівіла ліст, у якім ён сцвярджаў, што ніякай шкоды і крыўды ні пану віленскаму, ні яго сынам не чыніў і захаванне міру залежыць толькі ад асабістай волі і жадання яго апанента. Геранім Хадкевіч з




**Крыштаф Манвід Дарагастайскі.**
**Гравюра. Пачатак XVII ст.**





сынамі не захацелі пагадзіцца з выстаўленымі ўмовамі[811].

Каралеўскія замірыцелі распрацавалі свой план. Яны прапанавалі адкласці вырашэнне спрэчак на разгляд сойма і асабісты суд караля. Для гэтага прадугледжвалася за дзень да канца сойма скласці дэлегацыю з роўнай колькасці ад кожнага боку прыяцеляў, якія і выклалі ўсе крыўды і прэтэнзіі бакоў. Яны хацелі атрымаць абяцанне, што пакуль кароль не вынясе сваё рашэнне, Геранім Хадкевіч не мае права абяцаць руку Соф'і каму-небудзь іншаму. Войскі з абодвух бакоў без сутычак былі павінны разысціся і захоўваць спакой да вынясення прысуду. На перыяд перамоў і сойма Яну-






**Януш Астрожскі.**
**Невядомы мастак. XVII ст.**



шу прапаноўвалася свабодна бачыцца з нявестай. Прыватныя лісты ад караля, які заклікаў «лепш правам, альбо пагадненнем прыяцельскім той акт адправілі, чым зброяй»[812], і прапанаваны план урэгулявання канфлікту не спынілі магнатаў, і войскі засталіся ў горадзе, хаця абодва бакі вырашылі адмовіцца ад выкарыстання зброі.

У прызначаны час, у нядзелю 6 лютага 1600 г., шлюб так і не адбыўся, бо апекуны і Крыштаф Радзівіл не здолелі дамовіцца паміж сабой. Геранім падрыхтаваўся да шлюбу, перад палацам чакаў святочна ўбраны каплан, нявеста знаходзілася на другім паверсе палаца. Зранку Крыштаф Радзівіл раіўся са сваімі прыхільнікамі як лепей ехаць да нявесты. Усім разам было цяжка, бо вуліцы не дазвалялі хутка сканцэнтраваць усіх прыяцеляў у адным месцы, да і ў адну камяніцу Хадкевічаў яны не маглі ўвайсці. Перад апоўднем Радзівілы накіравалі да Хадкевічаў чатырох паслоў, каб тыя запыталіся, ці згодныя апекуны выдаць Соф'ю замуж, як гэта было запісана раней. На вуліцу Савіч паехалі Крыштаф Зяновіч, які і апісаў падрабязна ў сваіх успамінах гэтыя падзеі, Леў Сапега, як прадстаўнікі ВКЛ, і палякі львоўскі пісар Шашэўскі і пан Красіцкі.

Геранім Хадкевіч разам з сандамірскім ваяводам Ю. Мнішкам і Аляксандрам Хадкевічам ветліва сустрэў пасланцоў, але ў верхнія пакоі да князёўны яны не пайшлі. Апякун папрасіў перадаць, што ён гатовы Соф'ю выдаць замуж паводле абяцання, але не будзе прымушаць яе да гэтага. Яны чакаюць жаніха, і, калі нявеста будзе згодна, адбудзецца і шлюб, бо апекуны раней ніколі ў Соф'і пра яе жаданні не спрабавалі даведацца.

Пасольства адмовілася падымацца да князёўны і пытацца ў яе пра жаданне выйсці замуж за Януша, бо яно было паслана не за гэтым. Па вяртанні прыяцелі Радзівілаў папярэдзілі Крыштафа Радзівіла пра добрую падрыхтаванасць да сутычкі Хадкевічаў і адгаворвалі віленскага ваяводу ад гвалтоўных метадаў дзеяння. Радзівіламі было вырашана не дапускаць Януша да двара Хадкевічаў, каб ён не атрымаў адмоўнага адказу князёўны перад алтаром і не патрапіў пад кулю прыхільнікаў Хадкевічаў. Як параілі віленскаму ваяводзе прыяцелі, лепей здароўе захаваць, чым на такі шлюб ехаць. Няяўка жаніха не азначала сканчэння дзеяння шлюбнай дамовы і дазваляла далей настойваць на выкананні абраду. У выніку ў прызначаны дзень вянчанне так і не адбылося.

Асноўнымі прычынамі было названа некалькі. Па-першае, адсутнасць асабістай згоды нявесты на шлюб. Гэтага фармальна





патрабавалі папярэдняя шлюбная дамова і заканадаўства. Артыкул 39 раздзела 3 Статута 1588 г. азначаў: «кнегинь, паней, вдов, княжен, панен, девок, шляхтянок и всякого иного стану рожаю женского, яко людей вольных <…> при вольностях их заховывати маем, а гвалтом ни за кого не маем давати без воли их»[813]. На самой справе вельмі рэдка вядомы выпадкі, калі ў дзяўчыны ці нават удавы пыталіся, за каго б яна хацела пайсці. Судовая практыка сведчыць пра вялікую колькасць адваротных фактаў[814]. Сярод іншых прычын успаміналіся блізкае пакрывенства (што забаранялася заканадаўствам), рознасць веравызнанняў будучых мужа і жонкі, няяўка на шлюбную цырымонію жаніха. У Вільні перад возным генераламі Якубам Бужынскім і Янам Кажухоўскім 06.02.1600 было прадстаўлена сведчанне, дзе ўсё вышэйназванае згадвалася: «а ksiажна[815] <…> будучы поставена перед их а паны и приіателми своими и перед нами возными и шляхтами при нас будучы мовила иж Их Мс пан виленски есми чынил тое постановение з их Мс паном воеводичом виленским в недорослых летах моих не будучи ведом воли мои а знал и тое близкое кревности которая межу моим и Их Мс паном Іанушом Радивилом ест так теж и с того ИМ пан Іануш Радивил не ест набоженства костела католицкого которого я ест. о чем всем я тепер маючы лета зуполные а взявшы певную ведомость и постерегаючы того абым таким напорядным и с тым моим за Их Мс пана Іануша Радивила вперед пана Бога не ображала а потом абыт теж учтивого и маентности моих до жадных небеспеченств не приводила на тое постановение через Их Мс пана виленского и Их Мс паном воеводичем виленским учынене не позволям и в малженство з Их Мс паном Іанушом Радивилом вступовати не хочу и прошу абы мне в том от Их Мс пана виленского жадне безправе не делялo…»[816]. Крыштафу Радзівілу Геранім Хадкевіч выдаў ліст, што князёўна была пастаўлена перад алтаром, згодна з дамовай, з раніцы і разам з апекунамі чакала жаніха са слугамі да гадзіны ночы, той не толькі сам не з'явіўся, але нават не даслаў тлумачэнняў сваёй адсутнасці, і таму апякун лічыць сябе вольным ад выканання ўмовы[817].

Вырашэнне пытання дзейснасці дамовы пра шлюб паміж Янушам Радзівілам і Соф'яй Алелькавіч было перанесена на вальны сойм, які адбыўся ў лютым—сакавіку 1600 г. у Варшаве. Прыватная праблема стала падставай для вызначэння паўнамоцтваў судовай улады ў ВКЛ. Неабходна было вырашыць пытанне ўладных прыярытэтаў: якое рашэнне мае першынства —Галоўнага літоўскага трыбунала ці караля? Геранім Хадкевіч не змог здабіцца ад караля для сябе скасавання дэкрэта Літоўскага трыбунала, што прадпісваў выплату вялізнай зарукі за парушэнне кантракта. Кароль быў зацікаўлены ў падтрымцы віленскага ваяводы ў вырашэнні знешнепалітычных пытанняў і таму не пайшоў супраць рашэнняў трыбунала. Хадкевіч не змог выплаціць пакрыўджанаму боку (Радзівілу Перуну) 100 тысяч коп грошаў, і Крыштаф Радзівіл здабыўся выдання баніцыі для Гераніма Хадкевіча з-за парушэння папярэдніх дамоўленасцяў[818]. Пра гэта Геранім Хадкевіч даведаўся ад Льва Сапегі, які прапанаваў яму вырашыць справу з віленскім ваяводам на падставе права, бо ў іншым выпадку Хадкевічу пагражала баніцыя[819].

Пад пагрозай страты ўсёй маёмасці і змянення пазіцыі караля апекуны Соф'і былі вымушаны саступіць. Геранім апраўдваўся, што яго віны ў тым, што нарачоныя не пажаніліся, няма, і згадзіўся ўрэгуляваць спрэчныя пытанні згодна з законам. Януш быў дапушчаны да нявесты. Соф'я





афіцыйна дала сваю згоду на шлюб і абмянялася з Янушам заручнымі пярсцёнкамі пасля Вялікадня: «Зараз, пасля яго другога прыезду з Вільні, і тут мне ВМ перад ім сам казаў, што на тое ёсць воля Божая і ВМ майго міласцівага пана, каб яму прыяцелем была, што ж яму па загаду ВМ самаго сказала. І на ад'езд ён пярсцёнак мне даў, не за падарунак які, а за знак таго, што да смерці прыяцелем мусіць быць»[820]. Гэта значыць, што афіцыйныя заручыны маладых адбыліся ў нядзелю 10 красавіка 1600 г. (бо Вялікдзень прыпадаў на 2—3 красавіка).

Спецыяльны трыбунальскі дэкрэт — выкананне ўжо выдадзенай на Гераніма Хадкевіча і яго род баніцыі — быў затрыманы. Аднак спакою гэта яму не прынесла. Баніцыя пагражала ўсяму роду і фактычна была гарантыяй таго, што ён не зможа парушыць свайго слова. Акрамя таго, гэта была вялікая ганьба і ўдар па годнасці роду[821].

У маі 1600 г. Крыштаф Радзівіл змог атрымаць падтрымку ад кіеўскага ваяводы Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага ў справе шлюбу паміж кроўнымі родзічамі. Каб пазбавіць Хадкевічаў падстаў апеляваць да блізкай роднасці Януша і Соф'і, князь Астрожскі пагадзіўся выступіць на пасяджэнні Літоўскага трыбунала і пры вялікай колькасці людзей прынесці прысягу, што ён не супраць шлюбу паміж Янушам і Соф'яй і не з'яўляецца блізкім родзічам Соф'і па лініі бацькі[822]. Гэта здымала абвінавачванні ў заключэнні блізкароднаснага шлюбу.

Апекуны паабяцалі Янушу, што шлюб адбудзецца 20 жніўня 1600 г.[823]. Аднак ужо праз некаторы час стала зразумела, што дату прыйдзецца пераносіць, бо бакам не хапала часу для ўзгаднення ўсіх юрыдычных фармальнасцей.

Атрымаўшы згоду на шлюб ад апекуноў і самой нявесты, з пачатку мая Януш рыхтуецца да ад'езду ў дзеючае войска. Малады падчашы быў павінен сабраць наёмныя роты і павесці іх разам з Людвігам Вайерам у Інфлянты, дзе пачынаўся новы ваенны канфлікт са шведамі[824]. Тым часам апекуны пачалі рыхтаваць новыя шлюбныя кантракты. Усе спрэчныя пытанні, якія датычыліся спадчыны князёў Слуцкіх, узгадняла спецыяльная камісія, у якую ўвайшлі прыяцелі абодвух родаў, што сабраліся ў Вільні 8 чэрвеня 1600 г. З боку Радзівілаў удзельнічалі Ян Радзівіл, Ян Пац, Фёдар князь друцкі-горскі[825]. Самі паперы былі падпісаны толькі ў сярэдзіне чэрвеня 1600 г. Пытанні веравызнання, забароны гвалтоўна прымушаць да яго змены, абароны правоў прадстаўнікоў розных канфесій займалі ў іх важнае месца: «А пастаноўлена [...] там у Брэсце днём перад вяселлем, мушу лістом сваім агаварыць, паколькі ж княжна Яе Міласць ёсць розная ў рэлігіі з сынам маім падчашым, то княжны Яе Міласці да рэлігіі сваёй прымушаць, ані ў набажэнстве Ёй міласці ніякага гвалту чыніць не можа. А каплана якога сабе паводле веры сваёй рымскай княжна Яе Міласць выбярэ пазволіць пакінуць і забяспечваць. А асабліва ва ўсім княстве Слуцкім касцёлы рымскія, і цэрквы рускія у сваёй цэласці і наданні каб заставаліся. Капланам і ўсяму святарству цяжкасці ніякой не чынілі і ад ўсіх крыўд як пан вярхоўны бараніць мусіць, менавіта касцёл рымскі слуцкі так, як зараз ёсць у сваім стане і ўжыванні надання ўсяго захаваць, а калі б што на касцёл даць хацела перашкаджаць не можа. А калі здарыцца, што касцёл рымскі ў княстве Слуцкім альбо царква руская праз смерць ці сыход плебана і іншых будуць вольныя, тады мусіць сын мой падчашы разам з княжною Яе Міласцю іншаму годнаму чалавеку той жа веры рымскай, альбо рускай аддаць урад духоўны неад-

кладна заўважаючы, каб падчас вакансіі той у даходах і наданнях касцёлу і цэрквам ніякай знявагі і шкоды не было, але ўсё ў цэласці спадчыннікам было аддана. Збораў таксама ў княстве Слуцкім сын мой падчашы будаваць не можа, што ўсё за майго сына абяцаю і таму ўсяму ў тым запісе маём названым учынёным лістом сваім гарантаваць будзе»[826].

У дадатак да кантракта Крыштаф Радзівіл 16.06.1600 выдаў у Вільні яшчэ некалькі лістоў, што ўрэгулявалі пытанні заключэння шлюбу і выхаду князёўны Слуцкай з-пад апекі. Першы ліст рэгламентаваў парадак вянчання, яго месца і веравызнанне святара, які бласлаўляў маладых. Шлюб па традыцыі павінен быў даць прадстаўнік канфесіі нявесты. Клопат пра гэта ўзяў на сябе бок жаніха: «прыбыць мусіць да прыняцця шлюбу з княжною Яе Міласцю Слуцкай маючы з сабою *ксяндза рэлігіі рымскай* (*курсіў Аўт.*), які ксёндз мусіць даць шлюб сыну майму з княжною Іх Міласцю. А ў тым даванню шлюбу сыну майму з княжною яе міласцю Слуцкай таму ксяндзу, якога мой сын мець будзе ніякай перашкоды ні ад каго не можа быць зроблена»[827].

Да таго ж Крыштаф Радзівіл згаджаўся з прапанаваным Хадкевічамі падзелам маёнткаў князёў Слуцкіх. Ад імя Януша віленскі ваявода абавязаўся перадаць маёнткі Краснік і Батож[828], Турэц (мястэчка і двор)[829], Ваўкалата (мястэчка і двор)[830], Вяйсее і Олны[831], Петрыкоўскае і Колненскае графствы з мястэчкамі (Наваградскі і Мазырскі паветы ВКЛ) як плату за выхаванне князёўны Хадкевічамі, выплаціць пазыкі князёў Слуцкіх як свой асабісты доўг са сваіх маёнткаў[832]. Юрый і Геранім Хадкевічы самі заплацілі 12 350 злотых даўгоў Аляксандра Слуцкага, якія той быў вінен слугам, і аплацілі яго пахаванне. Соф'і



**Кантракт на адпраўленне шлюбу Януша Радзівіла з Соф'яй Юр'еўнай Слуцкай каталіцкім святаром.**
**AGAD. AR. Dz. XXIII. T. 116. Pl. 2**

і яе мужу адыходзіла галоўнае валоданне роду — Слуцкае княства. Капыльскае княства, Цімкавічы, а таксама Петрыкоў і Колна адыходзілі ў пажыццёвае валоданне Соф'і з Мялецкіх і яе другога мужа Яна Караля Хадкевіча[833]. Усе разліковыя квітацыі і лісты павінны былі быць дадзены праз дзень пасля вяселля.

Адзінай умовай засталося атрыманне дазволу ад Папы Рымскага на заключэнне шлюбу паміж блізкімі сваякамі. Яшчэ ў маі 1599 г. Крыштаф Пярун з упэўненасцю пісаў да Радзівіла Сіроткі, што пакуль кардынал (Юрый Радзівіл) жывы, ён не хвалюецца за спрэчныя моманты ў заключэнні гэтага шлюбу. Аднак некаторая

асцярога была ў «стратыгеме» з рознасцю веравызнання, і таму ён загадзя пачаў весці перамовы з Хадкевічамі праз Пяскоўскага[834]. За дазволам мог пасланць прадстаўнік любой канфесіі. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка параіў прасіць папскую дыспензію ад імя нявесты Гераніму Хадкевічу. Крыштаф Радзівіл гарантаваў апекунам і Соф'і сваю падтрымку ў атрыманні такога дазволу: «А іж сын мой падчашы ВКЛ іншы ёсць у рэлігіі ад набажэнства княжны Іх міласці Слуцкай. Тады абгавораваючы то, каб ніхто не застаўся сумніўны ў сумленні Яе Міласці княжны Слуцкай, мусім мы разам з Яго Міласцю панам віленскім старацца аб дыспензіі *паводле набажэнства княжны Яе міласці* (*курсіў Аўт.*). Аднак то абгаворваючы, іж той ліст мой ніякай перашкодай не можа быць там таму галоўнаму лісту на выданне княжны Яе міласці за сына майго ад Яго міласці пана віленскага дадзенага»[835].







20 чэрвеня 1600 г. быў пасланы ліст да Папы Рымскага з просьбай дазволіць шлюб каталічкі Соф'і Слуцкай з кальвіністам і кузенам Янушам Радзівілам, якія знаходзіліся ў чацвёртай ступені кроўнай роднасці. Адасланне дадзенага ліста да Папы пацвярджае ліст Януша Радзівіла ад 29.07.1600, у якім ён просіць Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіротку паспрыяць у атрыманні папскага дазволу на шлюб пратэстанта з каталічкай[836].

Да ліста Януша Радзівіла прыкладаўся каралеўскі ліст, дзе выказвалася аналагічная просьба. У лісце ад 22 ліпеня 1600 г. з Брэста да Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі Геранім Хадкевіч прасіў падтрымаць просьбу пра благаслаўленне шлюбу з боку апостальскай сталіцы «прычынным лістом» (суправаджальны, рэкамендацыйны ліст) да Святога айца ад самога князя. Хадкевіч быў упэўнены, што праблем з атрыманнем бласлаўлення для каталічкі не будзе, бо «Па маёй просьбе і дадатку ВКМ, княжне ЯМ, як каталічцы, можа быць дазвол атрыманы». Выданне дзяўчыны замуж за пратэстанта «ерытыка» магло пагражаць захаванню вернасці каталіцтву, «каб панне вароты не адчыніліся да ерасі»[837].



**Юрый Радзівіл, біскуп кракаўскі.**
**Невядомы мастак. XVII ст.**

Януш ніяк не мог паўплываць на своечасовае вырашэнне дадзенага пытання. Кардынал памёр у Рыме 23 студзеня 1600 г. і не мог дапамагчы свайму родзічу ў атрыманні такой дыспензіі, хаця згодна з папярэднімі дамоўленасцямі павінен быў гэта зрабіць. На ўпікі бацькі Януш адказваў: «Так таксама і пра афект панскі як з пісання таго лісту да папы да нас паказвае, і ведаю што, каб там большай замінкі не было, чым дапамогі. З боку дыспензіі ж ВКМ указваеш, што магла бы быць, калі не мае нядбальства. Тады я ў той меры зусім (вінаватым) сябе не адчуваю, бо то усё ўчыніў што мне ВКМ загадаў. З кс. кардыналам нябожчыкам размаўляў паводле ін-





фармацыі ВКМ, які маючы быць (у Рыме.— *Аўт.*) паразмаўляць абяцаў, але ж памёр, і то не мая віна»[838]. Менавіта смерць родзіча, блізкага да апостальскага прастола, і адсутнасць навін пра гэта на працягу некалькіх тыдняў не дазволілі адправіць афіцыйны ліст раней чым за ліпень 1600 г.

У архіве Радзівілаў яшчэ ў канцы XVII — пачатку XVIII ст. захоўвалася «копія ліста да Папы Рымскага, пасланага Янушам у справе ажанення з кн. Слуцкаю»[839]. Падобна на тое, што яшчэ адна копія была перададзена Хадкевічам для таго, каб запэўніць іх у адасланні дакумента да Рыма. Менавіта сярод папер Хадкевічаў у Кракаве намі і была яна знойдзена. Яна сведчыць, што Януш прасіў дазволу на блізкароднасны шлюб і ні слова не казаў пра рознасць веравызнанняў нявесты і жаніха[840], у адрозненне ад дакумента, апублікаванага ў XIX ст. у «Собраніі древних грамот и актов городов Минской губернии»[841].



Beatissime Pater et Sanctissime domine domine Clementis

Post oscula pedum beatorum.

[illegible]

Sanctitati Vrae humiliter subiectus

Janussius

**Ліст Януша Радзівіла да Папы Клемента VIII. 1600 г. АРКг. АМСh 51**

Па праваслаўных святцах, у якіх Соф'я называецца праваслаўнай і заступніцай праваслаўных, яе шлюб з каталіком Янушам Радзівілам быў дазволены і асвечаны канстанцінопальскім патрыярхам. Сапраўды, у XVI ст. існавала практыка атрымання такіх дазволаў для праваслаўных вернікаў, але на сённяшні дзень іх вядома не болей за дзясятак. Часцей справа магла вырашацца на месцы з дазволу любога епіскапа. Падставай для вышэйзгаданага сцвярджэння стаў дакумент, апублікаваны ў «Собраніі древних грамот и актов городов Минской губернии». Гэта ліст Януша Радзівіла да Папы ад 20.06.1600 з просьбай удзялення дазволу на шлюб. Інтарэс выклікае як сам тэкст, так і анатацыя да яго, дзе гаворыцца, што будучай жонцы ён дазволіць захаваць «веру ўсходнюю»[842]. На жаль, публікатары не далі ніякіх спасылак, дзе захоўваўся гэты ліст (прыватны збор, бібліятэка), таму зараз цяжка сказаць, наколькі яго тэкст адпавядаў арыгіналу. Дакладны аналіз апублікаванага дакумента, знойдзеная намі копія ліста Януша да Папы, дазваляе казаць пра фальсіфікацыю апублікаванага дакумента, увядзенне ў яго тэкст шэрагу фраз, якія цалкам дазваляюць змяніць яго трактоўку. Мы прыводзім тэкст гэтага ліста ў арыгінале і перакладзе, каб зняць далейшую дыскусію.





| Тэкст ліста згодна з «Собранием древних грамот и актов Минской губернии» | Тэкст ліста згодна з дакументам з архіва Хадкевічаў |
|---|---|
| Sanctissime ac Beatissime Pater Domine,<br>Domine Clementissime.<br>post oscula pedum Sanctitatis Vestrae<br><br>Ante aliquod annos intercessit mihi Pactio Nuptialis cum Illustri Sophia quondam Georgii Ducis Slucensis filia, quae quidem me cum quartum Consanguinitatis gradum attigit, propter quod impedimentum, Sacramentum Matrimonii conferri Nobis nequaquam potest: Quoniam vero Sanctitas Vestra Legibus ipsis ex hac specula (?), in qua Deus Omnipotens Sanctitatem Vestram Summum Antistitem constituit, pondus ac robur suum facit, eisque pro exigenti temporum ac Personarum moderati et dispensare dignatur; humil.ter supplico Sanctitati Vestrae, ut pro ea beneualentia ac pietetate quam omnibus ad se confugientibus exhibit; **Mihi quoque Religionem Sanctam Catholicam suscipienti, Sanctitas Vestra subvenire**, et autoritate sua ad hoc matrimonium auxilio esse velit: Siquidem omnia Ecclesiae, quae sunt in bonus dotalibus ipsius Sophiae, mihi iam pridem desponsatae, ut in priuilegiis ac immunitatibus suis pertineant, cautione juridical me obstrinxi, **ac ipsa Virgo ut in fide Catholica sine impedimento Religionis suae,** mihi cohabitare posse sedula inscriptione per me cautum est. Commendo me interim Clementiae Sanctitatis Vestrae, utque postilationi huis meae Vestra Sanctitas benigne annuere velit, iterum atque iterum humiliter supplico. Datt.d. 20 Julij An:1600 Sanctitatis Vestrae humiliter subiectus<br>Janussius Radzivil Dux<br>de Birze et Dubinki | Beatissime Pater et Sanctissime Domine,<br><br>Domine Clementissime post oscula pedum beatorum. Cum Deo omnipotenti ita constituere ordinareque Ecclesiam suam visum fui[... anti] stitem constitueret, cuius ductu et regimine omnia Ecclesiae membra certa quada[m ...] mutua pace ac tranquillitate gauderent, in rebusque dubiis ac conscientiam tur[...]rent. Ego quoque ad Sanctitatem Vestram supplex confugio remediumque fluctuanti et du[.......] <.......> Intercessit mihi pactio nuptialis cum Illustri et ex Ducali pros[apia Georgii duci]s Slucensis filia, cum qua quartus mihi consanguinitatis <...> co[...]tionem illegitimam praedicant non nulli, non tam forsan ut pio zelo is<...> atque odio suo, me ab honesto incepto deterreant, maximé autem [...]or <...><...> tutela Virgo mihi desponsata, ut bonis euis quam diutissime fru[ant]ur <...> deprecor, ut pro autoritate sua hoc matrimonium firmum ac stabile es[se] voce sua pronunciet. Pro quo tam singulari Sanctitatis Vestrae beneficio et me[...] obligabit, et summae ac singularis bonitatis documentum univer[... Sanctitatem] Vestram unice colit ac observat, dignitatemque amplissimae Sedis [Apostolicae] semper studet. Id quod me consecuturum ex singulari favore <...> bene p[raeha] bito. Cuius me Clementiae iterum atque iterum [humiliter] commendo. Sanctitati Vestrae humiliter subiectus.<br><br>Janussius [843] |



Найсвяцейшы і бласлаўлены Ойча
і Пане,
Пане Найласкавейшы,
цалую перад усім Вашыя
бласлаўлёныя стопы.

Некалькі гадоў таму я ўчыніў шлюбную дамову з яснавяльможнай Соф'яй, дачкою нябожчыка Юрыя, князя Слуцкага, якая даводзіцца мне крэўнаю ў чацвёртай ступені; дзеля гэтай перашкоды нам аніяк не можа быць удзелены Сакрамэнт Сужэнства. Але паколькі Ваша Святасць, на тым высокім становішчы, на якое ўсемагутны Бог паставіў Вашу Святасць Найвышэйшым Першасвятаром, надае самім законам вагу і моц, ды прызваляе рэгуляваць і дапасоўваць іх да вымогаў часу і асобаў, я пакорліва прашу Вашу Святасць, каб дзеля той зычлівасці і дабрыні, якая аказваецца ўсім, да Вас прыбягаючым, таксама і мне, які прымае Святую Каталіцкую Веру, Ваша Святасць прыйшла на дапамогу і сваёй уладаю аказала садзеянне ў гэтым сужэнстве. Паколькі ўсе касцёлы, якія ёсць у пасажных уладаннях самой Соф'і, ужо раней мне абяцаныя, мне належаць з усімі прывілеямі і вольнасцямі, то я праўным парадкам абавязаўся і гэта зацверджана з майго боку адмысловым запісам, што сама панна можа жыць са мною ў сваёй каталіцкай веры без перашкоды яе рэлігіі.

З усім тым давяраю мяне зычлівасці Вашай Святасці і пакорліва зноў і зноў прашу Вашую Святасць прыняць прыхільна гэтую маю просьбу.

Дадзена 20 ліпеня 1600 г.

Пакорны падданы Вашай Святасці,
Януш Радзівіл Князь з Біржаў
і Дубінак.

Найсвяцейшы Ойча
і бласлаўлены Пане,
Пане Найласкавейшы,
цалую перад усім Вашыя
бласлаўлёныя стопы.

Паколькі Усемагутнаму Богу было заўгодна гэтак устанавіць і ўпарадкаваць свой Касцёл, каб паставіць у ім першасвятара і каб пад яго правадырствам і кіраваннем усе члены Касцёла цешыліся пэўным і ўзаемным мірам ды спакоем, а ў сумніўных рэчах таксама сумленне <…>. Я таксама пакорліва прыбягаю да Вашай Святасці і дапамогі таму, хто хістаецца і сум(няваецца ...). Адбылася ў мяне шлюбная дамова з дачкою Слуцкага (князя Юрыя), з якою мяне (звязвае) чацвёртая ступень крэўнасці <…>. Некаторыя загадзя прадракаюць, што гэтая сувязь будзе незаконнаю, але, відаць, не з добрым намерам, але <…> таксама з-за ўласнай зайздрасці, адгаворваюць мяне ад гэтай прыстойнай задумы, але найбольш (дзеля таго, каб карыстаючыся апекаю над) заручанай са мною паннаю, як найдаўжэй карыстацца яе добрамі. Я прашу, каб сваёю ўладаю і сваім голасам (Ваша Святасць) абвясціла гэтае сужэнства правамоцным і трывалым. За такое вялікае дабрадзейства Вашай Святасці (наша сям'я) будзе абавязана, і сведчанне найвышэйшай і адмысловай дабрыні <…> Вашую Святасць выключна шануе і паважае і заўсёды ўшаноўвае годнасць найвышэйшага Апостальскага Пасаду. Няхай будзе ўказана, што мне рабіць з адмысловага спрыяння <…> таго, прыхільнасці каго я зноў і зноў пакорліва сябе даручаю.

Пакорны падданы Вашай Святасці,
Януш <…>[844].

Фота арыгінала





Як мы бачым, дакументы дастаткова грунтоўна адрозніваюцца паміж сабой у змесце асноўнай часткі, якая якраз і датычыцца веравызнання нарачоных. Літаральна некалькі сказаў карэнным чынам мяняюць змест ліста да Папы і цягнуць за сабой далёкасяжныя высновы. Арыгінальны дакумент сведчыць, што дазвол прасіўся для блізкароднаснага шлюбу і не агаворваў розніцы веравызнання жаніха і нявесты.

Бакі сталі ўзгадняць паперы, звязаныя з пытаннямі перадачы маёмасці ад апекуноў да маладых. Зрабіць усё да першапачатковага тэрміну — 20 ліпеня — не паспявалі, ды і ліст у Рым быў адасланы дастаткова позна. 13 чэрвеня 1600 г. Крыштаф Радзівіл падпісаў ліст, па якім шлюб прызначаўся на 15 кастрычніка і агаворваўся парадак перадачы маёмасці, дакументаў і выплаты пазык і выдаткаў, панесеных падчас кіравання маёмасцю апекунамі. Месцам цырымоніі называўся брэсцкі замак, які быў падначалены брэсцкаму старасце і адміністратару Гераніму Хадкевічу [845]. За дзень да вяселля Януш павінен быў запісаць Соф'і забеспячэнне за яе пасаг: рухомыя і каштоўныя рэчы на сваіх маёнтках.

Нягледзячы на чарговыя дамоўленасці, апекуны працягвалі супраціўляцца сустрэчам нарачоных. Да Соф'і вельмі неахвотна дапускаліся нават слугі Януша, з імі яна магла перамовіцца толькі па дарозе ў капліцу. Соф'я папярэджвала Януша праз яго слугу Карчэўскага, каб «кланяўся пану свайму, і паведамі яму ад мяне, што пасля яго ад'езду вялікія змены робяцца, і можа тут нікому не верыць»[846]. Яна пісала, што апекуны здольныя на любыя крокі, каб пазбегнуць гэтага шлюбу. Януш прасіў бацьку ўважліва аднесціся да гэтых перасцярог, пакінуць каля Брэста сваіх гайдукоў: «І мая рада, каб Яго Міласці пільней Брэст пільнаваць ніжэлі Рэвель»[847].

У выніку супрацьстаяння з Хадкевічамі Януш не здолеў атрымаць такую пажаданую для яго пасаду гетмана польнага, нягледзячы на падтрымку двух канцлераў — Яна Замойскага (канцлера кароннага) і Льва Сапегі (канцлера ВКЛ). У якасці аргумента кароль паведаміў Янушу, што, хаця той вывучаў ваенную навуку пры французскім двары і ў імператарскім войску, сам ніколі ваеннымі атрадамі не камандаваў і давяраць такую высокую пасаду неспрактыкаванаму юнаку немагчыма. Таму ў ліпені 1600 г., паколькі наяўнасць самога Януша пры ўдакладненні юрыдычных акалічнасцей яго шлюбу не патрабавалася, ён накіроўваецца ў войскі ў Прыбалтыку, дзе ішлі ваенныя дзеянні са Швецыяй.

З тэатра ваенных дзеянняў ён вярнуўся праз некалькі месяцаў, бо сур'ёзна ўспрыняў папярэджанні Соф'і пра новыя крокі яе апекуноў. Януш прыехаў у Брэст за некалькі тыдняў да шлюбу, 4 верасня 1600 г. Там ужо былі малодшыя Хадкевічы са сваімі почтамі. Даведаўшыся пра прыезд Януша, Геранім Хадкевіч паспрабаваў яшчэ раз адгаварыць Соф'ю ад шлюбу. Менавіта яе персанальная адмова здымала б з іх абвінавачанні ў разарванні шлюбнага кантракта. Апякун напярэдадні прыезду Януша ў фарбах распавядаў, у якую жудасную сям'ю яна ўвойдзе, дзе яе будуць марыць голадам і адбяруць усю маёмасць. Аднак Соф'я адмовілася парушаць сваё слова: «На што яму княжна адказала, што я заўжды загадам ВМ майго міласцівага пана дагаджаць звыкла, бо а б чым заўсёды падчашаму нічога злога не мысліла, але па загаду ВМ да таго нават адмову дала, што мела нежаданне за яго пайсці І потым калі быў пасля Вялікдня зараз у Брэсце таксама загаду ВМ адпавядаючы нежаданню ВМ ставіць мусіла. Зараз па другім прыездзе яго з Вільні, і тое мне ВМ перад ім самім казаў, што на тое ёсць воля божа і ВМ майго міласцівага пана, каб

яму прыяцелем была, што яму па загаду ВМ самога пераказала <...>. Я таксама тое ж па загаду ВМ майго міласцівага пана зрабіла, калі ВМ з тага адкрываю, што слова свайго ніякай мерай ламаць не буду. А па пану Бог ВМ мой міласцівы пан маеш усю ўладу нада мною, але то ВМ мусіш ведаць, што да смерці пра іншага прыяцеля на сёння не мыслю»[848]. Пра такія намовы апекуноў Соф'я сама напісала Янушу і перадала праз слугу Ліпскага, які знайшоў Януша ў прадмесці. У той жа час жонка Гераніма Хадкевіча хацела вывезці Соф'ю да родавага маёнтка жонкі Яна Караля Хадкевіча, каб з ёй нічога не здарылася, бо гайдукі Януша знаходзіліся па ўсіх брэсцкіх ваколіцах. У той жа час малады Радзівіл са здзіўленнем пісаў, як раптоўна памянялася да яго стаўленне сыноў віленскага кашталяна. Гэты былі тыя самыя хлопцы, якія яшчэ нядаўна выставілі яго з замка, а зараз: «у самой толькі поўнай найвялікшай ахвотаю яго да сабе пазнаў. А залётаў бывае нават занадта»[849].

На самой справе Хадкевічы былі правыя, падазраючы Радзівілаў у карысці ў сваім імкненні здабіцца гэтага шлюбу. У адказ на занепакоеныя лісты сына з Брэста віленскі ваявода пісаў толькі пра адно: галоўнае, каб маёмасць нарачонай перайшла ў рукі Януша. У сваім лісце ад 25 верасня з Гародні Крыштаф Радзівіл настойваў на безумоўнай перадачы ўсёй маёмасці Соф'і Янушу з дазволу Гераніма Хадкевіча. Самой Соф'і ў якасці забеспячэння Янушу дазвалялася запісаць землі, атрыманыя ад маці і цёткі, — Копысь, Глуск, маёнткі ў Польшчы, і наяўныя грошы. Бацька пацвердзіў, што ў вышэйапісаных абставінах сыну небяспечна пакідаць Брэст, і таму раіў пільнаваць нарачоную. Усе неабходныя паперы таксама прапаноўвалася падрыхтаваць і падпісаць у Брэсце, а з усімі лістамі і навінамі лепей дасылаць слугу[850].

У сярэдзіне верасня, хаця дазвол на шлюб ад Папы так і не быў атрыманы, па ініцыятыве Гераніма Хадкевіча вяселле пасунулі з 15 на 1 кастрычніка[851]. Самае цікавае, што ніякіх святкаванняў непасрэдна вяселля бакамі не прадугледжвалася. Аляксандр Гваньіні адзначаў, што ў Рэчы Паспалітай на другі дзень вясельных свят звычайна адбываліся абед, вячэра, потым маскарадныя відовішчы, танцы[852]. Магнацкія вяселлі цягнуліся ад 2—3 да 7 дзён і суправаджаліся не толькі пірамі, але і балямі, маскараднымі шэсцямі[853]. Ад гэтай традыцыі не адыходзілі і самі Хадкевічы, якія арганізоўвалі такія маскарадныя вясельныя містэрыі[854]. Вяселле Крыштафа Радзівіла Перуна з маці Януша Кацярынай Астрожскай працягвалася сем дзён[855]. Аднак для Януша і Соф'і прадугледжвалася толькі само вянчанне. Гасцей да Брэста таксама не запрашалі. Адзінае, Януш асабіста напісаў да Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі пра змяненне даты шлюбу і прасіў яго прыехаць у Брэст у нававызначаны час[856]. Аналагічны ліст да троцкага ваяводы, да слоў якога прыслухоўваліся абодва бакі, накіраваў і Геранім Хадкевіч. Магчыма, гэта было выклікана жаданнем пазбегнуць агалоскі, каб у справу не ўмяшаліся Аляксандр і Ян Караль Хадкевічы. На той момант абодва браты адсутнічалі ў краіне. На чале сваіх узброеных почт яны ўдзельнічалі ў войску Яна Замойскага ў ваеннай выправе ў Валахіі[857]. Пра такое сціплае свята сведчыць і той факт, што датамі разлікаў з Хадкевічамі і прызнання выхаду Соф'і з-пад іх апекі былі прызначаны два дні: наступны пасля вяселля дзень — 2 кастрычніка і праз тыдзень — 6 кастрычніка[858].

Вянчанне адбылося ў нядзелю 1 кастрычніка 1600 г. Па папярэдняй дамоўленасці пра святара паклапаціўся жаніх. Каталіцкага каплана Януш прывёз у Брэст








з сабой. Нягледзячы на перанос даты, Крыштаф Радзівіл змог прыехаць з Інфлянт у Брэст. Праз некалькі дзён ён з радасцю паведаміў Мікалаю Крыштафу Радзівілу: «Я тут адсюль з Брэста, тыя гарантаваныя навіны ВМ майму м(іласціваму) пану паведамляю, што тут за ласкаю і благаслаўленнем пана Бога ўсемагутнага ажаніў у мінулую нядзелю сына майго падчашага літоўскага з княжною Яе міласцю слуцкай»[859]. Крыштаф Зяновіч у сваіх запісах так апісаў вяселле: «Потым у тым жа годзе тысяча шасцісотым першага кастрычніка ў Брэсце пан віленскі Хадкевіч вяселле княжну Слуцкую за Я. Міласць пана падчашага Радзівіла выдаўшы справіў, ніводнага як сенатара, так Іх Міласцяў Хадкевічаў сваіх павінных не маючы, толькі шляхту ваяводства брэскага без ніякіх цырымоній выканаў, добра пад позні вечар шлюб адправіўшы»[860] .

Як раз гэта з'яўляецца сведчаннем, што апекуны да апошняга моманту не пакідалі надзеі разарваць кантракты і пазбегнуць гэтага шлюбу.

Вянчанне Соф'і з Янушам выклікала вялікае незадавальненне іншых Хадкевічаў. Ян Караль Хадкевіч на працягу 1601—1602 гг. некалькі разоў падаваў на Геранімa Хадкевіча ў суд за тое, што выдаў Соф'ю замуж без яго згоды ў парушэнне дадзеных ім лістоў[861]. Аляксандр і Ян Караль Хадкевічы скардзіліся, што каплан, які даваў шлюб, пайшоў на гэта з-за грошай: «да надання шлюбу за грошы дазволіў» і пазней быў за гэта пакараны царкоўнымі ўладамі: «потым з капланскага урада магістрат духоўны разжалаваў, і бенефіцыі ўсе канфіскаваў»[862]. У красавіку 1602 г. Аляксандр і Ян Караль Хадкевічы паспрабавалі апратэставаць заключэнне шлюбу з-за адсутнасці дазволу ад Папы Рымскага і парушэнне артыкулаў Статута ВКЛ 1588 г. пра шлюбы паміж кроўнымі родзічамі, але поспеху не мелі[863]. Суд пастанавіў, што пасля Гелены Радзівіл і Аляксандры Астрожскай фаміліі нідзе не перакрыжоўваліся, таму блізкімі кроўнымі муж і жонка не могуць лічыцца і прэтэнзій да шлюбу нельга выстаўляць[864].

У дачыненні да заключэння шлюбу паміж пратэстантам і каталічкай Літоўскі трыбунал у рашэнні ад 13.04.1602 пастанавіў, што Януш дазволіць жонцы для вырашэння спрэчнага пытання прасіць ад Папы дыспензіі. Па яе атрыманні справа скончыцца і больш прэтэнзій да Геранімa Хадкевіча і Януша Радзівіла ад Яна Караля Хадкевіча не павінна быць[865].

Усе гэтыя бясконцыя цяжбы і спрэчкі, якія цягнуліся больш за пяць гадоў, вельмі змучылі маладых уласнікаў Слуцкага княства. Жыццё пасля шлюбу не спрыяла захаванню спакою.

Першыя месяцы прайшлі ў клопатах па ўрэгуляванні юрыдычных пытанняў з маёмасцю Соф'і. Апекуны патрабавалі тэрміновай перадачы ім абяцаных маёнткаў, выплаты ўсіх даўгоў родных Соф'і. Умовы прадугледжвалі, што ўсе лісты на перадачу маёмасці будуць пакладзены пасля шлюбу ў Брэсце перад земскім судом. У выпадку, калі б сесіі суда на той момант не было, усе справы адкладаліся б да сесіі Галоўнага літоўскага трыбунала ў Навагрудку і павінны былі быць вырашаны да 13 лістапада 1600 г. На чацвёрты дзень пасля шлюбу Соф'я і Януш былі павінны выехаць з Брэста, каб паспець у Мельнік[866] для перадачы Гераніму Хадкевічу правоў на Краснік паводле кароннага права[867]. Апекуны ласкава пагадзіліся перанесці справаздачу на адзін дзень, на 7 кастрычніка[868].

Паколькі ў пачатку кастрычніка 1600 г. гродскі і земскі суд у Брэсце сваіх пасяджэнняў не праводзілі, маладыя выехалі ў Мельнік, пакінуўшы разлічэнне па іншых пытаннях да сесіі Літоўскага трыбунала. У Мельніку 7 кастрычніка Соф'я перада-





ла правы на некаторыя маёнткі ў Кароне Польскай свайму быламу апекуну Гераніму Хадкевічу з умовай выплаты ўсіх сум, якія былі на ім запісаны на карысць трэціх асоб. Падараванне Красніка Гераніму Хадкевічу адбылося ў 1601 г. (бо, згодна з тэстаментам князя Аляксандра Алелькавіча, нашчадкам забаранялася прадаваць гэтыя землі)[869].

Усе маёмасныя справы, калі абставіны не патрабавалі асабістай прысутнасці ў судзе, вяліся прыдворнымі і слугамі Януша. Перадача маладым Слуцкага княства адбылася 15 кастрычніка 1600 г. Пакуль Януш і Соф'я былі ў Польшчы, па загадзе Януша яго давераныя слугі Даніэль Хайноўскі і Ян Сайбут накіраваліся ў Слуцк. Там ім, як прадстаўнікам літоўскага падчашага і яго жонкі, ад імя Гераніма Хадкевіча Іван Пакаш перадаў Слуцкае княства з замкам слуцкім, з 140 гакаўніцамі, 15 гарматамі і яго людзьмі, дварамі Івань, Пагост, Мацяевічы, Яцкі, Старое Сяло, Тонвы з усімі вёскамі, якія належалі да слуцкага замка, і слуцкія прывілеі. Даніэль Хайноўскі і Ян Сайбут у сваю чаргу перадалі замак слуцкі з усім да яго належачым мінскаму стольніку Юрыю Капашчэўскаму і Пятру Рдутлоўскаму[870]. Капашчэўскі быў прызначаны слуцкім намеснікам. Як бачна, Януш ужо праз некалькі тыдняў пасля вянчання, яшчэ не маючы гэтых зямель у сваім валоданні, прызначыў у Слуцк сваіх слуг. Толькі некаторыя былыя слугі князёў Слуцкіх патрапілі да двара і на службу да маладых уласнікаў Слуцка. Сярод іх былі прадстаўнікі Баяноўскіх, Уніхоўскіх, Трызнаў, Гурскіх. Значная колькасць старых слуг не проста не была прынята на службу, у іх адабралі зямельныя трыманні на карысць радзівілаўскіх слуг і прыхільнікаў.

У канцы кастрычніка 1600 г. маладая пара накіравалася ў Навагрудак на пасяджэнне сесіі Галоўнага літоўскага трыбунала. Там было неабходна асабіста афіцыйна



**Пячатка і подпіс Соф'і з князёў Слуцкіх Радзівіл.**
**AGAD. AR. Dz. XXIII. T. 116. Pl. 3**

зацвердзіць узаемныя разлікі з апекунамі, прызнаць наданні зямельных уладанняў старым слугам дому князёў Слуцкіх.

Соф'я згодна з папярэдняй дамоўленасцю з мужам і патрабаваннем яго бацькі згадзілася падараваць усю сваю маёмасць Янушу Радзівілу. У акце ад 30 кастрычніка 1600 г., які Соф'я з Янушам асабіста паклалі перад суддзямі Літоўскага трыбунала, было адзначана: «але з маёй добрай волі і шчырай міласці да яго княжацкай міласці пана мужа майго даю і тым лістом маім запісваю вечным неадменным і неадзыўным, а непарушным правам маёнткі мае ўласныя <...>»[871]. З гэтага моманту адзіным уласнікам спадчыны князёў Слуцкіх станавіўся Януш і ў выпадку бяздзет-





най смерці Соф'і на гэтыя землі не мог прэтэндаваць ніхто з яе кроўных родзічаў. У гэты ж дзень Януш і Соф'я на сесіі Літоўскага трыбунала паклалі ў трыбунальскія кнігі яе падзяку за выхаванне і далі квітанцыю Хадкевічам. Згодна з ёю Соф'я прызнавала, што яна выйшла з-пад апекі і атрымала свае спадчынныя маёнткі: «якія маючы мяне ў апецы сваёй за тыя ўсе гады з маладых год маіх не толькі мне самой добрасумленнае выхаванне паводле стану майго з вялікім коштам у накладам сваім даў. Але нават аддаўшы мяне з немалай людскою пахвалою ў стан светлы шлюбны маю маёмасць дзедзічную Слуцк <...> цалкам не толькі не з шкодаю, наадварот з прымнажэннем прыбыткаў <...> аддаць мусіў»[872].

Згодна з папярэднімі дамоўленасцямі ў ВКЛ Гераніму Хадкевічу павінны былі адысці Турэц, які і так знаходзіўся ў трыманні віленскага кашталяна як апекуна на пакрыццё яго штодзённых коштаў на выхаванне падапечнай, Ваўкалата і Вяйсее, якія ён за ўласныя грошы выкупіў з закладу. Петрыкоў і Колна адыходзілі да яго як плата за апякунства. Настойлівасць Гераніма Хадкевіча, які патрабаваў хутчэйшага разліку, таксама можна зразумець. Ён не толькі за свой кошт выплаціў частку даўгоў падапечнай, але і быў вымушаны бараніць ад нападу яе маёнткі ад сквапных суседзяў. Тыя не раз спрабавалі скарыстацца тым, што ўласніца была малой, і нападалі на яе ўладанні. Нягледзячы на тое, што частку маёнткаў староста брэсцкі аддаў у арэнду былым слугам Алелькавічаў (напрыклад, м. Старое Сяло Юрыю Гурскаму), яны аказаліся не ў стане самастойна справіцца з рабункамі і нанясеннем шкод[873]. Да таго ж раслі выдаткі і пазыкі самога апекуна. Ён быў вінен грошы не толькі Радзівілам, але і ўласным слугам. Так, у Пятра Рдутлоўскага за 1597—1602 гг. ён пазычаў тройчы, а вярнуць пазыку змог толькі ў 1603 г. з атрыманага ад Соф'і Колненскага[874].

На наступны дзень 31 кастрычніка 1600 г. у парушэнне папярэдніх дамоўленасцей Гераніму Хадкевічу былі перададзены толькі некаторыя маёнткі з абяцаных — Турэц, Петрыкоў і Колна, а таксама Дабрадзееўская воласць з мястэчкам Леніна на правым беразе Случы. Да 1594 г. гэтыя маёнткі, разам з Дабрадзееўскай воласцю і мястэчкам Леніна, трымала маці Соф'і Барбара з Кішак. Пасля яе смерці яны былі павінны перайсці ў спадчыну Соф'і, але фактычна імі карыстаўся другі муж маці, гомельскі староста Андрэй Сапега[875]. Таму было неабходна ўрэгуляваць шэраг пытанняў з ім. Пацвярджэнне перадачы названых маёнткаў Геранім Хадкевіч прадставіў у Літоўскім трыбунале на тыдзень пазней 5 лістапада[876]. Астатнія маёнткі, па якіх існавала дамоўленасць (Ваўкалата і Вяйсее), Радзівілы вырашылі не перадаваць у рукі Хадкевіча. Згодна з дамовай ад 13.06.1600 у якасці кампенсацыі Крыштаф Радзівіл быў павінен заплаціць Гераніму Хадкевічу 60 тысяч коп грошаў літоўскіх з уласных маёнткаў[877]. У выпадку неатрымання вызначанай сумы Хадкевічы мелі права ў любы момант выклікаць гетмана ў суд. Паколькі не была перададзена толькі частка маёнткаў, то і сума зменшылася да 30 тысяч коп грошаў. Не застаўся канчаткова вырашаны лёс зямель, якія раней Ян Сімяон Слуцкі пажыццёва запісаў сваёй жонцы.

На самой справе атрыманне «слуцкай спадчыны» не было для Радзівілаў вялікім падарункам. Усе землі былі абцяжараны пазыкамі, было неабходна заплаціць апекунам за выхаванне самой князёўны і кіраванне яе маёмасцю. Пасля некалькіх тыдняў сямейнага жыцця маладыя бачыліся рэдка. Муж амаль увесь час знаходзіўся на вайне ці ад'язджаў па гаспадарчых справах.





Пасля вырашэння неадкладных юрыдычных пытанняў Януш выехаў да літоўскага войска ў Інфлянты. Крыштаф Радзівіл, як вялікі гетман, патрабаваў прыбыць на попіс войска пад Зэльбаркам яшчэ 30 кастрычніка[878], але з-за занятасці ад'езд падчашага быў адкладзены. Аднак ужо 9 снежня Януш прымаў удзел у вайсковай нарадзе ў маёнтку Віганд.

Да жонкі ў Слуцк ён змог вярнуцца толькі 14 студзеня 1601 г. У новых уладаннях ён прабыў вельмі нядоўга, літаральна 2—3 месяцы. У той жа час з яго лістоў бачна, што ён планаваў выехаць да свайго палка, які быў даручаны паручыку Война. Аднак яго хуткаму ад'езду перашкодзілі частыя хваробы жонкі і дрэнны стан дарог у паўночным накірунку[879].

У другой палове красавіка 1601 г. ён зноў выехаў у Прыбалтыку, дзе пад кіраўніцтвам свайго бацькі разам з Янам Каралем Хадкевічам кіраваў войскамі ў авангардзе. Перадача гетманскай булавы Яну Каралю Хадкевічу ў гэты час яшчэ больш абвастрыла супрацьстаянне двух родаў — Хадкевічаў і Радзівілаў. Зацяжны канфлікт з-за «спадчыны князёў Слуцкіх» не спрыяў і дысцыпліне ў войску. Каталікі адмовіліся выконваць загады гетмана-кальвініста, а Крыштаф Радзівіл адмовіўся перадаваць частку войска Яну Каралю Хадкевічу, што ўскладніла ўзаемадзеянне падчас ваенных аперацый.

На пачатку чэрвеня 1601 г. асобныя атрады нарэшце злучыліся каля Кокенхаўза. Прабыўшы ўсе лета ў Прыбалтыцы, адзначыўшыся асабістай храбрасцю і ваенным талентам у бітве пад Кокенхаўзам у канцы ліпеня — пачатку жніўня 1601 г., Януш ад'ехаў у свае ўладанні. Аднак амаль адразу па прыездзе ў Слуцк яго зваліла цяжкая хвароба, якая мучала яго яшчэ пад Кокенхаўзам. Становішча здароўя было настолькі цяжкім, што пайшлі пагалоскі пра яго хуткую смерць і нават пачалі шукаць кандыдатаў на яго пасаду. Крыху ачуняўшы, з пастаяннай тэмпературай па раніцах, малады Радзівіл быў вымушаны ехаць у Вільню[880].

Фінансавае становішча слуцкіх зямель знаходзілася ў пагражальным стане. Януш не мог расплаціцца з усімі даўгамі ўласнымі грашыма, якія былі запісаны на маёнтках жонкі. Адзіным выйсцем стаў продаж часткі сваіх зямель. Усю восень, каб пазбегнуць такога кроку, ён шукаў грошы. Не было такога месца ў Літве ці Польшчы, нават у Круляўцы, куды б ён не пасылаў з просьбамі пра дапамогу. Ніхто не пагаджаўся даць яму настолькі вялікую пазыку, інакш чым пад 15—17 працэнтаў[881].

Бацька ў такой сітуацыі нічым акрамя спачування дапамагчы не мог. Усе яго сродкі былі адцягнуты ваеннымі дзеяннямі ў Інфлянтах. Крыштаф Радзівіл, як вялікі гетман, нёс на сабе значны фінансавы цяжар па забеспячэнні войск ВКЛ падчас ваенных дзеянняў. У выніку Януш заклаў усю маёмасць, пакінуўшы сабе на жыццё тры фальваркі, якія прыносілі ў год не больш за 1300 злотых, і гэта былі ўсе грошы, на якія ён мог разлічваць. Такі даход мог задаволіць толькі штодзённыя патрэбы ў харчаванні і нічога болей[882]. Адначасова ён пачынае шукаць пакупнікоў на некаторыя са сваіх зямель. Копысь яму прапанавалі купіць багатыя купцы браты Ломскія-Максімовічы.

Фактычна ўласнікі самага вялікага маёнтка ў Вялікім Княстве Літоўскім аказаліся на мяжы галечы. Сродкі пазычаліся ва ўсіх, хто іх даваў. Януш рабіў гэта, каб выплаціць тыя вялізныя грошы, якія патрабавалі Хадкевічы. Ён сам адзначаў, што павінен гэта зрабіць, бо Слуцк страціць было немагчыма, інакш які сэнс столькі год змагацца за яго[883].





Геранім Хадкевіч не стаў сплачваць пазыкі князёў Слуцкіх, якія былі запісаны на Красніку. Крэдыторы Аляксандра і Яна Сімяона звярнулі свае прэтэнзіі да адзінай іх спадчынніцы — Соф'і Алелькавіч. У такіх абставінах было прынята рашэнне апратэставаць падараванне Соф'яй Красніка Гераніму Хадкевічу і прадаць яго, каб пагасіць даўгі. Пажаданне атрымаць Краснік выказалі адразу некалькі чалавек: Ян Караль Хадкевіч, Януш Астрожскі і Ян Замойскі (іх маёнткі межавалі з Краснікам і Батожам), аднак ні ў каго з іх не было неабходнай сумы. Крыштаф Радзівіл пачаў весці перамовы пра продаж часткі красніцкага маёнтка з Янам Замойскім яшчэ ў верасні 1601 г., але справа зацягнулася на чатыры гады[884]. Калі Копысь цалкам належала Янушу і ён мог прадаць яе тэрмінова, то за правы на Краснік было яшчэ неабходна судзіцца з Хадкевічамі.

Соф'я і Януш склалі скаргу, што яна перадала красніцкі маёнтак апекуну пад прымусам. Януш і Крыштаф Радзівіл сцвярджалі, што Краснік не можа належаць Гераніму Хадкевічу, хаця князёўна і абяцала яму яго падараваць, бо раней (да перадачы яго апекуну) яна запісала ўсю сваю маёмасць мужу Янушу Радзівілу. Да таго ж староста жмудскі (Юрый), а потым і кашталян віленскі нічога не рабілі для абароны, выквітавання і іншых разлікаў за гэтую маёмасць, а значыць, і прэтэндаваць на яе не маюць права.

На сесіі Літоўскага трыбунала ў Мінску ў лістападзе 1601 г. маладыя Радзівілы здабіліся таго, што правы на Краснік перайшлі да іх. Гэты крок справакаваў новы віток судовых разбіральніцтваў, падчас якіх Геранім Хадкевіч паспрабаваў узяць рэванш за выданую на яго род баніцыю. Судовы працэс зацягнуўся больш чым на год і быў павінен канчаткова вырашыцца па пасяджэнні Літоўскага трыбунала 1—4 студзеня 1603 г.

Геранім Хадкевіч паклаў перад суддзямі Трыбунала на сесіі ў Менску 2 лістапада 1601 г. ліст, што Соф'я з дазволу Януша, у прысутнасці яго прыроднага брата, а свайго дзядзькі Крыштафа II Радзівіла, падаравала красніцкі маёнтак Гераніму Хадкевічу[885].

Віленскім кашталянам у адказ былі прадстаўлены і лісты самога ваяводы віленскага Крыштафа Радзівіла ад 13 чэрвеня 1600 г., што ён абавязуецца добраахвотна перадаць Краснік Гераніму Хадкевічу пасля шлюбу Соф'і і Януша пад зарукай ў 200 тысяч злотых. Паколькі ліст парушаны, то віленскі кашталян патрабуе ад Крыштафа Радзівіла выплаты зарукі. Ваявода віленскі адразу накіраваў да суддзяў ліст у Мінск з просьбай разглядаць справу аб правах на Краснік паводле права кароннага[886].

Суддзі разгледзілі дакументы, прызналі правату Гераніма Хадкевіча і абавязалі віленскага ваяводу выплаціць 200 тысяч злотых. У адказ Крыштаф Радзівіл стаў скардзіцца дэпутатам Трыбунала, што яны прызначылі вельмі высокія кошты выплаты, хаця на самім Красніку, які ацанілі ў 50 тысяч злотых, вісіць 80 тысяч злотых даўгоў і дажывотнае права старасціны жмудскай. Яна пагаджаецца яго саступіць, але толькі за выкуп у некалькі дзясяткаў тысяч злотых. Хаця пастанова папярэдняга сойма кажа, што гэта не з'яўляецца перашкодай для выплаты зарукі, ён просіць літасці да беднай сіраты і просіць грошы на выкуп Красніка прызначыць з сумы зарукі[887]. Хадкевіч у адказ паклаў у кнігі гарадзенскага гродскага суда патрабаванне прызнаць 200 тысяч злотых асабістым доўгам Крыштафа Радзівіла, а калі той яго не выплаціць, прызначыць яму выплату савіта (фактычна штраф) у памеры 400 тысяч злотых. Ад Соф'і патрабавалася да высвятлення канчатковага рашэння ніякіх скарг у суды не складаць[888].

Трыбунал прысудзіў вярнуць Краснік Соф'і[889]. Грошы на выкуп маёмасці можна было здабыць толькі з продажу іншага маёнтка. Выбар Януша паў на Копысь.

У выніку продажу Копысі братам Максімовічам Януш атрымаў 20 тысяч коп грошаў, яшчэ 20 тысяч удалося пазычыць. Аднак доўг Хадкевічам складаў 50 тысяч, і на працягу месяца Януш нідзе не змог іх знайсці.

Маёмасныя спрэчкі з былымі апекунамі і крэдыторамі, пераважна Яна Сімяона, на гэтым не скончыліся. 1 студзеня 1602 г. Геранім Хадкевіч адмовіўся ад спадчынных правоў на Краснік на карысць былой падапечнай і яе мужа. У выніку справа была перанесена на наступную сесію Літоўскага трыбунала, якая адбылася ў жніўні 1602 г.

У канцы студзеня 1602 г. Януш быў павінен ад'ехаць на Валынь на вяселле Элеаноры Астрожскай з Геранімам Язлавецкім. Невядома, ці паехала Соф'я з ім. У той жа час сапраўднай прычынай была неабходнасць продажу некаторых польскіх маёнткаў, атрыманых у спадчыну ад цёткі Гальшкі з Астрожскіх. На вяселлі Януш хацеў дамовіцца з дзядзькамі пра хутчэйшае размежаванне маёмасці Астрожскіх і яго долі. Само вяселле, нягледзячы на вялікі пасаг нявесты, было даволі сціплым, гасцей прыехала не шмат. Нягледзячы на гэта, свята аздобіў невялікі турнір («пара слуг коп'я ламалі»). Пасля кароткага побыту на Валыні Януш вярнуўся ў Слуцк[890].

Прадаць Краснік магла толькі сама Соф'я. Яна магла гэта зрабіць, не звяртаючы ўвагу на іншых кроўных родзічаў. Адзінай асобай, згода якой патрабавалася, быў яе муж. Права часта вымагала асабістай прысутнасці на пасяджэннях трыбунала. У выніку ў канцы лютага 1602 г., будучы цяжарнай, яна была вымушана разам з Янушам ехаць у Люблін на трыбунальскую сесію. З 23 сакавіка па 9 красавіка Януш разам з Соф'яй выдалі 23 (!) застаўныя лісты розным асобам, сярод якіх пераважалі слугі і прыяцелі біржайскіх Радзівілаў на маёнткі ў Наваградскім павеце. Іх крэдыторамі былі Адам Магільніцкі, слуга Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, Валянцін Высоцкі, Сымон Градоўскі, Юрый Гурскі, былы слуцкі намеснік бацькі Соф'і Юрыя III Алелькавіча. 16 красавіка 1602 г. яны паклалі дакументы на заставу сваіх маёнткаў у кнігі слонімскага гродскага суда[891].



**Аўтографы Соф'і і Януша з сыгнетамі.**
**AGAD. AR. Dz. XXIII. T. 116. Pl. 3**

1 мая 1602 г. бакі прадставілі свае аргументы на пасяджэнні трыбунала. Мэтай Радзівілаў было паменшыць суму выплочваемых грошай. Інтарэсы Крыштафа Радзівіла прадстаўляў Адам Кампарскі, Гераніма Хадкевіча — Ян Дрэвецкі. Аргумен-







**Вазы.**
**Малюнак. XVII ст.**

ты, што прыводзілі прадстаўнікі бакоў, дазваляюць нам рэканструяваць і падзеі, якія папярэднічалі шлюбу Януша і Соф'і.

Князёўна мела права перадаць Краснік і Батор як маёнтак дзедзічны толькі са згоды апекуноў ці родных. З ёй на судзе ў Мельніку былі павінны быць дзве асобы па бацькоўскай лініі ці два найбліжэйшыя кроўныя ці гербоўныя, якія б той даравальны запіс князёўны маглі дазволіць ёй зрабіць. Толькі па вышэйназванаму парадку князёўна мела права запісаць навечна пану віленскаму і яго сынам усю маёмасць у Кароне Польскай. Права прадугледжвала, што пан віленскі сам быў павінен задаволіць асоб, якія трымаюць ад князёў Слуцкіх вёскі ў гэтых уладаннях (выкупіць іх), і толькі тады Геранім Хадкевіч меў бы падставы прэтэндаваць на гэтыя маёнткі. Пан віленскі маёнтак не выкупіў, даўгі не сплаціў, падараванне на Краснік належным чынам не аформіў, і таму навечна тое ўладанне запісаць немагчыма.

Геранім Хадкевіч у адказ настойваў на выплаце зарукі і сведчыў, што Соф'я Алелькаўна ліст на Краснік паклала ў прысутнасці мужа, яго бацькі і Станіслава Мышкоўскага[892], падчашага люблінскага. Радзівілы даказвалі, што ніхто з пералічаных вышэй асоб блізкасці да спадку княгіні Слуцкай не мае. Сведкамі былі павінны быць ці князі Астрожскія, ці самі Хадкевічы, але яны з'яўляліся асобамі, зацікаўленымі пры вырашэнні гэтай справы. Магла б сведчыць іх сястра Гальшка Шэмет, але жанчына права сведчыць ці дазваляць распараджэнне маёмасцю не мела. Паколькі па мечу (мужчынскай лініі) найбліжэйшым родзічам быў ваявода кіеўскі князь Канстанцін Астрожскі, то ён бы мог прысутнічаць, але яго не было[893]. Запіс спадчынных маёнткаў князёўнай у такіх абставінах супярэчыць праву кароннаму, хаця яны і прызнаюць, што запіс Крыштафа Радзівіла на Краснік быў парушаны. У той жа час Краснік бацьку князёўны ніколі не належаў, пра што сведчыць дажывотнае права на яго старасціны жмудскай. Таксама не магла яна падараваць апекуну толькі частку маёнтка, вылучаючы з красніцкіх уладанняў Таргавіска і Закрэў, што даказвае парушэнне запісу з боку ваяводы віленскага. Адначасова Крыштаф Радзівіл не мог гарантаваць перадачы маёмасці князям Слуцкім, бо сам з яе нічога не мае.

Цяжкая дарога праз Івань, Слонім, Шарашоў, якая зацягнулася амаль на тры месяцы, і надвор'е, паленіка на пасяджэнні трыбунала падарвалі сілы маладой княгіні. На наступны дзень па прыездзе ў Люблін, 2 мая, Соф'я захварэла. Праз тыдзень у выніку хваробы яна на пятым месяцы параніла дзіця. Януш быў у роспачы. Ён успрыняў усе гэтыя падзеі як Божую кару для сябе. Маёмасць уся была абцяжарана даўгамі, пазыкі ніхто не даваў, у яго няма нават сродкаў, каб зняць прыстойнае жыллё ў Любліне, а жонцы патрабуецца спакой і лячэнне не меней чым на шэсць тыдняў. Яго жаль павялічваў той факт, што, па словах павітухі, яны страцілі сына, магчымага спадчынніка[894]. Жаль сына падзяліў і яго бацька. Крыштаф Пярун суцяшаў сына,




**Люблін.**

**Гравюра з альбома Г. Брауна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1617 г.**





кажучы, што параненні дзіцяці часта здараліся ва ўсіх яго жонак, але, нягледзячы на гэта, яны нарадзілі і вырасцілі здаровых дзяцей. Ён спадзяваўся, што хутка ў іх з'явяцца нашчадкі[895].

Нічога не вырашыўшы з лячэннем жонкі, Януш пакінуў Соф'ю ў Любліне, а сам рушыў у літоўскія маёнткі для ўрэгулявання спраў з іншымі крэдыторамі. Як выйсце з цяжкога фінансавага становішча ён разглядаў магчымасць хуткага продажу Красніка, але тэрмінова гэта зрабіць было немагчыма з-за адсутнасці грошай у патэнцыяльнага пакупніка. Ян Замойскі згаджаўся набыць яго часткова, толькі Баторскі ключ, які быў выдзелены ў асобную частку яшчэ Станіславам Тэнчынскім. У той жа час каронны гетман прасіў пачакаць, бо ўсе яго наяўныя сродкі паглынулі ваенныя дзеянні ў Прыбалтыцы[896]. Жаданне канцлера купіць Батож без Красніка не было падтрымана Янушам Радзівілам, ён хацеў прадаць увесь маёнтак, які быў для яго вялікім цяжарам па прычыне вялікай запазычанасці. Акрамя таго, Соф'я не хацела прадаваць гэты маёнтак, дзе знаходзіліся пахаванні яе родзічаў. Януш вагаўся, ён не хацеў крыўдзіць хворую Соф'ю, «бо ёй свае каханне малжонскае яшчэ ні ў чым не паказаў»[897]. 19 мая ён дамовіўся з яшчэ адным крэдыторам Яна Сімяона Малхерам Мікалаевічам Кослам перадаць яму правы на выплату даўгоў апошняга князя Слуцкага і адсунуць іх выплату. За 400 коп грошаў, якія Януш абавязаўся выплаціць67 Кослу ў Вільні на дзень Святога Барталамея, яму была павінна перайсці трэць камяніцы князёў Алелькавічаў на вул. Нямецкай у Вільні і частка Вакаў[898].





Ужо праз некалькі дзён ён быў у Івані, адкуль 24 мая вярнуўся ў Люблін.

Тым не менш паездка на пасяджэнне Люблінскага трыбунала дазволіла прыйсці да нейкай згоды з польным літоўскім гетманам. Ад імя сваёй жонкі Ян Караль Хадкевіч адмовіўся ад дажывотных правоў на Капыльскае княства, якое пераходзіла да Януша Радзівіла. Ва ўласнасць Яна Караля і Соф'і Хадкевічаў за 60 тысяч коп грошаў перайшлі Цімкавічы[899]. Вяйсее ў Гродненскім павеце перайшло ў рукі Гераніма Хадкевіча, які ў кастрычніку 1605 г. прадаў яе князю Масальскаму[900].

Пастановамі сесій Літоўскага трыбунала ад 18 і 30 чэрвеня 1602 г. кошт Красніка вызначаўся ў 50 тысяч злотых. Крыштафу Радзівілу ўдалося здабіцца памяншэння памераў зарукі. Згодна з рашэннямі дэпутатаў на карысць Гераніма Хадкевіча выплочвалася толькі 100 тысяч злотых. Віленскі кашталян пагадзіўся абмяняць Краснік на грошы, якія былі павінны выплочвацца на працягу трох гадоў. На ўвесь гэты тэрмін Краснік мог заставацца ў руках Гераніма Хадкевіча[901].

У Любліне на дзень Святога Барталамея (24 жніўня) 1602 г. ад імя Радзівілаў Ян Казаноўскі паклаў позву супраць Гераніма Хадкевіча. У ёй зноў была абскарджана сама працэдура перадачы маёмасці, якая адбылася з парушэннем нормаў права Кароны Польскай. Радзівілы настойвалі, што падараваць Краснік князёўна магла толькі з дазволу двух кроўных родзічаў з боку бацькі ці двух блізкіх і толькі родзічу. Геранім Хадкевіч, згодна з правам малапольскім і велікапольскім, не быў дзедзічам (г. зн. не быў спадчыннікам) гэтых зямель і таму не мог прэтэндаваць на іх.

Толькі праз некалькі гадоў удалося завяршыць продаж красніцкага маёнтка. Краснік у выніку быў прададзены Яну Замойскаму ў 1604 г. Каронны канцлер здабіўся пераходу да сябе сум, за якія гэтыя землі былі застаўлены князямі Слуцкімі. Былы красніцкі намеснік Мацей Бялынскі адрокся на яго карысць ад сваіх правоў на 50 тысяч злотых, забяспечаных на Красніку ў кошт пазыкі Яна Сімяона[902], Балтазар Цэтнер — на 30 тысяч, запісаных на Батожы і Баторскай Волі, а Андрэй Хржаноўскі (слуга Замойскага) перадаў яму правы на 12 тысяч злотых, запісаных на Вілкалазе. Таксама Замойскі ўзяў на сябе абавязак заплаціць усе даўгі, якія заставаліся на воласці, чаго ў свой час не захацеў зрабіць Геранім Хадкевіч[903]. Толькі на выкуп маёнтка Замойскі выдаткаваў не менш як за 120 тысяч злотых. Пэўная сума павінна быць выплачана і Янушу з Соф'яй. Хутчэй за ўсё гэта былі яшчэ 50 тысяч злотых, у якія ўвесь маёнтак быў ацэнены па рашэннях трыбунала ў 1602 г. У выніку такіх дзеянняў і дамоўленнасцяў афіцыйна Соф'я Алелькавіч у 1604 г. падаравала яму Красніцкую воласць, у якую ўваходзілі: места Краснік, вёскі Сухіня, Выжніца, Выжнянка, Будзынь, Кавенчын, Стружа, Сладкаў, Бліnaў, Батож, Здзіловіцэ, Поніквы, Жаб'я Воля, Атрочэ, Вілкалаз, Вымысл, Залессе, Воля Вілкалазка і частка Руднічкі[904]. У якасці кампенсацыі за страчаную маёмасць у 1604 г. Януш запісаў жонцы 50 тысяч злотых на сваім польскім маёнтку Венграў[905].

Пасля разлікаў з асноўнымі крэдыторамі Януш змог звярнуць увагу на сваю палітычную кар'еру і стаў бачыцца з жонкай яшчэ радзей. У 1603 г. ён быў выбраны паслом на сойм у Кракаве. На ім паслы выказалі падзяку Крыштафу Радзівілу (як найвышэйшаму гетману ВКЛ) і яго сыну Янушу за ваенныя перамогі ў Інфлянтах. Аднак гэта ніяк не паўплывала на яго палітычную кар'еру. Януш не толькі не атрымаў высокіх пазіцый пры двары ці ў войску, але нават і страціў трыманні, якія былі ў яго бацькі.



Пасля смерці Крыштафа Радзівіла ў 1603 г. староствы, якія той трымаў, перайшлі не да яго спадчыннікаў, як гэта часта бывала, а да Яна Караля Хадкевіча. Такім чынам, кароль яшчэ раз падкрэсліў сваё негатыўнае стаўленне да маладога амбіцыйнага Радзівіла. Калі памёр бацька, ён стаў лідарам адразу некалькіх палітычных сіл — праваслаўных і пратэстантаў. Пасля смерці ў гэтым жа, 1603 г., Аляксандра, апошняга сына Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага, вернага праваслаўю, Януш застаўся адзіным членам роду, які мог стаць правадыром праваслаўнай апазіцыі. Як галоўнага абаронцу праваслаўя Януша прызналі нават казакі (разам з гетманам Сагайдачным)[906]. З гэтага пункту гледжання цалкам лагічным выглядаюць і ўмовы шлюбнага кантракта з Соф'яй, па якіх ён абавязваўся абараняць праваслаўных вернікаў. У 1598 г. слуцкія мяшчане адмовіліся падпарадкоўвацца ўніяцкаму мітрапаліту Міхаілу Рагозу, а калі ён прыехаў у горад, закідалі яго камянямі. Новы мітрапаліт Іпацій Пацей здабыўся ад Гераніма Хадкевіча перадачы яму ў лістападзе 1599 г. вакансіі архімандрыта слуцкага Трайчанскага манастыра[907]. Святарства Слуцка і ваколіц не жадала яму падпарадкоўвацца, аднак пад прымусам Хадкевічаў «wszyscy duchowni i pospólstwo do unii się byli naklonili»[908]. Стаўшы гаспадаром, Януш Радзівіл, карыстаючыся правам апекі над царкоўнымі ўстановамі і згодна са шлюбным кантрактам, вяртае манастыры і цэрквы праваслаўным, выводзячы іх з-пад улады прадстаўнікоў уніяцкіх епіскапаў і мітрапаліта Пацея, прызначаных у Слуцкім княстве Хадкевічамі. Праваслаўныя перадаваліся пад непасрэднае кіраванне канстанцінопальскаму патрыярху[909]. Праціўнік уніі, ён забараніў далейшы пераход праваслаўных цэркваў у сваіх маёнтках ва ўніяцтва. Іпацій Пацей скардзіўся на Януша, які выгнаў з манастыра ўніяцкага архімандрыта Афанасія Герасімовіча, пішучы, што гэта Соф'я паўплывала на яго ў дадзеным пытанні, хаця прызнаваўся, што і самі мяшчане ўпарта яму супраціўляліся. Тут магло прысутнічаць і жаданне Януша зрабіць прыемнае жонцы і выканаць свае абавязкі як апекуна праваслаўных.



**Аляксандр Астрожскі.**
**Невядомы мастак. XVII ст.**

Януш, які меў вялікія палітычныя амбіцыі, не мірыўся са сваімі малымі ўрадамі. Удзел у ваенных дзеяннях у Інфлянтах, жорсткая пазіцыя па пытаннях узаемаадносін з Маскоўскай дзяржавай (Януш быў праціўнікам ваенных дзеянняў і падтрымкі Лжэдзмітрыя), асабістыя варожыя адносіны з Я.К. Хадкевічам не спрыялі далейшай ваеннай і палітычнай кар'еры Януша. Да таго ж у 1605 г. князь Канстанцін Астрожскі перадаў пад яго апеку віленскае праваслаўнае брацтва, якое ў той час вяло барацьбу з уніяцкім мітрапалітам Пацеем.

Актыўная абарона інтарэсаў дысідэнтаў ва ўмовах Контррэфармацыі, якую актыўна падтрымліваў кароль, не магла спрыяць паляпшэнню іх адносін. У адказ Януш перайшоў да адкрытай апазіцыі караля.

Чалавек, які ўсё свядомае жыццё рыхтаваў сябе, як ён сам пісаў, «да службы Айчыне», да палітычнай і ваеннай кар'еры, быў недаспадобы, фактычна пазбаўлены доступу да дзяржаўных пасад. Зразумела, што гэта занятасць, фінансавыя праблемы, выбуховы характар Януша, нерэалізацыя яго спадзяванняў не спрыялі добраму разуменню паміж нарачонымі. Соф'я не вызначалася моцным здароўем, і таму бачыліся яны нячаста. Фактычна кожны вёў сваё асобнае жыццё. Януш вольны час усё часцей бавіў у таварыстве каханак. Звестак у лістах Януша пра Соф'ю не вельмі шмат, нават амаль не сустракаецца традыцыйных прывітанняў ад жонкі, паведамленняў пра стан яе здароўя ці нараджэнне дзяцей.

Сведчаннем таго, што яна не сядзела ўвесь час у Слуцку, з'яўляюцца вельмі скупыя звесткі пра закладанне ёю каштоўных рэчаў ці пазычанне грошай у Любліне, Вільне. Так, у пачатку мая 1604 г. па яе распараджэнні слуцкі намеснік Юрый Капашчэўскі заклаў віленскаму купцу Якубу Блашэвічу ўпрыгожванні княгіні (канакі са смарагдамі і брыльянтамі, нашэнне з рубінамі, ланцугі залатыя, перлы ў скрыначцы) на 720 коп грошаў[910]. У Вільні Януш з Соф'яй пасяліліся ў радзівілаўскім двары на вул. Святога Яна. У княгіні былі асобныя пакоі ў мураваным крыжовым доме, каля якіх размяшчалася капліца. Для яе Соф'я асабіста перадала каштоўнае атласнае абабіцце. Стары палац князёў Слуцкіх быў перададзены для размяшчэння слуг.

Пэўны час Соф'я жыла ў Слуцку, але не вызначылася актыўнай дзейнасцю як у гаспадарчых, так і ў рэлігійных пытаннях. Большасць дакументаў, якія засталіся ад яе бацькі ў грамадскім жыцці, — гэта менавіта розныя граматы, лісты і пацвярджэнні на карысць розных праваслаўных цэркваў. Адзіная фундацыя Соф'і, падпісаная яе апекунамі для касцёла ў Бранавіцах, была анулявана Янушам пасля заключэння шлюбу як зробленая непаўналетняй. Фактычна самым актыўным апекуном праваслаўных у азначаны перыяд быў яе муж.

Зразумела, што ва ўмовах жорсткай рэлігійнай і палітычнай барацьбы, клопатаў пра выплату пазык і прывядзенне маёмасці ў парадак Соф'я аказалася ўцягнута ў кола падзей, аднак актыўнаму ўдзелу ў іх перашкаджала яе слабое здароўе[911]. Хутчэй за ўсё і яна сама, і яе продкі на працягу трох пакаленняў цярпелі ад нейкай хваробы, што не давала ім актыўна ўдзельнічаць у грамадска-палітычным жыцці краіны, часта пераязджаць з месца на месца і заўчасна звяла ў магілу. Акрамя таго, ці падчас свайго замежнага вяжу, ці пазней Януш захварэў на сіфіліс. Ужо ў 1600 г. родзічы дакладна ведалі прычыну яго недамаганняў, уздыму тэмпературы, слабасці і нават раілі адпаведных лекараў і дасылалі лекі[912]. Падобна, што ён перадаў хваробу і маладой жонцы, што і стала прычынай невынашвання некалькіх цяжарнасцей. За сваё нядоўгае жыццё яна была вымушана неаднаразова звяртацца да паслуг лекара.

Да таго ж дадаўся галосны скандал, які абмяркоўвала ўсё грамадства. Соф'я стала сустракацца са слугой мужа татарынам Янам Смольскім (Асмольскім). Ян Смольскі паходзіў з татарскага роду, які асадзілі Радзівілы на сваіх землях. Старэйшы з трох братоў Ян быў узяты на службу да Януша, але даволі хутка стаў аказваць розныя паслугі і Соф'і. Аднойчы ён адпрасіўся ў свайго гаспадара наведаць бацьку, а сам паехаў да княгіні ў Слуцк. Там усё і адкрылася. Януш таксама накіраваўся ў цэнтральную




рэзідэнцыю сваіх уладанняў. Даведаўшыся пра прысутнасць Смольскага ў спальні жонкі, Януш загадаў выламаць дзверы і схапіць слугу «на гарачым». Згодна са Статутам ВКЛ 1588 г., гэта пагражала абодвум палюбоўнікам смяротным пакараннем. Смольскі паспеў выскачыць у акно і збег да Львова. У якасці доказу яго прысутнасці ўдалося знайсці толькі яго каня, які стаяў пад сядлом. Праз некаторы час слугі Януша знайшлі Смольскага ва Львове. Пры ім былі знойдзены бранзалеты, завушніцы, ланцугі, пярсцёнкі і іншыя каштоўныя ўпрыгожванні, якія належалі Соф'і, а таксама тысяча злотых. Ён быў абвінавачаны ў крадзяжы княжацкай маёмасці і арыштаваны. Паколькі татарын не быў шляхцічам, было прынята рашэнне перадаць яго на суд пана. Слугі прывезлі Смольскага да князя ў Бранск на Падляшшы. Той загадаў пакараць нявернага слугу на смерць — надзець на шыю камень і ўтапіць у ставе на вачах у Соф'і. Княгіня не стала яго абараняць, бо за нявернасць ёй таксама пагражала смяротнае пакаранне. У яе вусны Валерыян Неканда Трэпка ўклаў фразу, якую потым доўга ўспаміналі ў падобных выпадках: «па смачным кавалку і вады напіцца не перашкодзіць»[913]. Магчыма, яна і была сказана ў дачыненні да гэтага здарэння кімсьці пры двары Януша Радзівіла, бо менавіта гэты выраз скарыстаў у сваім творы «Смачны кавалак» прыдворны паэт і гувернёр Радзівілаў Д. Набароўскі. Афіцыйна ў родзе Радзівілаў прытрымліваліся версіі пакарання слугі за крадзеж маёмасці. Менавіта такая фармулёўка будзе прапанавана ў 1607 г. Крыштафам Манвіду Дарагастайскаму, які апынецца ў аналагічнай сітуацыі. Яго жонка Соф'я Мікалаеўна з Радзівілаў (дарэчы, яе першым мужам быў апякун Соф'і Алелькавіч Юрый Хадкевіч) здрадзіць мужу з бедным шляхцічам Станіславам Тымінскім. Каб не дапусціць разводу, на чым настойваў падмануты маршалак літоўскі, яму параілі скарыстаць спосаб вырашэння справы, ужыты Янушам Радзівілам[914].

Пасля гэтых падзей імя Соф'і на некалькі гадоў знікае з лістоў яе мужа і яго родных. Мы вельмі мала ведаем пра яе жыццё ў 1606—1612 гг. Да 1605 г. успаміны пра яе сустракаліся ў розных дакументах: асабістых лістах, судовых позвах і рашэннях. Родныя Януша Радзівіла імкнуліся ўключыць пару ў сваё кола. Для маладой пары Крыштаф Радзівіл у якасці падарунка прыслаў адмыслова квашаную ласасіну. Соф'і яна прыйшлася да вялікай спадобы, за што яна асабіста дзякавала свёкру[915]. Пасля 1605 г. нам не ўдалося знайсці яе імя не толькі ў лістах асоб, блізкіх да Радзівілаў, але і ў лістах яе іншых адрасатаў.

Расчараванне ў палітыцы каралеўскага двара прывяло Януша ў стан змоўшчыкаўракашан. Узброенае выступленне супраць караля, падтрымка М. Зэбжыдоўскага, удзел у ваенных дзеяннях паставілі крыж на яго магчымай палітычнай кар'еры ў ВКЛ. З дапамогай родзічаў Янушу ўдалося атрымаць у 1608 г. каралеўскае дараванне за ўдзел у рокашы, але ў выніку Януш з сям'ёй быў вымушаны з'ехаць у эміграцыю.

Хуткаму ад'езду паспрыяў і канфлікт, які зацягнуўся ў сям'і. Забраўшы жонку, Януш Радзівіл накіроўваецца праз нямецкія дзяржавы ў Швейцарыю. Пакінуўшы Соф'ю з яе дваром у Базылі пад наглядам свайго даверанага слугі Давіда Залда, у канцы 1609 г. ён паехаў да французскага двара. Не здолеўшы рэалізаваць сябе дома, Януш спрабуе зрабіць ваенную кар'еру ў Францыі. Генрых IV Наварскі не забыўся пра маладога магната, які падараваў яму калісьці пры асабістай сустрэчы коней з бацькавых табуноў. Акрамя таго, Януш падтрымліваў актыўную перапіску з французскімі маршаламі і генераламі[916]. Ласкавы да яго Ген-








**Базыль.**

**Й. Штумпф. «Швейцарская хроника». 1548 г. Гравюра з альбома Г. Браўна і Ф. Хогенберга «Civitas orbis terrarum». 1572 г.**

рых Наварскі нават збіраўся даручыць яму кіраўніцтва войскамі ў Германіі, аднак забойства караля перакрэсліла гэтыя планы[917].

У канцы 1610 г. Януш з Соф'яй вяртаюцца на радзіму. Ужо на наступны год Соф'я зноў зацяжарыла, але адчувала сябе не вельмі добра і ўвесь час жыла ў падляшскіх маёнтках Радзівілаў (Бранск, Амелянец), амаль ні з кім не сустракаючыся. Пра яе дрэннае здароўе ўскосна сведчыць і той факт, што яна пачала рыхтаваць тэстамент, пакінуўшы нататкі з распараджэннем па асабістай маёмасці[918]. У спісе маёмасці, які быў складзены адразу пасля яе смерці, таксама занатаваны





**Ліст Януша Радзівіла да Льва Сапегі. 1612 г.**
**ЦДІАУК. Ф. 48. Воп. 1. Спр. 497**

**Адварот ліста Януша Радзівіла да Льва Сапегі. 1612 г.**
**ЦДІАУК. Ф. 48. Воп. 1. Спр. 497**

«апцечка з рознымі парашкамі, алейкамі, мазямі», розныя медыцынскія прыстасаванні (клісціры, клізмы), што кажа пра яе нездароўе.

Пасля нараджэння ў Амелянцы дачкі Кацярыны, якая жыла вельмі нядоўга, праз некаторы час, 9 сакавіка 1612 г., памірае сама Соф'я. Падобна, што родныя мужа не даравалі ёй скандалу, ды і сам Януш пра сямейныя адносіны не расказваў. Нават члены роду Радзівілаў дакладна не ведалі пра стан здароўя і прычыны яе смерці. Вось як пісаў пра гэтыя падзеі Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка: «Пра смерць пані падчашынай ужо то пэўна, і ўжо і цела жа Слуцка адвезена. Адні робяць выгляд, што яна была цяжарная, іншыя, што не, але мыслю, што была, і так хацела, што расла ў жываце як і дзіцёнак, але здарыўся кадук[919] і той яе ўмарыў, але ў цяжарнай жанчыны не бывае кадука. Яго Міласць пан падчашы вельмі жалобны, не бачыўся з Яго Міласцю яшчэ ў тым яго жалю, але меў ад яго пісанне, у якім кажа мне пра пахаванне. А той хацеў бы пасля Вялікдня адправіць, на якім сумняваўся, каб мог быць, бо такса чакаем на хуткае маё пахаванне»[920].

Януш вельмі спяшаўся пахаваць жонку. Да нас дайшлі толькі лісты, дзе блізкія людзі выказваюць яму спачуванне і разуменне тэрміновага пахавання, але нічога дакладней пра гэтыя прычыны не пішуць. Ужо 23 сакавіка Януш уступае ў валоданне ўсімі маёнткамі. Тэстамент Соф'я напісаць не паспела, запісаўшы толькі тое, што «мела ў руках», сваім прыдворным дамам[921]. Пані Казноўскай, Вольскай, Ваканера, Тшыньскай і нейкай Гальшцы (хіба, служанцы) былі запісаны прадметы адзення — сукенкі, плашчы, спадніцы. Уся астатняя рухомая маёмасць, а набралося яе няшмат (адзенне, упрыгожванні, пасцель, бялізна і кнігі), павінна была перайсці ва ўласнасць Хадкевічаў.

Хадкевічы патрабавалі, каб Янушу адышла толькі маёмасць Соф'і на 1600 г.




Землі Забярэзінскія і Мядзельскія, атрыманыя пазней (працэс па ім цягнуўся амаль сто гадоў паміж Радзівіламі, Алелькавічамі, Вішнявецкімі і іншымі прэтэндэнтамі), павінны былі перайсці Хадкевічам. Грошы, аправа і рухомыя рэчы, маёмасць, што была запісана Янушам Соф'і (на Венграве 50 тыс. зл.), паколькі не было тэстамента, таксама павінны былі перайсці Хадкевічам. Ужо праз год гэта падзялілі паміж сабой Геранім Хадкевіч і Лізавета з Хадкевічаў Шэмет. Прэтэнзіі на астатнія маёнткі князёў Слуцкіх былі адхілены, бо яны з'яўляліся асабістай уласнасцю Януша дзякуючы падаравальным лістам Соф'і[922]. Тым не менш родзічы — дзядзька Соф'і па маці Мікалай Кішка і сыны Гераніма і Аляксандра Хадкевічаў — спрабавалі атрымаць Слуцкія землі яшчэ ў 1631 г.

Цела Януш вырашыў перавезці з Амелянца і пахаваць у родавым цэнтры жонкі. За дапамогай ён звярнуўся да свайго швагра канцлера Льва Сапегі. Той адразу папрасіў віленскага біскупа Бенедыкта Войну паспрыяць пахаванню цела Соф'і па каталіцкаму абраду ў праваслаўнай царкве. Такі дазвол мог спатрэбіцца толькі ў выпадку змены ёй веры ці правядзення набажэнства не ў каталіцкім касцёле. Зразумела, што капланы былі павінны атрымаць дазвол на правядзенне цырымоніі ў праваслаўнай царкве. У той жа час манастыры і цэрквы ў Слуцку знаходзіліся пад кіраўніцтвам канстанцінопальскага патрыярха, які не быў падначалены віленскаму біскупу. Зразумела, што Бенедыкт Война не мог цалкам станоўча адказаць на такую просьбу, спасылаючыся на шэраг абмежаванняў[923]. Пахаванне было прызначана на 28 мая 1612 г.[924]. На адвароце ліста Януша да Льва Сапегі з запрашэннем на пахаванне ёсць значна пазнейшая нататка, якая падае звесткі, як яно адбылося. Што цікава, падаецца гэта як анатацыя да ліста, хаця ў самім тэксце ліста такая інфармацыя не ўтрымліваецца. У ім Януш запрашае Сапегу прыехаць у Слуцк і аддаць апошнюю службу памерлай жонцы і запэўнівае ў сваіх паслугах і гатоўнасці да службы швагру, а ў нататцы пададзена: «Xze Janusz Radziwił Podczaszy List na pogrzeb swey zony zaprasza Lwa Sapiehe a daie znac ze mnichow od ciała renocowano po<...>aiąc iaką s excommuniką na zmarła xięznę musi tedy pogrzeb odprawic w monasterze 1612»[925]. Хто рабіў такую заўвагу і адкуль узяты звесткі — невядома.

Прычын, па якім жанчына, якая ўсё сваё жыццё прызнавала сябе каталічкай, аказалася пахавана ў праваслаўным храме, можна назваць некалькі. Па-першае, гэта не было надзвычайным фактам, бо на зломе XVI—XVII стст. некаторыя католікі, калі не фундавалі ўласны храм ці капліцу, прасілі пахаваць сябе ў храме, фундаваным продкамі. Жанчын часта хавалі разам з іх продкамі, асабліва калі яны былі спадчынніцамі ці апошнімі прадстаўніцамі славутых родаў (Соф'я Тарноўская Астрожская — у Тарнове). Нярэдка яны самі агаворвалі такія пажаданні ў тэстаментах (К. Тэнчынская), але гэтыя пажаданні маглі быць выкананы не заўжды, па не залежных ад родзічаў абставінах.

Па-другое, гэта магло быць рашэннем Януша, які такім чынам хацеў замацаваць сувязь паміж домам Радзівілаў і дынастыяй Ягелонаў. Ды і сама Соф'я, як апошняя прадстаўніца роду, магла выказаць пажаданне быць пахаванай у родавым цэнтры. Па-трэцяе, яна магла быць ахрышчана, як сцвярджаюць прадстаўнікі праваслаўнай царквы, у праваслаўе, а выхавана як каталічка. Як бачым, версій існуе мноства. Разважаць на гэты конт можна бясконца, пакуль не будзе знойдзена дакументаў, што канкрэтна адказваюць на гэтае пытанне.

Як мы ведаем, свінцовы саркафаг Соф'і Слуцкай на пачатак XX ст. знаходзіўся ў






MARMORIS INSCRIPTIO.

ÆVITERNITATI S.
MAGNORVM LITVANIÆ DVCVM
SVRCVLO,
SEV VERIVS GEMMÆ,
SOPHIÆ OLELKOVICIÆ,
PATRE, AVO, PROAVO
GEORGIO,
ABAVO SIMEONE, ATAVO MICHAELE,
IN SLVCKO ET KOPYL DVCIBVS,
TRITAVO OLELKONE
VLADIMIRI KIOVIÆ DVCIS,
IAGELLONIS REGIS POLONIÆ FRATRIS,
FILIO.
OLGERDI MAGNI DVCIS LITVANIÆ
NEPOTE
GEDIMINI PRONEPOTE
VITENIS ABNEPOTE:
MATRE VERO BARBARA,
NICOLAI KISSCÆ
PALATINI PODLACHIÆ FILIA
SATÆ.

IANVS


IANVS RADZIVIL, DVBINCORVM
AC BIRZARVM IN SLVCKO ET KOPYL
DVX, MAGNI DVCAT. LIT. SVPRE-
MVS POCILLATOR, ETC.
MOESTISSIMVS CONIVX
CONIVGI DESIDERATISS.
FOEMINÆ ET GENVS ET FORMAM,
NEC NON VIRTVTEM,
ÆVO SVO CLARISSIMÆ
NON ABSQVE LACRVMIS
H. M. P.
VIX. AN. XXV. M. X. D. VI.
IN MATRIMONIO,
AN. XI. M. V. D. IIX.
OB. AN. DN. M. DC. XII.
MENS. MART. D. IX.

APPOSITA MAIORIBVS SVIS
SLVCIÆ IN MONASTERIO.
B. VIRGINIS CHRISTIPARÆ
A. D. VI. CAL. IVN.
AN. DN. M. DC. XII.

E MONV-

**Надпіс на мармуровым надгробку Соф'і Юр'еўны Слуцкай.**

С. Рысінскі. «Variorum monumentorum decas». 1614 г.

правым прытворы праваслаўнага сабора Святой Тройцы ў Трайчанскім манастыры ў Слуцку. Яго бачылі падчас свайго наведвання Слуцка А. Снітко і Ё. Смольскі[926]. Аднак там цела захоўвалася не ад пачатку, што выклікала блытаніну ў пазнейшых працах, прысвечаных Соф'і і яе сям'і. Т. Васілеўскі ў сваёй біяграме Януша Радзівіла адзначыў, што Соф'я Слуцкая была пахавана ў замкавай саборнай царкве Святой Тройцы[927]. Не зусім зразумела, пра што ідзе гаворка, бо замкавыя цэрквы ў Слуцку былі асвечаны ў гонар Святой Варвары і Успення Багародзіцы. Саборнай была менавіта апошняя. Саламон Рысінскі ў сваім творы 1614 г., прысвечаным памерлым прадстаўнікам роду Радзівілаў, у анатацыі да панегірыка Соф'і Слуцкай адзначыў, што Соф'я, адпаведна сваім папярэдніцам, была пахавана ў Слуцку ў манастыры Дзеў Хрыстовых[928]. Такі манастыр у Слуцку быў адзін — жаночы манастыр Святога Іллі. Што цікава, акрамя эпітафіі да гэтага пахавання Рысінскі напісаў яшчэ адну, на кенатаф. Зусім не зразумела, дзе гэты кенатаф мог быць пастаўлены.

Нягледзячы на тое, што Януш Радзівіл у сваім тэстаменце адзначыў месцам пахавання сваёй жонкі сабор Святой Тройцы, яшчэ ў 1660 г. цела знаходзілася ў манастыры Святога Іллі, а падчас ваенных дзеянняў 1656—1667 гг. было перанесена ў замкавую царкву: «Цела княжны Яе Міласці паставілі мы на замкавай царкве ў зруб ў зямлі з дрэва выбудаваўшы, але там воды і зараз з снегу і з дажджоў шмат набіраецца, мабыць прыйдзецца з цэглы змураваць. Там жа і княжны Яе Міласці Слуцкай алавяная труна, якая ў жаночым манастыры стаіць перанесена, што калі ВКМ дазволіш нам даць сваю дэкларацыю»[929]. На жаль, Шыман Акольскі, яшчэ


CENOTAPHIVM.
SVBSISTE HOSPES
QVISQVIS ES
ET VIDE
MINVTA, MAGNA, SVMMA, IMA.
INVENIES
ÆTERNVM SVB IOVE NIHIL.
IMO
MOMENTO TEMPORIS
MAXIMARVM RERVM MOMENTA
SVBVERTI, EVERTI.
RERVM VERO? QVIN ADEO
REGNORVM; POPVLORVM, FAMILIARVM
DENIQVE
SINGVLORVM HOMINVM,
QVA SECLVM, QVA SEXVM.
VEL NVPER
QVAM CITO SPEM PRÆTER CORRVPTA SVB AXE TRIONVM
SIDERIS ARCTOI CASSIOPEA DECVS.
SOPHIA INQVAM OLELKOVICIA
GENVS ALTO A SANGVINE REGVM
MAGNORVMQVE LITVANIÆ DYNASTARVM
PROPAGO
ILLVSTRISSIMÆ SCILICET ET ANTIQVISSIMÆ
SLVCENSIVM DVCVM
PROSAPIÆ
VNICA ATQVE VLTIMA
HÆRES.
ILLV-

ILLVSTRISSIMI BIRZARVM
AC DVBINCORVM PRINCIPIS
IN M. D. L. POCILLATORIS SVPREMI
IANVSSII RADIVILII
FIDISSIMA CONSORS:
MATRONARVM SVI SECVLI
S I.
VIRTVTIS PRÆSTANTIAM
GENERIS EXCELLENTIAM
FORMÆ DIGNITATEM
FORTVNÆ SPLENDOREM
LYNCEVS SPECTES
FACILE PRINCEPS.
VTERO GRAVIS,
PVERPERIOQVE PROXIMA
INSPERATO OPPRESSA PAROXYSMO
PRÆMATVRE
HEV TENVE CLOTHVS FILVM!
MATVRO ET DVRATVRO
MOESTISSIMI CONIVGIS
CVM LVCTV
VII. ID. MART.
DENATA
ANNO
ÆRÆ CHRIST. CIƆ. IƆC. XII.
ÆTATIS SVÆ
CLIMACTERICI QVARTI
QVINCTO.
D iij NÆNIA.

**Кенатафіум Соф'і Юр'еўны Слуцкай.**
**С. Рысінскі. «Variorum monumentorum decas». 1614 г.**

адзін сучаснік усіх гэтых падзей, у сваёй кнізе пісаў без удакладнення месца пахавання: «Апошняя княгіня слуцкая пахавана ў рускай царкве, хаця была каталічкай, муж яе ерытык паклапаціўся пра гэта. Ёй эпітафію тут паклаў»[930]. Над яе пахаваннем Януш Радзівіл загадаў выбіць на разбітай пазней мармуровай пліце эпітафію, складзеную Рысінскім: «D.O.M.S. Magnorum Lithuaniae Dynastarum Propagini ex Illustris Sluciae ac Kopyli Ducum Familia Eheu. Ultimae Zophiae Olelkowicae, Patre, Avo, Proavo Georgio Abavo Simeone, Atavo Michaele in Slucko et Kopyl Ducib, Tritavo Olelkone Wladimiri Kyoviae Ducis, Jagiellonis Poloniae Regis Fratris F. Olgerdi Mag: Lith: Ducis Nepote Gedimini Pronepote, Witenis Abnepote. Matre Vero Barbarae ex Jllustri Kischkarum Fam. Prognatae. Janussius Radzivil, Birzarum ac Dubinki, Slucko et Kopyl Dux, Mag: Ducatus Lithuaniae Supremus Pocillator etc.etc.etc. Moestissimus Conjux Conjugi desideratiss: Foeminae et Genus et Normam nec non Virtutem aevo suo Clarissimae, non absque Lacrymis P. Vixit An: XXX Men: X.D.VI. in Matrimonio An: XI. Men V.D. VIII. Catharina Filia quae horis XVI. Supervixit. Filio primo Suscepta Secundo abortiom passa, Tertio partui vicina Obijt An: MDCXII Men: Mar: Die IX»[931].

У выніку труна Соф'і магла быць перанесена з яшчэ дзвюма жаночымі пахаваннямі (жонкі Януша II Радзівіла Марыі Лупы і дзіцячай труной) з замкавай царквы да сабора Святой Тройцы толькі пасля яго вымуравання ў 1666 г. Але і там яна некалькі разоў пераносілася з месца на месца. У крыпце Троіцкага сабора Трайчанскага манастыра пад прэсбітэрыумам яе свінцовы саркафаг захоўваўся да 1903 г., потым Соф'я была перанесена ў манастырскую капліцу, дзе яе яшчэ ў 1904 г. бачыў Ё. Сма-

лінскі. Ён не толькі апісаў, але і сфатаграфаваў труну Соф'і. У свінцовы саркафаг была ўкладзена драўляная труна. Пасля яе перанясення было зроблена новае пакрыццё з чырвонага сукна. Царкоўныя ўлады, якія не разбіраліся ў геральдыцы, размясцілі на ім не герб Алелькавічаў, а асабісты пяціпольны герб Януша князя Астрожскага з надпісам у кола «блаженны плачушчіи ибо они утъшания»[932]. Рэнесансная труна Марыі Лупы разам з труной дзяўчынкі, маці якой у розных крыніцах называлася і Соф'я, і Марыя, засталася ў скляпеннях крыпты, уваход у якія быў замураваны ў прамежак паміж 1904 і 1911 гг. Мармуровы помнік апошняй прадстаўніцы князёў Алелькавічаў-Слуцкіх, на жаль, да нашых дзён не захаваўся.

У 60-х гг. XVII ст. з'яўляецца яшчэ адно надмагілле Соф'і княгіні Алелькавіч-Слуцкай. Гэта была лацінамоўная пліта-прысвячэнне Соф'і Алелькаўне без паказання месца пахавання і звычайнага для такіх надпісаў пераліку заслуг. Пакладзена яна была не родзічамі, а архімандрытам слуцкім Самуэлем Залескім і мітрапалітам кіеўскім Пятром Магілай[933]. Надпіс на пліце супярэчыць у біяграфічных звестках такому ж кенатафу бацькі Соф'і (маці Соф'і на яе пліце названа Барбара Кішчанка, а на пліце бацькі — Кацярына Кішчанка), бо стварaліся яны праз 50—70 гадоў пасля згасання мужчынскай лініі роду. Надпіс на пліце ў Лаўры цалкам супадае з мемарыялам, перапісаным Янам Пякальскім, і адрозніваецца ў некаторых момантах ад надпісу на мармуровым надмагіллі са Слуцка, разбітым на кавалкі ў сярэдзіне XVII ст.[934]. Усё паказвае, што Залескі скарыстаўся эпітафіяй Рысінскага, створанай па загаду Януша Радзівіла. Надпіс даводзіць радавод князёў Алелькавічаў да Віценя (Witenis), назы-








**Труна з мошчамі Соф'і Юр'еўны Слуцкай у Трайчанскім манастыры. Пачатак XX ст.**







**Абраз з выявай Соф'і Юр'еўны Слуцкай**

ваючы яго бацькам Гедыміна. Фактычна мы можам прызнаць гэтыя пліты (калі яны і існавалі) помнікамі ў гонар прадстаўнікоў славутага роду, але яны не з'яўляюцца сведчаннем іх пахавання ў Лаўры ці паказчыкам веравызнання.

Такім чынам, калі пагалоскі падзелу спадчыны апошняй прадстаўніцы роду зацягнуліся яшчэ на некалькі дзесяцігоддзяў пасля яе смерці, то спрэчкі пра яе веравызнанне і месца ў гісторыі беларускага грамадства ідуць дагэтуль.

Сёння Соф'я Слуцкая прызнаецца праваслаўнай царквой мясцовашанаванай святой. Хаця кананізацыі яе не было, ужо ў пачатку XX ст. маскоўскім патрыярхатам выдаецца яе жыціе, а 19 сакавіка прызнаецца днём шанавання. Прычынай надання ёй гэтага статусу стала некалькі фактараў — прыналежнасць Соф'і да знакамітай праваслаўнай фаміліі, праваслаўныя апекуны — князі Слуцкія, асабістая апека над праваслаўнымі вернікамі, якая ёй прыпісваецца, і абарона іх інтарэсаў, а таксама шанаванне яе мясцовымі жыхарамі як памочніцы пры бясплоддзі. У той жа час нельга забываць, што фарміраванне культу Соф'і Слуцкай як святой прыпадае на пачатак XIX ст., калі расійскімі ўладамі пачынае праводзіцца ўмацаванне пазіцый праваслаўнай царквы на далучаных землях Рэчы Паспалітай. Патрэбы дзяржаўнай ідэалогіі ў гэты час, барацьба з каталіцтвам і ўніяцтвам, а таксама прыналежнасць Соф'і да старадаўняга праваслаўнага роду і прывялі, на наш погляд, да фальсіфікацыі яе біяграфіі. Магчыма, гэта адбылося не наўмысна, а таму, што пазіцыя маскоўскага патрыярхату і асновы веры, паводзіны праваслаўных у паўсядзённым жыцці Расійскай імперыі значна адрозніваліся ад прававых і побытавых традыцый, што панавалі на землях ВКЛ.

Самае цікавае, што звесткі гэтыя патрапілі ў першыя этнаграфічныя апісанні беларускіх зямель. Так, у прыватнасці Павел Шпілеўскі пісаў, што па нарадзе духоўніка Соф'і іераманаха Пракофія і архімандрыта Веніяміна ў 1615 г. Януш Радзівіл фундаваў на замку царкву Святой Сафіі ў гонар жонкі і царкву Святога Ісідора на Новым месцы слуцкім[935]. У некалькіх сказах утрымліваецца адразу некалькі памылак. У Слуцку ніколі не было цэркваў, асвечаных у гонар названых святых, як сведчаць спісы слуцкай пратапопіі XVII ст. Слуцкім архімандрытам у названы час быў прадстаўнік разгалінаванага святарскага роду Захароўскіх Міхаіл, і таму ніякі Веніямін не мог угаварыць князя на гэты ўчынак і г. д. Аднак легенда пачала фарміравацца, і шукаць у ёй адпаведнасці з гістарычнымі рэаліямі ніхто не стаў. Не зусім зразумела, на чым грунтаваўся тэзіс актыўнай апекі Соф'і над праваслаўнымі. З крыніц вынікае, што адзіным актам фундацыі на карысць нейкага храма быў

яе ліст ад 20.04.1600, дадзены ў Брэсце, па якім Соф'я Слуцкая пацвярджала наданне Гераніма Хадкевіча на кафедральны касцёл у сяле Брановічы[936]. Ды і той быў апратэставаны пазней у судзе як фальсіфікат. Фактычна мы маем толькі некалькі дакументаў, згодна з якімі Януш Радзівіл разам з жонкай, як уладальнікі княства, перадаюць слуцкія цэрквы канкрэтным святарам. Гэтае права апекі было традыцыйным для любога ўласніка, нягледзячы на яго веравызнанне, і не з'яўлялася сведчаннем канфесійнай прыналежнасці гаспадара зямлі. Да таго ж прызначэнне годнага чалавека на вольную святарскую вакансію ўваходзіла ў іх абавязкі і згодна з дадаткамі да шлюбнага дагавору.

У 20-я гг. XX ст. савецкая ўлада праводзіла актыўную антырэлігійную агітацыю. Манастыры і цэрквы закрываліся і разбураліся. Шанаванне цудатворных абразоў і мошчаў святых абвяшчалася вынікам шарлатанства з боку святарства. З мэтай стварэння навуковай базы тлумачэння цудоўных фактаў у Мінск са Слуцка былі перавезены рэшткі Соф'і Слуцкай і немаўляці Гаўрыіла Беластоцкага. Перад супрацоўнікамі медыцынскага факультэта БДУ была пастаўлена задача не толькі вывучыць іх з анатамічнага, біялагічнага і хімічнага бакоў, але і сабраць звесткі пра абставіны смерці і захавання цел. Асноўная ўвага надавалася праблеме муміфікацыі. Фактычна трэба было даказаць, што добрая захаванасць цел была абумоўлена прымяненнем бальзамуючых рэчываў і прыродных умоў захавання цел памерлых. Вынікі гэтай экспертызы былі надрукаваны[937]. Пасля правядзення даследаванняў мошчы захоўваліся ў анатамічным тэатры БДУ, пазней медінстытута да пачатку Другой сусветнай вайны. Акупацыйныя ўлады пры ўпарадкаванні маёмасці медінстытута дазволілі праваслаўным вернікам перанесці іх у кафедральны сабор, дзе яны знаходзяцца дагэтуль.









Дынастыя князёў Алелькавічаў была адным з найбольш вядомых і ўплывовых арыстакратычных родаў XIV—XVI стст. На працягу ўсёй гісторыі яго існавання прадстаўнікі гэтага роду былі звязаны роднаснымі і сваяцкімі сувязямі з кіруючымі дамамі суседніх краін. Што ж засталося пасля яго? Толькі памяць і ўяўленні, якія не заўжды адпавядаюць гістарычнай рэчаіснасці. Агромныя ўладанні ў выніку гучнага канфлікту перайшлі ў рукі Радзівілаў і Хадкевічаў. Цэнтральныя рэзідэнцыі роду — Слуцк і Капыль, амаль цалкам разбураныя і перабудаваныя за XX ст., не маюць ніводнага гістарычнага будынка з тых часоў. Не дайшлі да нас і творы слуцкай мастацкай школы, якая стварала не толькі абразы (Св. Георгія, Св. Міхаіла), але і творы свецкага жывапісу (партрэты).

Хаця да нас дайшло няшмат матэрыяльных помнікаў, звязаных непасрэдна з князямі Слуцкімі, іх роля ў падзеях сярэдневяковай гісторыі заняла не апошняе месца на старонках гісторыі Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны, Расіі, Малдовы.

Канец XV — XVI ст. сталі неадназначным часам для беларускіх зямель. З аднаго боку, уздым культуры, з другога — вялізныя тэрытарыяльныя страты і бясконцыя войны на паўднёвых і ўсходніх межах.

На прыкладзе роду князёў Алелькавічаў-Слуцкіх можна даведацца не толькі пра механізмы ўздыму і заняпаду княжацкіх родаў ВКЛ, а таксама пра тое, якім чынам прадстаўнікі Гедымінавічаў упісваліся ў палітычную сістэму беларускіх зямель, не займаючы за ўсю гісторыю роду ніводнага дзяржаўнага ўрада.

Іх значэнне ў грамадстве таго часу было не вынікам гаспадарскай ласкі, як для большасці родаў, якія на слыху ў чытача, — Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў. Свае землі яны атрымалі яшчэ ў часы існавання ўдзельных княстваў і здолелі іх захаваць. У пашырэнні ўладанняў яны разлічвалі на ўласныя сілы — куплю маёнткаў, заключэнне шлюбаў з багатымі нявестамі і, канешне, добрае гаспадаранне. У выніку іх дзейнасці Слуцк на працягу некалькіх стагоддзяў з'яўляўся буйнейшым прыватным горадам ВКЛ. У 1593 г. там жыло каля 7 тысяч чалавек і было каля 1100 дамоў[938].

На жаль, амаль ніводны з князёў не змог доўгі час карыстацца плёнам сваёй працы. Ні аднаму князю з роду Алелькавічаў не давялося нават пабачыць унукаў. Заўчасны зыход з жыцця (а абсалютная іх большасць не дажыла і да 50—55 гадоў), цяжкія хваробы, позняе ўступленне ў шлюб прывялі да таго, што цяжар выхавання маладых князёў Слуцкіх і кіравання агромністымі ўладаннямі падаў на іх жонак. Жанчыны гэтага роду з гонарам выходзілі з цяжкасцей, пакуль іх мужчыны ваявалі супраць знешніх і ўнутраных ворагаў. Прадстаўніц праваслаўных княжацкіх сямей ВКЛ, Маскоўскай дзяржавы і Малдавіі з дзяцінства рыхтавалі да ролі гаспадыні, якую яны бліскуча выканалі. З 30-х гг. XVI ст. Алелькавічы жаніліся




выключна з каталічкамі, прычым жонкі прадстаўнікоў апошніх двух пакаленняў паходзілі з Польшчы, што выразна ілюстравала змену палітычнай арыентацыі князёў Слуцкіх.

У значнай ступені князі Слуцкія займалі сваю пазіцыю ў супрацьвагу цэнтральнай уладзе, застаючыся прэтэндэнтамі на велікакняжацкі трон. Алелькавічы звычайна праводзілі палітыку адказнасці за Рэч Паспалітую цалкам, што было рэдкасцю ў тагачасных кіруючых колах ВКЛ XV—XVI стст. У той жа час яны мелі цесныя палітычныя і дынастычныя кантакты са знешнімі ворагамі ВКЛ і правячай дынастыяй: Маскоўскай дзяржавай і Прусіяй. Гэтыя кантакты і ўнутрыпалітычная пазіцыя, накіраваная на захаванне цесных стасункаў з Польшчай і падтрымку праваслаўнай царквы, расцэньваліся магнатэрыяй ВКЛ як здрадніцтва інтарэсам дзяржавы і выклікалі не проста непрыязнь да князёў Слуцкіх, але і актыўнае палітычнае супрацьдзеянне іх намаганням на палітычнай арэне. Менавіта яно стала прычынай страты спадчыннага месца ў Сенаце аб'яднанай дзяржавы пасля Люблінскай уніі 1569 г. і фактычнага выключэння князёў Слуцкіх з палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай. Менавіта барацьба за вяртанне сваіх традыцыйных палітычных пазіцый стала адзнакай публічнай дзейнасці князёў Слуцкіх на працягу амаль 20 гадоў у другой палове XVI ст.

Рэлігійная дзейнасць князёў Алелькавічаў, накіраваная на захаванне пазіцый праваслаўнай царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім, падтрымка мясцовай школы летапісання, мастацтва і кніжнай графікі, развіццё асветы сталі падмуркам для захавання здабыткаў «рускай» культуры на абшарах Слуцкага княства. З другога боку, актыўныя апекуны манастыроў і цэркваў, застаючыся праваслаўнымі і заўжды падкрэсліваючы сваю прыналежнасць да правячай у дзяржаве дынастыі Ягелонаў, адкрывалі дарогу для польскай культуры на беларускіх землях. Ужо з першай паловы XVI ст. яны ўжывалі ў паўсядзённым жыцці польскую мову і на ёй часцей за ўсё пісалі ўласнаручныя лісты. Пры іх двары разам з кірылічнымі летапісамі і кнігамі ствараліся польскамоўныя гістарычныя творы М. Стрыйкоўскага, прызваныя абудзіць цікавасць не толькі да гісторыі ВКЛ, але і да роду князёў Слуцкіх. У выніку рэлігійнай цярпімасці яны апякалі і праваслаўныя, і каталіцкія храмы, на іх землях жылі прадстаўнікі розных рэлігій і народнасцей.

На працягу ўсяго часу кіравання Слуцкам князямі з дынастыі Алелькавічаў горад з'яўляўся адным з найбольш значных цэнтраў праваслаўя на землях Рэчы Паспалітай. Калі ў 1584 г. Ватыкан планаваў вызваленне канстанцінопальскага патрыярха Ерыміі II з-пад улады туркаў, то менавіта Слуцк разам з Астрогам, Львовам і Кіевам разглядаўся як патэнцыяльная рэзідэнцыя патрыярха. Гэта прытым што два з трох апошніх мужчынскіх прадстаўнікоў роду князёў Слуцкіх перайшлі ў каталіцтва.

Страта месца ў палітычным кіраўніцтве краіны, адсутнасць падтрымкі з боку каралеўскага двара, асабістыя якасці апошніх прадстаўнікоў роду не спрыялі вяртанню яго ранейшых пазіцый. Адсутнасць мужчынскіх нашчадкаў фактычна азначала канец роду. Багатыя ўладанні, хаця і абцяжараныя вялізнымі даўгамі, сталі прычынай барацьбы за руку адзінай спадчынніцы роду князёў Алелькавічаў. Сутыкненне інтарэсаў дзвюх мацнейшых

палітычных груповак, якія ўзначальвалі Радзівілы і Хадкевічы, ледзьве не спракавала грамадзянскую вайну ў ВКЛ на мяжы XVI—XVII стст. Заўчасная смерць апошняй княгіні з роду Алелькавічаў, якая таксама не пакінула пасля сябе нашчадкаў, завяршыла гісторыю гэтага славутага роду.

Пасля смерці апошняй прадстаўніцы роду Соф'і Юр'еўны княгіні Слуцкай горад не страціў свайго значэння як значны культурны, эканамічны, гандлёвы і рэлігійны цэнтр. Памяць пра князёў Слуцкіх, іх дабрачыннасць і апеку над праваслаўнымі манастырамі захоўвалася ў свядомасці гараджан і калі іх уласнікамі сталі Радзівілы. За некалькі дзесяцігоддзяў веды і ўяўленні пра гэтых рэальных людзей набылі рысы міфалагічнасці, яны сталі не звычайнымі асобамі, а выключна воінамі, палітыкамі ці нават святымі.





# Дадатак 1
## Радавод



Знак » паказвае згасанне роду.



**Дадатак 2***

Тэстамент Юрыя Юр'евіча Алелькавіча князя Слуцкага

AGAD. AR. Dz. XXIII. T. 116. Pl. 1. S. 53—65.

Во имя боже аминь. я, юрии юрьевич ѡлелковича кн(я)же слуцъкое, ѡбачивши и много кроч на ѵмысле своем достаточне розваживши же панъ богъ всемогущии под тым повиноваџтвом кождого чоловека сотворилъ абы был подданъ смертельности и гдыж и самъ збавитель и ѡткупитель нашъ панъ езусъ кристусъ, принявши телесность и чловеченство живота зсветое начистшое панъны девицы марии, рачил для збавеня и ѡткупеня дѵшъ нашихъ смерть доброволне приняти водле чловенства на древе крижа светого даючи, то намъ створеню своему наприкладъ иж кождыи хто се колвекъ родит естъ подданъ смерти и тотъ посполитыи долгъ смертелности самъ собою платити повиненъ, а иж теж кождыи ч(о)л(ове)къ жадној речи пришлое певнеишое перед собою не маетъ, а не певнеишое одночасъ, а година смерти яко то и сам збавител нашъ всех насъ во евангелии на ѵпоминати рачить абыхмо ку смерти завъжды готови были. Кгдыж не вемы певного дня и годины которое панъ богъ придеть, але яко скоро его светая м(или)ст з того недзъного света перед маестат свои насвеншии везвати рачилъ того ж часу кождыи се становит муси прето я маючи тые слова збавителя своего пред ѡчима своими завжды водлугъ ѡбычаю хрестиянского, нехотечи безъ достаменту не розрондивъши, аболи не розправивши добра, именя, скаръбовъ и речеи своих межи потомки моими якие ростырки не вростали, хотечи их в добромъ покои и въ певности заховати и ачъ колвекъ будѵчи я на теле своемъ хорыи ведже на розуме и на всих ѵмыслехъ своих добре здоровыи не будѵчи ни ѡт кого припужоны, || ани жадными намовами зведеныи, лечъ самъ по своеи доброи воли з доброю паметю, а з достаточных и сталых розмыслности, чинючесь мои достамент и ѡстаточную волю мою ѡбъявямъ. ижъ кгды пан богъ моцъ волю свою светую выполнити и до хвалы своее светое везвати, а дѵшѵ з телом моимъ грешнымъ розделити будеть рачилъ, теды тело мое ее м(и)л(ость) кнежна малжонъка моя ее м(и)л(ость) пани катарина кграбянка з тенчина кнежна слуцкая и при неи сынове мои юрии, семенъ, александер юръевичи ѡлелковича княжата слуцъкие водлугъ звычаю хрестиянского православного законѵ нашого греческого ѵчетиве поховати мають ѵ киеве ѵ манастыри печерскомъ, там где продкове наши, а звлаща славное памети его м(и)л(ость) кн(я)же ѡтец нашъ поховань и ѡбыходы церковные водлугъ зданя своего ее м(и)л(ость) кнежна малжонка моя такъ, яко звычаи хрестыянскии несе ѡтправовати маеть. Кѵ томѵ замъки, места, дворы з гумъны, збожемъ, з конми, з стадами свирепъими, з быдлом и зо всими спраты домовыми, з волостями, з шляхтою,

* Падрыхтоўка да публікацыі крыніц на польскай мове для захавання іх гістарычнай і лінгвістычнай каштоўнасці ажыццяўляецца за невялікім выключэннем згодна з арфаграфіяй арыгінала. Падрыхтоўка да публікацыі кірылічнага тэксту і афармленне тэксту праведзена згодна з «Метадычнымі рэкамендацыямі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага / аўт.-склад. А.І. Груша. Мінск, 2003)».

Падзел тэксту на словы і сказы, расстаноўка вялікіх літар і знакаў прыпынку ажыццяўляецца згодна з правіламі сучаснай польскай і беларускай мовы. Канец радка не адзначаецца. Канец старонкі пазначаецца дзвюма вертыкальнымі рыскамі (||). Асноўная частка скарачэнняў раскрываецца ў тэксце ў паўкруглых дужках. Знакі цітла над скарачэннямі не адзначаюцца. Вынасныя літары ўносяцца ў радок і перадаюцца курсівам.

з бояры панцеръными и слугами путъными, людми куничъными и тяглыми, з кгрунты, доходы и пожитки, якими *ж* колъвекъ назвиски менованы быти могуть и праве зо всим на все яко се сами в собе мають именя мое *ωт*чизные материстые* к яким колвек ωбычаемъ набытые в розных поветех лежачие так в коруне полскои яко кγ великомъ кн(я)зтве литовскомъ ни *ωт* которого именя ничого не*ωти*-муючи и неωставуючи скоро по смерти моеи малъжонка моя ее м(и)л(ость) княжна катарина станиславовъна кграбянка з тенъчина воеводянка краковъская кнежъна слуцъкая к рγкамъ своимъ || в моцъ, владность и в опекγ свою взяти и на них мешкати и вшеляких пожитковъ з них γживати, такъ яко налепеи се ее м(и)л(о)сти видети будеть. также скарбы и всю маетъность нашу золото, серебро, клеиноты, перла, шаты, коне, рады, зброе, рынштунки, стрелбы, цыну, медь и инъшое, все што колъвекъ рγхомыми речъми называе, тые з продъковъ наших побожне и почтиве набытые, до рγкъ и владзы своее взяти и то все γ моцы и зхованях своихъ мети и тым γчетиве шафовати водлугъ воли и налепъшого подобаня своего. А сынове наши юрии, семенъ, александер юръевичи ωлелъковичи княжата слуцъкие яко во въси, такъ и ни в которые часть именеи всих и кождого з особна в корγнѣ полскои и γ великомъ кн(я)зтве литовскомъ такъ же в скарбы маетность нашγ и ни в которые рγхомые речи ничимъ се вступовати а ни жадное трудности и переказы ее м(и)л(ости) чинити не маютъ. Але ее м(и)л(ость) кнежъна малъжонъка моя яко матка ихъ на слушные и γчетивые потребы синов наших з тых скарбовъ наших имъ давати мает водлугъ баченя своего. Розγмеломъ тежъ то добре иж кождомγ ч(о)л(ове)ку, а поготовю зацных а велких станов людемъ и въ дому наγка велъце пожитечна есть ведже тымъ венъце которые за молодых летъ своих припатриваючысе поступъкомъ рыцерскимъ посторонинныхъ краевъ зведываючы болшая довтипность з ласки милого Б(о)га бывало тым которые || не тылко слышенемъ албо з писма читанемъ але и ωчима своими ωгледали. Пре то ее м(и)л(ость) кнежна малъжонка моя сыновъ наших всихъ трох безмешканя до посторонъних панствъ и краевъ ку видзеню света и твиченю в рыцерских речах выправити на певныи час, на три, а приинамнеи на два роки, зъеднавши им якого доброго годного зацного почетивого и бывалого чоловека, которыи абы при них тамъ мешкаючи яко здоровя такъ и станγ их княжецкого и всего почетивого хованя пилне престрекгал. А кгды да милыи панъ богъ з тых постронних краевъ приедγть мает ее м(и)л(ость) кнежна малжонъка моя ωпочетивое ωжененe зъ зацных домовъ сыномъ нашим старати се маетъ. А вас сынове мили ωсобливе ωто наγпо-минамъ и приказуе. Абысте кром воли и ведомости кнежны матки яко родителъки своее не ωженялисе и жон собе не ωбирали, а зъ часомъ слушным недбаючи на лета статутовые которые ωколо ωпеки написаны сут, але аж кгды вжо до лет своих сталых статочных приидγть на ωн часъ водлуг баченя своеего ее м(и)л(ости) кнежна малъжонка наша именя наши сыномъ нашим кн(я)зю юрю, семену, александрγ юръевичомъ ωлелъковича кн(я)жатом слуцъким подавати и поступати мает ровным делом. Нижли выимую з ровного делу тые имена наши таковым ωбычаем замокъ мои ωтчизныи слуцъкии з местомъ старым слуцъким з

* Далей знак, які ўказвае на скарачэнне пералічэнняў, што адпавядае лацінскаму *etc.*








двором и хволъваръкоми нашими ку тому замку слуцкому называемыи ивань з грунты дворными, з людми тяглыми, куничными и зо всим на все яко се то имене само в собе мает, то ωдному кн(я)зю юрю яко старшому сыну моему записую. противъ того сыну нашому кн(я)зю семену место нашое слуцкое ж которое называет се новое место изъ заречемъ , то ест* || по реку случь и инему имене наше называемое новыи двор над рекою случью, то ест двор з будованем з кгрунтом дворным з людми изъ их кгрунты и зү всим на все яко се само в собе тое имене маетъ, а треитему сыну нашому кн(я)зю александрү место слуцкое ж, называемое новыи остров и двор нашъ новоωстровскии з будованемъ дворным, з людми и зъ их кгрунты и зо всим на все яко се само в собе тое имене маетъ над тою ж рекою случью. А што се дотычетъ мыта великого головного, также мыта горелъчаного и мыта месного, ижъ тое мыто вси три места, яко старое слуцкое такъ новое место и новоωстровское место спольне вси три места держали и держати повинъни. прето тая сума** мытная завжды на три части делена быти маетъ. также есме бы которое место и з фолваркомъ перевышало над другое место з фолваркомъ в доходех и пожиткахъ, теды при розделеню всих именеи и в томъ поровнане въделано быти маетъ, а которому бы недоставало теды в ыншим именю абы се нагородило того ее милост кнежна малъжонка наша постирегати маетъ ижъ бы сума доходовъ и пожитъковъ ωдному над другого не перевывышала, але едънако и ровъно была тылко тотъ замокъ и места слуцкии з меноваными дворы и фолварками водлуг сее ωстатнее воли нашое не роздѣляючи на розные части кождыи з них такъ вечне держати маетъ. кгдыж яко в новом дворе, такъ и в новом ωстрове ложиска ку будованю замковъ далеко лепъшие з годлившие и пожиточнеишие над тою ж рекою случью естъ. || ку тому теж манастыр, которыи естъ при месте слуцкомъ церковъ* заложенѧ светое троицы, въ вере законү греческого на үпоминамы и тым ωстатним нашимъ ωтцовским росказанем вамъ сынове приказуемы, абы яко за животовъ васъ самих, такъ и за потомъков ваших никгды делен не былъ, але ү сполнои владзы домү нашого княжатъ слуцких заховыван вечными часы и сполне вси княжата слуцкие архимандрита тому манастырү якого ч(о)л(ове)ка доброго годного в писме үчоного и въ вере законү нашого греческого добре сталого подавати и үстановляти маютъ. А ижъ тежъ сынү моему старшому кн(я)зю юрю сумү п(е)н(е)зеи на замку бобрүискомъ даровалом и доживоте державы на томже замъку бобрүиском ωт г(оспо)д(а)рѧ короля его м(и)л(ости) выправил нижли тым дрүгим сыном моим моимъ за то нагороды невчинил, тоды тепер тым достаментом ωстаточное воли моее дарүю и записүю сыномъ моим кн(я)зю семенү, кн(я)зю александру суму п(е)н(е)зеи всю на именю глуску и дорогах в повете новгородскомъ лежачхъ**, которае ωт мене естъ позычона теж велможному пану яну ходковичу пану виленскому старосте жомоицкому***, также и всю суму на именю мокранском в том-

* Насупраць радка на левым полі архіўная памета «Dział miasta Słucka na trzech synow».

** Насупраць радка на левым полі архіўная памета «co do myta miasta Słuckana trzy części trzech synow».

* Насупраць радка на левым полі архіўная памета «monastyr slucki».

** Так у тэксце.

*** Далей знак, які ўказвае на скарачэнне пералічэнняў, што адпавядае лацінскаму *etc.*

же повете новгородском лежачомъ, которое *шт* мене позычил его м(и)л(ость) пан янъ глебович пан менскии. тая *шбоя* сума тылко тым двум сыном нашим против тое сумы треитего сына нашого на замку бобруиском дарованое розъделена быти мает. А инъшие вси именя мои *шт*чизные материстые и яким колвекъ *ш*бычаем набытые кнежна малжонъка наша сыном нашим на ровные части водлугъ сее *ш*статочное воли моее розделити мает. А яко ее м(и)л(ость) розъделивши подаст и поступитъ на том вечне кождыи з них переставати мает. А зъ деръжаня тых всих именеи, также зо скарбу маетности нашое и зо всихъ речеи ее милость кнежъна малъжонъка наша княжатомъ сыном нашим на которое личъбы ни з чого чинити не бүде повинна. || а ку тому выимую с того именья наши, то ест замокъ имене мое ваневское в земли подляшскои* в повете белском лежачое, з местомъ, з дворы, з фолъваръки и зо всим на все, дрүгое имене наше называемое турецъ в повете новъгородскомъ** лежачое, дворъ з будованемъ, з кгрунты и зъ фолъварки кү тому дворү належачими, треитее имене наше старое село***, также четвертое имене наше тонъвы з фолъваръкомъ скирмонтовомъ лежачие в повете минскомъ. тые вси помененые имена наши зо всимъ на все яко се сами в собе зъ давна мели и тепер маютъ тых именеи ее м(и)л(ость) кнежна малъжонъка наша сыномъ нашимъ вровныи дел поступовати не маетъ для тое причины иж кгдым я бралъ собе в стадло светое малъженское малжонку свою ү вотъца ее м(и)л(ости) пана станислава кграби на тенъчине воеводы краковъского*, Тедым взял по еи м(и)л(ости) посагу грошеи готовых также в золоте, в серебре, в клеинотах, перлах, шатах и иных розных речах всего сүмою двадцать пять тисечеи золотых личъбы полское. теды заховүючи се я на том часъ водлугъ права посполитого и статүту земского тую суму внесеную в домъ мои и вено ее м(и)л(ости) княжне малъжонъце своеи, то естъ всего сумою пятдесятъ тисечеи золотых полских, што үчинит личъбы великого кн(я)зтва литовского двадцать тисечеи копъ грошеи записал есми на треитеи части всих именеи своих которые мне *шт* брата моего небожчика его м(и)л(ость) кн(я)зю семена юръевича *ш*лелковича кн(я)жати слуцкого ровнымъ деломъ приходити мели и пришли. которыи том записъ вжо тою *ш*статнею волѣю тестаментү моего үмораю и въ нивечъ *ш*борочаю, а тую сумү пенезеи двадцати тисечеи копъ грошеи личъбы литовское ку тому еще знаючи я по еи м(и)л(ость) кнежне малжонце своеи ее м(и)л(ость) п(а)ни катарине кграбя(н)це з тенъчина кнежне слуцъкои яко по үвесь часъ живота своего || доброе почетивое и статечъное захован̂е в малженстве такъ тымъ болшеи в тои хоробе моеи пилное старанѣ и послуги яко правое а верное малъжонъки своее үзнавъши даю и дарүю ее м(и)л(ости) певную сүму п(е)н(е)зеи десеть тисечеи золотых полских а личъбы великого князтва литовъского двадцать и чотыри тисечи копъ грошеи которүю түю суму менованую всю симъ дестаментомъ моимъ үзношү и записую на именях моихъ вышеи менованых, то есть в земли подляшскои ү въ поветѣ белскомъ лежачомъ на замъку ваневскомъ и фолварках к немү належа-

* Насупраць радка на левым полі архіўная памета «dobra Waniewo na Podlasiu».

** Насупраць радка на левым полі архіўная памета «turec w nowgor».

*** Насупраць радка на левым полі архіўная памета «Stare Sioło».

* Далей знак, які ўказвае на скарачэнне пералічэнняў, што адпавядае лацінскаму *etc*.









чихъ, а ү великомъ кн(я)зтве литовскомъ на *и*меню моемъ турецкомъ в повете новгоро*д*скомъ *л*ежачо*м*, а в повете менскомъ на имена*х* мои*х* старомъ селѣ, тонъвах и скирмонтове. тые именя* мо*и* вси замъки, дворы з будованемъ дворнымъ, з коньми, з стадами свирепьими, з быдлы, ста*т*ками, з гумнами и зо вшелякимъ збо*ж*емъ, з сады, ставы, ставищами, з борами, лесами и пробьками и зо вшелякими кгрунты дво*р*ными, з местами, з шля*х*тою, з бояри панцеръными, слугами путными, з *л*ю*д*ми куничны*ми*, тяглыми, зъ *их* кгрүнты, з платы грошовыми, дани медовыми и з дяклами житъными ѡвсяными и зо вшелякими платы, доходы и пожитъками и припа*д*ками и праве зо всимъ на все яко се сами в собе тые именя мели и тепе*р* маютъ не үимуючи и неѡставуючи никому ничого зо всимъ тымъ ее м(и)л(ость) кне*ж*на малъжонъка моя п(а)ни катарина кграбянъка з тенчина княжна слуцъкая держати и въживати на себе маеть ажъ до живота своего, а сынове наши ты*х* имене*и* вси*х* и никоторые части з рукъ и де*р*жаня ее м(и)*л*(ости) выи*м*овати и ничимъ се встүповати не маютъ. также тую суму п(е)н(е)зе*и* часть которүю, а*л*бо и всю шестьдеся*т* тисече*х* полски*х* волна ее м(и)*л*(ость) кне*ж*на || малъжонъка моя яко за живота своего, такъ и по животе своемъ кому колъвекъ похочеть дать даровать и тые имена выше*и* меновите ѡписаные вси албо которое колвекъ з ни*х* в туи суме заставить: а сынове мои и по животе ее м(и)*л*(о)сть кнежны малъжонъки мое ты*х* имене*и* вси*х* и никоторое части, кому бы ее м(и)*л*(ость) записомъ свои*м* завела неѡ*т*давши тое сумы п(е)н(е)зе*и* двадъцать и чотыро*х* тисече*и* копъ гроше*и*, ѡдыи*м*овати и ничимъ се в то вступовати и ниякое трудности и пераказы чинити не маютъ. такъ те*ж* што се дотыче*т* имене*и* ее м(и)л(ость) княжны ма*л*жо*н*ки моее яко ѡ*т*чисты*х* материстыхъ ѡ*т* повинъны*х* и кревны*х* на ее м(и)л(ость) правомъ прирожоны*м* спалы*х* в корүне по*л*ско*и* и ү великомъ кн(я)зстве литовскомъ в розны*х* повете*х* лежачихъ, тыми всими именями ее м(и)л(ость) кне*ж*на малъжонъка наша яко власностю своею во*д*лугъ налепъшого подобаня своего шафовати маеть. также и ѡсобливе имене ѡзе*р*ница и близная в повете слонимскомъ* лежачое, а в повете ковенскомъ имене промези, которые по ее м(и)*л*(ость) п(а)ни ивановое горностаевое п(а)ни үлъяне богушовне те*т*це ее м(и)*л*(ость) кнежны малжонки моее правомъ прирожоны*м* спа*ли* и в суме п(е)н(е)зе*и* записаны. Яко*ж* и я вси записы и тве*р*дости которые на тые имена яко ѡ*т* ее м(и)*л*(ость) пречоное п(а)ни үлъяны богушовны горностаевое, такъ тежъ и ѡ*т* его м(и)*л*(ость) п(а)на гаврила горностая, на тотъ часъ будүчого воеводы и старосты менского, мелъ есми кне(ж)не ма*л*жонъце свое*и* подалъ ивъжо волна ее м(и)*л*(ость) княжна ма*л*жонъка наша тые име*ня* ѡзе*р*ницү, близную и промези зо вси*м* навечне яко се сами в собе маютъ кому кольвекъ да*т*, дарова*т*, променя*т*, запрода*т* и на вечнос*т* прода*т* и ку налепшо*му* пожи*т*ку своему ѡбе*р*ну*ть*. || знаючити те*ж* и бачечи я прихи*л*ность и зычливую хе*нт* ку собе ключника и подъключого троцъкого судью кгро*д*ского новгоро*д*ского пана а*н*дрея тризну, а хотечи его ее м(и)*л*(ости) кне*ж*не малжонъце и пото*м*ству своему хе*нт* мевши*м* үчинить, дарүю за тымъ тес-

* Насупраць радка на левым полі архіўная памета «Tonwy ze Skirmuntowym w Mińskim».

* Насупраць радка на левым полі архіўная памета «Iezierniсa i Blizna w słonimskim».

